**Сяргей Дубавец. ТАНТАМАРЭСКІ. Гісторыя аднаго працэсу.** (Бібліятэка Свабоды. ХХІ стагодзьдзе). – Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода, 2019. – 356 с.: іл.

Бібліятэкар Свабоды
*Аляксандар Лукашук*

Рэдактар *Аляксандар Лукашук*
Мастак *Генадзь Мацур*
Карэктар *Сяргей Шупа*

Хтосьці прачытае гэтую кнігу як гісторыю сучаснай Беларусі, хтосьці — як даведнік у судаводзтве, хтосьці — як дэтэктыўны раман з многімі літаратурнымі алюзіямі. Маштабны „Кветкавы працэс“ разглядаецца ўсебакова і ў драбніцах, нібы пад мікраскопам. Высновы прыводзяць аўтара да філязофскіх адкрыцьцяў.


FOL

ISBN 978-0-929849-52-2

# ЗЬМЕСТ

# ЮРКОЙЦЕЎ ПАЛОН

Ты прачынаесься ранкам, а неба няма,
Ты выходзіш з дому, а дарогі няма,
Ты ўдыхаеш на поўныя грудзі, а паветра няма,
Ёсьць турма.

Ня ты натыкаесься на сьцяну, а яна на цябе,
Ня ты падаеш у бездань, а яна ў цябе,
Ня ты выключаеш сьвятло, а яно цябе,
Як на вайне.

Што застанецца, калі попел пакрые ўсё,
Што застанецца, калі вецер разьвее ўсё,
Што застанецца, калі скончыцца ўсё,
Толькі любоў.

*Аляксандар Лукашук,*
*Радыё Свабода*

„Хтосьці, відаць, узьвёў паклёп на Ёзэфа К.,
бо, не зрабіўшы нічога дрэннага,
ён патрапіў пад арышт“.

*Франц Кафка, Працэс*

# АД АЎТАРА

Няўжо сталася так, што не чыніць зла іншаму — гэта ўсяго толькі пазыцыя, адна з многіх, прычым састарэлая? А ў нас, маўляў, плюралізм.

І ніхто больш ня верыць словам Хрыста з Нагорнае казані: „Усё тое, што ты хочаш, каб іншыя людзі рабілі табе, тое і ты рабі ім“? Ніхто ўсур’ёз не прымае катэгарычнага імпэратыву Канта: „Стаўся да іншых людзей так, як хочаш, каб яны ставіліся да цябе“, пра „неабвержны сэнс“ якога пісаў Васіль Быкаў.

Няўжо ўсё, што адбываецца з табой, залежыць толькі ад абставінаў, ад тых зьменлівых карцінаў жыцьця, у якія ты воляю лёсу трапляеш з галавой?

Вось Беларусь — твая краіна, тут ты дома і свой. А вось Рэспубліка Беларусь — дзяржава, тут ты не супадаеш з агульнай лініяй. Вось — мытня, дзе ты працуеш ужо шмат гадоў. А вось — арганізаваная злачынная група на мытні… Вось „Амэрыканка“, „Валадарка“, суд і прысуд, турма… Карціны мяняюцца, як тантамарэскі.

Тантамарэска — гэта і ёсьць карціна з адтулінай для твару. Вы, напэўна, бачылі такія стэнды ў парках ці на курортах. Падстаўляеш свой твар у адтуліну — і ты ўжо ўдзельнік таго, што там адбываецца. Фатограф робіць здымак на памяць.

Вось ты ў казачным лесе, а вось — у судовай клетцы, вось ты рыцар на ўздыбленым кані, а вось — сярод вязьняў калёніі, вось ты ў абранай прафэсіі, а вось — у дзяржаўнай сыстэме. Перабіраючы здымкі,

міжволі задумаесься, дзе тая рыса, калі ты — гэта ты з уласнага выбару, а калі тантамарэску для цябе выбраў нехта іншы. І так пачынаючы ад самай першай тантамарэскі — прыходу на гэты сьвет.

Судовы працэс ашмянскіх мытнікаў пачаўся ў лістападзе 2016 году і скончыўся ў лістападзе 2017-га. Вялікая ўвага да яго тлумачыцца тым, што ініцыяваў працэс сам прэзыдэнт, і тым, што на лаве падсудных апынуліся ажно 58 чалавек, а яшчэ тым, што адзін зь іх — знаны ў Беларусі краязнаўца і асьветнік Алесь Юркойць.

Усю справу падзялілі на пяць менскіх судоў, зь якіх я выбраў Партызанскі, той, дзе судзілі Юркойця.

Калі пасярод восені 2013 году ў Астравецкай бібліятэцы ён вёў прэзэнтацыю маёй новай кнігі, я й думкі ня меў, што наступная кніга будзе пра суд, пагатоў што фігурантам гэтага працэсу будзе Юркойць, беларускамоўны мытнік зь мястэчка Варняны.

Мне давялося прысутнічаць на ўсіх, паўсотні іх было, судовых паседжаньнях. Не прапускаў, каб ніякая дробязь ня выпала з увагі на гэтай фотакарціне, якая на вачах з пазытыву ператваралася ў нэгатыў.

Нататкі з суду я дзень па дні друкаваў на сайце Радыё Свабода, адкуль у кнігу перамясьціліся і некаторыя камэнтары як выпадковых наведнікаў, так і тых, хто разам са мною пільна сачыў за працэсам. Часам камэнтары дапаўнялі маю карціну фактамі, часам толькі дадавалі эмацыйнае напругі. Часам іх увогуле не было.

# „Занелюбіў яго раённы кадэбіст“

19 лістапада 2016

У Партызанскім судзе 11 падсудных. Пяцёра зь іх у клетцы і ў турме. Шасьцёра пад хатнім арыштам — яны прызналі віну і супрацоўнічаюць са сьледзтвам, у суд прыяжджаюць з дому, могуць нават хадзіць на працу.

Падсудным інкрымінуюць хабар і пагражае вялікі турэмны тэрмін.

Перад пачаткам „прызнанты“ стаяць у калідоры кучкай. Тутсама — адвакаты, сваякі і сябры „непрызнантаў“, якіх прывозяць сюды з „Валадаркі“ і якія чакаюць працэсу ў ніжняй турме Дому правасудзьдзя, у „стаканах“.

У пэўны момант калідор перакрываецца кратамі, і за імі мы бачым, як „непрызнантаў“ у кайданках заводзяць у залю, пры кожным — два ўзброеныя канваіры. Наступнымі, ужо з гэтага боку кратаў і ў іншыя дзьверы, заходзяць у залю ўсе астатнія, у тым ліку і мы, каго тут называюць „присутствующими“.

Публіка ў залі збольшага — Юркойцевы сваякі і сябры. Усяго з паўсотні чалавек. Скульптар Гэнік, фотамастак Дзяніс, журналіст і „мовананова“ Глеб, паэт і шоўмэн Усевалад з братам гісторыкам Анатолем, кнігар Алесь… Мы ня бачылі Юркойця 20 месяцаў — увесь гэты час ён сядзеў у сьледчым ізалятары. Але, мабыць, важней, што ён упершыню за гэты час пабачыў нас. Вітаемся вачыма. Нехта крычыць: „Алесь, трымайся!“

Пракурор чытае абвінаваўчае заключэньне — даты, назвы фірмаў, хто каму колькі… Сотні эпізодаў.

Разглядаю падсудных у кайданках. Звычайныя з выгляду мужчыны крыху за сорак, усе з вышэйшай адукацыяй, усе сямейныя, без судзімасьцяў. Спакойныя, дружалюбныя. Што яны робяць у клетцы, у аўтазаку, у турме? Чаму іх, пяцярых, ахоўваюць 10 міліцыянтаў (толькі адна зьмена) і яшчэ невядома колькі людзей у цывільным з дроцікам ад навушніка за каўняром?

Гэтыя ўсе, ахоўнікі, дачыняюцца міжсобку з мацярком, замест адэкватнасьці — адстароненасьць і гатовасьць атакаваць. „Не фотографировать! Не разговаривать!“ Калі мае вочы сустракаюцца з вачыма міліцыянта, ягоныя адразу закрываюцца плеўкай, як у курачкі.

Масавы працэс мытнікаў у краіне — ня першы і не апошні. Для чаго яны? Калі хабарніцтва на мяжы і сапраўды стала сыстэмай, дык трэба мяняць сыстэму, а ня ладзіць пэрыядычна гэтыя сумныя шоў.

Паэт і шоўмэн Сева Сьцебурака ўпэўнены, што без культурніцкай дзейнасьці Юркойця тут не абышлося: „Занелюбіў яго раённы кадэбіст“.

Усе гэтыя помнікі і памятныя шыльды, беларуская мова, маштабныя скульптурныя пленэры і бясконцыя госьці, прэзэнтацыі, лекцыі па школах — усё, што ён ладзіў па-за працай, кадэбісту — муляла. Цягаў і цягаў ён Юркойця на „прафіляктычныя гутаркі“, пасьля арыштаваў і асабіста завёз у Менск, чаго асабіста мог і не рабіць. Вёз і ўсю дарогу прыгаворваў — папаўся, маўляў, дагуляўся. Уяўляю сабе такі быкаўскі сюжэт. Пасьля гэтага кадэбіст на падвышэньне пайшоў, у вобласьць. Пра гэта Сева ведае зь лістоў Юркойця з турмы.

Пракурор працягвае бубніць эпізоды. Пагаворваюць, што суд можа расьцягнуцца на год.

........................................................

**Праўнік**

Такія масавыя працэсы над мытнікамі справа не новая, яны перыядычна здараюцца і іх вельмі любяць адвакаты, бо ідуць яны доўга і пэўны час можна мець стабільны прыбытак. Мне толькі вось цікава, ці выклікаў бы гэты працэс такую цікавасць аўтара, калі б сярод абвінавачаных не было краязнаўцы? Хіба што не.

**Вечар**

Для таварышаў з КДБ гэта найбольш зручны варыянт — прышпіліць да рэальнай справы чалавека, які проста нязручны. Закруціць яго разам з 57 іншымі і ўсё. Цішыня. А праз 10–12 год разьбірайцеся самі...

**Праўнік**

А ці не прасцей было таварышам з КДБ проста звольніць з мытні ў свой час такога нязручнага для іх чалавека? Раз не звальнялі, значыць і не такі ўжо нязручны быў для іх. А факты застаюцца фактамі — такса за праезд фуры без мытнага дагляду складала ад 250 да 3000 даляраў, а ў асуджанага на 7 гадоў начальніка ашмянскай мытні пры вобшуку знайшлі 2 млн. даляраў гатоўкай. Тыповая піраміда — начальнік браў болей, падначаленыя меней. Так гэта і працуе.

**Ёпрст**

Што, уся мытня, як адзін? Ну тады трэба ўсіх, пачынаючы з Лукашэнкі.

**Праўніку**

Вы проста не ведаеце Алеся. Ён не проста краязнаўца. Прыедзьце на Астравеччыну і ў абсалютна любога мінака запытайце, хто такі Алесь Юркойць.

# ЛЁГКАЯ ЭСТРАДНАЯ МУЗЫКА

21 лістапада 2016

Бог Марфэй наведаў працэс. Пазяхае судзьдзя, пазяхаюць падсудныя, пазяхаем мы ў залі. Канвойныя міліцыянты сьпяць стоячы, з расплюшчанымі вачыма.

Яшчэ ў калідоры перад пачаткам праз краты і шкло дзьвярэй я заўважыў, што ў Юркойця прапала ўчорашняя густая барада. Ягоная сястра Галіна кажа, што прымусілі згаліць. Ён быў дамогся не галіцца — надта датклівая скура, „кожнага разу кроў капала". А тут прымусілі, і вось — абдзёртыя шчокі.

Калісьці я рабіў радыёперадачу пра турэмнае галеньне. Называлася „Барада Шчукіна". Мастацтвазнаўца Сяргей Харэўскі тады зладзіў культуралягічны разбор сюжэту — з гістарычнымі прыкладамі і аналёгіямі. Мінула 15 гадоў. І сёньня Харэўскі сядзіць побач са мною на працэсе паголенага Юркойця.

А старагрэцкага Марфэюса, дарэчы, нязьменна паказвалі з густой барадой.

Пракурор па-ранейшаму гугніць эпізоды абвінаваўчага заключэньня сабе пад нос.

Разглядаюцца галяндзкія кветкі, якія транзытам праз Беларусь кіраваліся фурамі на Расею і Казахстан. Гэта „кветкавы працэс".

Маштабы ўражваюць. 4,5 тысячы „транспартных сродкаў" з „кветкавай прадукцыяй", за „бесьперашкодны пропуск" якіх на мяжы ашмянскія мытнікі, нібыта, атрымлівалі „грашовыя сродкі".

Выглядаюць эпізоды наступным чынам. Транспартны сродак, які сьледаваў на адрас ААТ „Міленіюм“ ці „Эльдарада“ ці „Профіль“ (назваў дзясяткі), афармлены інспэктарам X на ўказаньне начальніка аддзелу Y 09.11.2013, за што „арганізаванай злачыннай групай“ атрымана 210 даляраў ЗША.

Эпізодам няма канца. Мяняецца назва фірмы, дата, сума і прозьвішча мытніка. Нязьменнай застаецца „арганізаваная злачынная група“.

У мяне такое ўражаньне, што пракурор гэтай сто разоў паўторанай „групай“ прывучвае нас да таго, што ўсе мытнікі, якіх абвінавачваюць у гэтай справе, — злачынцы, яшчэ да прысуду, бо ўжо павязаныя адной гэтай фармулёўкай, быццам ад паўтарэньня яна сама сабой ператворыцца ў рэальнасьць яшчэ да таго, як выступяць адвакаты і самі падсудныя.

Чацьвёра мытнікаў свае віны не прызналі.

Я чакаю ад іх і іх адвакатаў доказаў невінаватасьці, а іх ужо залічылі ў злачынную групу. Гэта насьцярожвае. Натуральна, ні ў якую віну Юркойця я ня веру, як ня вераць і ўсе, хто прыйшоў на працэс „за яго“. Але гэта ня значыць, што мы не гатовыя прыняць бесстароньнія і неаспрэчныя доказы ягонай віны, калі б такія былі. Вынікі працэсу павінны быць не аглабельнымі, а аб’ектыўнымі, гэта значыць, каб іх не маглі не прызнаць усе бакі.

Зьвяртаю ўвагу на магію лічбаў. 58 — расстрэльны артыкул сталінскага Крымінальнага кодэксу — па сутнасьці, за іншадумства. У 1988-м у нас у Менску быў створаны „Камітэт 58“, які зьбіраў зьвесткі пра ахвяраў сталіншчыны. І вось — працэс 58-мі.

Паводле пракурора, „арганізаваная злачынная група“ мытнікаў была створаная на працягу 2010–2015 гадоў. Тысячы эпізодаў злачынства, нібыта, фіксаваліся ўвесь гэты час. Усе пяць гадоў.

Але ж выходзіць, што тыя, хто гэта ўсё фіксаваў, адсочваў паездкі мытнікаў, праслухоўваў іх тэлефоны, усе тыя, хто — ведаў, ускосна гэтую „групу“ і стваралі. Напрацоўвалі, складалі факты карупцыі ў тэчкі, сачылі за ўсімі, у тым ліку за сабой. Пяць гадоў! Колькі ж народу ва ўсім гэтым удзельнічае! У напрацоўцы кампрамату „на заўтра“. І самае галоўнае — навошта?

Ведаць пра злачынства і не спыніць яго, наадварот, даць разрасьціся да ўражвальных маштабаў. Напэўна, такія практыкі надаюцца ў дачыненьні да наркадылераў — каб трымаць пад кантролем. Але для чаго яны сярод службовых асобаў у дзяржаўным апараце?

Пракурор пераходзіць на мармытаньне. З поля слыху выпадаюць прозьвішчы абвінавачаных і цэлыя кавалкі абвінавачаньня. Так у царкве панамар мармыча фразы, быццам даючы знаць, што гэтыя словы нікога ні да чаго не абавязваюць. Важны толькі сам рытуал. Мы пераглядаемся з Харэўскім, і ён шэпча мне на вуха фразу з колішняй радыёкропкі: „А цяпер паслухайце лёгкую эстрадную музыку“.

Але ж гэта абвінаваўчае заключэньне. Я зьбіраўся быў падумаць пра непавагу з боку пракурора да ўсіх, хто яго слухае — да паўсотні чалавек у гэтай актавай залі. Але падумаў пра іншае.

Магчыма, усім удзельнікам працэсу ўжо ўсё ясна, рашэньні прынятыя, і цяпер трэба толькі ўсё гэта прачытаць-прагугніць. Прапушчаныя эпізоды

і праглынутыя прозьвішчы быццам і ня важныя нікому. Быццам ніхто тут не зьбіраецца бараніцца, чапляцца за кожнае слова, абвяргаць, даказваць. Пры тым, што кошт справы — 10–15 гадоў турмы.

Ніхто ня просіць чытаць выразна.

........................................................

**Праўнік**

Вось журналісты тут.бай неяк больш дасціпла апісваюць гэты працэс, сутнасць абвінавачанняў і схемы працы злачыннай групоўкі на ашмянскай мытні па версіі следства. Размах „працы“ мытнікаў уражвае. А ў сп. Дубаўца не тэкст, а лёгкая эстрадная музыка.

**George**

В белмове нет матов и сьвядомый не может быть преступником. Железная логика, с которой не поспоришь.

## „Не разумею, што я тут раблю“

22 лістапада 2016

Алесь Юркойць свае віны не прызнаў.

Пракурор скончыў чытаць абвінавачаньне, і судзьдзя апытвае падсудных — ці прызнаюць? Юркойць кажа: не прызнаю і не разумею, што я тут раблю, чаму мяне столькі трымаюць у турме, ні разу толкам не растлумачыўшы.

Пад час чытаньня „ягонай“ часткі (а гэта цягнулася больш за гадзіну), пракурор перайшоў на беларускую мову. Беларускамоўны мытнік дамогся, каб і тут пра яго казалі першай дзяржаўнай мовай.

Пракурораў два: старэйшы, асноўны, і маладзейшы. Па-беларуску чытаў маладзейшы. Нават захацелася падумаць пра яго — не замацярэлы яшчэ, хутчэй за ўсё зь вёскі хлопец. А можа быць сама родная мова пазытыўным промнем падсьвяціла нэгатыўную тантамарэску. Аднак гэта ілюзія, бо сутнасьці справы не мяняе.

„Алесь, што ты тут робіш, Алесь! — шэптам галосіць мастак Пушкін, таксама Алесь. — Ты прывёз мяне ў Міхалішкі напісаць абразы для касьцёла… А якія мы ладзілі сьвяты ў Лакцянах! Як жа я ўдзячны табе, што адкрыў мне Нальшчанскі край!“

Увогуле ў абвінавачаньні адзінаццаць тэкстаў — на кожнага падсуднага. Спачатку ідзе адна тая самая даўжэзная прэамбула пра мытных начальнікаў (іх судзяць у іншым, у абласным судзе), якія, нібыта, стварылі „групу“.

Паўтараюцца гісторыі пра тое, як начальнік аддзелу N у адміністрацыйным будынку ў Вільні ці

на дарозе паміж Полацкам і Наваполацкам ці ў вёсцы Шараі ці на запраўцы А-100 браў зь фірмача „грашовыя сродкі“, як начальнік S купляў у Літве літоўскія мабільнікі і сімкі для кансьпірацыі, як яны дзялілі грошы, колькі агулам атрымалі…

Але гэтых начальнікаў некалькі, а ў працэсе паўсотні простых мытнікаў, галоўным чынам інспэктары. У Партызанскім судзе толькі інспэктары. А прэамбула ўсё не сканчаецца… А прозьвішча таго, каго абвінавачваюць, усё не гучыць… Галоўнае, што гучыць, — група.

— А праўда, што могуць даць 10 гадоў? — наіўнічае ў перапынку зь Юркойцевай адвакаткай Алесь Пушкін. — Усё можа быць. — А тры могуць даць? — Могуць. — А проста ўзяць і адпусьціць у залі суду? — Могуць.

— Аднаго не разумею, — дзівіцца археоляг Эдвард Зайкоўскі, — як яны фіксавалі хабар у адміністрацыйным будынку на вуліцы Дарыюса і Гірэнаса ў Вільні…

Забягаючы наперад, скажу, што аб’ектыўных фактаў такой фіксацыі ў працэсе ня будзе ўвогуле. Толькі прызнальныя паказаньні.

„Юркойцева“ частка таксама пачынаецца з паўтарэньня прэамбулы пра начальнікаў, пра „групу“, не пра Юркойця. Нарэшце дабіраюцца да яго. Але ўжо ў гэтым кантэксьце — у кантэксьце „групы“. Маўляў, начальнікі яго ўцягнулі ў злачынную дзейнасьць у пэрыяд 2014–2015. Ну і ў чым канкрэтна вінаваты Юркойць?

Схема таксама адна для ўсіх — называецца „транспартны сродак“, які ехаў на адрас ААТ „Балтыйскі падарунак“, напрыклад, і быў афармлены

Юркойцем на ўказаньне начальніка Карповіча 15.05.2014. Усё. Як сказаў Алесь у канцы, я проста рабіў сваю работу. У абвінавачаньні няма словаў — не аформіў ці аформіў неналежным чынам. Проста аформіў. Але як так? Павінна быць у эпізодзе злачыннае дзеяньне, безь яго — як?

А яго няма.

Завяршаецца кожны эпізод фразай: …за што „арганізаванай злачыннай групай“ атрымана 200 даляраў ЗША.

Разумееце прынцып бутэрброда? Зьверху група (прэамбула), зьнізу група (фінальная фраза), а паміж імі Юркойць. Безь ніякай фактычнай сувязі з гэтай самай групай.

„Ды яго проста ўвапхнулі ў гэты працэс“, — робіць выснову Пушкін.

У тантамарэску.

---

**Кнут**

Прослушал обвинение. Обвинение написано крайне непрофессионально. Ведь каждую фразу нужно доказать. Как можно доказать „И в других местах“? Были ли эти места? „В неустановленное время“ и т.п. Неужели не определены правила составления подобного документа? Это же не литературное произведение.

# Ленін сказаў дзяліцца

23 лістапада 2016

На судзе пачалася драматургія. Допыт падсудных для мяне — нагода разгледзець, чым Юркойць адрозьніваецца ад сваіх калег.

А вылучаецца ён ня толькі беларускай мовай, колам інтарэсаў па-за працай ды вясёлым бляскам уваччу. Ён не прывязаны да гэтага суду, да гэтага дня, да свайго часу.

Выглядае, што дамагчыся праўды, справядлівага прысуду для яго важней, чым вытаргаваць сабе год ці два свабоды. Чалавек, які ставіць помнік паўстанцам Каліноўскага, усталёўвае шыльду паэту Казімеру Сваяку, чытае краязнаўчыя лекцыі дзецям, жыве ў сьвеце каштоўнасьцяў, а не даляраў. Чалавек, у адрозьненьне ад іншых, з высокаю зоркай.

Гэтым разам прыйшлі „за Юркойця“ мастакі Кастусь Качан і Алесь Суша, сацыёляг і вандроўнік Мікола Кацук…

Падсудны мытнік Лапейка, мажны ладнага веку мужчына, на сьледзтве адмаўляў сваю віну, а тады ўзяў і прызнаў, што на працягу пяці гадоў атрымліваў ад сваіх начальнікаў грошы за афармленьне фураў з кветкамі. Праўда, гэтая драма часта выглядае камічна.

— Вы бралі грошы ад начальніка? — Так. — І раздавалі іншым мытнікам? — Так (называюцца прозьвішчы). — Грошы былі загорнутыя ў паперу? — Так. — Даляры? — Так. — А адкуль вы ведаеце, што гэта былі даляры і ўвогуле грошы? — Затрудняюсь атвеціць.

Так адна за адной павісаюць „інтрыгі“. Ня памятаю, ня ведаю, не разумею.

Кацук мне на вуха разважае пра сытуацыю: на Лапейку банальна націснулі. Жонка не працуе, трое дзяцей: два непаўналетнія і старэйшы інвалід. Сказалі: пакажаш, што перадаваў таму і таму, а пра ўсё астатняе кажы — ня знаю, ня помню. Лапейка цяпер пад хатнім арыштам, прыходзіць у суд сам, бо прызнаў і супрацоўнічае са сьледзтвам.

Юркойць пытаецца ў Лапейкі: — Ці мог інспэктар, які бярэ ў начальніка грошы на працягу пяці гадоў, не здагадвацца пра існаваньне злачыннай групы, калі б такая была? — Не разумею пытаньня.

А па-мойму, яно рытарычнае.

Вось яшчэ чым адрозьніваецца Юркойць ад таго ж Лапейкі — умее мысьліць абстрактна і ведае цану абстрактнаму думаньню, якое часта важнейшае за канкрэтнае.

Мытнікі, што пад хатнім арыштам, „прызнанты“, кураць у перапынку. Тут яны ня скутыя, а гаваркія. Пасьмейваюцца з фармулёвак у судзе: „Бесьперашкодны пропуск“ машын — што гэта такое? Заехала фура на мяжу — ужо перашкода.

Карупцыйная схема, якую агучыла пракуратура, не такая простая, як усе думаюць — маўляў, сунуў вадзіла інспэктару паперку. Тут усё наадварот. Мытнікі, нібыта, атрымлівалі грошы ад сваіх начальнікаў аддзелаў, а тыя недзе на выезьдзе бралі ў фірмачоў, якія празь Літву гоняць эўразьвязаўскія кветкі ў Расею і Казахстан. Уяўляеце маштабы гэтага патоку?

Не магу толькі зразумець, навошта начальнікі давалі грошы падначаленым інспэктарам? Таму

што, я запомніў зь дзіцячага саду, „Ленін сказаў дзяліцца“?

Тут важна, што мытнікі афармлялі машыны з кветкамі так, як і ўвесь „скарапорт“ (тавар, які хутка псуецца), гэта значыць, у першую чаргу. То бок, у адпаведнасьці з законам. І ніяк не маглі паўплываць на працэс „паскоранага“ ці „бесьперашкоднага“ праходжаньня мяжы. Дык за што тады грошы?

З другога боку, калі, дапусьцім, начальнік атрымлівае ад фірмача сотні тысяч даляраў за спрыяньне на мяжы, ён ня будзе даваць грошы падначаленым і таму, што навошта, за што, сабе даражэй, і таму, каб не сьвяціцца. А яшчэ, выходзіць, начальнік без усякае патрэбы сваімі рукамі стварае „арганізаваную злачынную групу“, шматкроць павялічваючы сваю рызыку і віну.

Хапануў — жыруй ціхенька. Машыны будуць ісьці як ішлі. У такім сьвятле выплаты мытнікам ды яшчэ далярамі, ды яшчэ проста на тэрыторыі мытні, выглядаюць самагубствам. Скарапорт самазахаваньня?

## „У жанчын аграмадная ўлада“

25 лістапада 2016

Судзьдзя захварэў. Таму ўчора і сёньня ў працэсе перапынак.

Судзьдзя — мажны дзяцюк, падобны да павялічанага ў памерах дзіцёнка, гадоў трыццаці пяці, зь невыразнай артыкуляцыяй. Яны тут усе зь невыразнай артыкуляцыяй — і пракурор, і сакратарка. Быццам прапусьцілі курс „Выразнага чытаньня“ за першы кляс пачатковай школы. Перад кожным — мікрафон, уключаны, але дэманстратыўна адвернуты ўбок.

Сакратарка запрашае ў залю, зьядаючы два першыя склады: „…няймые заходзім“ — гэта пра тых, хто пад хатнім арыштам і прыходзяць самі.

Усе сакратаркі ў Доме правасудзьдзя як на падбор, дзеўкі маладыя і прыгожыя, хто ў міні-спадніцы, хто ў шчыльнай сукенцы. Каб любаваліся імі судзьдзі і пракуроры, а можа і падсудныя — каб падсаладзілі сваю горкую пілюлю лёсу?

Для мяне гэтая зьява нечаканая і не зусім зразумелая. Нешта падобнае я памятаю хіба што з „Працэсу“ Франца Кафкі, дзе ён апісвае судовую сакратарку:

— Вось і цудоўна, — сказала дзяўчына і кіўнула прыгожанькай галоўкай.

Магчыма, ёсьць у гэтым і нейкі глыбейшы, нават архаічны ці містычны сэнс або традыцыя. Галоўны герой „Працэсу“ тлумачыць гэта наступным чынам:

„У жанчын аграмадная ўлада, — разважае арыштаваны Ёзэф К. — Калі б я мог паўплываць на

некаторых знаёмых мне жанчын і яны, разам, папрацавалі б на маю карысьць, я б шмат чаго дабіўся. Асабліва ў гэтым судзе — бо там спрэс адны спаднічнікі. Пакажы сьледчаму жанчыну хоць бы здалёк, і ён гатовы пераскочыць цераз стол і цераз абвінавачанага, толькі б пасьпець яе дагнаць“.

Дзіўныя такія зьбліжэньні. Пры тым, што ў паветры вісіць журба і сам менскі Дом правасудзьдзя — дзесьці наводшыбе, у чорта ў зубах, але ўсе ж людзі. Нават людзі ў цывільным, якія ўюцца каля працэсу і ў залі — зь відэакамэрай, і за дзьвярыма, калі застаюцца адны — жартуюць, сьмяюцца. Праўда, не на поўны рот — пасьмейваюцца.

Хвароба судзьдзі для мяне — нагода замест працэсу пайсьці да астроляга. Ніхто толкам ня ведае, што, чаму і як адбываецца. Нібыта ясна ўсё прапісана ў крымінальным кодэксе. А навошта тады суд? Бо ўсяго, як ні старайся, не прапішаш. А колькі ўсяго застаецца па-за судом — тайнага і яўнага, мэтафізычнага і ўвогуле касьмічнага. А яшчэ — воля Божая. Вось, здавалася, такі ў нас сур'ёзны працэс, столькі народу ўдзельнічае, а тут бац — судзьдзя захварэў. Антракт.

Астралягіня расказала мне пра Юркойця. Ёсьць, аказваецца, такі тып — чалавек-айсбэрг. Ён як бы звычайны, але насамрэч — ёсьць глыбіня ў ім. Вялікі чалавек у малым целе. Таму калі побач адбываюцца нейкія працэсы, яны яго абавязкова зачэпяць. Ягонае месца ў шыхце з выгляду — на аднаго, а насамрэч — на трох ці нават на дзесяцёх. Ну і яшчэ шмат усяго. Напрыклад, што ён заўсёды лідэр.

Я так разумею, на мытні ён ніколі не выслугоўваўся — праца і праца. Затое па-за працай лідэрскія

якасьці выяўляліся напоўніцу — у ягонай беларускай культурніцкай дзейнасьці.

Каб супакоіць дачэплівага чытача, скажу, што ў астралёгію я ня веру. Але паслухаць цікава. Пагатоў, ці веру я гэтаму суду больш, чым прагнозу астроляга? — гэтае пытаньне для мяне пакуль без адказу. Хацелася б верыць.

**Ветразь**

Крыніцы астралёгіі, як зьявы, у старажытным Шумерскім царстве. Адкуль і паходзіць гэная псэўданавука. Яна мае непасрэдны зьвязак з чарадзействам ды злымі духоўнымі сіламі. Дакрананьне да падобных праяваў акультызму небясьпечнае для душы. Лічу гэта вельмі сумніўнай цікавасьцю і нікому ня раю.

## ХАБАР — ЗА ВЫКАНАНЬНЕ СЛУЖБОВЫХ АБАВЯЗКАЎ

28 лістапада 2016

Суд дапытвае хабарнікаў, тых, што прызналі віну. Адстраляўся Лапейка (мне прыходзіць у галаву, што па-польску хабар лапувка, а па-беларуску варыянты — лапанка, даць на лапу, лапейка таксама пасуе), цяпер — Страпко і Бабровіч.

Усе трое блытаюцца ў паказаньнях, паказваюць адзін на аднаго, на іншых, адклікаюць свае паказаньні. Праўда за гэтыя дні нават і ня думала прабіцца ў смузе.

Страпко — высокі дзядзька з шаляпінскім голасам. Ну вось дзіўна мне гучыць ягонае абвінавачаньне: „Вы абвінавачваецеся ў атрыманьні хабару ў асабліва буйных памерах групай асобаў“… Літаральна гэта значыць: вы абвінавачваеце сябе ў атрыманьні хабару імі. Пра канцылярыт варта будзе сказаць асобна.

А яшчэ дзіўна, што за паўтара года пракуроры й сьледчыя не пазнаёміліся са спэцыфікай працы на мытні і цяпер пры кожным допыце разьбіраюцца, чым профіль рызыкі адрозьніваецца ад індыкатара рызыкі. А ў тых рызыках і хаваецца той „бесьперашкодны пропуск“ машын, што нібыта і складае завязку ўсёй гісторыі.

Мытнік ня мог ня выканаць загад свайго начальніка. Дапусьцім, начальнік даваў мытніку грошы за афармленьне нейкіх машын, той мог успрыняць гэта як хай сабе не зусім празрыстую, але падзяку

за добрую працу, як заўважыў раней уніклівы сацыёляг Кацук, каб мытнікі „не зьвярэлі“.

— А чаму не далажылі ў аддзел уласнай бясьпекі? — пытаецца пракурор. — Баяўся, — адказвае Страпко.

І начальніка мог баяцца. Ну даносу ўласнага — яшчэ больш, мабыць, баяўся.

Страпко на сьледзтве паказаў, якія начальнікі яму давалі грошы, а на судзе адмаўляецца ад паловы — ён у іх у аддзелах нават не працаваў.

Дзе ўвогуле тая мяжа паміж імкненьнем адных — засудзіць, другіх — вылузацца і — высьвятленьнем праўды?

Трэба чуць, як мытнікі, што прызналі атрыманьне грошай, распавядаюць пра матывы. Раптам праскокваюць ноткі нейкага дзіцячага зьдзіўленьня. Глядзіце, машыны з кветкамі ідуць без парушэньняў і затрымак, мытнік ня робіць нічога, апроч сваіх абавязкаў. І тут начальства дае яму даляры. За што?

Пракурор: — Адкуль вы гэта ведаеце? — З абвінавачага заключэньня. — А з уласнага досьведу? — Затрудняюсь атвеціць.

Працэс увесь час упіраецца ў „бесьперашкодны пропуск“. Здаецца, ужо ўсе разумеюць недарэчнасьць тэрміну. Але кожны дапытваны зноў і зноў тлумачыць суду: я не магу ўказаць памежніку, каб хутчэй адкрываў шлагбаўм, пашпартысту — каб хутчэй штампаваў, фітасанітару — каб хутчэй праводзіў свой кантроль. А яны ж усе на лініі — перада мной.

Яшчэ фармулёўка — хабар, нібыта, даваўся службовай асобе за нейкія дзеяньні — апроч выканань-

ня службовых абавязкаў. Але мытнікі не рабілі і не маглі рабіць ніякіх такіх дзеяньняў. Страпко кажа: я ня знаю. Ізноў вяртаюцца — за бесьперашкодны. У клетцы нехта сьмяецца і атрымлівае заўвагу судзьдзі.

І тут да мяне даходзіць, што сама мяжа для пракурора, для сьледчых, для судзьдзі — цёмны лес. Гэта для мяне, які бачыў першыя будкі зь літоўскага і беларускага бакоў, а пасьля — як вырастаюць гэтыя гмахі, як разбудоўваецца пераход, справа звыклая. А ім… Ім, відаць, і выезд за мяжу забаронены. Без адмысловага дазволу.

За тое, каб не прыдзіраліся больш „положенных норм“ — спрабуе Бабровіч нечым больш адэкватным замяніць „бесьперашкодны“. Ну хіба назавеш так злачыннае дзеяньне ў пратаколе — каб не прыдзіраліся…

Пра тое, што плацяць за кветкі, Бабровіч здагадваўся з абрыўкаў фраз калег-інспэктараў. Напрыклад? — пытаецца пракурор. — Ну, скажа нехта „Кветачкі паехалі…“

Пракурору няўцям, яўна паэзіі не шануе, а мне — адразу цэлая карціна і вобраз і гэтая здагадка — усё намалявалася. Бабровіч, відаць, паэзію шануе. Прынамсі, можа абстрактна мысьліць. Нездарма працаваў разам зь Юркойцем.

Бабровіч шчыра ня ўпэўнены, што „грашовыя сродкі“, якія атрымаў ад начальніка, — гэта хабар. Па-першае, ад начальніка, а не ад падкантрольнай асобы. Па-другое, ніхто не сказаў, за што, ніхто нічога не прасіў рабіць, і службовыя абавязкі пасьля тых грошай ні на каліва не зьмяніліся. Начальнік

проста даў і сказаў: „Твае“. Дзіўны хабар, калі гэта хабар.

Адзінае, у чым Бабровіч бачыць грубае парушэньне, — што прымаў грошы на тэрыторыі мытні ды яшчэ і ў далярах, а гэта забаронена. Ну і рызыкоўна. Бо мог прыйсьці зьператрусам аддзел уласнай бясьпекі, а яшчэ мытнікаў час ад часу шмалі пасьля зьмены.

Цікава, а каму сёньня плацяць фірмачы, якія праз Літву гоняць фуры з „кветкавай прадукцыяй“ у Расею? Бізнэс маштабны, і калі ёсьць такі артыкул расходаў, як аплата мытні, мусяць жа камусьці плаціць.

А кветачкі едуць.

# „Даставерна магу сказаць, што ня помню“

29 лістапада 2016

Як і папярэднія „прызнанты“, мытнік Нагорскі выразна памятае дэталі легенды, — тымі самымі словамі (даляры былі загорнутыя ў аркуш А4, начальнік даваў грошы каля свайго кабінэту, у калідоры, ніхто ні пра што не пытаўся і нічога не тлумачыў…), але варта зрабіць крок у бок, і — поўнае забыцьцё. Ня памятаю, ня ведаю, не сьцьвярджаю, але і не выключаю.

Праўда, здараюцца і цікавыя для фальклярыста сюжэты. Нагорскі: На маё нямое пытаньне кіўком галавы ён паціснуў плячыма. — Пракурор: А чаму вы не задзейнічалі моўны апарат? — Дык і так жа ўсё ясна.

Перадача грошай адбывалася нібыта яшчэ й на пустыннай стаянцы каля астравецкага касьцёла. Рамантыка.

Узгадваючы гэты эпізод, пракурор кажа: Вы паказалі, што спыніліся каля царквы ў Астраўцы.

У Астравец яны ехалі з Ашмян пасьля зьмены на машыне аднаго зь іх. — А хто яшчэ жыве ў Астраўцы? — Сярод іншых Нагорскі называе Чэпіна і Юркойця.

Калі ня так важна, каля царквы спыніліся ці каля касьцёла (а гэта ў Астраўцы, прынамсі, розныя будынкі, прычым касьцёлаў там два), у Астраўцы жыве Юркойць ці ў Варнянах, дык, можа быць, ня так важна, хто табе даваў грошы і ці даваў увогуле.

Нагорскі — шляхоцкага выгляду дзядзька, але з той шляхты, пра якую кажуць — вырадзілася.

— Як вы тлумачыце, за што начальства давала вам грошы? — пытаецца пракурор. — Ня ведаю. Пра машыны з кветкамі мне сказалі толькі пры затрыманьні.

І зноў — ня памятаю, быў у стрэсе, не магу знаць… Нагорскі працуе на мытні больш за 20 гадоў, практычна з самага пачатку. Цёрты калач.

— Не разумею, што трэба зрабіць (сьмех у залі). — Гэта адказ на пытаньне: ці пацьвярджае ён факты атрыманьня грошай?

У чыстасардэчным прызнаньні Нагорскі ўказаў 25 тысяч даляраў, а яму інкрымінуюць толькі 11 тысяч. Кажа, думаў — чым больш скажу, тым хутчэй адпусьцяць з турмы пад падпіску. Яшчэ кажа, што сьледчы прышпорваў: Пішы, абяцай вазьмясьціць, хутчэй адпусьцяць. Пракурор: Вазьмясьцілі? — Так. — Колькі? — 25.

Адпусьцілі. Маўляў, сьледчы казаў, што некаторыя інспэктары „пагасілі“ і выходзяць. Адкуль ён узяў суму 25, адказаць ня змог. Затое, сказаўшы 25, пасьля мусіў у кожным эпізодзе павялічваць суму хабару, каб у выніку склалася 25. Цяпер мусіць у кожным эпізодзе зьмяншаць.

Большасьць інфармацыі пра сваё злачынства Нагорскі ведае ад сьледчага, усё астатняе — „прадпалагае“. Адкуль ведаў? — спытаў сьледчы і падпіхнуў: — Можа чуў ад іншых? — Я паўтарыў гэта і падпісаў.

Цяпер адмаўляе: ні ад каго ён нічога ня чуў.

Сытуацыя тыповая. Тыя, што прызналі віну, за вызваленьне з турмы гатовыя былі сказаць усё, што

заўгодна. Толькі б сьледчы падказаў. Разумею, чаму. Абсягі жыцьця ў гэтых людзей не выходзяць за межы гэтага суду, мытні і якой-небудзь апалубкі каля дому, якую заліў на атрыманыя „грашовыя сродкі“. Таму галоўнае для іх — выкруціцца.

Сястра Юркойця Галіна кажа, што яе дачка налета будзе паступаць, дык Алесь у турме пазнаёміўся зь людзьмі, знаёмыя якіх могуць дапамагчы пляменьніцы падрыхтавацца. Маўляў, Алесь, дзе б ні апынуўся, з усімі знаёміцца, жыве на плянэце Зямля, такі ягоны маштаб, і ўсе яму тут зямляне…

Яшчэ адзін цёрты калач — Чэпін. Ён будзе „паказваць“ на Юркойця. У 2015 годзе Юркойця ў паказаньнях Чэпіна не было. Юркойць зьявіўся ў выніку згоды Чэпіна супрацоўнічаць са сьледзтвам. Чэпін кажа: Я ўспомніў, тады ня помніў, а цяпер успомніў.

Схема такая. Карповіч, начальнік і Чэпіна і Юркойця, нібыта, даваў Чэпіну грошы для Юркойця і для сябе. Яны вярталіся з Ашмянаў на машыне дадому, Алесь быў за рулём, і па дарозе ці на стаянцы Чэпін, нібыта, тройчы перадаваў Юркойцю згорнутыя А4.

Пракурор: Гэта былі грошы? — Не магу знаць, не разгортваў. — А Юркойць бачыў, што вы паклалі на сядушку? — Ня ведаю.

Юркойць і Чэпін — інспэктары. Чаму начальнік не даваў непасрэдна Юркойцю? — Не магу знаць.

На паперы нібыта быў нумар пэрсанальнай пячаткі Юркойця. — Можаце назваць? — Ня ведаю, тады можа і ведаў, шмат часу мінула.

У 2016 годзе — з 2014-га?

Судзьдзя: Наколькі вы давяралі Юркойцю? — Я нікому не давяраю. — Ці былі ў вас апасеньні, што

Юркойць паведаміць у службу ўласнае бясьпекі? — Апасеньні былі вялікія.

Адвакат: Ці можаце вы даставерна сьцьвярджаць, што перадавалі Юркойцю грошы? — Не магу. Гэта маё дапушчэньне. — На чым заснаванае? — Ну я атрымаў, значыць, і ён атрымаў.

Юркойць засыпае Чэпіна пытаньнямі, а адказы тыя самыя — ня помню, не магу знаць, мажа было, а мажа і не.

Як толькі ажывіліся тыя, што ў клетцы, адразу прыгасьлі тыя, што на волі. Нечым яны мне нагадалі панурых паліцаяў на пасьляваенным судзе ў кінафільме „Сьведка“ паводле раману Віктара Казько „Суд у Слабадзе“.

..........................................................

**Volc**

Але ж сапраўды — паліцаі. Слушна.

## КАБ ЧЭПІН НЕ ЧАПЛЯЎСЯ

30 лістапада 2016

„Каб лішні раз не чапляліся“ — у паказаньнях Чэпіна зьяўляецца яшчэ адзін варыянт „бесьперашкоднага пропуску“ машын. Крыху сьмешна, што „каб не чапляліся“ прыдумаў чалавек з прозьвішчам Чэпін.

Чытаюць пратаколы сьледзтва. Увесь 2015 год, пакуль сядзеў у турме, Чэпін рашуча адмаўляў, што даваў Юркойцю грошы. Даказваў, што проста ня мог гэтага зрабіць.

Па-першае, калі б Карповіч папрасіў перадаць Юркойцю, мне было б страшна, маўляў, Юркойць — чалавек своеасаблівы, не свайго кола, у нас розныя погляды на жыцьцё, мог бы паведаміць у бясьпеку. Па-другое, ён чалавек у нас у аддзеле новы, а да таго ж старэйшы паводле пасады. Па-трэцяе, мы ніколі ня езьдзілі ў машыне сам-насам, абавязкова быў нехта яшчэ. На паказаньнях настойваю, гатовы прайсьці праверку на паліграфе.

— Чаму вы так сказалі ў сьнежні 2015 году? — Не хацеў ачарняць Юркойця, ня помніў. Баяўся наступстваў з боку Юркойця. — Якіх наступстваў? — Не магу растлумачыць. — А з боку іншых баяліся? — Не баяўся.

Юркойць: Вы служылі ў Афганістане, чалавек не баязьлівы, не? — Не. — А цяпер вы мяне баіцеся? — Цяпер не.

Як вы разумееце „ачарніць“? — пытаецца Юркойцеў адвакат. — Абгаварыць. — Што значыць „абгаварыць“? — Сказаць няпраўду. — Чаму вы год

назад сказалі няпраўду? — Я тады слаба помніў. А далей успомніў. — У сувязі з чым? — Таму што быў час успомніць. — Чаму тады год назад не сказалі „ня помню“? — Ня знаю.

У 2015-м Чэпін слаба помніў пра падзеі 2014-га.

У 2016-м ён піша заяву на імя старшыні КДБ, што Юркойцю грошы — перадаваў. На гэтым ён настойвае і зноў гатовы прайсьці праверку на паліграфе.

Адвакат Юркойця: Дзе вы гэта пісалі? У кабінэце сьледчага? — Так, у Менску, у КДБ. — А з чыёй ініцыятывы адбылася сустрэча са сьледчым? — Ня помню, нічога растлумачыць не магу. — Хто прымаў заяву? — Магчыма, сьледчы Бычак. — Прыяжджаючы ў Менск, вы „общались“ са сьледчым? — Так. — Юркойць грошы браў? — Я ня ведаю. — А слова „хабар“ у пратаколе з вашых слоў запісана? — Палучаецца, з маіх. — Вы ведаеце значэньне слова „изобличать“? — Затрудняюсь… — Дагэтуль вы не разумелі, за што вам перадавалі грошы, а цяпер кажаце „хабар“? — Я і цяпер не разумею.

Юркойць — Чэпіну: Я вам скажу, чаму вы мяне баяліся. Вы баяліся, што я скажу, што вы хлус і подлы чалавек. Дык вось я кажу гэта.

На імгненьне ўявіў сябе на месцы адваката Чэпіна, і мяне перасмыкнула.

Пазыцыя Юркойця толькі пацьвердзіла, наколькі ён чужы ў гэтай мытнай службе чалавек. Ну не было тут ягонага „кола даверу“. Магчыма, былі прыстойныя калегі — з тых, што цяпер бароняць яго, дапытваючы Чэпіна, хоць самі стаяць побач зь Юркойцем у клетцы.

Нейкія яны зусім не такія, як адпушчаныя на волю. Нейкія сьвятлейшыя і фармулююць пыта-

ньні востра і эмацыйна. Мне хочацца верыць, што яны — маральныя людзі і што справа на іх шытая, яны проста ўключаныя ў чужую п'есу, устаўленыя ў тантамарэску злачыннай групы.

**Кнут**

Пьеса интересная. Участие Алеся в ней понятно. Районный КГБист не упустил свой шанс и всунул Алеся в эту компанию. Так как у нас оправдательных приговоров меньше 1%, то он уверен, что Алеся „закроют". Следствие не спешило и ждало весь 2015 год материала на Алеся. Но когда 2015 прошел, а материала нет, то его нужно сделать самим. Вот и зажали Чепина, поэтому он и вспомнил в 2016 то, чего и не было. Поэтому и показания такие: „помню что давал, а больше ничего не помню". Следствие особо и не парилось, так как наш суд все схавает. И такие показания пойдут.
Драматург этой пьесы классно показал всю нашу следственно-судебную систему. Лучше не покажешь. Качество работы следствия изумляет. Обвинение (беспрепятственный пропуск авто) такое, что можно всех в отпуск уже сейчас. Следователи даже не напрягли себя, чтобы разобраться, как работает таможня. Обвинение нужно уже сейчас изменить на что-то типа: „Получение дохода, не предусмотренное законом, за выполнение своих должностных обязанностей". Но если есть доход, то есть у кого-то расход, а если доход не законный, то есть и пострадавший. Пострадавший тот, кто платил. Как я понял, платили цветочные фирмы. Значит они пострадавшие и им нужно выплачивать компенсацию. Почему же тогда часть обвиняемых выплатила деньги государству? Оно же не пострадало.

## „АСТРАВЕЧЧЫНА, КРАЙ ДАРАГІ“

1 сьнежня 2016

Прозьвішча апошняга з адпушчаных на волю мытнікаў — Часнойць. І гэта нагода сказаць два словы пра анамастыку. Дакладней, даць цытату з кнігі Адама Мальдзіса „Астравеччына, край дарагі“.

„А прозьвішчы! Божа мой, якія каларытныя, непаўторныя прозьвішчы на Астравеччыне! Ёсьць выразна беларускія… Але больш такіх, што ўзьніклі на скрыжаваньні дзьвюх моў, што не сустракаюцца больш анідзе: Букель, Якель, Шукель… Андралойць, Шляхтойць, Часнойць... Бяру тыя, што бытуюць на Астравеччыне здаўна, прасочваюцца па дакумэнтах з XVI—XVIII стагодзьдзяў“.

Бытуюць, дадам, ня толькі на Астравеччыне, але і на працэсе ашмянскіх мытнікаў. У прыватнасьці Часнойць прызнаўся, што браў грошы ў свайго непасрэднага начальніка Горбаля. Букель таксама фігуруе ў працэсе. Нават цэлыя два Букелі.

— Я чалавек вельмі добры, — кажа Часнойць, — і раскажу вам такі эпізод. Аднойчы ішоў моцны дождж…

— Пры якіх абставінах атрымалі грашовыя сродкі першы раз? — перабівае яго пракурор. Ня даў расказаць добраму чалавеку пра сваю дабрыню.

— Горбаль прыехаў і каля майго дому, даўшы рукапоціскам грошы — 400 даляраў, сказаў: „Не перажывай, усё нармальна, крыміналу няма“. Больш нічога не тлумачыў і адразу ж зьехаў. Але я перажываў, было нават непрыемна.

— Чаму не вярнулі? — Баяўсяісьці супраць начальніка, паказаць нораў. — Куды дзелі грошы? — Яны не прыносілі мне радасьці, таму імкнуўся хутчэй іх патраціць. Ахвяраваў касьцёлу, анкахвораму дзіцяці, на дзіцячую пляцоўку.

Ад Лапейкі не атрымліваў, хоць той і кажа, што атрымліваў. Першы выпадак, калі паміж адпушчанымі ўзьнікла нестыкоўка. Ва ўсім астатнім акторы граюць свае ролі і легенду ў цэлым зладжана, а ўсё, што па-за легендай — ня помню, затрудняюсь, ня ведаю…

Ізноў суд упёрся ў „бесьперашкодны пропуск“. Падобна, што аўтар абвінаваўчага заключэньня ўжыў тут прыём савецкіх кінэматаграфістаў, які называецца „белы пудзель“ — спосаб абысьці цэнзуру. Перад здачай фільму рэжысэр устаўляў у стужку кадры зь белым пудзелем, які перабягае дарогу. Увага камісіі, якая прымала фільм, канцэнтравалася на гэтым пудзелі, і вэрдыкт гучаў так: Фільм прымаецца, толькі выкіньце гэтага дурацкага пудзеля.

Інакш кажучы, калі ўсе дружна кажуць, што „бесьперашкодны пропуск“ немагчымы, суд можа ўрэшце трыюмфальна выкінуць гэты тэрмін, тысячы разоў раскіданы па ўсёй справе, з выніковага дакумэнту. Усе будуць задаволеныя — дамагліся! Тым часам легенда, „група“, турэмныя тэрміны і ўсё астатняе — застануцца.

— Дазвольце патлумачыць, адкуль узяўся „бесьперашкодны“, — кажа бязь меры гаваркі Часнойць. — Указ прэзыдэнта аб свабодзе транзыту. Забясьпечыць бесьперашкодны пропуск праз тэрыторыю РБ.

Але ж нявыкрутка. Няма ва ўказе 2006 году такога тэрміну. Усё, што я знайшоў з гэтым словам: „На Берасьцейшчыне пройдзе рытуал пастаноўкі загаду на бесьперашкодны пропуск празь мяжу Новага году“. Сутнасьць рытуалу ў тым, што Дзед Мароз, які жыве ў Белавескай пушчы, дае памежнаму нараду загад — выступіць на ахову дзяржаўнай мяжы з задачай: у навагоднюю ноч бесьперашкодна прапусьціць Новы (тады быў 2015) год з Усходу на Захад. У рытуале ўдзельнічаў старшыня Дзяржпагранкамітэту РБ Леанід Мальцаў.

Якую робім выснову? „Белы пудзель“.

Часнойць: Я быў запрошаны ў раённы дом КДБ, там сталі цікавіцца Горбалем. Я кажу: ён мне даваў. — А можаш напісаць? — Магу. І я па сваёй волі тут жа напісаў Вакульчыку. Я сам прыйшоў! Яшчэ ніхто не паказваў на мяне, а я прыйшоў і расказаў, што браў грошы!

Вакульчык — гэта старшыня КДБ РБ. Усе яўкі з павіннай „прызнанты“ пісалі на ягонае імя.

Часнойць: Я сказаў супрацоўнікам КДБ — вы ўяўляеце, што значыць зрабіць дагляд фуры кветак? Сотні тысяч! Пералічыць паштучна. Хлопцы кажуць: Мы ўяўляем. Я ня ведаю, ці яны пералічвалі, але я ўбачыў у вачах КДБ разуменьне.

# ПРЫПАВЕСЬЦЬ ПРА МЫТНІКА І ФАРЫСЭЯ

2 сьнежня 2016

Ставіш сябе на месца падсудных і бачыш, як выразна падзеленыя яны пытаньнем, што ратаваць: шкуру ці душу?

Яшчэ ва ўнівэрсытэце нам казалі, што журналістыка — другая найстарэйшая прафэсія. Пасьля прастытуцыі. На працэсе ашмянскіх мытнікаў я зразумеў, што гэта ня так. Забылі пра мытнікаў.

Ня ведаю, якія там былі журналісты ў старажытнай Юдэі, але першае кананічнае Эвангельле было напісанае апосталам Левіем Мацьвеем, мытнікам.

„Выйшаўшы пасьля гэтага, Ісус убачыў мытніка па імені Левій, які сядзеў на мытні, і сказаў яму: «Ідзі за Мною». Той пакінуў усё, устаў і пайшоў за Ім. І наладзіў Левій для Яго вялікую гасьціну ў сваім доме. Было там шмат мытнікаў і іншых, якія сядзелі зь імі за сталом“.

Калі суд праводзіў допыт адпушчанага на волю інспэктара Часнойця, а той распавядаў, што траціў атрыманыя ад начальніка „грашовыя сродкі“ на дабрачыннасьць, я глядзеў на Юркойця і параўноўваў гэтых двух мытнікаў. На першы погляд — дзьве ягады з аднаго куста. Аднаго веку, аднаго росту і прозьвішчы аднатыпныя, нальшчанскія. Абодва сямейныя, жывуць у сваіх хатах на зямлі, абодва вернікі-каталікі. Абодва гаваркія.

Прынцыповая розьніца паміж імі ня ў тым, што першы прызнаў атрыманьне грошай, а другі не. Галоўная розьніца — глыбейшая. Адкуль яна?

Магчыма, гэта выхаваньне, духоўная прырода чалавека, вынік працы над сабой.

— Куды вы дзелі незаконна атрыманыя грашовыя сродкі? — пытаецца пракурор. — Паклаў у камод, — адказвае Часнойць. — Хто-небудзь бачыў гэта? — Бачыла жонка. — Далей. — На пытаньне жонкі, што гэта за грошы, я адказаў: Не твая справа. Больш яна не пыталася.

Адна рыска, бывае, апісвае ўсяго чалавека. І тыя межы, у якіх ён жыве. Ён лічыць сябе добрым, дае грошы на касьцёл, ён лічыць сябе правільным — жыве „як паложана", ня тое, што іншыя. І грошы, атрыманыя ад начальніка, пякуць яму рукі, і хлопцы з КДБ ставяцца да яго з разуменьнем. Але ўсё, што я пералічыў, гэта і ёсьць абсяг ягонага жыцьця. Збавеньне — гэта каб выпусьцілі з „Валадаркі". Мара? Заліць увесну апалубку вакол хаты. Захаваць добрае імя? А што гэта і навошта? Пакаяцца? А за што? А-а, за гэта? Ясная рэч — не ў касьцёл, а ў КДБ.

З дробных рысак складаецца поўная супрацьлегласьць Часнойця Юркойцю — краязнаўцу, культурніку беларускай Віленшчыны, настаўніку. Юркойця за ягоную дзейнасьць ведаюць і шануюць многія людзі, бо жыве вялікімі мэтамі, а як зьбяруцца зь сябрамі, усе гаворкі — пра Беларусь. Гэты калі і пойдзе каяцца, дык у касьцёл. У культурніцкіх справах Алесь рабіў шмат, але ніколі не афішаваўся — ці то з прыроднае сьціпласьці, ці ад таго, што мытнік, а да іх — „вядома якое стаўленьне", ці ад службовае асьцярожнасьці — ведаў, што кожны ягоны крок пільнуецца.

Зразумела, у які з кантэкстаў упісваецца „незаконнае атрыманьне грашовых сродкаў", а ў які — не.

У Эвангельлі паводле Лукі ёсьць такі эпізод:

„Расказаў (Ісус) таксама прыпавесьць і некаторым упэўненым у сваёй праведнасьці, якія пагарджалі іншымі: «Два чалавекі зайшлі ў сьвятыню памаліцца: адзін фарысэй, а другі мытнік. Фарысэй, стаўшы, маліўся сам сабе так: “Божа, дзякую Табе, што я не такі, як іншыя людзі, рабаўнікі, несправядлівыя, распусьнікі або як гэты мытнік. Пашчу два разы на тыдзень, даю дзесяціну з усяго, што набываю”. А мытнік, стоячы воддаль, не адважваўся нават падняць вачэй да неба, але, б’ючы сябе ў грудзі, казаў: “Божа, будзь міласьцівы да мяне, грэшнага”. Кажу вам, што менавіта гэты пайшоў да дому свайго апраўданы, а ня той, бо кожны, хто ўзвышае сябе, прыніжаны будзе, а хто прыніжае сябе, будзе ўзвышаны»“.

.........................................................

**Ананім**

Моцна. Файныя сябры ў Дубаўца. І ён у іх.

# РАЗЫШЛІСЯ Ў ПОГЛЯДАХ НА АЛЬКАГОЛЬ І ПРЭЗЫДЭНТА

6 сьнежня 2016

Міліцыянты, якія ахоўваюць мытнікаў у клетцы і нас у залі — а іх дзясятак, прычым яны пэрыядычна мяняюцца — усе да аднаго зусім не супэрмэны. Нягеглыя, не азораныя інтэлектам, карыкатурныя.

Між іх — дзьве-тры малюпасенькія мілавідныя дзяўчыны ў форме і з дубінамі. Ад іхнага выгляду мяне ахоплівае фэмінізм. Жаночы род ад вертухая — вертухайка? — пытаюся ва Ўладзі Арлова, які прыйшоў на працэс. „Калі не сказаць горш“, — адказвае пісьменьнік.

Суд завяршае допыт абвінавачанага Часнойця.

— Вы сказалі, што грошы вам перадавалі за максымальна хуткае афармленьне транспартных сродкаў з кветкавай прадукцыяй. Гэта запісана ў пратаколе з вашых словаў? — Так, з маіх. Але я гэтага не гаварыў. — А адкуль вы ведаеце, што грошы за гэта? — У канцы сьледзтва ўжо ўсе ведалі. — Хто ўсе? — Ну, сьледчы. — А да затрыманьня вы гэта ведалі? — Не.

Пачынаецца допыт Казьмерчука — першага з клеткі. Прызнае незаконнае атрыманьне 10 тысяч даляраў. Чаму ж яго не адпусьцілі? Ці то не „вазьмясьціў“ у поўным аб’ёме — назьбіраў толькі 1800. Ці то не паверыў яму сьледчы, што ён усё расказаў (так лічыць сам).

Маленькі, худзенькі, замучаны. Такіх называюць „шчаўлік“. А працаваў на мытні з 2009 году.

Яму нібыта даваў грошы начальнік Карповіч, той, што быў начальнікам і ў Юркойця, і ў Чэпіна.

Казьмярчук: Я спытаў: за што? — За работу.

Пракурор зьбіваецца з канцылярыту: „Вы эти денюжки положили в карман“.

Грошы Казьмерчуку начальнік даваў, нібыта, на тэрыторыі мытні, проста на працоўным месцы, дзе трымаць валюту строга забаронена. Але што прасьцей уявіць сябе на месцы мытніка. Вось начальнік дае вам на вашым працоўным месцы пачак даляраў. Без тлумачэньня. Што гэта? — думаеце вы і самі сабе адказваеце: па-першае, ясна, што ня хабар, бо ад начальніка і невядома за што. „За работу“. Другое — правакацыя. Але навошта? Трэцяе, блізкае да другога, што прыходзіць у галаву — праверка на вашывасьць.

На мытні ідзе вайна з карупцыяй, а мытнікі, як згаварыўшыся, прымаюць ад начальства „ў асабліва буйным памеры“...

Пасьля затрыманьня ў КДБ Казьмярчук адмаўляў гэтыя факты. Пазьней падпісаў яўку з павіннай. Але на свабоду ня выйшаў. Крыўдна. Сядзіць цяпер у турме і ў клетцы. Астатнім чатыром побач зь ім хоць ёсьць сатысфакцыя — не прызналі нічога.

Вось Швінта — высокі ладны дзяцюк. Добра падрыхтаваны. Гэта вам не ранейшыя — „ня помню“, „не магу знаць“, „затрудняюсь“... Гэты ўсё помніць.

Ягоны начальнік Букель прыдзіраўся да яго. Як аднойчы: Чаго без фуражкі? — У памяшканьні маю права знаходзіцца без галаўнога ўбору. — Не з таго пачынаеш, супрацоўнік.

Швінта будзе біцца за кожнае слова — гэта бачна. Прынцыповы. Ведае і дакладна цытуе дакумэнты,

робіць суду чарговы лікбез што да працы мытнікаў. Напрыклад, мы ўпершыню пачулі, што мытнікі ўвогуле не ажыццяўляюць „пропуск“ машын, гэтым займаюцца памежныя войскі. Мытнікі ажыццяўляюць афармленьне і кантроль грузаў.

Наступны — Тадэвуш Тадэвушавіч Высоцкі. У справе праходзіць ягоны стрыечны брат, таксама Высоцкі, Ігар. У 2010-м Тадэвуш меў цяжкі інфаркт, цэлы год яго рэзалі, сшывалі, рабілі апэрацыі-рэабілітацыі. У сэрцы, сказаў, стаіць жалязяка. Таксама не прызнаў нічога.

— Мы ўсе розныя людзі. Вось чаму я ня мог прызнаць групу. Жывем у трох гарадах. Нас тут 11, а я шасьцярых ніколі ў вочы ня бачыў.

— Я двойчы ўзнагароджваўся Дзяржаўным мытным камітэтам, адзін раз — за афармленьне кветкавай прадукцыі, затрымаў машыну з канфіскатам больш чым на мільярд рублёў.

Пакуль мытнікі сядзелі ў турме, у нас, на волі, адбылася дэнамінацыя. Страціўшы чатыры нулі, мы перасталі быць мільянэрамі і мысьліць мільярдамі. Таму лічбы Высоцкага гучаць для нас ужо дзіўнавата.

Пазьней мы пачуем, што і суд налічвае „ущерб“, перакладаючы даляры ў недэнамінаваныя рублі. Ці то для маштабнасьці, ці таму, што і сам суд існуе ў кантэксьце турмы, а ня волі.

А вось і крыху нечаканы паварот з вуснаў Тадэвуша Высоцкага: Асноўная прычына затрымкі кветак — расейскія санкцыі супраць эўрапейскіх прадуктаў, усяго скарапорту, у тым ліку і кветак.

Адчуваю, што суд вялікай палітыкі разглядаць ня будзе. Але менавіта тут праплыла рыбіна магчы-

мага вялікага крыміналу. Вільганула ватэрлініяй і зьнікла.

Курневіч, намесьнік Карповіча. Усё адмаўляе. Бадзёры дзядзька, так добра ўсьміхаецца жонцы, якая ходзіць на ўсе пасяджэньні. Гэта я здагадваюся, што жонка. Курневіч кажа пра Юркойця: „Вопытны інспэктар, але гаварыў толькі па-беларуску. Трошкі рэзала слых. Чалавек своеасаблівы“.

Бачу, што Курневіч ставіцца да Юркойця з павагай. І кажа важную для нашага спэктаклю рэч. Вельмі часта прыяжджала служба ўласнае бясьпекі, правяралі інспэктараў, наяўнасьць грашовых сродкаў. Заўсёды нечакана прыяжджала. Ні разу нічога знойдзена не было.

Дык можа і яны „ў долі“?

Нарэшце апошні, Юркойць. Не разумее, што ён тут робіць. Доказаў на яго так і не знайшлося, апроч паказаньняў Чэпіна (то перадаваў, то не перадаваў).

— Ці мянялася ў вас пэрсанальная пячатка? — Так, першая ў 1995 годзе была яшчэ з „Пагоняй“. — Якія адносіны з калегамі? — Службовыя. — Ці былі канфлікты? — Толькі з Чэпіным. Аднойчы пасьля зьмены ён быў моцна п’яны і прасіў мяне сесьці за стырно ягонай машыны. Я адмовіў у рэзкай форме. — Вы адчувалі няпрыязь да Чэпіна? — Так. — У чым яна праяўлялася? — Я пазьбягаў яго. Некалькі разоў ён клікаў разам пайсьці ў сталоўку, я адмаўляўся. Мне заставалася дапрацаваць паўгода да 20 гадоў, і я зьбіраўся сысьці з мытні. — Ці помніце арганізацыі-перавозчыкі кветкавай прадукцыі? — У мяне памяць лепшая на гістарычныя даты.

— Вас калі-небудзь КДБ выклікала? — пытаньне адваката. — Пастаянна. Сарвалі мне Касінерскі

фэст. Я абышоў усе ўлады — згода. Арганізаваў усіх артыстаў. І тут прыходжу ў райвыканкам, а ўсе вочы патупіўшы. КДБ закрыла. Колькі разоў такое было. Напісаў артыкул супраць АЭС. Выклік. Паставіў помнік паўстанцам Каліноўскага. Выклік.

„Што ты тут робіш, Алесь?..“ — згадваю я малітву мастака Пушкіна.

— Дадаць што-небудзь хочаце? — пытаецца судзьдзя.

Юркойць расказвае, як катавалі ў ізалятары КДБ, як зьбівалі: Я прасіў проста людзкія ўмовы. Не давалі спаць. Цэлую ноч калоцяць дубінамі ў дзьверы, ня гасяць сьвятло...

Гэта „Амэрыканка“.

Рэзюмэ Юркойця:

— Нас абвінавачваюць у тым, што мы добрасумленна выконвалі свае абавязкі. Прынамсі пра сябе так скажу.

........................................................

**Тимофей**

С Сашей не работал... на разных были постах. :) Вместе пели в художественной самодеятельности в таможне... Хороший парень. Да и вообще очередное дело „для бабы Мани“ :) барацьба с карупцыяй... мать её...

# АДВАКАТЫ НААДВАРОТ

7 сьнежня 2016

Абаронцы ў судзе ашмянскіх мытнікаў (іх таксама 11) у масе сваёй не электрызуюць верай, што праўда пераможа.

Вядома, у мяне ў галаве вобраз клясычнага абаронцы — гарачага палеміста, які ўвесь час вяртае працэсу жалезную лёгіку і, адпаведна, сэнс. А падступна абвінавачаным і тым, хто ў залі — веру ў сябе і ў трыюмф справядлівасьці. Высокі суд, тут толькі палова праўды! Астатняя — вось тут!

Роля некаторых адвакатаў увогуле, як для мяне, дзівакаватая. Бо не магу паставіць сябе на іхнае месца. Калі твае падапечныя прызналіся ў хабарніцтве, што табе бараніць? За што змагацца? Каб скінулі год-два? Каб канфіскавалі ня ўсю маёмасьць?

Адпушчаныя пад хатні арышт мытнікі ў курылцы абмяркоўваюць ранейшы прысуд нейкаму іхнаму калегу — далі шэсьць гадоў, адабралі толькі гараж і дачу. Во пашанцавала!

Нехта ў кулюары заўважыў, што для адвакатаў у сёньняшняй Беларусі — сыць. Іншы нехта дадаў — асабліва на такіх працэсах. Цягнуцца яны доўга, абстрактна, значыць і даход будзе доўгі і адносна лёгкі.

У мяне пастаяннае адчуваньне, што адвакаты існуюць у той самай аўры, што і пракуроры, і вось гэтыя адпушчаныя мытнікі. Гэта цёмная аўра, балотная, як куртка мытніка Чэпіна. Як увесь той Кафкаў „Працэс“.

Арыштаванага Ёзэфа К. моцна выводзілі зь сябе шматгадзінныя развагі ягонага абаронцы Гульда пра надзвычайную неабходнасьць адваката для абвінавачанага. Хоць адвакат па сутнасьці нічога ня можа, але ён чалавек „дзельны“ і таму з самых заблытаных паказаньняў здольны адабраць усё, што можа быць карысным для абароны. Але, падводзіць рысу Гульд, „рэч у тым, што суд, уласна кажучы, абарону не дапускае, а толькі цярпіць яе“.

Цярпіць — значыць, пагаджаецца з прысутнасьцю, наяўнасьцю, існаваньнем. Але не з аргумэнтамі.

Забягаючы наперад, скажу, што бліжэй да фіналу адвакаты ашмянскіх мытнікаў выразна падзеляцца на кафкіянскіх і клясычных. Апошнія скажуць бліскучыя прамовы, у якіх на горкі яблык разаб’юць абвінавачаньне і ўсю гэтую справу.

Калісьці пазьней адбудзецца іншы суд. Аркадзь Ізраілевіч, уладальнік рэстарану ў Курапатах, падасьць пазоў супраць газэты „Новы час“. На здымку ў газэце я пазнаю адвакатку Ізраілевіча. На працэсе ашмянскіх мытнікаў яна бараніла аднаго з падсудных, які прызнаўся ў хабары сам і „паказваў“ на іншых.

Ізраілевіч бароніць свой рэстаран у месцы народнага смутку, за што яго газэта і прапясочыла. Незадаволены рэстаратар падаў у суд і наняў адвакатку.

Адвакатка запомнілася мне з ашмянскага працэсу тым, што не бараніла свайго кліента, а, наадварот, дапамагала яму „сесьці“. Галоўны сэнс адвакацкай паслугі — схіліць кліента да прызнаньня віны і агавору іншых, што абяцала ў пэрспэктыве скарачэньне тэрміну адседкі. Інакш кажучы, адвакат працуе не ў судзе, а ў сыстэме, дзе суду як такога

няма. Тантамарэскі суду і сыстэмы перабблытаныя месцамі.

Яшчэ на мытным працэсе кідалася ў вочы тая розьніца, што падзяляе ня толькі „прызнантаў“ і „непрызнантаў“, але і іхных адвакатаў. Уражвала, як можна выступаць абаронцам падсуднага, які хлусіць і пра сябе, і пра калегаў. Ты ведаеш, што ён хлусіць, і хлусіш сам. Гэта значыць, што і кліентаў ты будзеш „бараніць“ адпаведных, з адпаведнай рэпутацыяй.

І наадварот, адвакаты, якія баранілі мытнікаў, што не прызналі свае віны і для якіх захаваньне добрага імя было важнейшым за скарачэньне тэрміну, выглядалі як сапраўдныя адвакаты — зь лёгікай, фактамі і красамоўствам. І гэта абавязкова мела б вынік у судзе. Але не ў сыстэме.

Аднойчы прыяцель паказаў мне раскошны катэдж пад Менскам (мы праяжджалі міма). Будынак ахоўвае міліцэйская машына. Што за „шышка“ тут жыве? — спытаўся я. — Адвакат, — адказаў прыяцель. — Ён бароніць „шышак“, якіх саджае асабіста Лукашэнка. То бок, заказныя працэсы. Ну, як бароніць? Юрыдычна абслугоўвае іхную пасадку. Натуральна, за адпаведныя ганарары.

Цяпер вы разумееце, на што разьлічваў і чаго не атрымаў бізнэсовец Ізраілевіч, які прайграў суд супраць газэты „Новы час“? Ён разьлічваў на падтрымку сыстэмы, а яна яго кінула, бо адвакатка аказалася адвакаткай наадварот. Добра, хоць ногі вынес.

# ДВА МІЛЬЁНЫ ПАД ВАННАЙ

8 сьнежня 2016

Суд апытвае нібыта сьведак, але ў якасьці абвінавачаных. Гэта былыя работнікі мытні, пра якіх мы ні разу ня чулі. Яны прызналіся, што атрымлівалі і перадавалі грошы, і называюць прозьвішчы, якіх мы таксама ня чулі. За выключэньнем начальнікаў. Але ж гэтыя сьведчаньні ня тычацца нікога з 11 абвінавачаных у нашым судзе. Судзьдзя тлумачыць — гэта таму, што крымінальная справа заведзеная на групу. А групу па частках разглядаюць у пяці менскіх судах.

Здаецца, мы ўваходзім у зону глыбокага туману, дзе павінны канчаткова растварыцца канкрэтныя факты і сама праўда зь юстыцыяй, якая з лаціны перакладаецца як справядлівасьць.

Судзьдзя — абвінавачанаму-сьведку нейкаму Мышуку: — Калі вам давалі грошы за нечарговае афармленьне машын з кветкамі, а „скарапорт“, у тым ліку кветкі, афармляецца нечаргова паводле закону, дык вам давалі за нечарговае — адносна чаго? — Не магу сказаць.

У перапынку адвакат аднаго з „прызнантаў“ на маё пытаньне: — Скажыце, а што тут робяць гэтыя дзіўныя абвінавачаныя, якіх дапытваюць як сьведак і зусім не пра наш працэс? — адказаў высакамернай усьмешкай: — Знаеш, я сам былы палкоўнік, і тады б я табе адказаў адным словам: усё гэта — х...ня.

Даходліва.

Пракурор зачытвае пісьмовыя матэрыялы справы. Агляд кватэры Сарумянца.

Гарнік Сарумянц — ураджэнец Баку, былы мытнік, начальнік аддзелу ў Каменным Лагу, які задоўга да ўсёй гэтай справы звольніўся з мытні і заняўся бізнэсам. Цяпер яго судзяць у іншым, абласным судзе. Гэта ў яго пад ваннай знайшлі два мільёны даляраў.

У мяне чарговы раз уражаньне, што тыя, хто фармаваў справу мытнікаў, хацелі ня толькі іх чым мацней пакараць, але і зрабіць зь іх на ўвесь сьвет ідыётаў. Маўляў, ня толькі грошы бралі, але і падстаўляліся як толькі маглі. І фактаў такіх самападставаў, пачынаючы ад перадачы даляраў на тэрыторыі мытні і сканчаючы гэтымі мільёнамі пад ваннай, мноства. Уся ашмянская мытня, паводле гэтай справы, зборышча неадэкватаў.

Мільён пад ваннай... Ад якой лёгікі скакаць, каб у гэта паверыць? Ад залатога батона Януковіча? Ад падпольных мільёнаў Карэйкі? Але першы ўяўляў сябе царом, а другі проста ня меў магчымасьці прыстроіць накрадзеныя грошы, чакаў зьмены ладу. І паколькі Сарумянц ня першы і не другі, таму выснова, на якую наводзіць нас сьледчы — чалавек у прынцыпе ня ведае, што такое грошы і як імі распараджацца. Чалавек — гэта істота з інтэлектам жука-скарабея.

Нічога дзіўнага, што абвінавачаныя ціснуць на жаласьць. У каго што. У Нагорскага цэлая гісторыя хваробы і хадайніцтва працоўнага калектыву, дзе ён цяпер уладкаваўся. У Бабровіча — прэміі і падзякі. У Тадэвуша Высоцкага цэлы стос ганаровых грамат, дадзеных калгасу „Сьвітанак“ за добрыя

надоі і прывагі. Да мытні Высоцкі працаваў старшынём калгасу.

З матэрыялаў Юркойця — расказалі пра трох маленькіх дачок, пра дом, дзе ён жыве, і пра тое, што там знайшлі падчасператрусу. Нічога ў тых рэчах, што магло б мець дачыненьне да справы, ня выяўлена.

Застаюцца толькі паказаньні Чэпіна, які нібыта перадаваў Юркойцю грошы „тры-чатыры разы“.

— Дык тры ці чатыры? — пытаецца адвакат. Чэпін: — Я помню пра тры. — А чаму тады сказалі 3–4? — Сьледчы спытаўся: 3–4 ці 7–8? Я выбраў 3–4.

Палкоўнік глядзіць у акно.

# ВАЙНА І МІР

9 сьнежня 2016

Кажуць, калі дыктатуры старэюць, яны ўжо не такія страшныя. Зубы зьядаюцца, рухі марудныя, голас слабне… Гэта ілюзія.

Проста адбываецца сэпарацыя міру і вайны. Мір — гэта беларускае тэлебачаньне і чыстыя вуліцы. Вайна — гэта адна вельзарная турма. З аднаго боку квітнеючая Беларусь, з другога — цэлы архіпэляг Беллаг. Але мэдаль адзін. Часам адбываюцца прарывы міру ў вайну і вайны ў мір.

Штосьці падобнае я назіраю на працэсе. Пачаўся ён строга. На любы твой адвольны рух ці шэпт — „Не жестикулировать!“, „Не разговаривать!“. Міліцыянты ўвесь час стаяць, задамі закрываюць клетку з падсуднымі. Каб нават вачыма нельга было сустрэцца.

Але зь цягам часу вастрыня і строгасьць прытупляюцца. Пракуроры, адвакаты і абвінавачаныя гавораць адны да адных ветліва, неяк па-дамашняму нават. Міліцыянты ўжо больш не стаяць, а сядзяць, зьняўшы фуражкі. Абвінавачаныя ў клетцы ўсьміхаюцца. Здаецца, у судовую залю завітала стомленая чалавечнасьць.

Ідзе допыт сьведкаў. Усе нічога ня ведаюць і ня бачылі. Мірна, ціха, ветліва і невыразна.

Вось мілавідная ці то дзяўчына ці то кабетка, цяпер яна працуе мэнэджэрам у Менску.

— Калі ў вашым аддзеле зьявіўся Юркойць? — Я с ним не трудилась… Мне как девочке было трудно проводить досмотр, ребята помогали…

А вось чалавек, якога абмінула чаша сія — як працаваў, так і працуе мытнікам на Каменным Лагу.

— З кім з абвінавачаных вы працавалі ў аддзеле? — пытаецца пракурор.

Сьведка абводзіць вачыма прысутных.

— Швінта… Лапейка… Бабровіч… Канстанцінавіч, как ваша фамілія?

Забыў. Усе сьмяюцца.

І раптам… Вайна!

Ахоўнікі забегалі, зазванілі службовыя тэлефоны. Зараз прывядуць абвінавачанага зь іншага суду. На калідоры шум. Дзьверы расчыняюцца, і адтуль, звонку, дзікі зьвярыны рык:

— Пашол!!!

У залю ўрываецца турма.

Заводзяць аграмаднага, голенага нагала дзядзьку ў спартовым строі. Заводзяць падкрэсьлена жорстка. У дзеўкі-ахоўніцы ў руках электрашокер, штатны пісталет і дубіна. Вакол яшчэ па два міліцыянты з кожнага боку.

Былы мытнік Шытко кажа, што яго падмануў сьледчы КДБ. Сказаў пісаць пра „бесьперашкодны пропуск кветкавай прадукцыі". Сказаў, чым болей эпізодаў напіша, тым хутчэй адпусьцяць. А яму канцом дзела трэба дадому, у яго цяжка хворае дзіця. Ён сьледчаму паверыў, а сьледчы яго падмануў.

Насамрэч усё было ня так, як у тым пратаколе. Начальнік Карповіч двойчы даваў яму па сто даляраў — як дапамогу на лячэньне дзіцяці, грошы зьбіралі ўсім калектывам. І гэта нармальная практыка ў іх была — дапамагаць, каму на вясельле, каму на бяду.

— Мы ўсе гэтага вельмі моцна баяліся — калі кіроўца фуры прапаноўваў хабар. Інспэктар адразу паведамляў начальству і ў бясьпеку.

На мытнай мове гэта называецца — выявіў індыкатар рызыкі.

Дзядзька аграмадны, але наіўны, сам у сабе заблытаўся. У пратаколе грошы за афармленьне машын, а тут расказаў пра хворае дзіця, яшчэ згадаў, што гэта была прэмія.

— Вы разумееце, што грошы незаконныя? — Так. — А чаму ўзялі? — Баяўся выдзеліцца, стаць белай варонай, страціць працу.

Вялізны наіўны дзядзька ў наручніках загнаны ў кут, за нешта адчайна чапляецца. За што?

Перад тварам Шытко — былыя калегі, якія не прызналі віны. За сьпінаю — шасьцёра адпушчаных з турмы, якія прызналі і паказалі на іншых. Шытко на мяжы. Ён што моцы тузаецца — паміж клеткай і гэтымі адпушчанымі.

Калі ты выкарыстаны, мяжа пяройдзеная і табе ўжо ня страшна… Ужо… проста… квітнеючая Беларусь.

.........................................................

**Апытаны**

Усё вельмі прыгожа піша Дубавец. Толькі галоўнае старанна прыхоўвае: гэтыя людзі кралі нашы з вамі грошы, грошы, якія павінны былі ісці на школы, бальніцы, дарогі.

**Ulad**

Ня жыў тады, калі абвяшчалі людзей ворагамі народу. Дзякуй Богу і маім бацькам за тое. Мо, Вы, „апытаны“, жылі? Тады ведаеце ці чыталі, як бацька ці сябра раптам абвяшчаўся „ворагам народу“, які шпіёніў ці краў у сацыялістычнага грама-

дзтва, у нас з Вамі. А як дапытвалі і хто судзіў тых нашых бацькоў/сяброў? А тым сваякам і сябрам трэ' было абавязкова выказаць уласнае „піянерскае, камсамольскае, камуністычнае, сацыялістычнае“ стаўленьне да гэнага „ворага“. Дык ці верыце Вы, „апытаны“, у праўдзівасьць таго сьледзтва і тых выракаў? Тое самае і цяпер: ці льга верыць сьледзтву і суду, калі сьведчаньне аднаго чалавека „браў хабар“ важыць больш сьведчаньня другога чалавека „не, ня браў хабар“, а іншых доказаў не здабыта?
Тыя круцялі, хто закруцілі спагнаньне грошай ва ўласную кішэню, мусілі пэцкаць хабарам як мага болей калегаў-службоўцаў. А сьледчым і суду: чым болей запэцканых, тым гучней справа і велькшы трыюмф.
А пра дарогі, школы і лякарні лепей ня ўзгадвайце, бо ёсьць сапраўды вінаватыя цівуны разам з Цмокам.
І гонар сябру, які застаецца сябрам у цяжкую часіну.

# ЧАМУ МАЎЧЫЦЬ ЮРКОЙЦЬ

12 сьнежня 2016

Спрабую разабрацца з тым, як справа шылася, а натыкаюся на канцылярыт.

Канцылярыт прыдумала бюракратыя — як дымавую заслону, за якой можна было б хаваць уласныя злачынствы і адказнасьць. Натуральна, справа сама сябе ня шые, яе шыюць канкрэтныя людзі.

У зман уводзіць зваротная часьціца -ся — шыла сябе.

І тут для мяне вялікая загадка. Калі канцылярыт надаецца для бюракратыі, дык ці надаецца ён у судзе, ці можа дымавая заслона спрыяць высьвятленьню праўды?

Пракурор кажа: „Вы абвінавачваецеся…“. Ды ні ў чым я не абвінавачваю сябе. Гэта ваша задача даказаць маю віну, калі яна ёсьць, а ня вешаць на мяне тое, чаго я ні сном ні духам.

„Пераводзіўся на раўназначную пасаду“ — сам сябе пераводзіў? „Затрымліваўся супрацоўнікамі КДБ“ — проста арыштаваў сябе з дапамогай КДБ…

Канцылярыт — вялізны набор прыблізнасьці, шматзначнасьці, невыразнасьці. Як такім інструмэнтам можна высьвеціць, а не затуманіць?

Пакуль суд толькі абвалаквае ўсё клубамі гэтай крымінальнай справы. І я фармулюю для сябе пытаньне так — калі працэс замоўлены і прысуды ўжо расьпісаныя, значыць нішто і ніхто тут так і ня выйдзе з густое смугі?

Вось апыталі сьведкаў, якія нічога ня чулі, ня бачылі і ня ведаюць, і перайшлі да дасьледаваньня

пісьмовых матэрыялаў. Усяго ў справе 38 тамоў. У сёньняшніх — агляд мытных дакумэнтаў на фуры з кветкавай прадукцыяй.

Тут хаваецца адказ, чаму, напрыклад, Юркойцю інкрымінуюць атрыманьне 12,700 даляраў за „бесьперашкодны пропуск“ 86 машын.

Аўтар п’есы знайшоў недзе тарыф — за адну такую машыну мытнік нібыта атрымліваў ад свайго начальніка 100 даляраў ці 150, калі гэта былі кветкі не ў гаршках, а „зрэз“. Пасьля аўтар узяў дакумэнты на ўсе машыны, што належалі тым фірмам, якія нібыта плацілі хабар мытным начальнікам, паглядзеў па дакумэнтах, якія з гэтых машын афармляў Юркойць, памножыў і гатова.

П’еса п’есай, але ж гэта ўсё трэба даказаць. Ці мала што мог прыдумаць драматург.

Юркойць маўчыць. На ягоным твары чытаю рашучае нежаданьне ўдзельнічаць у гэтым спэктаклі. Вось ты ўсё жыцьцё працаваў, рабіў мноства карысных для краіны справаў, а цябе пасадзілі ў клетку — дакажы, што не вярблюд.

Іншыя мытнікі ў клетцы, якія не прызналі за сабой віны, спрабуюць бараніцца. „У агульнай колькасьці машын, якія нам інкрымінуюцца, шмат такіх, якія мы даглядалі і затрымлівалі на некалькі сутак“. Хто б тут плаціў за „бесьперашкодны пропуск“ і „паскоранае афармленьне“? Называюць канкрэтныя эпізоды. Судзьдзя запісвае нумары машын: — Мы ўлічым.

Між тым, большасьць машын звычайна і афармляецца без дагляду. Абы не было парушэньняў.

Ох, разумею я, чаму Юркойць маўчыць.

Працэс робіць уражаньне прыблізнасьці і ў вялікім, пачынаючы з канцылярыту, і ў малым, калі бярэ пад увагу мутны абгавор. Паступова прыблізным тут становіцца ўсё.

Канкрэтныя толькі дні за кратамі, якія абяцаюць неўзабаве сабрацца ў цэлыя два гады.

........................................................

**Кнут**

Всем внесли в обвинения все машины, которые оформляли. В список попали даже машины, которые на таможне простояли двое суток. И одна машина, товар которой был конфискован. Вот он какой беспрепятственный пропуск :). Одним словом, халтура. В нормальном государстве за такую работу следователя самого посадили бы. А у нас такая халтура проходит. Я думаю, суд будет выносить обвинительные приговоры даже если ему вообще никакого обвинения от следователей не дадут.

## PRAESUMPTIO INNOCENTIAE

13 сьнежня 2016

Заўтра ў судзе перапынак. У чацьвер і пятніцу будуць дапытваць арыштаваных зь іншых судоў. А сёньня — важны сьведка менавіта ў Юркойцевых „эпізодах“.

Пашкевіч — мужчына саліднай камплекцыі, працуе цяпер у ахове АЭС. Лёгкі на слова. Такія рэдка бываюць злоснымі.

Калі Чэпін даваў паказаньні, як ён тройчы перадаваў Юркойцю грошы, усе эпізоды былі так ці інакш зьвязаныя з Пашкевічам.

Астравецкія мытнікі дабіраліся на працу ў Ашмяны і назад на машыне то аднаго, то другога, то трэцяга. Каб не ганяць кожнаму паасобку сваю. 25 км у адзін бок. Нібыта ў гэтай машыне ці каля яе Чэпін і перадаваў грошы. Але ж заўсёды ў машыне быў яшчэ і Пашкевіч, а часам і яшчэ хто-небудзь.

Юркойць і Чэпін — людзі настолькі несპалучальныя, што ўявіць сабе нейкую таямніцу паміж імі немагчыма. Першы заўзяты культурнік, знаўца гісторыі, спартовец, крытычны да Лукашэнкі, чаго ніколі не хаваў і на працы, і перад начальствам. Другі, наадварот, выпівоха і лукашыст. Але спрачаліся пра палітыку ў машыне Юркойць і Пашкевіч. З Чэпіным Алесь і не загаворваў, адчуваў няпрыязь. Бывалі канфлікты, калі п’яны Чэпін пасьля зьмены прасіў Пашкевіча ці Юркойця сесьці за руль ягонай машыны, на якой яны ўсе прыехалі з Астраўца. Пашкевіч быў ня ўзяўшы правы. А Юркойць у рэзкай форме адмовіў.

Пра свае адносіны з Чэпіным Алесь і пытаецца ў розных сьведкаў, як цяпер вось у Пашкевіча. Пра канфлікты, пра погляды на Лукашэнку, пра п’янку…

Атрымліваецца абы што.

Пашкевіч: Погляды ва ўсіх розныя, гаварылі пра гэта, вядома, адкрытых боек не было, але спрачаліся, натуральна, Чэпіна п’яным на працы ня бачыў…

Забаўная манера Пашкевіча адказваць на пытаньні пракурора такім прасьцецкім „да нет“ у сэнсе „ды не“. — Вы бачылі як Карповіч даваў падначаленым грашовыя сродкі? — Да нет. — Дык „да“ ці „нет“?

Абы што, бо зразумела, што ніхто са сьведак нічога лішняга казаць ня будзе, асабліва калі гэта факультатыўныя тэмы, лірыка, доказная вага якой нікчэмная. Прыязь — няпрыязь, бачыў — ня бачыў, выпіваў — не выпіваў. „Усе выпіваюць“.

Юркойць маўчыць. А што яшчэ рабіць Юркойцю? Напэўна, такую лінію паводзінаў падказалі яму адвакаты. Але як ты лірыкай адаб’еш інкрымінаваныя табе даляры? Ніяк. Скажаш, не было ніякіх даляраў? А Чэпін кажа, былі. Сьведкаў няма. Доказаў няма. Чаму ўвогуле Юркойць павінен адбівацца? Дык не, чалавек прападае з-за таго, што Чэпін, які нібыта перадаваў яму папяровыя скруткі, „здагадваўся“, што гэта грошы.

Перадаваў ці сабе забраў, а кажа — перадаваў? — пытаньнечка.

Артыкул 16 Крымінальна-працэсуальнага кодэксу — прывяду яго цалкам:

„1. Асоба, абвінавачаная ва ўчыненьні злачынства, лічыцца невінаватай, пакуль яе вінаватасьць ва ўчыненьні злачынства ня будзе даказаная ў

прадугледжаным гэтым Кодэксам парадку і ня будзе ўстаноўленая прысудам суду, які ўступіў у законную сілу.

2. Абвінавачаны не абавязаны даказваць сваю невінаватасьць. Орган крымінальнага перасьледу, суд ня мае права перакладаць абавязак даказваньня на абвінавачанага.

3. Сумневы ў абгрунтаванасьці выстаўленага абвінавачаньня тлумачацца на карысьць абвінавачанага.

4. Прысуд ня можа быць заснаваны на здагадках“.

Вось гэта ўжо не абы што. Але кожны з гэтых чатырох пунктаў у дачыненьні да Юркойця ўжываецца сьледзтвам і судом роўна ў адваротным парадку.

Называецца артыкул „Прэзумпцыя невінаватасьці“ (Praesumptio innocentiae).

Пра тое самае чытаем і ў Канстытуцыі:

„Артыкул 26. Ніхто ня можа быць прызнаны вінаватым у злачынстве, калі яго віна ня будзе ў прадугледжаным законам парадку даказаная і ўстаноўленая прысудам суду, які ўступіў у законную сілу. Той, каго абвінавачваюць, не павінен даказваць сваю невінаватасьць“.

Але чаму ён у наручніках, у клетцы, у турме? Ці ён уяўляе сабой пагрозу для навакольных? Ці мае суд доказы ягонай небясьпечнасьці?

Напэўна ж, адвакаты — пасярэднікі паміж ім і судом — мусілі б, прынамсі, хадайнічаць пра зьмену меры стрыманьня.

Але адвакаты кажуць, што ў абласным судзе, дзе судзяць мытных начальнікаў, усе адразу напі-

салі такія хадайніцтвы, і ўсім адмовілі. Значыць, хадайнічаць ня мае сэнсу.

Калі такая залежнасьць распаўсюджваецца на ўвесь мытны працэс і нічога, чаго не было ў начальніцкім судзе, у судзе падначаленых адбыцца ня можа, тады, выглядае, што і судзяць „нашых“ падсудных ня ў „нашым“ судзе, а ў тым. І лёс іхны будзе вырашацца ня тут, а там. Ці дзе-небудзь яшчэ вышэй.

Інакш кажучы, тантамарэска ўсяго працэсу знаходзіцца ў іншым месцы. Тут мы бачым толькі твары 11-ці фігурантаў. І нам нічога не застаецца, як уяўляць сабе тую карціну, у якую гэтыя твары ўстаўленыя. А ўяўленьне ў кожнага сваё.

**Кнут**

Улыбнуло. Артыкул 15 пункт 4: „Прысуд ня можа быць заснаваны на здагадках“. А ведь Чепин в суде не сказал, что передавал Алесю деньги. Он говорил, что передавал что-то в бумаге формата А4. На прямой вопрос: „были ли там деньги“, сказал: „не знаю“. Так что прокурору нельзя использовать показания Чепина против Юркойтя. Согласно пункта 4, догадку использовать для обвинения нельзя.

# ТАНЕЦ ЛЕБЕДЗЯНЯТ

15 сьнежня 2016

Нейк закруціліся мы ў прыватнасьцях і забылі, што ў нас ня проста падсудныя, а група, арганізаваная і злачынная. Зараз нам нагадаюць.

Проста як у тэлевізары ў часы жалобы і вусьцішы, у суд адзін за адным запрашаюцца дзіўныя сьведкі. Мы пра іх ізноў ніколі ня чулі і яны пра нашых абвінавачаных ні словам. А самае галоўнае — гавораць, як па нотах. Там-там-там-там тарарам-пам-пам. Пётар Чайкоўскі, „Танец лебедзянят“.

Вось нейкі Клыга паказаньні даваць адмовіўся. Значыць, пракурор пачынае гугніць доўгія пратаколы ранейшых допытаў. Нічога новага — знаёмыя схемы. Клыга працаваў у начальніка Ермалаева і намесьніка ягонага Кузьміча.

Пракурор: Часть текста ксерокопирована и не виднА, читаю которая виднА…

Клыга напісаў яўку з павіннай і ўсіх сваіх калег у аддзеле „залажыў“. Усе бралі! І я браў. А Кузьміч даваў, Ермалаеў даваў. Ермалаеў таксама закручваў даляры ў паперу і пісаў нумар пэрсанальнай пячаткі мытніка, якому нібыта перадаваліся грошы. Усе начальнікі рабілі гэта такім чынам. Якая сынхроннасьць! Клыга ў ранейшых паказаньнях сыпле прозьвішчамі хабарнікаў. Завяршаецца ўсё гэта літаратурна: Усіх успомніць не магу, таму што ня помню.

Але „нашых“ прозьвішчаў там няма. „Нашых“ сёньня ўвогуле ня будзе.

Наступны — Паўловіч — таксама адмаўляецца ад паказаньняў, і мы зноў слухаем пратаколы. Зноў Ермалаеў-Кузьміч. Яўка з павіннай. Давалі, браў, усе бралі.

Дзіўна, чаму ні разу не гучыць пытаньне сьледчага: а ці хто-небудзь ня браў? Ну гэта ж насамрэч пазытыўны вынік для грамадзтва, праўда? Ну былі хабарнікі, але ж ня ўсе.

Але ў сьледчага адваротная задача — паказаць, што ўсе.

Зарэцкі. Адмова. Пратаколы. Яўка з павіннай. Ермалаеў-Кузьміч.

Зарэцкі нават не пералічвае імёнаў: Хто яшчэ атрымліваў, ня ведаю, але думаю, што ўсе. (Зьвярніце ўвагу на рэфрэн.)

— Ермалаеў сказаў: будзеш атрымліваць грошы за паскоранае афармленьне кветкавай прадукцыі. Але я ўсё афармляў паводле закону, у поўным аб'ёме.

За што грошы? Не разумеюць гэтага і судзьдзя, і пракуроры, і адвакаты, і самі мытнікі, і ўсе астатнія. Прызнаюць „факт" — грошы. Ну правільна, грошы для нашага чалавека рэч самадастатковая. Але не даюцца яны ні за што. Дык — за што грошы?

Нейкі час здавалася, што на нашых вачах былыя падначаленыя Кузьміча проста ў ахвотку вырашылі яго заваліць. А тут гоп — сам Кузьміч на трыбуне. І таксама адмаўляецца даваць паказаньні.

З пратаколаў мне падалося, што гэта не галоўны, але ключавы артыст спэктаклю пра злачынную групу. У яго легенда ўвогуле напісаная як па масьле. Няма ніякіх „ня помню", „ня знаю". Выкрыў па ходу

ў карупцыі два дзясяткі калег-мытнікаў. „Нашых“, праўда, ізноў не прагучала.

Словам, працаваў ён намесьнікам начальніка аддзелу Сарумянца (таго, што два мільёны пад ваннай), сябравалі. Пасьля на месца Сарумянца прыйшоў Ермалаеў, а Сарумянц звольніўся з мытні і заняўся кветкавым бізнэсам. І вось Сарумянц запрашае Ермалаева і кажа — давай ты будзеш хуценька прапускаць фуры з кветкамі, а я табе за гэта грошы, а ты плаці інспэктарам — за кожную машыну. Ну і Ермалаеў згодны, і Кузьміч як бы ў курсе ўсяго гэтага.

Крыху новага адценьня дадаў Кузьміч. Маўляў, Сарумянц прасіў машыны з кветкамі адчыняць радзей, бо кветкі псуюцца.

Кузьміч распавёў у пратаколе, як яны зь Ермалаевым разьмяркоўвалі грошы — глядзелі, колькі хто машын з кветкамі аформіў і за кожную ці 50 даляраў (за гаршкі) ці 100 (за „зрэз“). Пералічваюцца ўсе інспэктары ў такім фармаце: Клыга аформіў 116 машын з кветкавай прадукцыяй, за што атрымаў ня менш за 10.100 даляраў ЗША. Але „нашых“ ізноў няма. Ды нашы б ні за што і не станцавалі такі сынхронны танец, не сыгралі так спрытна на адной дудцы.

Адзін „наш“, праўда, аднойчы згадаўся — калі чыталі пратаколы допытаў Стэльмаха. Той доўга ня мог зразумець, за што начальнік дае яму даляры, і спытаўся ў Казьмерчука. Той нібыта адказаў яму, што — за бесьперашкодны пропуск транспартных сродкаў з кветкавай прадукцыяй. І дадаў: іншыя інспэктары таксама атрымліваюць (рэфрэн).

Што, ня група?

Артысты зьмянялі ў залі адзін аднаго, а я ніяк ня мог зразумець: усе яны бралі хабар, у чым прызналіся. Цяжкое злачынства. А чаму яны гуляюць на волі, нават не пад хатнім арыштам? Загадка.

# САМЫ ТУМАННЫ СУД У СЬВЕЦЕ

16 сьнежня 2016

Калісьці ў брэжнеўскія часы савецкі суд іранічна называлі самым гуманным у сьвеце. Магутная камуністычная ідэалёгія ў вачох народа мусіла апраўдваць жорсткія прысуды, асабліва ў дачыненьні да тых, каго называлі „сацыяльна чужымі“. Прынамсі ў гэтым была свая лёгіка. Суд павінен быць негуманным, калі над судом ёсьць нешта яшчэ, важнейшае за закон.

Сёньня ў Беларусі няма такой магутнай ідэалёгіі, і прырода жорсткасьці праваахоўнай сыстэмы ў дачыненьні да чалавека не такая празрыстая і лягічная. Але над судом па-ранейшаму ёсьць „нешта яшчэ“, прэзыдэнт, які патрабуе караць з усёй жорсткасьцю. Нягледзячы ні на што.

Неадэкватная жорсткасьць відавочная ўсім удзельнікам працэсу. Тым ня менш, яна тут пануе. Гэты суд ужо без іроніі можна назваць самым туманным у сьвеце.

У мінулую пятніцу Юркойцева жонка Ганна ехала на суд і вылецела зь ледзяной дарогі ў кювэт. Машына перакулілася. Ганна пашкодзіла сабе хрыбетнік. Месяц сказалі не ўставаць.

Адвакат прачытаў хадайніцтва, папрасіў зьмяніць Юркойцю меру стрыманьня. Астатнія адвакаты — за, абвінавачаныя — за. Нават Чэпін горача матляў галавой.

Пракурор: Абраная мера стрыманьня адпавядае артыкулу…

Адвакат спрабуе апэляваць акурат да гуманнасьці суду. Маўляў, у сям'і трое малалетніх дзяцей і старая маці Юркойця, якой самой патрэбны догляд, а жонка — адзіны працоўны чалавек у сям'і — зьнерухомлены, трэба нешта з гэтым рабіць. Такі зварот да чалавечнасьці, маўляў, мы ж усе разумеем, што хоць і важны працэс, але ўмоўны, шыты белымі ніткамі. Прынамсі, не настолькі важны, калі гаворка ідзе пра рэальна важныя рэчы.

Суд перапыніўся на нараду.

Мы, у залі, пераглядаемся міжсобку і зь Юркойцем, уражаныя тым, што здарылася з Ганнай, а найбольш — з надзеяй на такую магчымую перамену ягонага лёсу.

Колькі ж разоў у гэтым судзе запальвалася надзея. Нягледзячы ні на што.

Вэрдыкт суду — мера адпавядае цяжкасьці ўчыненага злачынства, старую маці і дзяцей рэкамэндаваць перадаць органам апекі.

........................................................

**Ананім**

Такі чалавек Радзіму не прадасьць, таму няхай ідзе дадому дзяцей гадаваць.

# МЫТНЯ НА ГАСТРОЛЯХ

20 сьнежня 2016

У гэтыя дні мытнікаў з Партызанскага возяць на допыты ў іншыя суды.

Некалькі гадоў таму сьвяткавала свой юбілей мытня Расейскай Фэдэрацыі. Размах падзеі адпавядаў самай вялікай у сьвеце мяжы. Адзначалі ці не ў Крамлёўскім палацы зьездаў з зоркамі попэстрады. Але ў апошні момант спахапіліся — няма ўласна мытнага ансамблю. На ўсю Расею такога не аказалася. І тут успомнілі, што такі ансамбаль ёсьць у Беларусі, на Ашмянскай мытні.

Зараз у нальшчанскія лясы быў пасланы шыкоўны „Нэаплян“, які даставіў нашчадкаў герояў навэлы Праспэра Мэрымэ „Локіс“ проста на крамлёўскую сцэну.

Алесь Юркойць паказваў мне розныя падарункі ад высокага расейскага начальства, казаў, як зухавата яны адсьпявалі свой беларускі рэпэртуар, ажно прабілі залю на сьлязу. Яны і ў сябе дома прабівалі сваімі сьпевамі, езьдзілі з канцэртамі.

Цяпер выступаюць у кайданках, „гастралююць“ па судах.

Робіцца такая трата „працэсуальнага часу“ для таго, каб сьцьвердзіць „калектыўную адказнасьць“ (тэрмін, якога я ў крымінальным заканадаўстве не знайшоў), маўляў, яны ўсе — арганізаваная злачынная група. Хоць усе падсудныя, якіх давялося пачуць ад пачатку суду, групу адмаўляюць.

З таго, што запомнілася пасьля допыту „чужых“ мытнікаў.

Нехта Стугліс заявіў, што лічыць гэты допыт і гэты суд незаконным. Судзьдзя, які дагэтуль толькі гугніў ды мармытаў, раптам закрычаў камандзірскім голасам: Маўчаць! Усё законна.

Нехта Харэвіч дакладна адказвае на ўсе пытаньні, і я яшчэ раз пераконваюся, што тыя, хто не прызнаў за сабой хабар, ніколі ня кажуць „ня помню“, „ня знаю“, „думаў-перадумаў“.

Нехта Пашкевіч… Ня той, што згадваўся раней, іншы. Сымпатычны калярытны дзядзька, помню, бачыў гэты твар на мяжы. Віны не прызнае і распавядае вось такую рэч.

Абавязковае пытаньне абвінавачаным: ці прызнаяце, што вы афармлялі „транспартныя сродкі“ з „кветкавай прадукцыяй“ фірмы „Фарэва“, напрыклад? І даецца кожнаму свой сьпіс аўтамабіляў, які яму канкрэтна інкрымінуецца.

Адказы звычайна: Можа афармляў, а можа й не. Чаму? Вось калі б я паглядзеў тавара-суправаджальныя дакумэнты і пабачыў там сваю пэрсанальную пячатку, я б дакладна сказаў — афармляў. Тысячы машын, хіба ўсе запомніш.

Пракурор: А вам хіба не паказвалі дакумэнты? — Пашкевіч: Не, ні арыгіналаў, ні копіяў. На маё хадайніцтва, каб паказалі дакумэнты, ніхто не адрэагаваў. — Пракурор: А што вам паказвалі? — Пашкевіч: Раздрукоўку эксцэлеўскай табліцы, якую склаў сьледчы КДБ. — Пракурор: Там ёсьць ваша пэрсанальная пячатка? — Пашкевіч: Там стаіць толькі нумар пячаткі.

Суд, вядома, можа цалкам давяраць таму, што склаў сьледчы, а гэта значыць — цалкам не давяраць таму, што кажуць абвінавачаныя. І судзьдзя,

магчыма, ужо ведае, чым усё завершыцца, які ён вынесе прысуд.

Тады ўсё, што адбываецца ў судзе, — несапраўднае, эфэмэрнае, сымбалічнае, як тантамарэска. Пачынаючы ад пытаньня, за што плацілі грошы, калі нічога не патрабавалася, і сканчаючы зьмесьцівам тых фураў, якія перавозяць эфэмэрныя каштоўнасьці — кветкі — чыстую красу.

Мастацтва дык мастацтва. Перачытваю „Працэс“ Кафкі. Насамрэч, зь першага сказу гэта мая гісторыя, якую ўжо напісалі сто гадоў таму:

„Хтосьці, відаць, узьвёў паклёп на Ёзэфа К., бо, не зрабіўшы нічога дрэннага, ён патрапіў пад арышт“.

..........................................................

**Кнут**

Прокурор сам не въехал, почему обвиняемым и суду не предоставили таможенные декларации. Если учесть показания Осиповича о том, что профили риска в 2014 срабатывали почти на каждую машину, то обвинение в беспрепятственном пропуске автомобилей становиться абсурдным. В таможенной декларации есть информация о досмотре груза. Поэтому следователь даже по запросу обвиняемых не предоставил копии таможенных деклараций.

**Н.Д.**

Так, у нашых судах не разглядаюцца справы, але зачытваюцца прысуды. Гэта тычыцца ўсіх, хто туды трапляе ў якасці абвінавачанага — апазіцыянераў, мытнікаў, бізнэсоўцаў, рабацяг. Нашы следчыя органы не могуць памыліцца, таму калі хто патрапіў на лаву падсудных, абавязкова вінаваты. Суддзя паверыць абвінавачанню, аргументы абароны ніхто нават не стане абвяргаць, не возьме на сябе клопат патлумачыць тыя неверагодныя несупадзенні, якія ўтрымліваюцца ў справах, па якіх людзей накіроўваюць у турму на доўгія тэрміны.

# ЗА ТУМАНАМ НІЧОГА НЯ ВІДНА

21 сьнежня 2016

Палац правасудзьдзя апускаецца ў туман. Аднначасова мой спадзеў, што на працэсе пытаньняў будзе менш, разьвейваецца. Пытаньняў становіцца больш.

Палац стаіць наводшыбе — нібы адмежаваны ад гораду, грамадзтва і прынятых уяўленьняў пра дабро і зло. Сёньня за туманам увогуле нічога ня відна, і Палац візуальна цалкам самотны, жыве сваім адасобленым жыцьцём. Сёньня самы кароткі дзень году, і на працэсе — самае кароткае паседжаньне. Заслухоўваюць аўдыёматэрыялы, „праслушку“.

У перапынку мы зь сястрой Юркойця Галінай самі ў сябе пытаемся: а хто ў гэтай справе пацярпелы? Той літоўскі бізнэсовец, які, нібыта, плаціў мытнікам хабар, таксама абвінавачаны, яго судзяць у абласным судзе разам з начальнікамі. А паколькі ўсе грошы забірае сабе дзяржава, значыць, выглядае, пацярпела яна? Як яна пацярпела, калі мытныя пошліны з усіх машын былі спраўна заплачаныя? Хто ж тады пацярпеў? Мы думаем, і Галіна рэзюмуе: Проста дзяржаве моцна патрэбныя грошы.

Гэтая фраза ў беларускіх рэаліях тлумачыць амаль усё. Я чую яе штодня. Дзяржава і ўсе, хто прадстаўляе інтарэсы гэтага апарату, паводзяць сябе так, быццам на кожным кроку зьбіраюць даніну, прычым любымі праўдамі-няпраўдамі і зусім ня думаючы пра паходжаньне тых „грашовых сродкаў“.

Беларусы столькі марылі пра сваю дзяржаву, змагаліся і гінулі, каб яна была, столькі цярпелі. Той

жа Юркойць — рэдкі дзяржаўнік, якіх мне даводзілася сустракаць. У сэнсе, чалавек, які мысьліць па-дзяржаўнаму. І вось дамагліся беларусы сваёй дзяржавы…

Сам панятак дзяржавы разьбіты на два, ані не падобных адзін да аднаго. З аднаго боку — свой беларускі лад жыцьця, дзе шануецца свая беларуская гісторыя, мова, культура (марылі). З другога — бяздушная, а часам і подлая машына, дэманстрацыйна чужая да беларускай гісторыі, мовы, культуры (атрымалі). Яна толькі захапіла сабе імя „беларуская“, бо ў самой няма ніякага імені. Рэспубліка Безыменная.

Складваецца ўражаньне, што ў найноўшай гісторыі ў Беларусі ніколі не спынялася вайна. То халодная, то гарачая, але пэрманэнтная і грамадзянская. Вайна тых, хто за сваю дзяржаву, і тых, хто супраць. І вось — перамога, ёсьць свая дзяржава! Толькі перамаглі тыя, хто змагаўся супраць…

Намесьнік начальніка Курневіч кіраваў аддзелам падчас хваробаў і адпачынку Карповіча. У іхным кабінэце, нібыта, ляжаў тэлефон зь літоўскай сімкай, празь які яны, нібыта, размаўлялі зь фірмачом за літоўскім кардонам, які выпраўляў фуры з кветкамі празь Беларусь. Размовы запісваў КДБ. Цяпер іх агучвае пракурор.

Мала таго, што зьмест гутарак невыразны, дык пракурор зноў пачынае мямліць. З таго, што мне ўдалося разабраць — фірмач цікавіцца, як праходзяць мяжу ягоныя машыны. Калі ўлічыць, што тавар — „скарапорт“ — можна зразумець хваляваньне гаспадара. Яго пракурор называе „Мужчына“,

таго, хто зь ім размаўляе — Карповіч. Далей п’еса чытаецца ў ролях.

Карповіч: Чорт яго знае.

Мужчына: Спасіба.

Карповіч: Да…

Мужчына: Опа поўная (так і прачытаў).

Далей слухаем арыгінальнае аўдыё, дадаецца мат-перамат.

У мяне выклікае захапленьне, што КДБ РБ умее праслухоўваць званкі зь літоўскага на літоўскі тэлефон у межах дзеяньня літоўскага апэратара сувязі. Зразумела, што татальна могуць праслухоўваць усіх беларусаў (у нас і сімку са стартавым нумарам бяз пашпарта ня купіш). Зразумела, калі слухаюць замежнікаў празь беларускі роўмінг, але слухаць літоўца зь літоўцам фактычна ў Літве (на мяжы) — гэта ўжо вышэйшы пілятаж.

Альбо яшчэ адно пытаньне — ці магчыма гэта без удзелу самой Літвы?

Тэлефанавальнікі гавораць пра нейкія „бумагі“, называюць шматтысячныя лічбы. Можна падумаць, пра грошы, а можна — пра дакумэнты, нумары машын, ды пра што заўгодна.

Але суд цікавіць іншае. Тое, што Карповіч — гэта насамрэч Курневіч, які яго замяняе. Курневіч не прызнае, што ў запісах гучыць ягоны голас. Пракурор хадайнічае пра фанаграфічную экспэртызу. Суд ухваляе і адкладае працэс на няпэўны час.

„Адкладае“ ў мяне адразу мэханічна напісалася „адкрадае“. У калідоры кажуць, што працэдура можа заняць тыдні два. Значыць, працягнецца суд ужо пасьля Новага году. Гэта для нас Новы год, а

для мытнікаў у клетцы — яшчэ два тыдні скрадзенага жыцця.

Дзяржаве моцна патрэбныя грошы. Неяк нерацыянальна яна іх здабывае. Можа быць, гэта ўсё ж не ўстаноўка дзяржавы, а паводзінавая ўстаноўка бюракратыі, якая любымі сродкамі выбівае гэтыя самыя грошы, але ня надта дбае пра рацыянальнасьць працэдур. Бо не сабе ж.

# МАШЫНА „СТОИТ“ ЦІ „СТОИТ“

23 сьнежня 2016

Прафэсар Адам Мальдзіс праз пісьменьніка Ўладзімера Арлова прасіў перадаць: моцна шкадуе, што пасьля інсульту ня зможа прыйсьці на суд, каб падтрымаць Юркойця.

Ні ў якую віну яго Мальдзіс ня верыць — глядзіць на ўсё гэта, як на нейкі тагасьвет. Бо Юркойцеў „Вільняр“ — выдатнае таварыства, вельмі патрэбнае і Астравеччыне і Беларусі.

Назва, між іншым, ад дзьвюх назваў адной ракі: Віліі па-беларуску і Нярыс па-літоўску. А разам атрымліваецца вільняр — той, хто робіць Вільню. Проста з прыказкі: Рабі пільна, і тут будзе Вільня.

Адам Мальдзіс ведае, што апошнюю падзьвіжніцкую справу Юркойця — Касінерскі фэст — у 2013-м сарваў раённы кадэбіст. Дастаў яго, панімаеш, актывіст. Ня трэба нам тут ніякая Вільня.

„Музычна-літаратурны фэст, прысьвечаны 150-м угодкам паўстаньня Каліноўскага, адбудзецца ў Астравецкім раёне. Чакаецца ня толькі выступленьне паэтаў і музыкаў, але і паказальны бой рыцараў. Уваход на імпрэзу вольны, але ў гасьцей могуць спытаць пароль. Пра гэта парталу kraj.by паведаміў краязнаўца Алесь Юркойць.

Чакаюцца:

— барды Зьміцер Бартосік, Тацяна Матафонава (Менск), Віктар Шалкевіч (Горадня), Алесь Наркевіч (Вялейка), Андрэй Мельнікаў (Гомель), Ігар Высоцкі (Ашмяны), Алег Мізула (Жодзішкі), Кастусь Герашчанка (Пліса), іншыя;

— паэты Ўсевалад Сьцебурака, Анатоль Івашчанка, Міхась Скобла, Ігар Пракаповіч, Глеб Лабадзенка;

— музыкі: гурты «1863» і Тарас Кучынскі-Паравы зь Менску, «Людзі на балоце» і Алесь Дзянісаў з Горадні, «Пава» і Юрась Панкевіч, «Альта Ментэ» і Кацярына Ваданосава, «Балцкі субстрат» і Максім Іўкін зь Менску.

Акрамя паэтаў, вершы будуць чытаць і прафэсійныя акторы.

Алесь Юркойць адзначыў, што гурт «1863» займаецца рэканструкцыяй вопраткі тых часоў, таму сьпяваць будуць у адпаведных строях. Таксама на фэсьце выступіць навуковец Язэп Янушкевіч, паэтка і краязнаўца з Астравеччыны Людміла Кухарэвіч, іншыя.

Вядучыя імпрэзы — Усевалад Сьцебурака і Глеб Лабадзенка.

Для тых, хто плянуе на Каймінскім возеры заставацца да раніцы, будзе прапанаваны прагляд гістарычных фільмаў.

Уваход на імпрэзу вольны. Але, са словаў Алеся Юркойця, арганізатары плянуюць усталяваць браму. А каля брамы паставіць двух дзецюкоў, якія будуць пытацца пароль: «Каго любіш?» Тых, хто дасьць правільны адказ, прапусьцяць. Плянуецца работа выязнога гандлю“.

Хутка два гады, як Юркойць у турме.

„Кветкавая справа“ ад пачатку пахне не хрызантэмамі, а нечым іншым, просьценькім і тутэйшым — ліпавым цьветам.

Калі заслухоўвалі кадэбэшную „праслушку“ тэлефонаў, абвінавачаны Швінта зьвярнуў увагу

судзьдзі на наступны момант. Пракурор, чытаючы зьняты з запісу тэкст, сказаў: машына „стОит“, а калі ўключылі сам запіс, там выразна гучала: машына „стоИт“. Судзьдзя запэўніў, што ва ўсім разьбяруцца і паблажліва ўсьміхнуўся...

Калі машына „стоИт“, яна нічога (у сэнсе хабару) ня „стОит“, яна „стОит“ толькі тады, калі едзе.

.........................................................

**Кнут**

Одна поправка. Даже Чепин не говорил, что передавал Алесю деньги, он сказал что передавал что-то свернутое в бумаге, что — не знаю. Догадки не могут выступать обвинением. Так что ничего, даже формально, на Алеся нет. Но под стражей держат.

**Владимир**

Не верю, чтобы вся таможня продалась. В свое время судили таможенников с автоперехода Козловичи, тоже за догадки. Покалеченные судьбы одних, звезды — другим. А может цветы выращивать в Ольшанах Столинского района, огурцы ранние у них.

# ДУГА СТРУВЭ І АХВЯРЫ РУНЭТУ

24 сьнежня 2016

Пакуль у судзе перапынак, а Алесь Юркойць параранейшаму ўтрымліваецца ў турме, я пераглядаю ў сеціве зьвесткі пра ягоную дзейнасьць.

Разумею, што гэта не аргумэнты ў судзе. Разумею таксама, што дзе-небудзь у Швэцыі ці нават у суседняй Літве суд абавязкова ўлічыў бы гэта, прынамсі, прыгледзеўся б да асобы „злачынцы". Бо, у адрозьненьне ад нашага постсавецкага суду, там няма панятку „сацыяльна блізкага" і „сацыяльна чужога". Усё, што тычыцца беларушчыны, культуры, асьветы, інтэлекту ўвогуле для гэтых судзьдзяў, пракурораў, ахоўнікаў ня толькі не існуе, яно ім — сацыяльна чужое.

Як такое магчыма ў эпоху інтэрнэту? Аказваецца, магчыма. Наўрад ці яны зазіраюць у беларускае сеціва, а значыць, нічога пра Юркойця ведаць ня могуць.

Доктар багаслоўя Ірына Дубянецкая тлумачыць мне: ды яны сядзяць у рунэце і ніколі шырэй не вылазяць. А рунэт толькі абмяжоўвае кругагляд чалавека. Ён забывае ўрэшце, што ён беларус і што сьвет увогуле — шырокі. І такі чалавек, як Юркойць, ім незразумелы, што ў катэгорыях рунэту значыць — варожы. Яны ня здольныя ня толькі ацаніць плён ягонае дзейнасьці, а нават проста ўспрымаць гэта. Для іх гэта — непатрэбшчына.

## *Краязнаўца адшукаў пункт Дугі Струвэ*

*„Гродзенская праўда“, 29.08.2014*

*Тое, чаго не ўдавалася навукоўцам, атрымалася ў краязнаўцы: жыхар Варнян на Астравеччыне адшукаў самы паўночны на тэрыторыі Беларусі пункт геадэзічнай Дугі Струвэ.*

*Алесь Юркойць — мытнік, але мноства людзей ведаюць яго ў іншай іпастасі — ён захоплены краязнаўца. Дзесяць гадоў таму ён зрабіў першую спробу адшукаць на тэрыторыі раёну геадэзічны пункт Дугі Струвэ „Конрады“. Так пункт названы ва ўсіх дакумэнтах.*

*Як вядома, геадэзічная Дуга Струвэ пачынаецца каля нарвэскага мысу Норд-Кап і сканчаецца каля вёскі Старая Някрасаўка недалёка ад Дунаю. Яна праходзіць па тэрыторыі дзесяці краін, у тым ліку Беларусі. 34 з 258 трыангуляцыйных пунктаў, месцазнаходжаньне якіх вядомае, уключаныя ў Сьпіс аб'ектаў Сусьветнае спадчыны. На тэрыторыі сучаснай Беларусі знаходзіцца 31 пункт. У 2001 годзе Дзяржкамітэт зямельных рэсурсаў, геадэзіі і картаграфіі даручыў РУП „Белаэракасмагеадэзія“ адшукаць і дасьледаваць пункты Дугі Струвэ на тэрыторыі Беларусі. Усяго такіх пунктаў знайшлі 19. Варнянскі краязнаўца Алесь Юркойць знайшоў дваццаты — самы паўночны ў краіне.*

*— Звычайна пункты Дугі Струвэ абазначалі паводле назвы населенага пункту, каля якога яны знаходзяцца, — распавядае Алесь Юркойць. — У дакумэнтах пункт называецца „Конрады“, а я знайшоў вёску Кондраты. Тады, дзесяць гадоў таму, яна была жылой — там жылі тры чалавекі. Цяпер*

*у Кондратах засталіся толькі будынкі, больш там ніхто не жыве. А тады я разгаварыўся са старой жыхаркай вёскі, і яна сказала, што пункт, магчыма, трэба шукаць бліжэй да хутара Камароўшчына. Але ж у дакумэнтах Конрады, таму я і засумняваўся. Ды і як шукаць у чыстым полі тое, што схавана пад зямлёй?*

*Але ўпартае жаданьне знайсьці пункт не пакідала Алеся дзесяць гадоў. А нядаўна ён знайшоў у інтэрнэце старую мапу з дакладнымі геаграфічнымі каардынатамі пункту „Конрады" і адразу выправіўся на пошукі.*

*— З сабой запрасіў пляменьніцу, сябра і карэспандэнта раённай газэты, — працягвае расповед Алесь. — На дзіва, доўга шукаць не прыйшлося. Гэта аказаўся самы высокі пагорак побач з былым хутарам Камароўшчына — цяпер пра хутар нагадваюць толькі старыя дрэвы ды абломкі фундамэнтаў. Адзначаны на картах пункт аказаўся на вышыні 278 мэтраў над узроўнем мора, пад жалезнай вежай-„матрошкай": унутры самай высокай вежы разьмешчаная яшчэ адна, потым яшчэ адна, меншая. На гэтым месцы і сталі капаць. На глыбіні прыкладна 20 сантымэтраў знайшлі бэтонны куб с крыжам і лацінскімі літарамі „st" — такія пазнакі (яны азначалі „пункт трыангуляцыйны") рабілі на бэтонных кубах Дугі Струвэ. Праўда, куб не зусім адпавядае памерам тых знакаў, таму я мяркую, што гэты куб усталявалі ў 20–30 гады мінулага стагодзьдзя наўзамен ранейшага, які прыйшоў у нягоднасьць.*

Алесь Юркойць мае дзьве вышэйшыя адукацыі — геаграфічную і юрыдычную. Але ў ведах не

саступіць ні дыплямаванаму гісторыку, ні філёлягу. Гэты мытнік — унівэрсальны гуманітарый.

### *Вучыце родную мову*

*Круглы стол у рэдакцыі „Астравецкай праўды“, 28.01.2015*

*Алесь Юркойць:*

*— Калі ацэньваць сёньняшні стан беларускай мовы, то трэба прызнаць, што ён блізкі да катастрафічнага. І гэта не мае асабістае меркаваньне, гэта — высновы дасьледаваньняў міжнародных інстытутаў мовазнаўства, якія адносяць беларускую мову да катэгорыі зьнікаючых. І калі бачыш, што беларускай мовай — заўважце: дзяржаўнай мовай! — практычна не карыстаюцца ні ў паўсядзённым, ні ў грамадзкім жыцьці, ні ў дзяржаўных установах, з гэтымі невясёлымі высновамі міжволі вымушаны пагадзіцца.*

*Пытаньне, чаму так адбылося — на мой погляд, занадта шырокае і глыбокае, каб сёньня яго абмяркоўваць. Тут — цэлы букет розных прычын. Дастаткова сказаць, што на працягу 20-га стагодзьдзя прайшлі тры хвалі беларусізацыі, і даволі пасьпяховыя — якія, тым ня менш, не прынесьлі канчатковага станоўчага выніку. Можна ўзгадаць 20-я гады мінулага стагодзьдзя, калі быў створаны Інбелкульт, на базе якога затым была арганізаваная Нацыянальная акадэмія навук. Выкладаньне ў вышэйшых навучальных установах у тыя гады вялося па-беларуску — і ні для студэнтаў, ні для выкладчыкаў, якія прыяжджалі ў Беларусь зь іншых краін і пасьпяхова авалодвалі беларускай мовай,*

*гэта не стварала цяжкасьцяў. Былі распрацаваныя беларускія слоўнікі для перакладу тэрмінаў і паняцьцяў усіх дакладных навук — фізыкі, хіміі, матэматыкі і іншых, і імі пасьпяхова карысталіся. А сёньня адным з асноўных аргумэнтаў праціўнікаў беларусізацыі зьяўляецца немагчымасьць ці складанасьць перакладу навуковых і іншых спэцыяльных тэрмінаў у дакладных і прыкладных навуках. Чамусьці ў іншых краінах — той жа Украіне, да прыкладу, — гэта не ўяўляе цяжкасьці, а ў Беларусі — ну проста немагчыма!*

*Асноўная прычына такога стану беларускай мовы, на мой погляд, хаваецца ў нацыянальным гістарычным бяспамяцтве, у нашай хвалёнай талерантнасьці: нам жа так боязна некага пакрыўдзіць, паставіць у няёмкае становішча, загаварыўшы па-беларуску: а раптам чалавек не зразумее ці падумае пра нас нешта нядобрае? Нам нашмат прасьцей паставіць у няёмкае становішча сябе: мы ж прывыклі ў ім знаходзіцца…*

*Алесь Юркойць:*

*— Каб гэтыя курсы мелі посьпех, мы павінны, я лічу, прытрымлівацца трох асноўных правілаў. Па-першае, ніхто нікога не павінен прымушаць станавіцца іх удзельнікам — тут я поўнасьцю згодзен зь Віктарам Зьбігневічам, бо ўсё, што робіцца пад прымусам, выклікае непрыняцьце. Не зьяўляецца асноўнай задачай сабраць як мага больш людзей — галоўнае, каб кожнаму, хто прыйшоў, было цікава.*

*Другое — гэтыя курсы павінны быць абсалютна апалітычнымі, бо гэта мы таксама праходзілі, калі людзей адно за тое, што яны гаварылі па-беларуску, прылічвалі да апазыцыі.*

*І трэцяе і, магчыма, самае галоўнае: на гэтых курсах чалавек павінен адчуваць сябе свабодна і разьняволена, каб не было ніякіх насьмешак, калі нехта нешта сказаў няправільна — мы ўсе толькі вучымся.*

*Галоўнае, паўтаруся, каб усім было цікава — і калі мы вытрымаем гэтыя тры ўмовы, то ў нас усё атрымаецца — да агульнай карысьці!*

Гаворка ідзе пра курсы „Мова нанова“ ў Астраўцы, якія Юркойць зладзіў разам зь сябрамі. Працягваць курсы давялося ў судзе, і тут без прымусу не абышлося. Ня думаю, што рускамоўны пракурор пісаў і чытаў Юркойцеву частку абвінаваўчага заключэньня па-беларуску з уласнае ініцыятывы і зь вялікай радасьцю. Але чытаў чыста.

### Што памятаюць пра род Сволкен жыхары Астравеччыны?

*„Аргументы и факты“, 24.02.2010*

*Даўным-даўно ў беларускай глушы жыла-была прыгажуня.*

*Насамрэч гэта далёка ня казка, а гісторыя швэдзкага роду Сволкен, які пусьціў карані ў беларускай зямлі. У фатальным для Заходняй Беларусі 1939 годзе апошнія Сволкены выехалі на Захад. А іх продкі дагэтуль ляжаць у Астравецкай зямлі. „АиФ“ наведаў „швэдзкі куток“ Беларусі, дзе дагэтуль стаіць капліца, пабудаваная беларускімі швэдамі.*

*У пачатку XIX стагодзьдзя вядомы сваімі прыроднымі багацьцямі беларускі край прыцягваў замежных прадпрымальнікаў. Па якасны і, напэўна, танны лес прыяжджаў у першай палове XIX стаго-*

*дзьдзя ў Віленскую губэрню швэд Ігнаці Сволкен. Тут ён сустрэў Міхаліну Кучэўскую, дачку свайго кампаньёна — мясцовага магната. Сволкен доўга не чакаў і прапанаваў Міхаліне руку і сэрца. Бацька Міхаліны таксама доўга не чакаў — і пасьпяшаўся даць дачцэ ў пасаг 500 гектараў лесу і сядзібу Шайкуны ў гэтым самым лесе. Вясельле згулялі, Міхаліна зацяжарала, нараджаць паехала ў Швэцыю. Але пасьля няўдалых родаў ні маці, ні дзіця ня выжылі. Памерлае дзіця Ігнаці падмяніў на іншага — свайго, але ад пакаёўкі. Разьятраны такой справай бацька Міхаліны хацеў адсудзіць у швэда зямлю назад. Але так і не дамогся справядлівасьці і пракляў род іншаземца. „Твае косткі і косткі тваіх нашчадкаў ніколі ня знойдуць спакою“, — прарочыў Кучэўскі.*

*Дабрацца да сядзібы Сволкенаў у Астравецкім раёне самастойна ня ўдасца. Нават з мапай у руках і падрабязнымі паказаньнямі знайсьці згублены ў лесе маёнтак ня проста. Мясцовы краязнаўца Алесь Юркойць, які як ніхто іншы ведае сьцежкі Астравеччыны, паказаў шлях ад бліжэйшай вёскі Клюшчаны да закінутага маёнтку Шайкуны. Некалі сюды вялі тапалёвыя прысады. Адзінае, што здолела ацалець, ня гледзячы на савецкую палітыку атэізму, — капліца, збудаваная Ігнаціем Сволкенам у 1840 годзе ў памяць пра памерлую жонку Міхаліну. Капліца служыла фамільнай усыпальніцай. А пасьля прыходу Саветаў, быццам у пацьверджаньне легенды, труны ня раз выцягвалі, косткі раскідалі…*

Ясна, што гэтымі прыкладамі дзейнасьць Юркойця не вычэрпваецца. Маштаб яе шырокі — ад вывучэньня зямнога мэрыдыяну да лёсу беларускай мовы і закінутай ў гушчары капліцы.

Не вычэрпваецца ён і цытатай з папулярнага пісьменьніка Віктара Марціновіча:

*Пад’ёмны мост сядзібы Абрамовічаў, роўна як і вежу ў Варнянах, адрэстаўраваў на свае грошы мясцовы краязнаўца Алесь Юркойць. Юркойць — легенда. Адзіны ў сусьвеце беларускамоўны мытнік. Асабіста знайшоў самы паўночны пункт дугі Струвэ ў Беларусі, па дакумэнтах і старых картах. Ладзіў паэтычныя фэстывалі, прывозіў мастакоў, сябраваў зь пісьменьнікамі. Выступаў супраць узьвядзеньня АЭС у Астраўцы, даказваў, што знайшоў у архівах сьведчаньні таго, што тут быў самы моцны ў Беларусі землятрус. Вось ужо паўгода Юркойць у турме — яго ўзялі па справе мытнікаў. У ліку іншых дваццаці. Гэта Беларусь, дзетка. На радзіму ня скардзяцца. Радзіму не выбіраюць.*

Было паўгода, а неўзабаве будзе два. Два гады, як на Астравеччыне Юркойцем не працуе ніхто. Гэтая тантамарэска стаіць пустая. Калі не працуе асьветнік, край пагружаецца ў цемру.

### *На мяжы зь Літвой знойдзены старажытны камень зь пісьмёнамі*

*Артыкул у энцыкляпэдыі „Великие сказочники мира“, 24.01.2016*

*Камень заўважылі памежнікі мабільнай пагранзаставы ў Астравецкім раёне. І адразу ж патэлефанавалі Аляксандру Юркойцю, бо аднойчы ён зьвяртаўся да іх па дазвол — на пошук гэтых камянёў. Супрацоўнік мытні жыхар вёскі Варняны Алесь Юркойць пастаянна вывучае гісторыю роднага краю. З дазволу памежнікаў Алесь пабываў на месцы.*

*— Пра існаваньне такіх камянёў я ведаў даўно — нават у савецкія часы, калі не было мяжы паміж Літвой і Беларусьсю, расказвалі пра пятнаццаць вялікіх незвычайных валуноў на гэтым месцы, — кажа Алесь. — Першую спробу адшукаць іх я зрабіў восем гадоў таму. Тады пра іх існаваньне мне распавёў мясцовы лясьнік — сказаў, што на свае вочы бачыў. Праўда, тады мне давялося браць дазвол на пошукі ў памежнікаў — праз гэтае месца пралягла мяжа. Тым разам гаворка ішла пра сем-восем вялікіх камянёў. І тады мы нічога не знайшлі — шукалі летам, трава была высокая. А вось зараз адзін камень знайшлі пры аглядзе мяжы памежнікі. Яны патэлефанавалі мне — начальнік мабільнай пагранзаставы капітан Іван Сяргееў дапамог аформіць дазвол, мне дапамаглі наведаць знаходку і сфатаграфаваць яе.*

*— Што сабой уяўляе знаходка?*

*— Гэта камень пірамідальнай формы з выбітымі на ім наўскос трыма крыжамі. І ніякіх надпісаў. Акрамя гэтага, больш камянёў мы не знайшлі.*

*— Як лічыце, што гэта за камень?*

*— Вэрсіяў у мяне некалькі. Калі лясьнік не памыліўся і такіх камянёў было раней шмат, то можна меркаваць пра могілкі позьняга сярэднявечча — 17–18, але не пазьней за 19 стагодзьдзе. Можа быць, могільнік ваенны, бо вялікіх паселішчаў тут не было. Калі ж камень адзін, то гэта можа адзін з тых камянёў, якія ставілі пры дарозе. У сярэднія вякі тут праходзіла дарога зь Вільні на Быстрыцу, якая ў тыя часы была досыць вялікім паселішчам і мела свой мытны пункт. Так ці інакш, але трэба дасьледаваць і вывучаць. Вядома, ідэальна было б тут правесьці археалягічныя раскопкі, тады б*

*аказалася, могільнік гэта ці не. Але зрабіць гэта складана — камень жа знаходзіцца на самай мяжы, хоць і з нашага боку. Пакуль я шукаю інфармацыю і пра камяні ўвогуле, і пра гэты, што знайшоўся ў нашым краі. Але тое, што камень унікальны і за ім хаваецца нейкая гісторыя, не падлягае сумневу.*

.......................................................

**Ананім**

Курсы беларускай мовы сапраўды павінны быць апалітычнымі. Але памылка лічыць, што калі ты займаешся нацыянальнай культурай пры гэтай уладзе, ты можаш адчуваць сябе ў бяспецы, бо апалітычны.
„На працягу 20-га стагодзьдзя прайшлі тры хвалі беларусізацыі, і даволі пасьпяховыя“ — ну гэта як яшчэ лічыць тую паспяховасць. Ці той масавы тэрор і расстрэлы беларускай інтэлігенцыі ў 30-я гады паспяховасць? Ці той ціск, які адчуваюць прыхільнікі беларускасці пасля саўковага рэваншу ў сярэдзіне 90-х паспяховасць? Ахвярай гэтага ціску з'яўляецца і сам Юркоць, бо відавочна, што пад маркай гэтага працэсу, КДБ даволі зручна будзе знішчыць такога шчырага нацыянальнага актывіста, які даўно муляе ім вочы. Ніколі нельга змяншаць пагрозу і небяспеку з буку цяперашняй улады за самастойную грамадскую дзейнасць. Рэпрэсіўная машына за дваццаць два гады выбудавана, і яна заўсёды на месцы, і калі па цябе не прыходзяць да часу, гэта не азначае, што не прыйдуць увогуле.

# МЯККА КАЖУЧЫ, КРАЯЗНАЎЦА

27 сьнежня 2016

Мытніка Юркойця за ягоны даробак па-за мытняй называюць краязнаўцам. Гэта праўда, але далёка ня поўная.

Нехта Alligatorfx паіранізаваў у ЖЖ з абмежаванасьці гэтага азначэньня: „Алесь Юркойць, краязнаўца (мякка кажучы), законапаслушны гражданін і проста харошы чалавек“.

Беларусь — краіна краязнаўцаў, амаль у кожным паселішчы знойдзецца такі апантаны дасьледнік сваіх мясьцінаў, шмат сярод іх вядомых на ўсю краіну і за мяжой. Але звычайна панятак краязнаўства ўспрымаецца як нешта, што далей за гэтую канкрэтную мясцовасьць ня надта і цікавае. Апроч таго, краязнавец часта гучыць як аматар, саматужнік.

Алесь Юркойць усё, за што браўся, рабіў прафэсійна. Вывучаў маляваныя дываны, шмат фатаграфаваў і ладзіў выставы сваіх здымкаў, у мастацкіх пленэрах і паэтычных слэмах, якія ён арганізоўваў, бралі ўдзел вядомыя творцы, для зборніка „Беларусь — Японія“ напісаў працу „Беларускія і агульначалавечыя рэаліі ў жыцьці і творчасьці ўраджэнца Астравеччыны Мар’яна Богуша-Шышкі“, уваходзіў у склад аргкамітэту міжнароднай экспэдыцыі „Шляхам графа Канстанціна Тышкевіча праз 150 гадоў“, даставаў зь нябыту славутых у свае часы беларускіх дзеячоў-асьветнікаў, ставіў ім памятныя камяні, адкрываў музэі, вешаў на будынках памят-

ныя шыльды. Апошняя з такіх — шыльда Казімеру Сваяку ў самым цэнтры старой Вільні…

Аднойчы пасьля лазьні ў Алеся, якая заўсёды ператваралася ў інтэлектуальны клюб, мы выйшлі на ягоны падворак, ён павёў мяне за адрыну і, паказаўшы на далёкія ўзгоркі, са скрухаю сказаў: Вось там будуць стаяць вежы Астравецкай АЭС. Адлегласьць якіх пару кілямэтраў. І дадаў: А ў мяне маленькія дзеці.

Сёньня вежы ўжо стаяць, і мы ўжо ведаем іхную правільную назву — градзірні. А тады, гэта было сем гадоў таму, Алесь надрукаваў на сайце naviny.by артыкул „Шэсьць аргумэнтаў супраць будаўніцтва АЭС у Астравецкім раёне“ (17.01.2009):

*Адразу скажу, што я ня супраць будаўніцтва АЭС у Беларусі. Але перакананы, што ў нас на Астравеччыне такая станцыя прынясе толькі страты ў маштабах усёй краіны.*

***Аргумэнт першы — бясьпека.*** *Менавіта на Астравеччыне зафіксаваны прэцэдэнт самага моцнага беларускага землятрусу.*

*Сто гадоў таму газэта „Наша Ніва“ (1909 г., № 3) пісала, што 17 сьнежня а 5 гадзіне зраньня — яшчэ было цёмна, жонку арандатара фальварка Сяржанты (2 км ад станцыі Гудагай) разбудзіў страшэнны гром. Зазьвінелі шклы ў вокнах і здалося гаспадыні, што падае дом. Але ўсё сьціхла; хутка прыбег і арандатар, што быў пры скаціне ў хляве і расказаў, што і ён таксама чуў гул, быццам гром праляцеў па небе, зямля задрыжала, і жывёлы пападалі на калены. Выбегшы з хлява, ён убачыў недалёка роў глыбокі, які цягнуўся мусіць зь вярсту з поўначы на паўднёвы ўсход. Думаюць, што гэта водгалас таго*

*страшэннага трасеньня зямлі, што зруйнавала ў Італіі некалькі вялікіх герадоў і бязь ліку вёсак.*

*На маёй Астравеччыне Сяржанты — не адзінае месца, дзе адчувалася трасеньне зямлі. Са словаў былога дырэктара Гярвяцкай школы спадара Пяткевіча Эдуарда Міхайлавіча 1925 году нараджэньня мне вядома, што яго бацька таксама быў сьведкам згаданага землятрусу. Зямля трэслася настолькі моцна, што посуд у хаце ляцеў з паліцаў.*

*Беларускія адмыслоўцы (Р. Гарэцкі, А. Емяльянаў, А. Бабарыкін) ацанілі той землятрус 1909 году ў 7 балаў паводле шкалы Рыхтэра. І сёньня намесьнік міністра энэргетыкі Беларусі Міхаіл Міхадзюк пагадзіўся з тым, што менавіта ў Астравецкай пляцоўкі бал сэйсьмічнасьці найвышэйшы з усіх чатырох пляцовак (naviny.by, 04.06.2008).*

***Другі аргумэнт — прырода.*** *Гаворка пра разбурэньне ўнікальных прыродных комплексаў, якія знаходзяцца на берагах ракі Вяльлі-Віліі (такіх, як напрыклад ваколіцы гары Замкоўкі, пра якую 150 гадоў таму пісаў заснавальнік беларускай навуковай археалёгіі Канстанцін Тышкевіч), а таксама ў межах яе водазабору (у тым ліку гэта заказьнікі — Блакітныя і Сарачанскія азёры плюс Нарачанскі Нацыянальны парк). Як краязнавец паводле прызваньня і географ паводле адукацыі я ведаю, што ні ў гісторыка-культурным, ні ў прырода-эколяга-рэкрэацыйным пляне, ні адна з прапанаваных пляцовак і блізка ня можа параўноўвацца з Астравецкай.*

***Па-трэцяе — турызм.*** *Мне як карэннаму жыхару Астравеччыны хочацца паўсюль прапагандаваць свой край, і я заўсёды гатовы, маючы вольную хвіліну, правесьці экскурсію для кожнага, хто толькі*

*гэтага пажадае. Але калі, прачытаўшы гэтыя радкі, вы вырашылі наведаць Астравеччыну, вас чакае вялікае расчараваньне. Бо квіткі ні на цягнік, ні на аўтобус вам не прададуць, хоць яшчэ нават і катлаван не пачалі капаць пад АЭС. А калі вы прыедзеце ў наш раён на сваім уласным аўто, то і ў такім разе зможаце знаходзіцца на яго тэрыторыі ня больш за тры гадзіны, дый тое толькі транзытам. Каб пабыць болей, вам трэба „легалізавацца“. Рэч у тым, што і без АЭС увесь Астравецкі раён — памежная зона. Будаўніцтва атамнай станцыі ў самым цэнтры раёна дадасьць да гэтага яшчэ адну зону — рэжымную. У выніку й без таго абмежаваныя магчымасьці турызму будуць цалкам закрытыя. І ніхто не пабачыць: адзінай у Беларусі даўняй Кальварыі ў лесе ўздоўж Вяльлі (гэта ў нас у Дубку), цудадзейнага абраза Маці Божай у Гудагаі, Дубніцкай сядзібы, у якой пісаў свае творы нобэлеўскі ляўрэат Генрых Сянкевіч, сядзібы ў Трокеніках, дзе прайшло дзяцінства сусьветна вядомага мастака Мар’яна Богуша-Шышкі, радавой сядзібы Бжастоўскіх ля Міхалішкаў, дому ў Баранях, дзе нарадзіліся славутыя браты Стаповічы, і шмат-шмат усяго іншага, што захавалася і дажыло да XXI стагодзьдзя на Астравеччыне і чаго няма ў навакольлі Кукшынаўскай, Краснапалянскай ці Верхнедзвінскай пляцовак і болей нідзе ані ў Беларусі, ані ў сьвеце.*

*Бывай тады і „астравецкая швэйцарыя“, як называе ўзгорыстую паўднёва-заходнюю частку Астравеччыны наш зямляк Адам Мальдзіс. На Астравеччыне на адгор’ях Ашмянскага ўзвышша выдатны рэльеф для горналыжных і горных велатрасаў (што для Беларусі вялікая рэдкасьць!), якія ў сукупнасьці*

*з заплянаваным недалёка адсюль (на самым вялікім у рэспубліцы возеры Нарач, якое і само па сабе ёсьць унікальны аб'ект) аквапаркам і ўжо існуючымі там санаторыямі і базамі адпачынку, рэкамі Страчай (дарэчы, адзіная зь беларускіх рэкаў у былым СССР мела другую катэгорыю складанасьці і таму для нас унікальная, бо фактычна горная з шматлікімі пера-катамі і вадаспадамі) і Вяльлёй (зь якой плянуюць браць ваду для станцыі, бо яна працякае ўсяго за не-калькі кілямэтраў ад пляцоўкі), шматлікімі азёрамі ды добрай сотняй памятак і помнікаў даўніны, што існуюць на тэрыторыі нашага рэгіёну (толькі ў Вар-нянах старажытная цэнтральная плошча XVIII ст. займае каля 5 га тэрыторыі, і там няма ніводнага будынка пабудаванага нават у XIX стагодзьдзі, і гэты архітэктурны ансамбаль адзіны ў краіне і ня мае такіх маштабных аналягаў на ўсёй тэрыторыі Беларусі (а гэта 6,5 км ад пляцоўкі, мала без чаго ў 2-кілямэтровую зону адсяленьня не патрапляе!) — усё гэта магло б стаць у пэрспэктыве найлепшым у краіне рэкрэацыйна-аздараўленчым цэнтрам!*

***Чацьвёрты аргумэнт — вада.*** *Вада зь Вяльлі і без АЭС у даволі вялікім аб'ёме забіраецца для па-трэбаў сталіцы. Са словаў інжынэра ГУ „Дырэкцыя будаўніцтва атамнай электрастанцыі“ Уладзіміра Петрушкевіча, якраз адным з асноўных фактараў прыняцьця рашэньня будаўніцтва АЭС менавіта ў Астравецкім раёне зьявілася наяўнасьць тут дастатковай колькасьці водных рэсурсаў. А гэта якраз гаворка пра Вяльлю, якую летась нават у ніжнім цячэньні (пад Коўнам) мне ўдавалася лёгка пераходзіць уброд...*

***Пятае — вецер.*** *У Беларусі пераважаюць паўночна-заходнія вятры і дастаткова бегла зірнуць на карту, каб зразумець, што ў выпадку аварыі, альбо нават адзінкавага радыяцыйнага выкіду, воблака з 90%-най доляй верагоднасьці будзе рухацца на Менск. Да таго ж з усіх прапанаваных Астравецкая пляцоўка знаходзіцца ў найбліжэйшым прыбліжэньні да сталіцы.*

***І апошняе, шостае — стронга.*** *На гербе Астраўца зьмешчана выява стронгі (фарэлі), гэта рыба сямейства ласасёвых, яна водзіцца прынамсі ў пяці рэках Астравецкага раёну. А, як вядома, стронга можа існаваць толькі ў чыстай і досыць халоднай вадзе, і гэта найлепшы індыкатар экалягічнага стану нашых рэк. Хто ведае, якой стане Маці-Вяльля-Вульляна ўжо праз бліжэйшыя 8–10 гадоў? Ці захоча пасьля прыняць яе ў свае абдымкі Бацька-Нёман?*

# КАМЕНЬ НА МАГІЛУ БЫКАВА

28 сьнежня 2016

Увесну 2004 году я (тады жыў у Вільні) атрымаў ліст ад Уладзімера Някляева, які жыў у Фінляндыі. Мэрыя гораду Хэльсынкі зрабіла падарунак беларусам — валун на магілу народнага пісьменьніка Васіля Быкава. Някляеў меўся даставіць камень у Вільню і прасіў, каб я ўзяў на сябе пераправу помніка праз мяжу, у Беларусь.

25 траўня я адпісаў Някляеву: „У нас усё гатова, каб прыняць. У Менск паедзе 4-га. Але пакуль не даехаў, хай пра гэта ніхто ня ведае. Маю на ўвазе канкрэтыку. У Менску будуць прымаць Пятровіч з Ірынай Міхайлаўнай“.

Камень трэба было даставіць так, каб 22 чэрвеня, на гадавіну сьмерці пісьменьніка, ён ужо стаяў на Ўсходніх могілках. І галоўнай перашкодай, натуральна, была мяжа. Трохтонны валун плюс паўтонная аснова пад яго, калі б разглядаліся як тавар — па пяць эўра за кілаграм — склалі б непадымную суму. Лішне казаць, што дзяржаўныя органы РБ ня толькі ня бралі ў гэтай пераправе ўдзелу, але маглі і перашкодзіць, таму пра канкрэтыку лепей было маўчаць.

У Вільні каменем займаліся мы з журналісткай Таняй Поклад, грузавік зь Беларусі прыслала прадусарка Алена Лукашэвіч, Алесь Юркойць склаў некалькі плянаў праходжаньня мяжы — ён тады працаваў на пераходзе Лаварышкі-Катлоўка. Але „засада“ чакала нас зусім ня там, дзе мы яе маглі чакаць.

Таня Поклад выйшла ад начальніцы літоўскага памежнага пункту з роспачным выглядам. Літоўка ні за што не згаджалася прапусьціць валун „проста так“. „Хто для яе Быкаў!“ — журботна ўздыхнула Тацяна.

Я затэлефанаваў Юркойцю хутчэй для таго, каб паведаміць, што ўсё сарвалася, чым зь нейкай надзеяй, бо што можа беларускі мытнік на літоўскай мяжы. „Чакайце!“ — быў адказ.

Неўзабаве зь беларускага боку на нэўтральнай паласе паказаўся чалавек. Звычайны дзядзечка ў кепцы нясьпешна крочыў да літоўскіх памежных будак на лініі. Ён нешта сказаў памежніку ў акенка і пасьля махнуў рукой нам — каб машына з валуном перастроілася з грузавога шэрагу ў легкавы. Далей помнік паехаў без праблем да самага Менску.

„Хто для яе Быкаў!“ — круціцца ў мяне ў галаве фраза Тані Поклад. Толькі тут, гледзячы на пракурора і судзьдзю, я думаю пра Алеся: Хто для іх Юркойць…

У перапынку на калідоры я пабачыў пісьменьніка Ўладзімера Арлова, які даваў камэнтар радыёжурналісту: — Стоячы нядаўна каля магутнага помніка паўстанцам Каліноўскага на ўскрайку астравецкай вёскі Слабодка, я думаў, што Алесь Юркойць застаецца для мяне адным з самых сьветлых і мужных беларускіх людзей — чалавекам, неверагодна глыбока ўгрунтаваным у сваю зямлю, якой ён ахвярна служыў і якую яшчэ здолее зрабіць лепшай.

# ЛЮДЗІ НА БАЛОЦЕ

29 сьнежня 2016

Як не згадаць, што мытнік у Беларусі — гэта такая расьліна, якая навуковай мовай называецца Pedicularis palustris, мытнік балотны. Шматгадовая травяністая паўпаразытарная расьліна. Нэгатыўная канатацыя адразу прыводзіць на памяць выпадкі, калі на мяжы нехта ў пагонах корпаецца ў тваіх асабістых рэчах.

„Многія прадстаўнікі беларускай моладзі хацелі б прысьвяціць сваё жыцьцё служэньню роднай краіне, стаць яе абаронцамі. Сярод прафэсій, што авеяныя героікай і рамантыкай, вылучаецца мытная служба“, — піша дзіцячы прававы сайт.

Юркойць ніколі не казаў ні пра героіку, ні пра рамантыку на мытні. Затое наракаў на бюракратыю: за зьмену трэба было запаўняць ажно восем журналаў, дзівіўся гэтай непатрэбшчыне. А там, дзе бюракратыя, там і ўзьнікае карупцыя.

Карупцыйныя справы — звычайная практыка для постсавецкіх мытняў. Як кажуць расейскія экспэрты на тэлеканале РБК (26.07.2016), „Мытня — гэта перасячэньне інтарэсаў некалькіх сілавых структур і адзін з пунктаў патэнцыйных канфліктаў па лініі ФСБ, МУС і ФМС“.

Скажам, гучная справа „Трох кітоў“, якая пачалася ў Расеі ў 2000 годзе, закранула акрамя мытні „практычна ўсе сілавыя структуры і суды“. Суд тут выступае не самастойнай уладай і дбае не пра трыюмф справядлівасьці, ён — адзін з інтэрэсантаў. Безумоўнае правіла постсавецкага суду: лепш

пасадзіць невінаватага, чым праміргаць вінаватага. Пры гэтым доказная база асабліва і не разглядаецца. Дзейнічае татальная прэзумпцыя вінаватасьці. Навошта гэта і чаму так, я ня ведаю. Але так ёсьць.

Гучныя працэсы адбыліся ня толькі ў Расеі ці Казахстане, шмат іх было і ў Беларусі, і ўсе яны мелі мутную гісторыю і жорсткія прысуды.

Адбыўся падобны працэс і ў Літве — над мытнікамі пункту Меднікі — гэта там, дзе з нашага боку Каменны Лог. На літоўскім баку ў 2012 годзе арыштавалі 29 мытнікаў. Праўда, займаўся гэтым сам Мытны дэпартамэнт і хабары былі ў дзесяць разоў меншыя, чым інкрымінуецца нашым — 7–15 даляраў з фуры і ў руку, а ня так, як прыпісваюць нашым — ад свайго ж начальніка. Літоўскія палітыкі ўхвальна называлі той працэс здольнасьцю мытні да самаачышчэньня. На ўсіх пунктах пропуску павесілі афішкі „Стоп карупцыя!“ з нумарам тэлефона.

Цікава, што ўсе літоўскія мытнікі, прызнаныя судамі вінаватымі ў хабарніцтве, атрымалі штрафы, восем дасудовых расьследаваньняў было спынена, адзін абвінавачаны цалкам апраўданы судом.

Былы мытнік Аляксандар, які адседзеў за групавую справу на Берасьцейскай мытні, камэнтуе ў інтэрвію „Белгазэце“ (19.12.2016) цяперашні ашмянскі працэс:

„У маім разуменьні ўсё гэта паўтараецца менавіта таму, што нічога не зьмянілася за 15 гадоў ні ў мытні, ні ў судзе. Мытня зь лёгкасьцю „зьлівае“ сваіх супрацоўнікаў, да канца не разабраўшыся, хто вінаватыя, а хто не. Задумайцеся! Паўсотні супрацоўнікаў пад судом толькі ў адной крымінальнай справе!“

У мяне падобныя думкі. Галоўнае, што ўражвае, — чалавечы фактар. Усе гэтыя людзі адукаваныя, ня раз атэставаныя, маюць велізарны досьвед працы. Можа быць, яны ніколі ня чулі, што такое карупцыя?

„Я не магу ў гэта паверыць! — кажа Аляксандар. — Калі гэта праўда, то некаторыя вышэйшыя начальнікі павінны былі ад такой ганьбы застрэліцца! Але ўсе жывыя“.

Аляксандар зьвяртае ўвагу на ўцягнутасьць суду ў абвінаваўчы працэс:

„Беларускі суд — гэта каток, які едзе толькі ў адзін бок. Нават калі потым і зьяўляюцца доказы невінаватасьці, вельмі рэдка судовы каток дае зваротны ход. Упэўнены, што прысуд у гэтай справе ў чарнавым варыянце ўжо напісаны, тэрміны вызначаць у канцы слуханьняў, зыходзячы з паказаньняў абвінавачаных. Хто павініцца — атрымае менш, хто не — атрымае верхнюю мяжу, прычым абсалютна ўсё роўна, вінаваты ён ці не“.

Між іншым, у шматгадовай травяністай паўпразрыстай расьліны пад назваю мытнік балотны ёсьць ня толькі нэгатыўныя, але і пазытыўныя якасьці. Мытнік спыняе кроў, ён карысны пры ліхаманцы і ўкусах зьмей.

**Кнут**

„Корру́пция (от лат. corrumpere — растлевать, лат. corruptio — подкуп, порча, растление, продажность, разложение) — термин, обозначающий обычно использование должностным лицом своих властных полномочий и доверенных ему прав, а также связанных с этим официальным статусом

авторитета, возможностей, связей в целях личной выгоды, противоречащее законодательству и моральным установкам“. Осуждая без доказательств, суд, согласно определению в ВиКи, становиться элементом коррупции.

**хтосьці**
Што, не цягнець чацьвёртая ўлада супраць трэцяй?! Бо ў краіне адна ўлада. Справа не ў тым, што няма незалежнага суду ці судзьдзі, справа ў тым, што сам судзьдзя (суд) не абаронены нічым ад той адной улады і цалкам ад яе залежыць. Гэта сістэма. Што было з тымі, хто супраць яе падымаўся. У лоб яе не ўзяць, яе можна абысьці — так, як гару. Таму трэба шукаць людзей, якія ведаюць сістэму і ў самой сістэме. Толькі яны могуць хоць як дапамагчы.

**Василь**
Знаю Алеся с 2008 года. Среди таможенников явный „неформал“ — разговаривал на белорусском, поддерживал оппозицию. Разговаривал с ним на эту тему, спрашивал, как работается, если считается там „белой вороной“? Отвечал, что на работе к нему из-за этого весьма пристальное внимание. Но, делает работу в рамках закона, и повода к увольнению не допускает. Бывал у него дома. Очень уютно и скромно. Моё мнение — если что-то и было противозаконное, то вряд ли он делал это лично от себя — к его персоне внимание действительно было большое. Те, кто при власти в Островецком районе, Алеся уважали. Хоть и оппозиционером его считали, но вменяемым. Вероятно, „загребли“ Алеся в рамках того, что решили показательно посадить всю смену.

# ТЫЯ Ж І ЛУКАШЭНКА

30 сьнежня 2016

Анансаваў працэс ашмянскіх мытнікаў сам кіраўнік дзяржавы.

*БелТА, 03.04.2015*

*Аляксандар Лукашэнка расказаў аб выяўленай карупцыйнай схеме ў дзейнасьці Ашмянскай мытні:*

*— Зусім нядаўна быў раскрыты абуральны выпадак. Камітэт дзяржбясьпекі разам зь іншымі праваахоўнымі органамі выявіў, што ў Ашмянскай мытні ў злачынную дзейнасьць быў уцягнуты ледзь ня ўвесь асабовы склад мытнага паста „Каменны Лог“, — сказаў прэзыдэнт.*

*— Крымінальная схема дзейнічала доўгі тэрмін. Фігурантамі зьяўляюцца амаль 20 службовых асоб, агульны злачынны прыбытак вылічаецца мільёнамі даляраў, — расказаў Аляксандар Лукашэнка. — Хацелася б, каб хто-небудзь адказаў: чаму пры наяўнасьці вопытнага цэнтральнага апарату, сыстэмы падбору, падрыхтоўкі, расстаноўкі кадраў, усіх службаў унутрыведамаснага кантролю, уласнай бясьпекі ў вас пад бокам сфармавалася такая банда? Я запатрабаваў прынцыпова разабрацца ў рамках крымінальнай справы, хто гэта ўсё арганізаваў і хто да гэтага мае дачыненьне.*

*Прэзыдэнт запатрабаваў, каб нанесены краіне ўрон быў кампэнсаваны ня проста ў поўным, а ў 3–5-разовым памеры.*

*Аляксандар Лукашэнка, зьвяртаючыся да кіраўніка Дзяржаўнага мытнага камітэту, пад-*

*крэсьліў, што самае галоўнае — стварыць атмасфэру нецярпімасьці да такіх праяваў.*

*— Трэба сфармаваць усьвядомленае разуменьне кожным супрацоўнікам — факт хабарніцтва, няхай нават адзінкавы, дыскрэдытуе ўсю мытную службу ў вачах грамадзкасьці, — падкрэсьліў Аляксандар Лукашэнка. — І маральны ўрон ад карупцыі нельга зьмераць ніякімі грашамі. Выпальваць гэтае зло будзем гарачым жалезам. Мы ні з чым ня лічымся, змагаючыся з гэтай заразай.*

Як мусіць паводзіць сябе судзьдзя пасьля закліку прэзыдэнта — ні з чым не лічыцца, выпальваць гарачым жалезам? Лепш перасудзіць, чым недасудзіць? А „ні з чым“ — гэта значыць, з асобай абвінавачанага і, што важней, з аб'ектыўнымі фактамі ягонай невінаватасьці?

Часам мне здаецца — аддай усю гэтую крымінальную справу ў рукі добраму рэдактару, які верне ў тэкст лёгіку, і ад справы застанецца пшык. Як, напрыклад, „абуральны выпадак“ можа дзейнічаць „доўгі тэрмін“, ажно пяць гадоў?

Лукашэнка гаворыць супрацьлеглымі сэнсамі, але сілавікі разумеюць, які сэнс адрасаваны ім.

„Амаль 20 службовых асоб“ — гэта колькі? У перакладзе з лукашэнкаўскай на кадэбэшную — гэта амаль 60. Пры тым „нават адзінкавы факт дыскрэдытуе“.

Па ідэі, чым менш фактаў, тым лепш, але нагналі 60, каб, як сказаў прэзыдэнт, „быў уцягнуты ледзь ня ўвесь асабовы склад мытнага паста “Каменны Лог”“. Гульня лічбамі ў гэтым выпадку — гэта гульня чалавечымі жыцьцямі і лёсамі. На мытнікаў глядзяць не як на людзей, а як на расходны матэры-

ял — алавяных салдацікаў, якіх хочаш так перастаў, хочаш гэтак, у якую хочаш зьбяры тантамарэску.

Альбо вось — адгадайце, што трэба рабіць сілавікам і судзьдзям? „Маральны ўрон ад карупцыі нельга зьмераць ніякімі грашыма“. Гэта лірыка, прапускаем міма вушэй, чытаем наступнае: „Прэзыдэнт запатрабаваў, каб нанесены краіне ўрон быў кампэнсаваны ня проста ў поўным, а ў 3–5-разовым памеры“.

Адразу пасьля выступу Лукашэнкі 3 красавіка 2015 году КДБ паведаміў, што хабар даваўся за ўхіленьне ад сплаты мытных плацяжоў, а ўжо на працэсе гэтая тэма не фігуравала ўвогуле. Дапушчэньне не пацьвердзілася дакумэнтамі. Які ж тут „урон“? Вось і застаўся ў абвінавачаньні адзін абстрактны „бесьперашкодны пропуск“.

Тады ж, у красавіку 2015-га КДБ паведаміў, што хабар даваўся за афармленьне буйных партыяў розных тавараў. Праз паўтара года аказалася, што тавар быў толькі адзін — кветкі. Чаму? Таму што „кветкавую прадукцыю“ прыдумалі ўжо пасьля заяваў Лукашэнкі і КДБ?

Якая тады вера мытнікам, што прызналі сваю віну і кажуць, што ведалі або здагадваліся, што грошы — за кветкі? Праўда, большасьць кажа, што пра кветкі даведаліся толькі з абвінаваўчага заключэньня.

Колькі ж такіх лягічных перавяртосаў адбылося ў сьледчых галовах з пачатку 2015 году, за час, пакуль арыштаваныя сядзелі ў турме.

— Тое, што мне прадставілі фатаграфіі пры вобшуку ў вашых супрацоўнікаў, — гэта жах, — заявіў Лукашэнка, зьвяртаючыся да кіраўніцтва ДМК

(Дзяржаўны мытны камітэт). — Гэта вялізны пакой, цалкам выкладзены пачкамі купюр па дзесяць тысяч даляраў у кожным. І кроку ступіць няма дзе.

Фатограф, які зьняў гэтую тантамарэску, ведаў, чым уразіць прэзыдэнта, а прэзыдэнт — чым уразіць народ.

........................................................

**хтосьці**

Калі Рыгоравіч пабег наперадзе.., то лічы, што справа „табак“.

**Ветразь**

Што да беларускае судовае сыстэмы і наогул выкарыстаньня законаў у залежнасьці ад настрою „государевых людей“, як ніколі актуальны ў Беларусі покліч, адрасаваны ўкраінцамі сваім „слугам“ — „банду гэць!“ Зычу й малюся, каб найхутчэй у Беларусі запанавала справядлівасьць ды Праўда. І пажаданьне Алесю мацавацца духам і не губляць надзею.

## ПРАЦЭС ЯК ЗЬМЕСТ ЖЫЦЬЦЯ

3 студзеня 2017

Франц Кафка пісаў свой знакаміты „Працэс“ у Празе амаль сто гадоў таму. З таго часу шмат што зьмянілася ў Чэхіі, у цэлым чэхі гуманізаваліся, пра што сьведчыць хоць бы дэвіз на машынах іхнай паліцыі „ Pomáhat a chránit“ (Дапамагаць і ахоўваць).

Пражыўшы некалькі гадоў у Празе, я ні разу ня чуў нараканьняў на праваахоўныя службы ці суды. Затое ніяк не магу ўявіць такі дэвіз на машынах нашай міліцыі.

Выглядае, што сёньняшняя беларуская рэчаіснасьць у пляне дачыненьняў паміж людзьмі дасягнула той праскай стогадовай даўніны, калі арыштаваны Ёзэф К., гэтаксама наіўна, як я ў першыя дні суду, не перастае зьдзіўляцца. Бо ён жа дагэтуль лічыў, што „жыве ў прававой дзяржаве, паўсюль пануе мір, усе законы непарушныя“…

Раман „Працэс“, між іншым, займае трэцяе месца ў рэйтынгу „Ста кніг XX стагодзьдзя“ паводле вэрсіі Le Monde.

Калі верыць Кафку, перад судом зусім і не стаіць задача высьвятляць праўду. Больш за тое, суд можа нічога й ня ведаць пра сутнасьць справы і не разьбірацца ў ёй, вывучаючы доказы. Задача суду — стаць зьместам жыцьця абвінавачанага, яго пастаяннай трывогай, яго бяссоннымі начамі, яго адзінай надзеяй і расчараваньнем. І чым больш чалавек заняты сваім працэсам, тым менш у яго застаецца часу на самое жыцьцё.

Такі суд — не інстытуцыя, а менавіта Працэс, жывая субстанцыя, якая сілкуецца чалавечымі лёсамі.

Усе тыя казкі пра справядлівасьць, пра бліскучыя адвакацкія прамовы, пра жалезную лёгіку, што вядзе да апраўдальнага прысуду і сатысфакцыі, — чаму ўся гэтая рамантыка засьляпляе нам вочы і прымушае верыць у станоўчае завяршэньне, калі рэальнасьць Працэсу не дае найменшага намёку на пазытыўны вынік? Хіба мы не ўдыхаем тут кожны дзень атмасфэру даносу, вертухайства, чалавечага падзеньня, прытоенага хамства, рукапрыкладзтва і ў цэлым — зла, зла, зла?

Ні судзьдзі, ні пракуроры, ні адвакаты ня здольныя зьмяніць такі парадак рэчаў, нават калі б захацелі, бо самі зьяўляюцца палоньнікамі суду, ня могуць пакінуць абвінавачанага або вызваліць яго — бо Працэс застанецца без сілкаваньня, а яны ж служаць толькі Працэсу.

У рамане сьвятар распавядае абвінавачанаму Ёзэфу К. прыпавесьць пра брамніка і просьбіта каля варотаў Закону.

Брамнік кажа, што пакуль ня можа прапусьціць просьбіта ў нетры Закону, трэба пачакаць. І просьбіт чакае. Мінаюць гады. Гэта і ёсьць Працэс. Урэшце перад самай сьмерцю просьбіт пытаецца ў брамніка — чаму колькі ён ні чакаў, ні разу ня бачыў іншых просьбітаў, якія б прасілі прапусьціць іх? „Нікому сюды ўваходу няма, гэтыя вароты былі прызначаныя для цябе аднаго! — адказвае брамнік. — Цяпер пайду і зачыню іх“.

— Не, з гэтым меркаваньнем я ніяк ня згодны, — сказаў К. і паматляў галавой. — Калі так думаць,

значыць, трэба прымаць за праўду ўсё, што кажа брамнік. А ты сам толькі што цалкам абгрунтавана даказаў, што гэта немагчыма.

— Не, — сказаў сьвятар, — зусім ня трэба ўсё прымаць за праўду, трэба толькі ўсьведамляць неабходнасьць усяго.

Вуснамі сьвятара Кафка сфармуляваў саму сутнасьць розьніцы суду, як мы яго сабе ўяўляем, хацелі б уяўляць, і суду, які ён ёсьць у рэальнасьці, які насамрэч — сама сыстэма. У першым выпадку гаворка ідзе пра высьвятленьне праўды, у другім — пра ўсьведамленьне неабходнасьці.

Урэшце герой „Працэсу“ гіне страшнай незразумелай сьмерцю. „Як сабака“ — ягоныя апошнія словы. І ні ён, ні мы, ніхто на сьвеце так і не даведаўся, у чым ягоная віна, хто вёў ягоны працэс, каму і навошта ўсё гэта было патрэбна.

У адрозьненьне ад суду зь яго лаўкамі, клеткамі, пракурорамі, судзьдзямі, абвінавачанымі, ахоўнікамі сыстэма нябачная, быццам усе надзелі шапкі-невідзімкі. У такім рэжыме адбываецца прысуд сыстэмы.

„Дзе судзьдзя, якога ён ні разу ня бачыў? — пераказвае Кафка апошнія думкі Ёзэфа К. — Дзе высокі суд, куды ён так і не патрапіў?“

**Біч**

Сп. Дубавец, якія высновы можна зрабіць з вашых разваканняў для нашага народа, нашай краіны і цяперашняй сітуацыі ў краіне. Тое, што адбываецца у нас, яшчэ кантрасней адбываецца ў Расеі. Пакуль мы будзем жыць у інфармацыйнай і культурнай прасторы Расеі, у нас змен не будзе.

## ЦЬВІЛЬ НА ДАЛЯРАХ

4 студзеня 2017

Гісторыя пра два мільёны пад ваннай настолькі неверагодная, што выглядае на анэкдот.

Мытны начальнік, а пасьля звальненьня прадпрымальнік, быццам бы атрымаў гэтыя грошы на захаваньне ад літоўскага партнэра. Тут адзін анэкдот падзяляецца на цэлых пяць.

Як літовец правёз два мільёны ў Беларусь? Задэкляраваў? Без дэкляарацыі можна толькі 10 тысяч. Правёз за 200 заездаў? Зьняў у банкамаце? За дзень можна толькі тысячу. Здымаў 2000 разоў, кожны дзень пяць з паловай гадоў?

Далей. Як літоўцу прыйшло ў галаву трымаць такія грошы не ў абароце? Ён што, такім чынам дровы нарыхтоўваў?

Як літоўцу прыйшло ў галаву трымаць такую суму наяўнымі ў кватэры былога мытніка (а былых мытнікаў не бывае, яны пажыцьцёва пад кантролем)?

Як былому мытніку прыйшло ў галаву трымаць такія грошы ў сябе дома? Зусім-зусім ня страшна?

Ну і нарэшце — трымаць пад ваннай. Якога аб'ёму павінна быць ванна, каб пад яе гэта ўсё ўлезла? Праўда, у гэтым месцы — што да аб'ёму і вагі — ня так ужо і сьмешна. Два мільёны даляраў важаць 20 кіляў, а займаюць месца дзьвюх мікрахвалёвак. Калі, натуральна, усе грошы соткамі.

Самае сьмешнае засталося наастачу.

Калі хто ня ў курсе, акурат перад тым, як складалася крымінальная справа ашмянскіх мытнікаў,

у Беларусі адбылося некалькі шумных скандалаў, зьвязаных зь цьвільлю на далярах. Пра гэта шмат пісалі, спэцыялісты давалі кансультацыі, як захоўваць даляры, каб на іх не напаў грыбок. Маўляў, калі плесьня ўлезе ў валюту, банкаўскія ідэнтыфікатары яе не прызнаюць за праўдзівую!

Асаблівая небясьпека — захоўваць валюту ў памяшканьні з высокай вільготнасьцю і ў цэляфане! Што, нібыта, і зрабіў былы мытнік з тымі мільёнамі.

Скандалы чыста беларускія, дый сама Беларусь — як ванны пакой, настолькі тут высокая вільготнасьць.

Беларуская публіка вельмі чуйна рэагуе на такія здарэньні, чуткі разыходзяцца хутчэй за інтэрнэт. Не маглі пра гэта ня ведаць і ў КДБ, дый кіраўнік краіны, хутчэй за ўсё, ведаў. Пра гэта пісала і газэта адміністрацыі прэзыдэнта. І тут яму кладуць на стол інфу пра два мільёны пад ваннай…

Паверыў! Мабыць, сума і ванна ўразілі настолькі, што цьвіль — як аргумэнт — сама зьнікла з банкнот.

Яшчэ больш тонкі „тролінг“ (праўда, гэта ўжо чыстая творчасьць) — пасьля выяўленьня пад ваннай мільёнаў, якія зацьвілі, у справе зьявілася „цьвяточная прадукцыя“, за якую нібыта і плаціліся зацьвілыя мільёны. Тут ужо проста гульня словаў і сэнсаў. Паэзія…

# ТАК СКАЗАЎ МАЙСТАР

10 студзеня 2017

Надоечы гаварыў я ў адным сур'ёзным месцы з адным сур'ёзным чалавекам. А хто ў нас сур'ёзныя? Ясна, тэхнары. І вось што ён (назаву яго Майстрам) расказаў пра ашмянскі працэс.

„Калі б у прававой сфэры працавалі не гуманітарыі, а тэхнары, Алесь Юркойць не сядзеў бы цяпер у турме. Ва ўсіх важных сфэрах гуманітарыі прыносяць шмат бед, бо ў іх паўсюль падвойныя стандарты. А ці хто-небудзь чуў пра падвойныя стандарты ў матэматыцы ці фізыцы?“.

Сапраўды, на пытаньне „Ў чым сіла?“ гуманітар будзе казаць нешта невыразнае — у праўдзе, любові, дабрыні... Тэхнар адкажа адназначна — у ньютанах.

Юрыспрудэнцыя належыць да гуманітарных прафэсій, тых, што займаюцца чалавекам і сугучныя з гуманітарнай дапамогай, то бок, у першую чаргу, з інтарэсамі і правамі чалавека. Пра пакараньне, рэпрэсіі і гвалт супраць чалавека, якія ўжываюць прадстаўнікі юрыспрудэнцыі, даведнікі, якія апісваюць гуманітарныя прафэсіі, маўчаць. Мабыць, гэта і ёсьць падвойныя стандарты. На словах „за“, на справе „супраць“.

А калі б судовыя прафэсіі належалі да тэхнічнай сфэры?

Магчыма, атрымалася б нешта накшталт масонства, якое займаецца самаўдасканаленьнем чалавека, выкарыстоўваючы не пастуляты, а цалкам матэрыяльныя інструмэнты — лінарку, цыркуль,

навугольнік… Якія могуць быць падвойныя стандарты ў навугольніка?

Майстар пачаў распавед ад вытокаў сваёй думкі:

„Як адбываецца пазнаньне сьвету? Мы робім дапушчэньне і шукаем яму доказ ці абвяржэньне. Паспрабуем прааналізаваць суд над мытнікамі такім шляхам.

Дапушчэньне першае: Юркойць браў хабар. Чым гэта даказваецца? Паказаньнямі Чэпіна 2016 году і дадзенымі паліграфа. Чым абвяргаецца? Паказаньнямі Чэпіна 2015 году і стратай дадзеных паліграфа.

Цяпер дапушчэньне другое: Юркойць ня браў хабар. Гэта сьледчы чакаў ад яго хабару. Хацеў атрымаць хабар і адпусьціць, але, не атрымаўшы прапановы хабару на працягу 2015 году, ён у 2016 годзе фабрыкуе на Юркойця матэрыял. Разгледзім, чым гэта пацьвярджаецца. Паказаньнямі Чэпіна 2015 году, адсутнасьцю матэрыялу на Юркойця ўвесь 2015 год, паказаньнямі Чэпіна 2016 году, стратай дадзеных паліграфа 2015 году.

Як разважаюць людзі з тэхнічным складам розуму? Мы ня ведаем крытэрыяў — колькі павінна быць матэрыялу, каб дапушчэньне лічыць фактам. Але ёсьць два дапушчэньні. На карысьць другога матэрыялу болей. Калі для таго, каб абвінаваціць сьледчага, матэрыялу недастаткова, дык і для абвінавачаньня Юркойця матэрыялу недастаткова таксама. І наадварот: калі для абвінавачаньня Юркойця матэрыялу дастаткова, дык і для абвінавачаньня сьледчага яго дастаткова таксама. Калі на падставе пададзенага ў суд матэрыялу сьледчага ня судзяць, дык і Юркойця судзіць нелягічна, і наадварот: калі

Юркойця на падставе пададзенага матэрыялу судзяць, то лягічна судзіць і сьледчага“.

І на пытаньне — чаму ж тады Юркойць у турме, а сьледчы на волі? — адказ можна знайсьці толькі гуманітарным розумам.

Але, слухаючы Майстра, я, здаецца, так моцна пераналадзіўся на ягоную хвалю, што не магу падабраць патрэбны падвойны стандарт. Можа быць, гэтыя дзьве службовыя асобы — Юркойць і сьледчы — ня роўныя перад законам? Можа быць, сьледчы апрыёры больш сумленны чалавек? Можа быць, сьледчыя КДБ ніколі не трапляюць на лаву падсудных?..

..........................................................

**Кнут**

Лжесвидетельство у Чепина на лбу написано. Это без вариантов. Вопрос может быть только: когда лгал больше — в 2015 или 2016.

**Марыся**

Я была на суде, когда Чепин давал показания, это было смешно, то помню, то не помню, на этом не может ставиться доказательство вины, да там и другие, что дают показание на парней, что в клетке, тоже такие, то помню, то не помню, оговор полнейший, хотят себя обезопасить, но как же лжесвидетельство, оно ведь тоже должно быть наказуемо.

**Кнут**

Мокрый воды не боится. Им сроки дадут побольше, чем за лжесвидетельство. Вот на Божьем Суде им и тем, кто их руками творит зло, зачтется всё.

## НЯ ЗЛОЕ СЭРЦА

17 студзеня 2017

Праз пару дзён споўніцца месяц як працэс адкладзены „на няпэўны час“. Я спытаў у судовага журналіста, ён шмат гадоў піша пра розныя працэсы, ці гэта звычайна?

— Так, бывае і болей, вядзецца судовае сьледзтва, і ўсё залежыць ад аб'ёму экспэртыз.

— Але ў нас заяўленая толькі адна экспэртыза. На судзе мы паслухалі хвіліны тры тэлефоннай размовы, дзе адзін голас належыць нібыта Курневічу, Курневіч наадрэз адмовіўся, што гэта гаворыць ён, і судзьдзя прызначыў фанаграфічную экспэртызу.

— Тады не-е-е, — замахаў рукамі судовы журналіст. — Такая экспэртыза пры ўсёй бюракратыі робіцца максымум за тыдзень.

На сайтах арганізацыяў, дзе можна замовіць такую экспэртызу, даюцца тэрміны ад 7 да 10 дзён. Нарэшце, існуе „Інструкцыя аб парадку судовых экспэртыз“, зацьверджаная Міністэрствам юстыцыі РБ, у якой вызначаны тэрмін — ня больш за адзін месяц (п. 14).

Можна, вядома, зьдзіўляцца, што аналіз трох хвілін тэлефоннай размовы расьцягнуты на максымальны тэрмін, вызначаны для бясконца больш складаных дасьледаваньняў. А можна паверыць майму калегу судоваму журналісту, які кажа, што крымінальная справа шытая белымі ніткамі, якія павылазілі ў часе працэсу аж занадта відавочна, і таму адказныя таварышы цяпер стараюцца выратаваць справу.

І тут прыходзіць час зьдзіўляцца іншаму — адкуль у нашых праваахоўнікаў такая ўнутраная жарсьць — пасадзіць любым коштам? Хіба гэта ў інтарэсах краіны, нацыі, дзяржавы? Ці, можа быць, гэта ў інтарэсах прафэсіі сьледчых, пракурораў, судзьдзяў?

Разумею, што злодзей павінен сядзець у турме. А калі ня злодзей? А калі віна ніяк не даказваецца? Ну, няма на чалавеку ніякіх плямаў, і сам чалавек, як выглядае, прыстойны, і ўся ягоная біяграфія, усе характарыстыкі, усе, хто яго ведаў, сьведчаць, што сумленна служыў на сваім месцы? І ўсё адно — пасадзіць?

Кажуць, як ты яго выпусьціш — людзі ж працавалі, цэлы апарат КДБ, пракуроры, судзьдзі, а міліцыі ў актавай залі — што пчол у вульлі, а турэмшчыкі, якія два гады сачылі, канваявалі, голас зрывалі… Цэлая армія народу!

Праўда, сам бедачына абыходзіцца дзяржаве ўсяго каля ста даляраў на месяц, у 500 разоў таньней, чым Нарвэгіі абыходзіцца Брэйвік. Дык той жа 77 чалавек расстраляў, а наш ня тое, што не страляў, а ўвогуле нічога такога ня тое што не рабіў, ня мог рабіць паводле прыроды сваёй. Таму так танна і сядзіць. Бо няма за што.

Нейкая перакуленая атрымліваецца матывацыя ў нашай праваахновы — з ног на галаву. Здавалася б, чым больш апраўдальных прысудаў, тым лепш. Не пацьвердзілася віна прыстойнага чалавека, сапраўдны грамадзянін вяртаецца ў грамадзтва. Выдатна папрацавалі сьледчыя, пракуроры і судзьдзі, прафэсійна. Толькі выйгралі ад гэтага краіна, нацыя, дзяржава.

Дый заканадаўства ў нас патрабуе гэтага, заахвочвае праваахоўнікаў глядзець у бок апраўданьня абвінавачанага, а не наадварот. Адкуль тады гэтае — пасадзіць любым коштам? На чым яно трымаецца?

Няўжо справа толькі ў грамадзкім клімаце. Чалавек чалавеку воўк? Але ж мы, быццам бы, не такія. І тыя, хто „пасадзіць любым коштам“, у душы, напэўна ж, таксама ня лічаць сябе такімі?

Як тая судовая сакратарка з „Працэсу“ Франца Кафкі, што старалася апраўдаць судзьдзю: „Паверце, што я кажу праўду. У яго ня злое сэрца. Можа быць, усе мы тут не такія ўжо і злыя, але ж мы ў судзе, і нас лёгка прыняць за злых людзей, якія нікому не жадаюць дапамагаць. Я ад гэтага проста пакутую“.

Шкада, вядома, судзьдзю, добрага чалавека. Напэўна ж і ён верыць у страшны суд і дзетак сваіх вучыць дабрыні. А ўся бяда ад таго, што перабlyтаныя тантамарэскі, і дзеяньне адбываецца не ў судзе, а ў сыстэме.

.............................................

**Кнут**

Да, цель посадить любой ценой. Даже не брезгуют для этого нарушать закон. Я думаю, в процессе станет ясно, что не Чепин был инициатором ложных показаний против Алеся. Это следователь заставил Чепина дать заведомо ложные показания. И по закону он должен сидеть в клетке, а не Алесь.

**Н.Д.**

То бок, вінавата грамадства, а не аўтарытарная ўлада? Ну канешне, гэта ж не аўтарытарная ўлада выбудоўвае такую судовую сістэму, дзе следчыя, пракуроры, суддзі, поўнасцю залежныя ад вышэйшага кіраўніцтва і выконваюць іх загады,

а той, хто не выконвае, у гэтай сістэме ўжо не працуе. Нядаўна, на апошніх выбарах, у Магілёўскай вобласці адбыўся выпадак: адзін следчы без узгаднення з начальствам вырашыў балатавацца ў кандыдаты (якая наіўнасць!). Звольнілі яго адразу. Выбары і суд цалкам кантралююцца аўтарытарнай уладай, без гэтага яна не была б сама сабой, падкантрольнасць суду неад'емны атрыбут аўтарытарызму. І калі зверху аддалі загад пасадзіць, то залежныя ад выканаўчай улады бюракраты зробяць усё, бо гэта ўмова іх знаходжання на пасадах. Калі ж яны пачнуць задумвацца, дзе выканаць загады, а дзе не, то гэта будзе азначаць канец аўтарытарызму. Менавіта таму не караюцца амонаўцы, якія збіваюць журналістаў і дзяцей, следчыя, якія „шыюць“ справы белымі ніткамі, бо калі іх пачаць караць за невыкананне законаў, як яны потым змогуць выконваць загады начальства? Тут яўная супярэчлівасць. Але, па Дубаўцу, у такім становішчы вінавата грамадства. А як па мне гэта абраза і грамадства, і падсудных, якім адмовілі ў праве на справядлівы суд.

**Ветразь**

Ну дык і тыя, што знаходзяцца на пасадах, пагатоў на дробных, таксама выйшлі з грамадзтва, і войска міліцыянтаў, і сьледчых. Ды хто б ні быў, у КОЖНАГА чалавека ёсьць права ды абавязак асабістага выбару. Перад Богам, сумленьнем. І, адпаведна, КОЖНАМУ яго наступствы.

**Дзед**

Пытанні пастаўлены правільна і адказы шукаюцца ў правільным кірунку. Адно з іх такое: а да каго будзе іск за незаконнае ўтрыманне пад вартай? Там ужо гэта разумеюць. Два гады не два дні. У СССР трымалі да суду не больш за год, а тут ужо два. І канца не відаць... Чаму?

**Кнут**

Элементарно, иск разделить на этапы. Этап 1 — задержание. Если нет основания, то иск от момента задержания и до очередного решения продления содержания под стражей.

За эти два года было множество продления задержания под стражей. У каждого такого постановления есть ФИО. Так что иск разделить между участниками беззакония не сложно.

**P. S.**

Важно, кто был инициатором задержания. КГБ. И кого задержали — таможенников. Мальчиков для битья. Свои не вступятся — проще уволить (кстати, почему?), и у общества давно сформировано мнение — „таможенник — взяточник“. Поэтому бери КГБ кого хочешь, а дядьки при больших должностях и звездах полностью вам доверяют, да и не досуг в каждом отдельном случае разбираться. Проще посадить, чем поставить под сомнение компетентное мнение следователя. Он ведь полтора года разбирался. Не мог же он просто невинного человека посадить. А сто долларов за содержание вполне окупятся. Статья и конфискацию имущества предполагает. А конфисковать даже посуду лишнюю можно. Все же деньги. Непонятно тогда зачем такая структура — таможня. Раз все там „плохиши“ работают. Пошлину пусть налоговая берет. Пограничники физических лиц оформляют. Ну а контрабандистов, конечно, КГБ ловит. Глядишь и сажать никого не надо будет. Жалко ребят, тех, которые ни за что. Но это ведь не конец. Так что ещё есть надежда.

## НЕБЯСЬПЕЧНЫЯ ЗБЛІЖЭНЬНІ

19 студзеня 2017

Усе 11 абвінавачаных адмовіліся прызнаваць існаваньне „арганізаванай злачыннай групы“, да якой яны, нібыта, належалі.

Адмовіліся таму, што за „групу“ даюць большы тэрмін? Ці таму, што „групы“ насамрэч не было?

У тэрмінах Крымінальнага кодэксу РБ існуе небясьпечнае збліжэньне. „Арганізаваная злачынная група“ — гэта амаль што „злачынная арганізацыя“, якая (наступная ступень градацыі) — амаль што „банда“ (гэта калі яны ўзброеныя). Сказаць, што на мытным пропуску Каменны Лог дзейнічала „банда“ (а менавіта так назваў ашмянскіх мытнікаў прэзыдэнт), абвінавачаньне палічыла залішнім. Сказаць, што „арганізацыя“ — дык яны і былі арганізацыяй — аддзелам Мытнага камітэту. Атрымліваецца накладка. Таму выбралі „групу“.

„Артыкул 18. 1. Злачынства прызнаецца ўчыненым арганізаванай групай, калі яно ўчыненае дзьвюма ці больш асобамі, якія папярэдне абʼядналіся ў кіраваную ўстойлівую групу для сумеснай злачыннай дзейнасьці“.

З усіх мытнікаў, якіх судзяць у Партызанскім судзе, толькі адзін Курневіч трошкі начальнік, быў намесьнікам Карповіча. Астатнія ў нашым працэсе — шараговыя інспэктары, якіх нічога, апроч службовай дзейнасьці, не абʼядноўвала.

Кажуць, што Чэпін быў у блізкіх адносінах з Карповічам і нават называў яго „Дзімон“. Іншых „збліжэньняў“ на працягу працэсу не заўважана.

Гэта маё асабістае ўражаньне — колькі ні назіраў за абвінавачанымі, бачыў толькі розьніцу паміж тымі, што за кратамі, і тымі, што прызналі віну і цяпер на волі. Розьніца найперш у інтэлектуальным узроўні, у сталасьці розуму.

Тыя, што за кратамі — выразна кожны сам за сябе, але пры магчымасьці салідарызуюцца, кажуць нешта на карысьць адзін аднаго, яны як на вайне — змагаюцца за сваю праўду. Але не яны самі выбралі такі лёс.

Тыя, што на волі, тусуюцца кучкай у калідоры ці ў курылцы, нешта абмяркоўваюць, жартуюць, яны ўсе аднаго колеру. І лёс іхны, які яны выбралі самі, мае такі самы колер.

Яны ўсе або маюць, або толькі дэманструюць заніжаны інтэлект — „ня помню“, „затрудняюсь“, „не магу знаць“. Калі ўявіць, што яны — група, дык ніякім чынам не самастойная, ня тая, што „аб’ядналіся“, дый каб іх нехта „аб’яднаў“ — таксама не ўяўляецца, надта тут кожны падкрэсьлена сам за сябе.

Але ж менавіта „папярэдняя аб’яднанасьць“ і зьяўляецца першай прыкметай „групы“. А пра гэтую „папярэднюю аб’яднанасьць“ сьведчыць „плянаваньне злачыннай дзейнасьці і ўзгодненасьць дзеяньняў саўдзельнікаў“, пра што ў судзе і гаворкі няма. „Падышоў начальнік, даў сто даляраў, за што, не сказаў“. Якія тут плянаваньне і ўзгодненасьць?

У абвінаваўчым заключэньні распавядаецца цэлая гісторыя пра тое, як мытныя начальнікі арганізавалі „групу“. Але ніводнага з гэтых начальнікаў, кіраўнікоў у Партызанскім судзе няма. Затое ў артыкуле 18 Крымінальнага кодэксу ёсьць пункт 2:

„Арганізатары (кіраўнікі) арганізаванай групы нясуць адказнасьць за ўсе ўчыненыя групай злачынствы, калі гэтыя злачынствы ахопліваліся іх намерам. Іншыя ўдзельнікі арганізаванай групы нясуць адказнасьць толькі за злачынствы, у падрыхтоўцы або ўчыненьні якіх яны ўдзельнічалі“.

„Іншыя“, трэба разумець, тыя, якіх арганізатары нібыта выкарысталі і змаглі гэта зрабіць толькі таму, што былі іхнымі начальнікамі. Тут — трэцяе небясьпечнае збліжэньне. Начальнікамі на службе ці кіраўнікамі „групы“? Выглядае як тое самае, праўда?

Гэта значыць, што такім чынам можна арыштаваць кожную арганізацыю, уляпіць ёй „арганізаваную групу“, бо яна такая і ёсьць, і засудзіць. За што? А ні за што. Сказаць, што начальнік даваў падначаленым грошы за тое, што добра працуюць. Многія мытнікі дагэтуль перакананыя, што менавіта за гэта. Але ж дзе тут крымінал? За што ў такой сытуацыі караць канкрэтнага інспэктара? А за тое, што пад арганізаванай групай можа разглядацца хоць якая арганізацыя, дадай толькі слова — злачынная.

Ня ведаю, ці адмовіцца суд ад гэтай „групы“, у практыцы беларускіх судоў такія адмовы бывалі. І Вярхоўны суд у пастанове свайго пленуму (№9 ад 25.09.2003) зьвяртае ўвагу на важнасьць кваліфікацыі — каб усе прыкметы групы супадалі. А яшчэ, нават калі „група“ застанецца, ён зьвяртае ўвагу судоў на „няўхільнае выкананьне патрабаваньняў закону аб індывідуалізацыі адказнасьці пры прызначэньні пакараньня асобам, вінаватым ва ўчыненьні злачынстваў у складзе арганізаванай групы“.

З індывідуалізацыяй тут ці ня самая вялікая праблема. Не разглядае суд індывідуалізацыю. Ужо сама танальнасьць працэсу — пра калектыўную адказнасьць. Міжволі падумаеш пра адказнасьць прафэсійную ці нацыянальную і згадаеш, як за Сталіным масава судзілі чыгуначнікаў і эспэрантыстаў, баптыстаў і ўніятаў, немцаў і палякаў, высылалі літоўцаў, чачэнцаў, крымскіх татар…

# АМАЛЬ УСЕ ВІНАВАТЫЯ АМАЛЬ ВА ЎСІМ

22 студзеня 2017

„Кветкавая справа“ разглядаецца ў пяці менскіх судах. Гаворка ідзе пра „вылучаныя крымінальныя справы“.

Маштаб, вядома, уражвае. Не зразумела толькі, якім чынам усё гэта можа быць у выніку сабрана ў адну карціну.

Артыкул 165 КПК РБ:

„4. Вылучэньне крымінальнай справы дапускаецца пры ўмове, што гэта істотна не адаб'ецца на ўсебаковасьці, паўнаце, аб'ектыўнасьці дасьледаваньня абставін крымінальнай справы ў судовым пасяджэньні“.

Мяне бянтэжыць слова „істотна“.

Судзяць паўсотні чалавек, сярод якіх ёсьць, можа быць, і вінаватыя і невінаватыя. Ідзе проста дзявяты вал аргумэнтаў і фактаў, чалавечых характараў і матывацыяў, інтарэсаў прыватных і ведамасных, недагаворак і пытаньняў, якія пакідаюцца без адказу. Апошняе — самае падступнае, што таксама можна схаваць пад словам „істотна“.

Скажам, „непрызнантам“ істотна, каб суд прызнаў іх невінаватымі. Ці істотна гэта суду, які ня мае доказаў віны „непрызнантаў“, а толькі здагадкі? Відавочна не, бо суд не выпусьціў іх з-за крат „у сувязі зь цяжкасьцю ўчыненага імі злачынства“.

Па ідэі ўсё істотнае мае месца ў Менскім абласным судзе, там, дзе судзяць мытных начальнікаў.

А што ж тады адбываецца ў чатырох астатніх, у прыватнасьці ў Партызанскім? І ці не атрымаецца так, што высновы, якія зробіць суд адносна начальнікаў, аўтаматычна будуць прынятыя ў астатніх судах за аснову, каб зрабіць высновы адносна падначаленых? А тое, што ў гэтай мутнай рацэ згубяцца людзі, якія ні ў чым не вінаватыя, будзе апрыёры прызнанае за „неістотнае“?

Між тым, нічога такога, што хавала б інтрыгу ці давала адказ на мноства пытаньняў, у абласным судзе не адбываецца. Хутчэй, наадварот. Сарумянц нібыта прызнаў, што даваў хабар мытнікам, але не прызнаў, што дзейнічаў у складзе злачыннай групы і што кіраваў ёю.

У абласным судзе 16 фігурантаў. Начальнікі і бізнэсоўцы. Здавалася б, і маштаб дзейства павінен быць большы, чым у нас, дзе судзяць простых мытнікаў. Але па выніку атрымліваецца, што якраз у нас усплываюць сур'ёзныя нестыкоўкі, якія там акцэптуюцца без затрымкі.

Дарэчы, у судзе Сарумянц адмовіўся даваць паказаньні, а тое, што ён казаў на допытах, зачытаў пракурор з ранейшых паказаньняў Сарумянца ў часе сьледзтва. Чаму адмовіўся? Каб не заблытацца? Ці хоча паслухаць, што скажуць іншыя? Ці рыхтуецца адкінуць складзеную для яго легенду?

І тут увага! У тых ранейшых паказаньнях на сьледзтве Сарумянц заявіў, што тыя два мільёны ў яго „пад ваннай“, ён атрымаў не зь Літвы, а з Масквы. І атрымаў не на хабары мытнікам, а каб пераправіць іх за мяжу.

Літовец Танкелюн, які прасіў Сарумянца перакінуць грошы за мяжу, знаходзіцца ў вышуку.

А іншы літоўскі бізнэсовец — Тураеў — дае паказаньні ў судзе. Ён цалкам прызнае віну, супрацоўнічае са сьледзтвам. Кажа, што за „бесьперашкодны пропуск“ ягоных машын заплаціў начальніку мытнага аддзелу Высоцкаму 70 тысяч даляраў.

Кветкі ён вазіў з пачатку 2013 году, прычым першыя пяць месяцаў „праблем“ на мяжы ў яго не ўзьнікала. Тым часам мытнікам інкрымінуюць, што пачалі атрымліваць хабар з 2010-га. У пачатку 2015-га ўсіх мытнікаў арыштавалі.

Гэта значыць, што легенда, паводле якой „група“ на мытні дзейнічала на працягу пяці гадоў, можа пацьвердзіцца толькі на тэрмін ня больш за годпаўтара.

Выглядае, што абласны суд ня толькі ня ўносіць яснасьці ў працэс, а зьяўляецца нейкім зьбіральнікам усіх нестыковак, пытаньняў, прыватных зацікаўленьняў хабарнікаў і нехабарнікаў, мытнікаў і бізнэсоўцаў, кадэбістаў і пракурораў, літоўцаў, тутэйшых і маскавітаў, грошай за кветкі і мільёнаў пад ваннай — і чым большы тут туман, тым меней застаецца шанцаў для праўды.

Што можа на такім фоне высьветліць наш, Партызанскі суд? Маю адчуваньне, што ў прынцыпе многае. Як, зрэшты, і чатыры астатнія суды Калі будуць ісьці ад прыватнага да агульнага, а не наадварот. Ад канкрэтных доказаў віны канкрэтнага фігуранта, а не ад агульнай фразы пра „задзейнічаны амаль увесь асабовы склад мытні“. У прынцыпе суд можа. Калі захоча.

Але ў судзе перапынак.

# Пяць пытаньняў пра несправядлівасьць

25 студзеня 2017

Адкуль яна ў нас бярэцца?

Мы жывем не пры Сталіне, калі, як у тым анэкдоце, усе ехалі ў трамваі — адны сядзелі, другія трэсьліся. Калі ўсе цераз аднаго пісалі даносы.

Няма ўжо тут такога парадку, каб жыцьцё чалавека было нікчэмным у параўнаньні зь веліччу дзяржавы, ідэі, правадыра. Дый людзі мы даўно не савецкія, цяперашняе пакаленьне чыноўнікаў, мабыць, і ня ведае, што такое жалезная заслона, недаступнасьць інфармацыі і што за даляр, як яшчэ ў 1980-я, можна было атрымаць турму. Не відаць у нас цэлага пакаленьня „рамантыкаў Лукашэнкі“, гатовых зь ягоным імем у сэрцы загінуць або забіць.

Інакш кажучы, калі сьледчы КДБ, пракурор або судзьдзя выконваюць загад зьверху ці загад уласнае інтуіцыі — пасадзіць невінаватага ў турму — чым яны кіруюцца? Абяцаньнямі службовага росту? Гэта банальны кар’ерызм?

Лукашэнка сапраўды стварыў сыстэму татальна залежных службовых асобаў, але мы жывем ня ў тым сьвеце, дзе ад самога чыноўніка не залежыць нічога. Ну, вось нехта мне кажа: ведаеш, і ў КДБ ёсьць прыстойныя людзі, там ня дурні сядзяць, а прафэсіяналы. Дый зьнешне гэтыя сьледчыя, судзьдзі і пракуроры не нагадваюць драўляных салдат Урфіна Джуса.

Як сумясьціць такую татальную перакананасьць у несправядлівасьці судоў з татальнай надзеяй на-

роду (і тых самых судзьдзяў з пракурорамі) на справядлівасьць нашага агульнага жыцьця? Хіба нешта ў нашых думках, у калектыўнай сьвядомасьці, а нават у дзяржаўнай ідэалёгіі падштурхоўвае нас да несправядлівых рашэньняў? Быццам бы, не. Тады дзе крыніца гэтага імкненьня да несправядлівасьці? У калектыўным несьвядомым? У мэнталітэце? У мімалётнай сытуацыі? У волі „дрэннага начальства“? У чалавечай дурасьці?

Але ж ніколі не культывавалася ў нас у народзе ўсё гэта. Дурасьці хапала заўсёды, але, мабыць, найперш не ў КДБ, не ў пракуратуры, не ў судзе. Што да выслужлівасьці, прадажнага сумленьня, драпежніцтва, імкненьня задушыць бліжняга, абыякавасьці да таго, каго ты топчаш… Скуль гэта ўсё, кім сеецца, у кім узыходзіць?

Дэнацыяналізацыя? Магчыма, тут справа ў тым, што мытнікі афармляюць машыны не ў Беларусь, а на „тэрыторыю мытнага саюзу“? — яны самі так кажуць. А сьледчыя, пракуроры і судзьдзі таксама, як і тыя, каго яны судзяць, не пачуваюцца адным народам, беларусамі, а ў большай ступені — бязродныя „тоже русские“?

Але нават калі так, усё адно ня ўзносіцца ў беларускіх сем’ях, школах, тусоўках несправядлівасьць. Прынамсі ў такіх маштабах, каб гэта было зьявай. І ня так шмат сустракаў я людзей, якія сьвядома душылі бліжняга. І ў аснове гэтага заўсёды была неадэкватнасьць, непадобнасьць на ўсіх, на тое, як трэба.

Я нават не пра дыктатуру, не пра аўтарытарную ўладу, крыніца якой, як і запісана ў Канстытуцыі — народ. Дапусьцім, народ у большасьці хоча дыкта-

туры. Але сваё жаданьне дыктатуры ён тлумачыць менавіта жаданьнем справядлівасьці. Ня думаю, што канкрэтныя людзі ў КДБ, пракуратуры, судзе, як частка народу, у душы хочуць чагосьці іншага, адваротнага.

Сацыяльны інфантылізм? Гэта калі ты жывеш і працуеш у сваім слаі грамадзкай атмасфэры, ня ведаючы, не адчуваючы таго, што адбываецца ў іншых слаях. У цябе свой слой, і ты зь лёгкасьцю выконваеш загады, не ўсьведамляючы і не адчуваючы адказнасьці за тое, што тым самым у іншым слаі наламаў дроў.

Інтарэс? А можа, ты маеш вілу ў Дамінікане, а працуеш тут па гэтых правілах, тады ўсё ўстае на свае месцы. Нашто нам спагада да гэтых (не сваіх, ня блізкіх) людзей, калі трэба ратаваць сваю шкуру і сваю вілу? Калі кажуць, што маёмасьць псуе людзей, дык гэта акурат той выпадак.

Ёсьць яшчэ адна крыніца несправядлівасьці, якую я не ўключыў у гэты сьпіс, бо яна не зусім суб'ектыўная, несьвядомая — гэта калі табою маніпулююць, а ты гэтага ня ведаеш, не разумееш і разумець ня хочаш. Гэта і дурасьць і інфантылізм, але — удаваныя.

Праблема суб'ектыўнасьці, дзе нашы прафэсіяналы маглі б заартачыцца на пункце справядлівасьці прысудаў, вырашаецца падборам кадраў — адпаведнымі сьледчымі, пракурорамі і судзьдзямі, якія артачыцца ня будуць, а зробяць сваю работу так, як трэба „Абрамовічу“. Яны ўсе, і нават Лукашэнка ў гэтай гульні выступаюць аб'ектамі маніпуляцыі, што ня так цяжка ўявіць сабе на фоне аграмадных

грошай, што шырокай ракой цякуць з Расеі на Захад. Аб'ект можа й ня ведаць, што ім маніпулююць.

За ўсімі названымі мною суб'ектыўнымі крыніцамі несправядлівасьці я паставіў знак пытальніка, бо не да канца перакананы ў іх, бо мая вера ў беларускіх людзей большая за недавер да іх. Тым часам апісаная вонкавая крыніца робіць карціну завершанай. Як мытнікі „ня ведалі“, за што ім даюць грошы, як сьледчы КДБ „ня ведаў“, за што ён пасадзіў мытнікаў, як Лукашэнка „ня ведаў“, што мытная справа задуманая для прыкрыцьця, так і суд „ня ведае“, за што ён выносіць абвінаваўчыя прысуды.

Тым часам нехта за кадрам пацірае рукі. Ён ведае ўсё. У яго ўсё сном духам.

---

**Кнут**

Глубоко копаете. Не думаю, что „Абромовичы“ или кто-то еще так всесилен. Скорее здесь чистая математика. Сумма векторов. Это когда каждый к чему-то стремится и что-то делает в своих интересах. Сумма всех — это вектор, который мы видим и который согласно математики не совпадает ни с чьим вектором.

**Ветразь**

Магчымыя ўсялякія варыянты, але галоўная прычына ў сэрцы кожнага чалавека. І калі на версе сацыяльнага жыцьця апынаюцца людзі з заганным сумленьнем, яны атачаюць сябе падобнымі істотамі, атручваючы ліхам ўсё навакольле. Давыд у псальмах трапна апісаў гэную зьяву: „Усюды ходзяць бязбожныя, калі нікчэмнасьць з сыноў чалавечых узвысілася“. (Пс. 11:9)

# ДАМОВА З Д'ЯБЛАМ

30 студзеня 2017

Швагер Юркойця быў мытнікам. Скончыў трагічна — скінулі зь цягніка.

Сам Юркойць зусім крыху не даслужыў на мытні 20 гадоў, зьбіраўся звальняцца. Абарвалася служба таксама фатальна — арыштаваў кадэбіст. Інакш кажучы, выйсьці з гэтага мытнага кола жывым і вольным ня так проста. Калі ўвогуле магчыма.

Ёсьць уяўленьне, што ў мытнікаў добрыя заробкі.

Насамрэч сярод усіх супрацоўнікаў праваахоўных ведамстваў яны атрымліваюць найменш. Менш за міліцыянтаў, кадэбістаў ды іншых сьледчых, карных і кантрольных выканаўцаў. У 2008 годзе Дзяржаўны мытны кабінэт зьвяртаўся да ўраду з просьбай падвысіць заробкі. Тлумачэньне наступнае:

„Гэта (нізкія заробкі) падрывае ня толькі прэстыж мытнай службы, але і стварае цяплічныя ўмовы для ўзьнікненьня карупцыйных праяваў. А гэта ўжо і зьяўляецца прычынай пастаянных карупцыйных скандалаў з удзелам абаронцаў гаспадарчых рубяжоў Беларусі“.

Вобразна мне бачыцца нейкая няпісаная дамова Лукашэнкі з мытняй, што мытнікі будуць, павінны красьці — за гэта купляецца іхная ляяльнасьць пры невялікіх заробках. Ясна, што пра гэта не гаворыцца. І сярод мытнікаў знойдзецца шмат такіх, хто ня стане пэцкаць сабе рукі.

Той самы Юркойць, не апазыцыянэр, вядома, але і занадта ляяльным да кіраўніка краіны яго не

назавеш. Як той казаў, ён яго канструктыўна крытыкаваў. Аднак незалежна ад гэтага кіраўнік краіны можа і папракнуць — не накраў? а чаго ж ня краў? для мяне вы ўсе крадуны, а караць ці літаваць — па сытуацыі. Чыстая псыхалёгія. Як у савецкіх калгасах — „усе кралі", была непісаная дамова. Інакш было ня выжыць.

Мытнікі, вядома, выжывуць, але вобраз крадуноў — той самы. Дай мытнікам большую зарплату — расправяць плечы, страціш ляяльнасьць. А так яны ў цябе на ланцужку, з кампраматам — хочаш, даставай „справу", хочаш, не даставай.

У прынцыпе гэта ня толькі пра мытнікаў — пра ўсіх дзяржаўных службоўцаў. Як вы думаеце, адкуль у гэтых вялікіх і малых адміністратараў „з народу" катэджы на мільёны даляраў пры вельмі нават памяркоўных заробках?

Памятаеце, была нейкая начальніца, якая скрала мільён даляраў, а Лукашэнка сказаў — хай аддасьць у патройным памеры, тады адпусьцім. Яна і аддала. Ніхто нават не спытаўся, дзе ўзяла.

Створаны такі кшталт дзяржаўнае службы, калі — „можна", і нават больш за тое — „трэба". Пры гэтым грошы ў такіх людзей становяцца абсалютнай вартасьцю на тым месцы, дзе мусіла б быць сумленьне. Як можна ня ўзяць грошы? Гэта ж грошы!

Мяняюцца міністры, „мэры", старшыні, а асобаў (зь вялікае літары) сярод іх не відаць, вока ў іх не гарыць, талковых ідэяў яны не артыкулююць. Ён нечага нагаворыць, а ты яго нават і не запомніш. Усё пакрывае сьлізкая павалока ляяльнасьці.

У Беларусі карупцыя рэальна ўзятая пад кантроль — кожны відзён і кожнаму дазволена, пакуль

карты ня лягуць па-іншаму. Дакладна як з наркамафіяй: галоўнае, каб працавалі толькі бачныя каналы дастаўкі. А пасадзіць можна па сытуацыі.

І выходзіць, што ў нас Год культуры пачынаецца з масавага закрыцьця бібліятэк, бясплатная мэдыцына — з вымаганьня прыбыткаў ад дзяржаўных паліклінік, а нацыянальная бясьпека — з арышту падзьвіжнікаў у сфэры культуры.

Самае тут прыкрае, што службовыя асобы — тыя, з пагаслымі вачыма — якія сяк-так кіруюць нашым жыцьцём, перакананыя, што ўсе такія, як яны, замазаныя, усе жывуць паводле іхных правілаў („баршчы вараць“), усе падкрадаюць, бо дазволена, а значыць, невінаватых у прынцыпе ня можа быць.

А чаму ты ня краў? — Прысягу даваў дый непрыстойна гэта, красьці. — Ім гэтага не зразумець: Дык ты што, супраць нашага прэзыдэнта?

Ну вось, пачынаецца.

Справа ашмянскіх мытнікаў, вядома, гэтым не тлумачыцца — занадта шмат у ёй нестыковак, занадта нягегла яна сшытая. Але фон гэтае справы менавіта такі — аглабельны. Мытнік? Значыць, краў. Як ня краў? Ты што, супраць нашага прэзыдэнта?

У судзе доўжыцца перапынак. Гэта для нас перапынак. А для тых, хто за кратамі, нішто не спынілася — нары, прагулкі, праверкі…

**Кнут**

Четко подмечено. Возьмем руководство таможни, которое, согласно делу в областном суде, вымогало взятки за „беспрепятственный пропуск“ машин с цветами. Они досматривали машины с пристрастием (разгрузка и загрузка)

и этим портили часть товара. Они могли пропускать эти машины без этой процедуры и не наносить ущерб товару. Оба действия в рамках закона. Им дали эту „вилку“ и они с ее помощью заработали деньги. Что незаконно? Ответ: „не их действия, а его последствия“. Т.е. действовали в рамках закона, но незаконно заработали. Еще раз вернемся к обвинению: „Получение взяток за беспрепятственный пропуск машин…“. Легко, не меняя сути, можно изменить на: „Получение взяток за препятствие пропуску машин…“. Первая часть в обвинении, которая указывает, за что получены деньги, — не есть нарушение закона. Получается, только вторая часть обвинения и есть нарушение закона. Получается, что они получили деньги за действие, которое не нарушает закон. Это значит, что государство дало право, не нарушая закон, незаконно зарабатывать.

# ЛЕГЕНДА ПРА АПРАЎДАЛЬНЫ ВЫРАК

3 лютага 2017

Што першае адгукаецца ў вас на фразу „апраўдальны прысуд“: радасьць ці скепсіс? Цудоўна, вызвалілі невінаватага!.. Усё ясна, прадажны суд, адпусьціў злачынцу…

Натуральна, усё залежыць ад асобы падсуднага і ад характару судовай сыстэмы ў краіне. А калі ня ведаць абвінавачанага і ўявіць сабе суд незалежны і прафэсійны, бесстароньні? Тады — толькі радасьць — як зададзенасьць, зыходны пункт, тое, як мусіць быць. Здаравейшае грамадзтва, здаравейшая дзяржава, унутрана здаравейшы ты сам — хіба гэта ня тое, да чаго варта імкнуцца?

Паводле статыстыкі, у 2016 годзе беларускія крымінальныя суды апраўдалі 83 і асудзілі амаль 45 000 чалавек. З году ў год гэтыя лічбы не зьмяняюцца. Да прыкладу, у 2018-м было адпаведна 80 і 40 612. Апраўданых 0,19%. Для мяне тут галоўнае ня тое, што мала, а што ў прынцыпе ёсьць. Суд можа апраўдаць невінаватага.

0,19% — гэта тая доля самастойнасьці, якую мае судовая ўлада ў Беларусі. За апошнія 20 гадоў яна ніколі не выходзіла за межы 1%. Нікчэмная доля, але не нішто. Калі думаць, напрыклад, пра паляпшэньне сытуацыі зь юстыцыяй і пра тое, што паляпшаць можна ня толькі „зьверху“, але і „зьнізу“ — з волі судзьдзі.

У Расеі адсотак апраўдальных прысудаў такі самы — каля 0,2%. Афіцыйныя камэнтатары тлумачаць гэта „выкарыстаньнем у судах паслугаў

малазацікаўленых дзяржаўных адвакатаў“. Тлумачэньне цынічнае, бо прызнае нацэленасьць судоў „саджаць“ усіх без разбору і залежнасьць шанцаў на справядлівае рашэньне ад колькасьці „грашовых сродкаў“ у кішэні падсуднага.

Неафіцыйныя камэнтатары гэтай статыстыкі робяць выснову: „У Расеі правасудзьдзя не існуе. А існуе нейкі карна-пасадачны мэханізм, які канвэерным спосабам выносіць абвінаваўчыя прысуды“. А той нікчэмны адсотак апраўданых — проста збой у працы.

Мне самому даводзілася атрымліваць апраўдальныя прысуды, і толькі цяпер я разумею і адчуваю, наколькі наіўна я ўспрымаў гэта ня столькі як перамогу, колькі як норму.

Аднойчы як рэдактару газэты ў Вышэйшым гаспадарчым судзе ў Менску мне зь сябрамі ўдалося выйграць працэс у Міністэрства інфармацыі, і мы былі перакананыя, што інакш і быць ня можа, бо глупства ня можа перамагаць праўду.

Быў і апраўдальны прысуд у крымінальным судзе — пяць гадоў таму. Праўда, адбывалася тое ў Літве. Але віна і адсутнасьць віны што ў нас, што там — аб’ектыўна катэгорыі аднолькавыя. І зноў я ўспрыняў апраўдальны прысуд як норму.

Чаму я павінен прымаць за норму трыюмф цынізму, тым больш на радзіме, у Беларусі?

У так званых разьвітых краінах статыстыка апраўдальных прысудаў у сто разоў большая. Лічба 20–30% у цывілізаваным сьвеце прызнаецца за норму. Пра што гэта сьведчыць?

Аказваецца, у нас і ў іх гэта сьведчыць зусім пра рознае. Там гэта элемэнтарнае ўсталяваньне праўды

і пазытыўны для грамадзтва вынік працы сьледзтва і пракуратуры. У нас — любы апраўдальны прысуд — сур'ёзны мінус у працы сьледчых. Бо тады атрымліваецца, што „сыстэма не працуе“.

Але пра якую якасную працу сыстэмы можа ісьці гаворка, калі паводле гэтае лёгікі ў ідэале трэба пасадзіць увогуле ўсіх?

Людзей, якія здольныя прыносіць краіне дабрабыт, карміць і праслаўляць яе, кідаюць на ўтрыманьне гэтай самай краіны, на яе зьбядненьне і ганьбу.

Я гляджу на ўсю гэтую правасудную брацію і не магу выкараніць у сабе ранейшай наіўнасьці, ня веру, што ўсе яны менавіта так, па-воўчы, хацелі б жыць. Зусім не разьбіраюся ў людзях…

Вось сяджу, склейваю свой разарваны шаблён з дапамогай „Працэсу“ Франца Кафкі. Ёсьць там і пра апраўдальныя прысуды — што пра іх казалі сто гадоў назад.

Судовы мастак Цітарэлі распавядае абвінавачанаму Ёзэфу К.:

„— Ужо дзіцём я прыслухоўваўся да расказаў бацькі, калі ён дома казаў пра працэсы, дый судзьдзі, якія бывалі ў яго ў атэлье, распавядалі пра суд; у нашым асяродку наогул ні пра што іншае не гавораць. А як толькі мне выпала магчымасьць наведваць суд, я заўсёды карыстаўся ёю, слухаў безьліч працэсаў на самых важных этапах і сачыў за імі, наколькі гэта было магчыма; і павінен сказаць шчыра — ні аднаго поўнага апраўданьня я ні разу ня чуў.

— Значыць, ніводнага апраўданьня, — паўтарыў К., нібы зьвяртаючыся да сябе і да сваіх надзеяў. — Але гэта толькі пацьвярджае меркаваньне, якое склалася ў мяне пра гэты суд. Значыць, і з гэтага

боку суд бескарысны. Адзін кат цалкам мог бы яго замяніць.

— Нельга ж так абагульняць, — незадаволеным голасам сказаў мастак. — Я ж казаў толькі пра свой асабісты досьвед.

— Гэтага дастаткова, — сказаў К. — Хіба вы чулі, што ў ранейшыя часы кагосьці апраўдвалі?

— Кажуць, што такія выпадкі апраўданьня бывалі, — сказаў мастак. — Але высьветліць гэта цяпер вельмі цяжка. Бо канчатковыя рашэньні суду не публікуюцца, нават судзьдзям доступ да іх закрыты, таму пра старыя судовыя працэсы захаваліся толькі легенды. Праўда, у большасьці зь іх гаворыцца пра поўныя апраўданьні, у іх можна верыць, але даказаць нічым нельга. Аднак і грэбаваць імі ня варта, нейкая кропля праўды ў іх, безумоўна, ёсьць, і, потым, яны такія прыўкрасныя! Я сам напісаў некалькі карцін на падставе гэтых легендаў“.

Але прынамсі ў Кафкі мяне гэта не зьдзіўляе і не палохае. Даўно гэта было і далёка.

# АДНА ВЯЛІКАЯ ПАМЫЛКА

8 лютага 2017

Судовая памылка — такога тэрміну ў беларускім крымінальным заканадаўстве няма.

Пакуль на працэсе перапынак, я пашыраю свае веды.

У юрыдычнай літаратуры менавіта з судовымі памылкамі зьвязваюць нікчэмна малую колькасьць апраўдальных прысудаў. У нас жа на практыцы само слова „памылка“ ўзьнікае толькі на стадыі касацыйнага суду. Гэта значыць, суд першай інстанцыі ня можа памылку ні дапусьціць, ні панесьці за яе адказнасьць. Пры тым, што памылка — гэта цалкам суб'ектыўнае дзеяньне, якое да таго ж можа быць зламысным ці замоўленым і залежыць выключна ад волі судзьдзі.

Іншымі словамі, у нас уся судовая практыка можа складацца з адных памылак, і гэта ніякім чынам нідзе не выяўляецца.

Судзьдзя прызначаны прэзыдэнтам. Натуральна, гэта мусіць быць чалавек пэўнага складу розуму і характару. Такі, напрыклад, якім яго апісвае герой аднаго апавяданьня Антона Чэхава:

„Судовая памылка пры цяперашнім судаводзтве вельмі магчымая, і нічога ў ёй няма дзіўнага. Людзі, якія маюць службовыя, дзелавыя адносіны да чужой пакуты, напрыклад, судзьдзі, паліцыянты, лекары, зь цягам часу, у сілу звычкі, загартоўваюцца да такой ступені, што хацелі б, ды ня могуць ставіцца да сваіх кліентаў інакш, як фармальна; з гэтага боку яны нічым не адрозьніваюцца ад му-

жыка, які на задворках рэжа бараноў і цялят і не заўважае крыві.

Вось жа пры фармальным, бяздушным стаўленьні да асобы, для таго, каб невінаватага чалавека пазбавіць усіх правоў стану і прысудзіць да катаргі, судзьдзю патрэбнае толькі адно: час“.

Час? Дык вось дзеля чаго гэтыя бясконцыя перапынкі ў нашым судзе. Пакуль я задаваўся пытаньнем: навошта месяцамі марнуецца столькі часу і рэсурсаў, сам працэс, які адбываецца не ў судзе, а ў сыстэме, аказваецца і ня думаў спыняцца. Ён ідзе. І хто б мне сказаў пра гэта, калі б ня Чэхаў:

„Толькі час на выкананьне сякіх-такіх фармальнасьцяў, за якія судзьдзям плацяць заробак, а затым — усё скончана. Шукай потым справядлівасьці ў гэтым маленькім, брудным гарадзішку, за дзьвесьце вёрстаў ад чыгункі! Дый ці ня сьмешна разважаць пра справядлівасьць, калі ўсялякі гвалт сустракаецца грамадзтвам як разумная і мэтазгодная неабходнасьць, і ўсялякі акт міласэрнасьці, напрыклад, апраўдальны прысуд, выклікае цэлы выбух незадаволенага, помсьлівага пачуцьця?“

„Палата нумар шэсьць“

Калі службізм яшчэ зразумелы мне, дык прымірыцца з Чэхавым і патлумачыць ягонай цытатай чаканыя на працэсе ашмянскіх мытнікаў прысуды, цяжэй. Можа таму, што сучасны мэгаполіс Менск так не падобны да патрыярхальнага расейскага „гарадзішкі“ XIX ст. за дзьвесьце вёрстаў ад чыгункі. І таму, што зь дзяцінства нас вучылі ня ставіцца да сваёй справы фармальна. Дый няма ў мяне адчуваньня, што публіка ў нас уся пагалоўна прагне гвалту.

Але на дапамогу Чэхаву ўжо сьпяшаецца Леў Талстой — чалавек з той самай рэальнасьці („Уваскрасеньне“):

„У тым жа і памылка, што мы звыкліся думаць, што пракуратура, судовыя людзі ўвогуле — гэта нейкія новыя лібэральныя людзі… Гэта чыноўнікі, заклапочаныя толькі дваццатым днём. Ён атрымлівае заробак, яму трэба чым болей, і гэтым і абмяжоўваюцца ягоныя прынцыпы. Ён каго хочаце будзе абвінавачваць, судзіць, прысуджаць… Я заўсёды кажу спадарам судовым, …што не магу без удзячнасьці бачыць іх, таму што калі я не ў турме, і вы таксама, і мы ўсе, дык толькі дзякуючы іхнай дабрыні. А падвесьці кожнага з нас да пазбаўленьня асаблівых правоў і да белых мядзьведзяў — самая лёгкая справа“.

Салжаніцын і ўвогуле дабівае сваёй іроніяй:

„Ды апраўдальны прысуд— гэта ж эканамічная бязглузьдзіца! Гэта ж значыць, што і інфарматары, і апэратыўнікі, і сьледзтва, і пракуратура, і ўнутраная ахова турмы, і канвой — усе працавалі ўхаластую“.

У нашай юрыдычнай літаратуры шмат спасылак на расейскія рэаліі XIX ст. — як на нешта актуальнае, але няма спасылак на сучасную прававую і судовую практыку тых краін, якія мы называем разьвітымі і пасьпяховымі. Бо там насамрэч закон вышэйшы за ўсё, а гэта мяняе ўвесь характар жыцьця грамадзтва. Там працэсы адбываюцца ў судзе, а не ў сыстэме.

У судовым сэнсе мы сёньня жывем у Расейскай імпэрыі пазамінулага стагодзьдзя, хоць вось ужо сто гадоў, як мы там не жывем. Інакш словы Чэ-

хава, Талстога, Салжаніцына не гучалі б настолькі пазнавальна.

Кажучы, што гэта ня так, мы падманваемся дэкарацыямі, тантамарэскамі — зьнешнімі рэаліямі навакольнага сьвету, які стаў іншым. Але ўнутраная сутнасьць службовых асобаў не зьмянілася. Яны, у сваю чаргу, таксама падманваюцца гэтай розьніцай у часе і зьнешніх рэаліях. Калісьці гэты падман дакладна акрэсьліў францускі пісьменьнік Клёд Адрыян Гельвэцый:

„Інквізытар, які асудзіў Галілея, напэўна, ставіўся з пагардай да зладзейства і тупасьці судзьдзяў Сакрата“.

Алесь Юркойць бываў у Рыме, дзе судзілі Галілея. Яны зь сябрам проста селі на машыну і паехалі ў Італію па беларускіх і ня толькі мясьцінах. Заехалі ў Падую да Скарыны, у Флярэнцыю, Геную, Монтэ-Касіна…

Галілея судзілі за тое, што Зямля круціцца вакол Сонца, а не наадварот. Праз 400 год Юркойця судзяць за тое, што як мытнік спраўна выконваў свае абавязкі, а як асьветнік пашыраў беларускую мову, культуру, веды з гісторыі. За тое самае.

**Н.Д.**

„Давай, афармляй яго“. Вам даводзілася чуць гэтае словазлучэнне на свой адрас? Не важна з якой нагоды, не важна за што. За парушэнне правіл дарожнага руху, за ўдзел у грамадскай акцыі пратэсту ці за сапраўднае злачынства, ці наогул ні за што. Але калі да вас яго ўжылі і вас пачынаюць афармляць, то адбываецца наступнае: у гэты самы момант у вачах афарміцеля са звычайнага невядомага чалавека вы

ператвараецеся ў аб’ект афармлення. А з аб’ектамі цацкацца не выпадае.
Гэта словазлучэнне быццам тумблер на два палажэнні: выкл/укл. Да таго, як гэты загад прагучаў, тумблер быў на „выкл“ — вы былі ў цемры, вы былі нечым незразумелым, недасяжным, шматгранным; пасля афармлення вы пераходзіце на рэжым „укл“; цяпер вы зразумелы для фармуліроўкі, дасяжны, асвечаны фармальным святлом прававых тэрмінаў. Афарміцель глядзіць на вас пільным вокам ацэншчыка быдла, а ў галаве трымае форму, у якую вас неабходна ўвагнаць. Яму трэба выбраць тыя з вашых слоў і ўчынкаў, якія пад гэтую форму павінны падысці, толькі іх і нічога болей, астатняе яго не цікавіць, яго не зацікавіць, якой формы былі расколінкі на шкле вокнаў у вашым дзіцячым садку, праз якія вы глядзелі на вонкавы свет, чакаючы, калі вас забярэ нехта з вашых родных. Фармальна яго не зацікавіць нават калі вы Папа Рымскі. Хаця нефармальна яму зразумела ж будзе прыемна за куфлем піва пахваліцца перад калегамі, што ён аформіў самога Папу.
Вы вокам не міргняце, як у працэсе афармлення вашы будзённыя напалову рацыянальныя, а то і зусім машынальныя словы і дзеянні аформяцца ў склад злачынства і будуць падведзены пад фармуліроўку. Так вас сфармуліруюць, а пасля гэтага вы ўжо перастанеце належаць толькі сабе. Фармальна ўсе мы — да каманды „давай, афармляй яго“ — нефармалы. А пасля працэсу афармлення мы сфармуляваныя, падагнаныя, зразумела пададзеныя, і з пункту гледжання фармальнасці — чыстыя і бездакорныя. Турэмшчыкі і вязні з гэтага пункту гледжання зусім не антаганісты і не супрацьлеглыя метафізічныя цэнтры супрацьстаяння, яны ўжо на адным баку, бо яны сфармуляваныя, праўда, розным чынам, адныя праз статут, другія праз КК. Небяспеку тут уяўляе той, хто яшчэ застаецца не сфармуляваны, той, хто яшчэ на „выкл“.

## ДЗЕЙНЫЯ АСОБЫ І ВЫКАНАЎЦЫ

10 лютага 2017

У п'есе гэты разьдзел заўсёды першы. Але ў нашым выпадку выканаўцаў трэба было распазнаць, бо што б вам далі напачатку прозьвішчы сьледчага, пракурора і судзьдзі працэсу, якіх у краіне адбываюцца тысячы.

Першым выйшаў на сцэну астравецкі кадэбіст Аляксандар Сухоцкі, які арыштаваў Юркойця. Натуральна, рэпрэсаваць Алеся як беларускага асьветніка, чым ён так моцна раздражняў Сухоцкага, той ня мог. Таму арыштаваў і завёз у менскую „Амэрыканку", здаў калегам — як мытніка, каб далучылі да акурат насьпелае справы Каменнага Логу. Гэтую гісторыю Юркойць апісаў у лістах да сяброў — ужо з турмы.

Які герой, такі і подзьвіг. Ніякіх іншых дасягненьняў Сухоцкага на ніве дзяржаўнай бясьпекі нашай дарагой Бацькаўшчыны я не знайшоў. Аднойчы ён віншаваў астравецкіх пажарнікаў з 160-мі ўгодкамі „пажарнай службы Рэспублікі Беларусь", якія ў 2013 годзе адзначаліся 25 ліпеня. Нічога асаблівага, апроч таго, што дата падалася мне кур'ёзнай. Што такога адбылося з пажарнікамі 25.07.1853?

Аказваецца, Менская гарадзкая дума і губэрнскае праўленьне разгледзелі пытаньне „О новом устройстве в Минске пожарной команды и утверждении штата оной", што, у сваю чаргу, было вынікам прынятай у сталіцы Расейскай імпэрыі „Нормальной табели составу пожарной части в

городах“. З гэтага нібыта і пачалася гісторыя беларускай пажарнай службы.

Як і з многімі афіцыйнымі датамі, тут шмат пытаньняў. Гарадзкая дума прыняла дакумэнт „о новом устройстве“, значыць, было і старое? А падумаўшы — хіба ў нас з пажарамі пачалі змагацца толькі пасьля далучэньня да Расейскай імпэрыі?

Астравец ніколі ў Менскую губэрню не ўваходзіў, уваходзіў у Віленскую. Увогуле ад першай летапіснай згадкі (1468) і на працягу ўсёй сваёй гісторыі ён арыентаваўся на сталіцу Вялікага Княства Літоўскага. Нават сёньня, калі Вільня ўжо чвэрць стагодзьдзя аддзеленая візавай мяжой, тутэйшыя людзі часьцей адчуваюць сябе вільнярАмі, чым „мінскачАмі“ (так тут кажуць).

Сымбалічна, што апошняй асьветніцкай справай Юркойця быў фэст памяці Кастуся Каліноўскага, нацыянальнага героя Беларусі, кіраўніка паўстаньня, якое сапраўдным пажарам успыхне праз дзесяць гадоў пасьля таго расейскага ўказу і будзе скіраванае якраз на тое, каб больш у Беларусі расейскіх указаў не было.

Наступны выканаўца — сьледчы КДБ Канстанцін Бычак, які і склаў справу пра арганізаваную злачынную групу на Ашмянскай мытні. Тут, безумоўна, маштаб! Мільёны даляраў, тысячы фураў, паўсотні арыштаваных, і ўсё з падачы самога прэзыдэнта…

Між тым, быў у Канстанціна і яшчэ адзін скачок — калі ў якасьці сьледчага УКДБ па Віцебскай вобласьці ён дапытваў затрыманых у справе Плошчы 2010 году — масавага пратэсту супраць фальшаваньня вынікаў прэзыдэнцкіх выбараў. Трэба

меркаваць, што тады ён і пераскочыў зь Віцебску ў сталіцу.

У біяграфіі Канстанціна ёсьць і дробныя шкоды дэмакратычным актывістам (дапытваў жонку Кіркевіча, не аддаваў палітыку Лябедзьку пашпарт), і гучная справа ксяндза Лазара з Барысава — таксама мутная і таксама, дарэчы, з падачы Лукашэнкі, які абвінаваціў сьвятара ў сувязі са шпіёнам.

Адзін з двух пракурораў на працэсе, старэйшы — Аляксандар Андрэеў — запомніўся журналістам з суду былога гендырэктара менскага хакейнага „Дынама“ Суботкіна, якога асудзілі на пяць гадоў турмы, хоць нішто не паказвае ні на цяжкасьць злачынства, ні на шкоду хоць каму, ні на тое, што падсудны ўяўляе зь сябе небясьпеку для грамадзтва. Апроч таго, Суботкін сплаціў інкрымінаваную яму суму, і ўсе чакалі, што, па аналёгіі зь мэнэджэрам таго самага клюбу Беражковым, якога таксама арыштавалі за крадзеж, яго адпусьцяць. Не адпусьцілі. Выглядае, што з усіх мераў стрыманьня Андрэеў найбольш палюбляе турэмнае зьняволеньне.

Дзьмітрыя Супруна прэзыдэнт прызначыў на пасаду судзьдзі толькі ў траўні 2015 году, і чымнебудзь запомніцца ён яшчэ не пасьпеў. Скончыў Акадэмію кіраваньня, працаваў памочнікам пракурора. Найбольш яркі эпізод у кар’еры на сёньняшні дзень — адхіліў хадайніцтва аб вызваленьні Юркойця з-за крат пасьля таго, як жонка Алеся трапіла ў аварыю і трое малых дзяцей засталіся бяз догляду.

Выканаўцы роляў уставілі твары ў тантамарэску, а фатограф бачыць толькі яе невялікі фрагмэнт, бо ахапіць усю адным кадрам немагчыма. Яна цягнецца кудысьці і зьнікае за межамі гэтай судовай

сцэны, каб зьявіцца на іншай сцэне ў іншым судзе (усяго іх пяць), дзе таксама ўставілі свае твары іншыя сьледчыя, пракуроры і судзьдзі – і там таксама фатографы здымаюць свае фрагмэнты.

Тантамарэска адна, але ўбачыць яе цалкам можна толькі ва ўласным уяўленьні — і пра яе, і пра тых, хто яе такую і зь якой мэтай задумаў і стварыў.

# ВЕРУ — НЯ ВЕРУ

20 лютага 2017

Зразумела, што многія „факты“ ў судзе так і ня будуць даказаныя. Гэта проста немагчыма. Адзін кажа — даваў, другі — не даваў, а былі толькі ўдвух, бязь сьведак. Якой-небудзь фота-аўдыё-відэафіксацыі ў матэрыялах справы няма.

Чым жа будзе кіравацца судзьдзя, выносячы сваё рашэньне? Дапусьцім, няма (бо не павінна быць) карпаратыўнага інтарэсу рэпрэсіўнай сыстэмы. Дапусьцім, няма (бо не павінна быць) простага загаду зьверху. Чым кіравацца? Тым, што аднаму ты паверыў, а другому не?

Выглядае, што фактар даверу ключавы і ня толькі для гэтага суду. Але чым тады рэглямэнтуецца давер?

У крымінальным заканадаўстве такога панятку няма. У юрыдычнай літаратуры сустракаюцца такія тлумачэньні: „Калі асуджаны апраўдвае давер суду і сваімі паводзінамі даказвае выпраўленьне, то пасьля сканчэньня гэтага тэрміну пакараньне не прыводзіцца ў выкананьне“. Гаворка пра адтэрміноўку. Аказваецца, які важны — давер судзьдзі. Праўда, паўтаруся, у Крымінальным кодэксе ён не зафіксаваны. Таму фактар судовага рашэньня, які можа быць галоўным, — фантомны.

У цяперашняй справе забойцы з бэнзапілой, які ў гандлёвым цэнтры „Новая Эўропа“ забіў адну і параніў дзьвюх жанчын, пытаньня даверу-недаверу няма, бо няма праблемы віны — злачынца ўсё прызнаў і пашкадаваў, што забіў мала людзей, паабяцаў

пры магчымасьці забіваць яшчэ. Цяпер пытаньне толькі ў адным — колькі прызначыць судзьдзя — пяць гадоў ці дзесяць ці пятнаццаць.

Беларускамоўны мытнік Юркойць кажа, што ніякіх даляраў ад Чэпіна не атрымліваў і атрымліваць ня мог ні пры якіх абставінах. А пытаньне стаіць тое самае — колькі прызначыць судзьдзя — пяць гадоў ці дзесяць ці пятнаццаць.

Табліца фураў, складзеная сьледчым КДБ, за афармленьне якіх мытнікі, нібыта, атрымлівалі ад начальства грошы, і блытаныя паказаньні Чэпіна (то даваў, то не даваў) — гэта ўсяго толькі вэрсіі, якія пакуль нічым не пацьверджаныя. Якраз яны даверу не выклікаюць. Прынамсі, яны не замінаюць давяраць Юркойцю.

Можа быць, недавер выклікаюць нейкія асабістыя якасьці Юркойця або ягоныя паводзіны да арышту, у турме ці на судзе? Але судзьдзя бачыць, хто перад ім, і, думаю, з уласнага досьведу можа разгледзець чалавека, што за ён. Можа быць, у гэтай візіі судзьдзі мільганула нейкая стрэмка, што дазволіла адмовіць Юркойцю ў даверы, засумнявацца ў ягонай сумленнасьці? Якая?

Заўважу, што гаворка ідзе пра тую „крупінку“, ад якой урэшце і залежыць галоўнае рашэньне. Тое, чым завершыцца працэс.

Усе, хто характарызаваў Юркойця, казалі пра яго толькі станоўчае. Ніводнай прычыны, з-за чаго б яму не давяраць, з ранейшага і цяперашняга жыцьця не прыводзілася. Адзінае, што адзначалі былыя калегі, што чалавек ён своеасаблівы. — Чаму своеасаблівы? — пытаўся судзьдзя. — Бо заўсёды па-беларуску гаворыць.

Ці гэта можа быць прычынай для недаверу?

Пра давер судзьдзі і пракурора да падсуднага можна прачытаць у псыхолягаў. Для таго, каб давер стаў магчымым, вы павінны бачыць перад сабой чалавека прыстойнага, шчырага, з пачуцьцём справядлівасьці.

Я не пытаюся, ці ёсьць у судзьдзі і пракурора падставы ня бачыць Юркойця такім. Я пытаюся — якія?

Калі ж давяршыць паралель паміж забойцам з бэнзапілой і мытнікам Юркойцем, давядзецца задаць пытаньне: ці бачыць беларускі суд розьніцу паміж сумленным (пакуль, прынамсі, так) грамадзянінам і маньякам-забойцам (ужо так)?

Давер суду да падсуднага мае і другі бок — давер падсуднага (грамадзян) да судовай сыстэмы. Калі ў судзьдзі гэты давер безумоўны і бесстаронньні (пакуль нічым не падарваны), дык і ў грамадзтве ён такі самы, і грамадзтва жыве больш даверліва і адкрыта.

..........................................................

**А. Мізула**

Юркойць, чалавек сумленны і адказны з вялікай боллю і перажываннямі за Радзіму.

**Марыся**

Вот как бывает, парень взял пилу и пошел убивать людей осмысленно, и ему суд присудит ну лет 10, и тому таможеннику, который ни в чем не виноват, тоже могут дать 10 лет, а то и больше, так где же справедливость.

# ГАЛАВА ПРАФЭСАРА ДОЎЭЛЯ

23 лютага 2017

Раніцай 28 лютага ў судзе скончыцца зацягнуты больш чым на два месяцы перапынак.

Сярод заяўленых раней судовых падзеяў — допыт мытнага начальніка Дзьмітрыя Карповіча, таго самага, які праз падначаленага Чэпіна нібыта перадаваў для падначаленага Юркойця грошы. Непасрэдна Юркойцю не перадаваў, таму асаблівай інтрыгі тут няма. Юркойць ад пачатку адмаўляе ўсё гэта як паклёп. З Чэпіным інакш.

У 2015 годзе, седзячы ў СІЗА, Чэпін кажа, што Юркойцю не перадаваў, і просіць праверыць яго на „дэтэктары хлусьні“.

У 2016-м Чэпін сьцьвярджае, што — перадаваў, і зноў настойвае на праверцы на паліграфе.

Сказана — зроблена. Як мы чулі з матэрыялаў справы, сьледчы КДБ двойчы спраўджваў Чэпіна на паліграфе. Праверка 2016 году паказала, што Чэпін ня хлусіць. А вынікі праверкі 2015-га згубіліся…

Як згубіліся?

На просьбу адваката суд запытаў у КДБ матэрыялы гэтых праверак. І вось чакаецца, што на працэсе вынікі будуць агучаныя.

Паліграф. Сама гэтая штуковіна выклікае мяшанае пачуцьцё насьцярожанасьці і павагі — як перад навуковай фантастыкай.

Немудрагелістая машынка, здольная пранікаць у гушчары чалавечае падсьвядомасьці. Магія словаў „дэтэктар хлусьні“ заварожвае, як тое „пазалаці

ручку“ з вуснаў цыганкі. Ніхто толкам ня ведае, як яно працуе, а пры тым — навука!

Скрынка з дроцікамі быццам жыве сваім апрычоным жыцьцём і выклікае трымценьне ня толькі ў публікі, але і ў высокага суду. Ну проста галава прафэсара Доўэля. Цыганку суд слухаць ня стане, а адрэзаную галаву слухае з затоеным дыханьнем — як тое і адбылося ў аднайменным рамане фантаста Аляксандра Бяляева.

Сам Бяляеў прызнаваўся, што твор пра жывую галаву бязь цела, — амаль аўтабіяграфічны, бо пісьменьнік цяжка хварэў і час ад часу існаваў нібыта асобна ад свайго цалкам абязводжанага цела. „Галава“, між іншым, выйшла ў адзін год з „Працэсам“ Кафкі і „Сабачым сэрцам“ Міхаіла Булгакава (1925), як па іроніі — таксама пра перасадку, толькі ня ўсёй галавы, а гіпофіза, і таксама, як па іроніі, — галоўны герой там Паліграф (Паліграфавіч).

(Хоць без іроніі заўважу, што першы сэрыйны паліграф быў выпушчаны толькі праз дзесяць гадоў, у 1935-м, а прозьвішча аўтара гэтага дзіва — Кілер.)

Сучасны „дэтэктар хлусьні“ складаецца з апарата і псыхоляга, і хто/што тут больш важнае — ніхто ня ведае. Апарат складаецца з блёка, да якога падлучаныя датчыкі і які, у сваю чаргу, падлучаны да кампутара з адмысловай праграмай. Датчыкі вымяраюць: дыханьне — на грудзях, дыханьне на брушыне (дыяфрагма), электраправоднасьць скуры, крывацёк, сардэчны рытм, артэрыяльны ціск. Калі й гэта не дае выніку, ёсьць яшчэ дыванок з датчыкамі пад „пятую кропку“ і дыванок пад ногі. Хібнасьць паліграфа — 20%. Так лічыцца.

Калі ўсе гэтыя датчыкі начэпленыя на вас і вы пасаджаныя ў крэсла, пачынаюцца „ніякія“ пытаньні — як цябе завуць, у якім горадзе мы знаходзімся цяпер, за вакном дзень ці ноч (гэта — для каліброўкі абсталяваньня)… і раптам: „Ты перадаваў Юркойцю грошы? Га?“. І глядзяць на рэакцыю арганізма — скача там што ці ня скача…

Канчатковы вынік называюць „інтэрпрэтацыяй паліграфоляга“ (ён жа псыхоляг) і адносяць да ўскосных доказаў, якія выкарыстоўваюцца ня столькі як доказы, колькі для арыентацыі сьледзтва і суду.

Сеціва не было б сецівам, калі б не прапаноўвала мноства спосабаў „падмануць паліграф“. Пішуць, што працэдура ўвогуле мае сэнс, калі аб'ект ставіцца да яе сур'ёзна. Таму раяць быць пафігістам альбо выпіць перад тым літар вады альбо засунуць у чаравік канцылярскую кнопку.

Калі ж уявіць сабе базавую (зь дзяцінства) боязь перад адрэзанай і пры тым жывой прафэсарскай галавой, пасьля накласьці на гэта „мэтады фізычнага ўзьдзеяньня на допытах у КДБ“, зьверху — груз рэальнага турэмнага тэрміну, які над табой вісіць, калі няма дзе ўзяць той літар вады ці канцылярскую кнопку, — цяжка адчуваць сябе пафігістам.

Ёсьць і іншы бок справы — міт пра ўсемагутнасьць паліграфа. „Дэтэктары хлусьні“ каштуюць нятанна і прыносяць спэцыялізаваным фірмам добры даход. Гэты бок разам з паліграфолягамі, натуральна, прасоўвае думку пра беспамылковасьць свайго прадукту.

Гэта ўсё літаратура мастацкая. А што кажа пра паліграф літаратура юрыдычная? У прыватнасьці, заканадаўства Рэспублікі Беларусь? Уласна ў

кодэксах сказана пра выкарыстаньне матэрыялаў апэратыўна-сьледчай дзейнасьці. Паліграф сярод іншага як бы маецца на ўвазе, але не называецца.

У адмысловай інструкцыі для МУС пра „дэтэктар хлусьні“ сказана, што вынікі апытаньня на паліграфе маюць „вероятностный характер“.

Што гэта значыць? У расейскім вікіслоўніку даюцца тры значэньні гэтага важкага слова: датычны да ўстанаўленьня верагоднасьці; датычны да тэорыі верагоднасьці; заснаваны на дапушчэньні, здагадцы.

Помніце дыялёг пракурора з Чэпіным? — Што вы перадавалі Юркойцю? — Там скрутак паперы быў. — Вы бачылі, што там грошы? — Не. — Адкуль вы ведаеце, што там былі грошы? — Гэта маё дапушчэньне. Здагадваўся.

Але „Прысуд ня можа быць заснаваны на здагадках“ (Артыкул 16 КК).

# АПЭРАЦЫЯ ПРЫКРЫЦЬЦЯ

24 лютага 2017

Сёньня, пакуль мы чакаем аднаўленьня свайго працэсу, у абласным судзе зноў згадалі пра два мільёны пад Сарумянцавай ваннай.

Абвінавачаньне кажа, што гэта — хабар, які паўсотні мытнікаў атрымлівалі на працягу пяці гадоў. Але калі гэтыя грошы атрымалі і патрацілі, дык як яны апынуліся пад ваннай?

Сам Сарумянц кажа, што грошы яму пакінуў на захаваньне літоўскі партнэр. А сьледзтва ўдакладняе, што пакінуў — на хабары мытнікам „за бесьперашкодны пропуск кветкавай прадукцыі“. На будучыя хабары?

Гэтая гісторыя так узбудзіла майго знаёмага Майстра з тэхнічным складам розуму, што аж прымусіла яго ўзяць таксі і прыехаць да мяне дадому.

Мы адразу заселі ў сталоўцы за кавай.

— Прыкрыцьцё, — сказаў Майстар, — вось што часьцяком спадарожыць злачынству. У вялікім і малым. Як, да прыкладу, Гітлер прыкрываў канцэнтрацыю войскаў на мяжы з СССР сваімі нападамі на Англію і іншыя заходнія краіны.

Ці як паказальна „бяздарнае“, на думку многіх, атручэньне Скрыпалёў супрацоўнікамі ГРУ (4.03.2018), — падумалася мне, — магло быць апэрацыяй прыкрыцьця многіх іншых схемаў гэтага самага ГРУ, пра якія мы не даведаемся ніколі. Прынамсі, так трактуюць заходнія аналітыкі.

— Лёгіка насамрэч адваротная той, якую разглядае суд, — сказаў Майстар. — Тыя два мільёны

ішлі не ў Беларусь, а зь Беларусі. Яны ўвогуле ня маюць дачыненьня ні да Беларусі, ні да мытнікаў. Гэта чужыя грошы.

Майстар задаволена абвёў позіркам пакой, падглядаючы, як не цярпіцца мне паслухаць працяг.

— Вы, напэўна, ня раз чулі, што з Расеі вывозяцца грошы за мяжу. На неабдымных прасторах гэтай краіны ў масавым парадку даюцца і бяруцца адкаты і хабары. Ясная рэч, гатоўкай і, ясная рэч, неафіцыйна. Тое, што і называецца карупцыяй. Уявіце сабе нейкага ўмоўнага „Абрамовіча“, які купляе сабе яхты і ангельскі футбольны клюб.

Пра вываз грошай я ня толькі чуў, але чуў ад самога расейскага чынавенства высокага роўню. Але прозьвішча бізнэсоўца прымусіла мяне перабіць суразмоўцу:

— Юркойць калісьці мне расказваў пра Абрамовічаў. Гэты шляхоцкі род калісьці валодаў Варнянамі, і Алесь нават прыдумляў, як пад гэтую марку запрасіць Рамана Абрамовіча, каб „уклаўся“ ў мястэчка і ягонае разьвіцьцё. Жарты жартамі, але на знакавым узроўні магло і спрацаваць. Праўда, так жартам і скончылася.

— Такіх абрамовічаў у Расеі шмат, — сказаў Майстар. — І ясна, што гэта не цяжкім мазалём зробленыя мільёны. Вось іх і перапраўляюць за мяжу і там легалізуюць, кладуць на рахункі. Але ж гатоўку трэба неяк пераправіць на Захад. Для гэтага існуюць каналы дастаўкі, кур’еры і „вокны“ на самой мяжы. Цалкам можа быць, што ваш Сарумянц і быў такім кур’ерам.

— Але пры чым тут „кветкавы працэс“? — зьдзівіўся я.

— Па сутнасьці ні пры чым. Гэта ўсяго толькі апэрацыя прыкрыцьця. Грошы ідуць вялікія, самі разумееце, на шармачка тут разьлічваць не даводзіцца. Калі спытаюць — што за мільёны і чые яны, трэба адказваць — гэта грошы фірмачоў на хабар мытнікам за хуткі пропуск машын.

— Але ж некаторыя мытнікі самі кажуць, што атрымлівалі грошы?

— Вядома, атрымлівалі. Ня ўсе паўсотні, думаю, значна менш. Сарумянц даваў сваім калегам — мытным начальнікам і прасіў, каб тыя давалі падначаленым. І, пажадана, на тэрыторыі самой мытні, пад відэакамэрамі. Помніце, вас гэта зьдзіўляла?

— А тыя бралі?

— Бралі, зноў жа, ня ўсе. Бралі тыя начальнікі, у каго былі сяброўскія дачыненьні з Сарумянцам, бралі тыя мытнікі, што нячыстыя на руку, кідкія на халяву, бралі ад боязі страціць працу — гэта ж начальнік дае грошы, а ты ад яго залежны. А самае галоўнае, нічога за гэта не патрабавалася рабіць, значыць, і нічога злачыннага ў гэтым быць ня можа. Так была задуманая апэрацыя прыкрыцьця — каб менавіта гэтай справай заняліся, а не „Абрамовічамі“.

Майстар пераможна паглядзеў на мяне. Я тым часам пасьпяшаўся задаць пытаньне пра наступную нявыкрутку.

— Рэч у тым, што мытнікі, якія прызналіся ў хабары, кажуць пра некалькі эпізодаў, калі ім давалі па 100 ці 300 даляраў. Але калі скласьці ўсе гэтыя грошы разам, усё адно ў параўнаньні з двума мільёнамі сума будзе нікчэмная. Ясна, што гэтыя грошы трэба будзе кампэнсаваць, таму чым менш,

тым лепш. А зь іншага боку, калі ўжо прызналіся, дык трэба казаць пра ўсё, інакш якое гэта супрацоўніцтва са сьледзтвам?

— Яны столькі і бралі, — сказаў Майстар. — Больш бы ім ніхто й ня даў. Іх трэба было „мазануць“, але не „замазаць“. А каб суму „нацягнуць“ да патрэбнай, і была прыдуманая „кветкавая прадукцыя“ — чатыры з паловай тысячы машын, былі прыцягнутыя паўсотні мытнікаў, многія зь якіх так і не зразумелі, што зь імі адбылося. А яны са сваёй „арганізаванай злачыннай групай“ і гэтым судом папросту выканалі ролю прыкрыцьця, калі ўся ўвага КДБ, прэзыдэнта і грамадзкасьці была скіраваная на гэтых „хабарнікаў“.

— Ага, тут жа ўсплыў і палітычны складнік — добры прэзыдэнт пакараў гэтых дрэнных мытнікаў, якіх і так асабліва ніхто ня любіць. Такія працэсы танізуюць грамадзтва, мацуюць рэйтынг кіраўніка. Але каму гэта ўсё трэба і хто ад гэтага выйграў?

— Выйграў умоўны „Абрамовіч“. Ну забралі два мільёны, ну пасадзілі кур'ера. Што „Абрамовічу“ тыя два мільёны. А да лёсу беларускіх мытнікаў яму і ўвогуле справы няма. Ён можа й ня ведае пра гэты працэс. Самае галоўнае, не ўсплыло ягонае імя і тое, як ён вывозіць грошы за мяжу.

Цяпер уся схема выглядала больш-менш лягічна. КДБ „накрыў“ нейкую эпізадычную частку на пераправе расейскіх карупцыйных грошай за мяжу, але саму пераправу не чапаў, перакінуўшы сваю ўвагу на схему прыкрыцьця і раскруціўшы справу мытнікаў.

— Іншая рэч, — сказаў Майстар, — што і гэта можа быць толькі бачная нам частка пірага.

# СУД ПАЦЁК

28 лютага 2017

Проста ў залі суду — капель. Тут прыбралі некалькі лавак для „присутствующих“, іх месца пасярод памяшканьня займае імправізаванае вядро, зробленае з плястыкавай 5-літроўкі, у вядро са столі манатонна падае кропля.

Юркойць ізноў з густой барадой і лысым чэрапам. Відаць, адсталі з прымусовым галеньнем.

— Падобны да абрэка, — кажа мне на вуха кінарэжысэр Алег Дашкевіч. — Рыхтык каўкаскі горац. Але ня з лысіны і барады, а з позірку найперш.

Судзьдзя чытае даведку з КДБ пра апытаньне Чэпіна на паліграфе. Але ўвесь сэнс дакумэнту, бадай, застаўся ў даце працэдуры — 23 ліпеня 2015 году. Чэпін тады сказаў, што нікому з калег грошы не перадаваў. Нас тут цікавіць Юркойць, бо толькі на паказаньнях Чэпіна і трымаецца ягоная нібыта віна.

Паліграфоляг робіць заключэньне, даслоўна: Чэпін перадаваў камусьці з супрацоўнікаў грошы. Гэта значыць, Чэпін хлусіць. Але што значыць камусьці? Чаму ў яго не спыталі пра Юркойця, бо менавіта ён тут важны суду? Верагодна, схема „Чэпін супраць Юркойця“ ў 2015 годзе яшчэ не цікавіла сьледчага, яна зьявіцца ў 2016-м. Па выніку — гэта на Юркойця доказаў недастаткова.

На яго і яшчэ на Курневіча, Швінту, Тадэвуша Высоцкага — тых, якія не прызналі, што бралі грошы.

Другі эпізод гэтага дня — экспэртыза голасу Курневіча з „праслушкі“ тэлефоннай размовы. Судзьдзя бубніць некалькі цытат, экспэрт сьведчыць, што ў адным эпізодзе ёсьць голас Курневіча, але з кім ён размаўляе, высьветліць не ўяўляецца магчымым. Пра што размаўляе, дадам, таксама.

Працэс у Партызанскім судзе, аднавіўшыся пасьля двухмесячнага перапынку, доўжыўся толькі гадзіну і быў зноў перапынены з фармулёўкай — за недастатковасьцю доказаў. Гэтым разам — на месяц.

Прычына дзіўная, бо сьледчы два гады зьбіраў доказы. Увесь гэты час людзі, якія не прызналі сябе вінаватымі, сядзелі і працягваюць сядзець у турме.

Пасьля абвяшчэньня перапынку „за недастатковасьцю доказаў“ – у залі суду пачулі вокліч маці Курневіча: Ды што ж гэта такое, доказаў няма, а яны сядзяць! Выпусьціце іх!

Драматызм воклічу ці то падкрэсьлівала ці то тушавала манатонная кропля. Часам разам з бубненьнем судзьдзі гэта ўсё нават нагадвала нейкія рытмы: бу-бу-бу КАП бу-бу-бу КАП…

А па сутнасьці проста настае вясна — таксама працэс, толькі працэс ажыўленьня, аднаўленьня, адраджэньня. І гэты працэс паказвае нам, што не падуладны ніякаму суду.

.................................................................

**Ананім**

Звар'яцець...

**праўнік**

Аўтар хіба нешта не дачуў. Можа пракурор папрасіў перапынак для перапрад'яўлення абвінавачвання? Суд не можа абвесціць перапынак у працэсе „за недастатковасцю доказаў“. З такой фармулёўкай выносяцца апраўдаўчыя прысуды.

**Дубавец**
Пракурор сказаў літаральна: „О недостаточности представленных доказательств“.

**праўнік**
Во бачыце — пракурор сказаў. А з вашага тэксту вынікае, што гэты перапынак быў ініцыятывай самога суду. Цяпер мне прынамсі зразумела, што там адбылося —пракурор папрасіў перапынак для ўдакладнення абвінавачвання. Хаця вядома гэта ўсё падкрэслівае той факт, што следства працавала кепска і няякасна.

**Кнут**
Отсутствие доказательств это тоже результат, по которому выносится оправдательный приговор. Всего можно было ждать от суда, но такого....?!

**Винт**
Получается, Чепин солгал на полиграфе в 2015, а следователь его после этого отпустил домой. Ничего лучшего в суде сочинить не могли?

**Litwin z Abol’cau**
Swabodu Aliesju Jurkojcju! Chopic’ z’dziekau nad kul’turnym czalawiekam!

## АБМЯРКОЎВАЛІ ГЕНАЦЫД У РУАНДЗЕ

2 сакавіка 2017

Кожнага разу ў залі суду на хвіліну прымушаю сябе стаць адвакатам д'ябла і задаюся пытаньнем: павінна ж быць хоць нейкая віна, каб два гады трымаць людзей у турме.

Віна? А што такое віна?

Журналіст Віктар Федаровіч камэнтуе мой папярэдні артыкул: „Хабар бралі абраныя. Начальства частку аддавала намесьнікам, каб тыя пакінулі сваю долю і падзяліліся з шараговымі інспэктарамі. Да шараговых грошы не даходзілі. Не было сэнсу дзяліцца: інспэктары проста выконвалі сваю працу. На сьледзтве начальнікі і намесьнікі проста абгаварылі невінаватых людзей…

Хабары былі на верхнім узроўні мытні, у гэтым няма сумневаў. За што? Як ні дзіўна: за непасрэднае выкананьне сваіх абавязкаў па апэратыўным афармленьні грузаў… Шкоды для РБ не было… Усім мытнікам адразу пасьля затрыманьня прапаноўвалася прызнацца і назваць «падзельнікаў». У абмен на хатні арышт або падпіску. Хто адмовіўся, бо не адчуваў віны, той дагэтуль сядзіць“.

Здавалася б, панятак віны — краевугольны камень усяго крымінальнага працэсу і павінен быць сфармуляваны выразна і адназначна. Твая віна — перад кім? Скажам, ты прычыніў камусьці шкоду, ты вінаваты. У нашым выпадку мытнікі вінаватыя, нібыта, перад дзяржавай. Але ж „шкоды для РБ не было“. І гэта сапраўды так — матэрыялы справы пра шкоду маўчаць.

Увогуле віна перад дзяржавай, у перакладзе на юрыдычную — злачынства супраць дзяржавы, у нашым выпадку ўсяго толькі алегорыя. Як з тым блогерам Лапшыным, які, на думку Азэрбайджану, наведаўся ў Нагорны Карабах і тым самым парушыў дзяржаўную мяжу. З гледзішча Армэніі, якая кантралюе спрэчную тэрыторыю, ён нічога не парушаў. Вось і скажы пасьля гэтага — у чым віна блогера-падарожніка?

Тэма экстрадыцыі Лапшына зь Беларусі ў Азэрбайджан толькі ўспыхнула была ў беларускіх СМІ, але зараз жа яе перакрылі гучнай дэпартацыяй ва Ўкраіну пісьменьніка Сяргея Жадана. Пра Лапшына, які апынуўся ў бакінскім СІЗА, забылі.

На „Валадарцы" Аляксандар Лапшын сядзеў у адной камэры з Алесем Юркойцем і пазьней напіша пра гэта ў сваіх успамінах у Жывым Журнале, за што яшчэ пазьней атрымае прэмію Францішка Аляхновіча — за турэмную літаратуру:

„Мы зь ім правялі ў адной камэры менскага СІЗА-1 каля месяца. І я вам магу сказаць, што гэта адзін з найлепшых людзей, што я ведаў у жыцьці. Надзвычай цікавы і адукаваны чалавек.

Мы абмяркоўвалі генацыд тутсі ў Руандзе, руска-японскую вайну 1905 году, рэлігію (ён каталік) і атэізм, чалавечую подласьць і мужнасьць. У значнай ступені Алесь зрабіў мяне і іншых хлопцаў у камэры моцнымі. Цяпер я бачу ягоны спакойны твар на судзе, добрую ўсьмешку, і я разумею, што ён вышэй за ўсё гэта. Ён вышэй за сваіх судзьдзяў, вышэй за натоўп пагоньнікаў, вышэй за ўсіх тых, хто забівае краіну.

Алесь, брат, трымайся! І дзякуй табе, Лукашэнка, што падарыў мне магчымасьць сустрэць у жыцьці ТАКІХ людзей зь вялікай літары“.

Хацеў бы я паслухаць дыялёгі Лапшына зь Юркойцем. Першы аб’езьдзіў 120 краін, другі — заўзяты географ, цікаўны да ўсяго на сьвеце. А яшчэ абодва гаваркія. Ці мераліся яны віною — у каго большая?

# „Мая віна, мая вельмі вялікая віна“

6 сакавіка 2017

Крымінальны кодэкс РБ мяне прыгаломшыў. Артыкул 21. „Віна і яе формы“:

(Крымінальнага кодэксу РБ на дзяржаўнай беларускай мове не існуе ў прыродзе. Таму, каб нічога не наблытаць, цытую гэты фрагмэнт „у арыгінале“.)

„Вина — это психическое отношение лица к совершаемому общественно опасному деянию, выраженное в форме умысла или неосторожности“.

Пакінем у баку „умысел“, „неасьцярожнасьць“ і „небясьпечнае для грамадзтва дзеяньне“ — пра гэта на нашым працэсе не было ні слова. Але што такое віна? Калі гэта цалкам суб’ектыўныя („псыхічныя“) адносіны чалавека да таго, што ён робіць, дык якую ягоную віну тады выясьняе суд? Як і хто „псыхічныя адносіны“ абвінавачанага можа прызнаць або не прызнаць?

Артыкул КК адсылае маё ўяўленьне далёка ад Дому правасудзьдзя — у нядзельны касьцёл, які сотнямі галасоў паўтарае „Мая віна, мая вельмі вялікая віна“.

Тэма разьвіваецца ў артыкуле 24 КК. „Віна ў злачынстве, не зьвязаным з наступленьнем наступстваў“:

„В преступлении, для наличия которого не требуется наступления общественно опасных последствий, форма вины устанавливается по отношению лица к общественно опасному деянию“.

Зноў — усё залежыць ад маіх адносін да таго, што я нібыта зрабіў. А як і кім „устанавливается“ форма маёй віны, калі я пра свае адносіны нікому не казаў? Ці калі не адчуваю я ніякай віны ў тым, што мне інкрымінуюць, бо нічога такога не рабіў?

Для параўнаньня, у КК РСФСР вызначэньня віны няма, там адразу: вінаватым прызнаецца той… Затое расейская вікіпэдыя кажа пра глыбіню разуменьня віны і зьвязвае тую глыбіню з культурным узроўнем удзельнікаў працэсу…

Ох, меў рацыю Майстар, калі казаў, што лепш бы правам займаліся тэхнары, а не гуманітарыі, бо ў тых шруб — гэта шруб, а не „такая шэрая штучка з палосачкамі“.

Дарэчы, пасьля апошняй сустрэчы я атрымаў ад Майстра ліст, дзе ён працягнуў тую сваю думку:

„Адсутнасьць падвойных стандартаў у дакладных навуках зьвязаная з адным з асноўных прынцыпаў — ізатрапіі. Гэты прынцып азначае, што для ўсяго існага законы дзейнічаюць аднолькава. Прасьцей сказаць, на нас усіх законы аказваюць аднолькавае ўзьдзеяньне. (Напрыклад, гравітацыя.) У навуцы ўсё падпарадкаванае гэтаму прынцыпу.

Калі паглядзець на сьвет вачыма Альбэрта Эйнштэйна, карціна выглядае так:

— „Навука без рэлігіі кульгавая, рэлігія без навукі сьляпая“.

— „… законы не ствараюць, іх адкрываюць. Іх трэба тлумачыць, каб паясьніць сэнс волі Бога, адзінага сапраўднага заканадаўцы“.

Эйнштэйн меркаваў, што Бог наш настаўнік, а мы ягоныя вучні. Выкладчык дае нам матэрыял на тэму заняткаў, і калі мы яго засвоілі добра, тады ён

пераходзіць да наступнае тэмы. Калі ж матэрыял ня вывучаны, тады да наступнага матэрыялу шлях закрыты.

Сыходзячы з гэтае лёгікі зразумела, чаму так хутка разьвіваюцца фізыка, хімія і іншыя прыродазнаўчыя навукі. Цяпер вернемся да балючага: палітыкі і права. Урок на тэму „Ізатрапія“ не засвоены. Хоць парасткі ёсьць, у Канстытуцыі запісана, што ўсе перад законам роўныя. Але настаўнік ацэньвае, як зразуметы матэрыял ня толькі паводле ведаў, але і паводле ўжываньня атрыманых ведаў. Вось з выкананьнем закону аднолькавасьці — дрэнна, таму і разьвіцьцё гэтых сфэраў дзейнасьці (палітыкі і права) застаецца на ўзроўні сярэднявечча“.

Канец цытаты.

Значыць, законы трэба адкрываць, а не прыдумляць іх, ставячы сябе ў тантамарэску Бога. Тады ня будзе такіх фармулёвак, як зь віной.

Калі ж падысьці да справы са шрубам, а не са штучкай, дык віна — гэта проста злачынства. У юрыдычнай літаратуры нязьменна цьвердзіцца, што „ускладаньне адказнасьці… безь віны крымінальным правам не дапускаецца“.

У чым віна „непрызнантаў“ на гэтым працэсе?

Нават з гледзішча КК РБ, г. зн. „псыхічных адносінаў іх да ўчыненага імі дзеяньня“ сытуацыя выглядае неадэкватна, бо пра сваe „псыхічныя адносіны“ Юркойць заявіў яшчэ ў першы дзень суду: „Я не разумею, што я тут раблю“.

Але ніхто яму не растлумачыў.

# АДДЗЕЛ „Y“ ЗАБІРАЕ СПРАВУ Ў АДДЗЕЛА „X“

7 сакавіка 2017

Дарэчы, не пасьпеў я ўчытацца ў Майстраў ліст, як ён ізноў завітаў да мяне, каб распавесьці працяг сваёй колішняй здагадкі пра апэрацыю прыкрыцьця.

Тады, два месяцы назад, я яшчэ ня ведаў дэталяў гэтае вэрсіі, а галоўнае — ня ведаў, што абласны суд, які цяпер пачаў працаваць поўным ходам, нават і ня думае высьвятляць сувязь паміж двума мільёнамі пад ваннай і хабарамі мытнікаў за „кветкавую прадукцыю“.

Мы ізноў сядзелі ў мяне ў сталоўцы, і я спытаў пра самае незразумелае — а навошта апэрацыя прыкрыцьця? Хто і што менавіта прыкрывае працэсам ашмянскай мытні?

— Спрацавала схема „крышаваньня“ каналу перапраўкі грошай дзяржаўнымі структурамі, — упэўнена сказаў Майстар. — Мінулы раз вы зрабілі дапушчэньне, што гэта расейскія грошы, грошы ўмоўнага „Абрамовіча“.

„Крышаваць“ — як гэта будзе па-беларуску? Страхаваць (ад слова страхА)? Неяк занадта прыстойна гучыць, хоць гаворка пра злачынную дзейнасьць. Але ў сярэднявечных рамесьніцкіх брацтвах была нават такая пасада — страшны брат. Не ад таго, што ён такі жахлівы, а ад таго, што пільнаваў страху цэха ад пранікненьня пабочных.

Майстар тым часам працягваў:

— Расейскія грошы ў вашай вэрсіі выглядаюць вельмі патрыятычна, але праўда, можа быць, і ў іншым. Магчыма, гэта і беларускія адкаты, якія перапраўляюцца за мяжу. А ў каго ў вас такія адкаты? Правільна, у людзей пры ўладзе. А якая ўлада? Аўтарытарная, гэта значыць, маналітная і наглуха закрытая. І грошы, якія чыноўнік „навары̆ў“ на рэканструкцыі дарогі пасярод зімы, яны як бы дзяржаўныя.

— У нас і сам чыноўнік з усімі ягонымі вантробамі — уласнасьць дзяржавы, — уставіў я свае пяць капеек. — „Государевы люди“. Яны самі сябе так называюць.

— Так-так, — кіўнуў Майстар. — І ўвесь працэс рэалізацыі гэтых грошай, напрыклад, на будаўніцтве ўласнага палаца ці на перапраўцы грошай за мяжу — крышуецца ці, як вы кажаце, страхуецца чыноўнікамі сілавых ведамстваў, таго самага КДБ. Увесь аграмадны дзяржаўны апарат строга падкантрольны толькі аднаму чалавеку — прэзыдэнту. Думаю, ён ведае, хто і за якія грошы будуе сабе палац, а хто перапраўляе за мяжу гатоўку, каб яе там „адмыць“. Ведае, але да часу „не заўважае“.

Ага. І пасьля прыходзіць час, калі кампрамат запускаецца ў дзеяньне. Але ўсё гэта настолькі зраслося адно з адным, што стала адзіным арганізмам. І канал перапраўкі грошай „крышуецца“ людзьмі КДБ як нешта само сабой зразумелае, як карпаратыўны абавязак.

Сапраўды, колькі ні намагаесься глядзець на дзяржаўныя структуры як на нармальныя функцыяналы, штодзённыя факты яўна незаконнага ўзбагачэньня чыноўнікаў сьведчаць пра іншае. Там,

унутры гэтай, як называе яе блогер Севярын Кватkоўскі, карпарацыі, даўно страцілі сорам, прычым гэта лічыцца нормай, „усе ўсё разумеюць“.

— У ашмянскай справе ёсьць тры канкрэтныя нявыкруткі, — сказаў Майстар. — Першая — „чамадан“ Сарумянца і „кветкі“ Высоцкага. Другое. Чаму на працягу пяці (!) гадоў ніхто не чапаў мытнікаў-„хабарнікаў“. Трэцяе. Чаму ў працэсе разглядаюцца падзеі ня ўсіх пяці гадоў, а збольшага толькі аднаго — 2014-га. Цяпер давайце разглядаць у заяўленым парадку. „Чамадан“ Сарумянца зьвязалі з „кветкамі“ Высоцкага, каб аб’яднаць гэтыя дзьве незалежныя адна ад адной падзеі ў адну справу. Для чаго? Тлумачэньне можа быць толькі адно — для таго, каб справа „чамадана“ зьнікла, выпарылася.

Майстар зрабіў паўзу, а я падумаў, што сапраўды, няма такой справы — пра два мільёны пад ваннай. Ён працягваў:

— Глядзіце. Дапусьцім аддзел КДБ „X“ накрывае пераправу грошай у Літву. А аддзел КДБ „Y“ крышуе (дазвольце ўсё ж ужываць крымінальнае слова) гэтую пераправу. Як аддзелу „Y“ забраць справу „чамадана“ ў аддзела „X“? Самы просты спосаб — аб’яднаць дзьве справы ў адну. Для гэтага прадугледжаная справа Ігара Высоцкага з кветкамі. Яна як бы вісіць у апэратыўнай распрацоўцы на выпадак правалу кур’ера. Сарумянца з грашыма затрымлівае аддзел „X“, узьнікае небясьпека, што ўся праўда пераправы грошай з пэўнымі прозьвішчамі ў часе сьледзтва ўсплыве на паверхню. Сарумянц просты кур’ер і ён ня ведае ўсёй схемы. Ён ведае толькі дзьвюх пэрсон: хто дае грошы і каму аддаць

грошы. Але калі пацягнуць за гэтыя нітачкі, можна выцягнуць на сьвет белы і ўсю схему.

Майстар уважліва ўгледзеўся ў збанок з кветкамі на стале і сказаў:

— Каб гэтага не адбылося, аддзел „Y“ запускае справу Высоцкага. Паведамляюць пра гэта прэзыдэнту, раскладваюць перад ім грошы і распавядаюць вэрсію пра хабары. Прэзыдэнт дае каманду вывесьці мытнікаў на чыстую ваду. Атрымаўшы такую магутную падтрымку, аддзел „Y“ упэўнена забірае справу ў аддзела „X“. Аддзел „X“ вымушаны справу аддаць. Аддзелу „Y“ трэба неяк патлумачыць такую вялікую колькасьць грошай. І яны спрабуюць зрабіць гэта за кошт масавасьці. Чым больш падазраваных у справе, тым лепш. Арыштоўваюць групу Высоцкага і да яе імкнуцца дадаць як мага болей шараговых і нешараговых супрацоўнікаў мытні.

— Вы лічыце, што КДБ займаецца крышаваньнем?

Майстар паківаў галавой, як бы зь лёгкім дакорам маёй наіўнасьці.

— Вы ўлічыце, што ў „пасылках“ вялікія грошы, дастаткова вялікія, каб перапраўляць іх без сур’ёзнага прыкрыцьця. А ў вас у Беларусі іншай структуры, якая б магла зрабіць такое сур’ёзнае крышаваньне, папросту няма. Хутчэй за ўсё, сам гэты канал быў арганізаваны аддзелам „Y“ і аддзел „Y“ мае сваіх людзей на мытні. Натуральна, ніхто зь іх арыштаваны ня быў.

— Выходзіць, гэта тыя людзі, якія на працягу пяці гадоў „зьлівалі“ інфармацыю ў аддзел „Y“? А гэта значыць, што суд судом, а канал пераправы як працаваў, так і працуе на беларускай мяжы?

— А вы думаеце, чаму масавыя працэсы мытнікаў адбываюцца ў Беларусі з такой пэрыядычнасьцю? — задумліва сказаў Майстар.

Сапраўды, падумаў я, і ў мяне перад вачыма паўстала лічба „5“. Пяцігодка. Менавіта з такой больш-менш пэрыядычнасьцю адбываюцца мытныя працэсы. Значыць, наступнага можна чакаць у 2020-м?

**Кнут**

Жесть. Но похоже на правду. Если до сих пор нет внятного объяснения, что это за деньги в чемодане, значит сами в этом деле замешаны.

**Ананім**

Бред. Померь температуру. Не зацикливайся. Опытные таможенники когда что-то хотели найти, ставили себя на место подконтрольных лиц. Попробуй и все получится. Удачи.

**Винт**

В статье написано, что таможенники не хотели эти „посылки“ находить. Они работали на КГБ и выполняли их указания.

**Ананім**

nalichku v takix summax 10 let nikto uge ne vozit. v evrope uge davno ogranicheny liubye sdelki svyshe 10 000 eur. odin namek litovcam i kanal nakroyut. ne sotriasaite vozdux, pishite to cto znaete.

# САЦСПАБОРНІЦТВА Ў НКВД

9 сакавіка 2017

Як сталася так, што той, хто прызнаўся ў хабарніцтве (злачынца), гуляе на волі, а той, хто адмаўляе сваю віну (умоўна невінаваты) сядзіць у турме? Бо першы — „супрацоўнічае са сьледзтвам“.

Працэдура „супрацоўніцтва са сьледзтвам“ зьявілася ў крымінальным заканадаўстве РБ нядаўна, у 2014 годзе — на асабістае ўказаньне прэзыдэнта. У інтэрвію Радыё Свабода (2.02.1915) былы старшыня парлямэнту і міліцэйскі генэрал Мечыслаў Грыб пракамэнтаваў гэтыя папраўкі наступным чынам:

— Магчыма, у гэтых зьменах і ёсьць пэўны сэнс, але ўсё залежыць ад таго, як яны будуць выконвацца і ў чые рукі трапяць. Калі зьмяншаць чалавеку пакараньне ў абмен на супрацоўніцтва са сьледзтвам, то можа стацца, што некаторыя пачнуць гэтым карыстацца, абгаворваць іншых, каб выблытацца самім. Гэта будзе не на карысьць барацьбе са злачыннасьцю.

Сказаў як зьвязаў. Дапусьцім, уся справа ашмянскіх мытнікаў трымаецца на абгаворах і самаабгаворах. І даказаць праўдзівасьць ці хлусьлівасьць гэтых абгавораў можна толькі праз пранікліваe ўзіраньне ў асобу, характар і біяграфію чалавека. Чым суд не займаецца і, відавочна, займацца ня будзе.

Цікава, што адносна Юркойця нават думкі не прыходзіць пра „супрацоўніцтва са сьледзтвам“. І сьледчаму, напэўна, у галаву б не прыйшло такое

яму прапанаваць. Менавіта з улікам асобы, характару і біяграфіі чалавека.

Мечыслаў Грыб тлумачыць і гэтую сытуацыю:

— Ніводзін грамадзянін Беларусі на тэрыторыі нашай краіны ня можа быць прызнаны вінаватым да тае пары, пакуль ягоная віна ня будзе даказаная ў судзе і судовае рашэньне ня ўступіць у сілу. Да гэтага часу чалавек лічыцца невінаватым. Нягледзячы на тое, што ён затрыманы, знаходзіцца ў сьледчым ізалятары і гэтак далей. Пакуль па ягонай справе рашэньне суду не ўступіла ў законную сілу, ён па нашым заканадаўстве і Канстытуцыі лічыцца невінаватым. Але паводле новых зьменаў невінаватаму чалавеку прапануюць унесьці грошы, адкупіцца ад злачынства, хаця яшчэ не даказана, што ён яго ўчыняў. То бок сьледчыя органы выконваюць тут судовыя функцыі.

— Гэта ў цяперашніх беларускіх умовах можа стварыць глебу для карупцыі і новых парушэньняў правоў грамадзянаў? — пытаецца журналіст.

— Канечне! — адказвае былы генэрал міліцыі. — Я разумею так: калі падазраваны супрацоўнічае са сьледзтвам, раскайваецца, паводзіць сябе станоўча — суд можа вынесьці рашэньне з улікам гэтага ўсяго. Сказаць — калі ты кампэнсуеш страты, якія нанёс дзяржаве ці іншаму грамадзяніну, то мы табе скароцім тэрмін ці ўвогуле вызвалім ад адказнасьці. Але гэта павінен рабіць суд, а ня сьледзтва. У цэлым гэта нармальная норма, у многіх краінах сьвету так робіцца. Бо мэта — перавыхаваць чалавека, каб ён больш такога не рабіў. І калі ён у працэсе сьледзтва, суду дакажа, што зьмяніўся, кампэнсаваў страты — дык, можа, і ня трэба яго пазбаўляць волі. Але гэта

павінен вырашаць той, хто мае права судзіць. А сьледзтва ня мае права судзіць. Вось цяпер яму даюць такое права. І я думаю, гэта ня вельмі добра.

Чаму „ня вельмі добра“, Мечыслаў Грыб у тым інтэрвію ня кажа.

Да прыкладу, у Амэрыцы 90% крымінальных справаў не даходзіць да суду прысяжных, бо абвінавачаны супрацоўнічае са сьледзтвам і заключае ўгоду. Але рашэньне аб угодзе, яе парамэтрах прымае судзьдзя, а ня тыя, хто вёў сьледзтва.

Рэч у тым, што суд, як ні круці, гэта ўлада — трэцяя ў намінальным падзеле ўладаў на выканаўчую, заканадаўчую і судовую. А тут атрымліваецца — „сьледчая ўлада“ даецца ў рукі людзей, задача якіх — вызначыць падазраваных, знайсьці доказы іх віны, зрабіць гэта ў рамках крымінальнага кодэксу. Гэта нават не ў ідэале, гэта норма. А далей, таксама норма: суд ацэніць, ці добра сьледчыя зрабілі сваю справу і як разьмеркаваць справядлівасьць.

Калі ж сьледчыя самі ацэньваюць сваю працу, дык крытэр у іх толькі статыстычны: колькі накапаў, колькі пасадзіў. За сталінскім часам у Менскім НКВД было сацыялістычнае спаборніцтва паміж чэкістамі — хто больш выкрые ворагаў народу ў сваім раёне, у сваёй галіне, у самім НКВД. Даспаборнічаліся да таго, што расстралялі нават усіх сваіх начальнікаў ад 1918 да 1951 году — паўтара дзясятка старшыняў ЧК-ГПУ-НКВД (апошні, Цанава, памёр у турме).

Вось чаму на пытаньне, ці новая працэдура можа стварыць глебу для карупцыі і новых парушэньняў правоў грамадзянаў, былы генэрал міліцыі адказвае: Канечне!

Між іншым, подпіс Мечыслава Грыба стаіць пад першай Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусі. Дзе слова „канечне“ няма.

# НЯ ЎСЁ ТОЕ ХАБАР, ШТО ДАЮЦЬ

15 сакавіка 2017

Ці браў я калі ў жыцьці хабар? І ці даваў? Аказваецца, калі браў і даваў, але не ўсьведамляў, што гэта хабар, дык гэта й ня хабар зусім.

Тут як зь „няведаньне закону не вызваляе ад адказнасьці“, толькі наадварот. Няведаньне хабару — вызваляе.

Судзьдзя Менскага абласнога суду Анатоль Дабрадзей у сваім артыкуле ў часопісе „Юрыст“ (25.06.2007) прыводзіць прыклады, калі суд адмаўляўся кваліфікаваць хабар як такі.

Вось доктар К. выдаў пацыенту А. фальшывы бюлетэнь, за што атрымаў прадукты ў якасьці хабару. Паралельна К. абвінавачвалі ў атрыманьні хабару ад Ш. Аднак, пры вывучэньні справы было высьветлена, што гэта — узнагароджаньне за пасьпяховае лячэньне. Суд расцаніў першы эпізод як хабар, а другі выключыў са справы — як падзяку за выкананьне прафэсійных функцыяў К.

Між іншым, і тыя ашмянскія мытнікі, якія прызналі, што атрымлівалі ад начальнікаў грошы, расцэньвалі іх як узнагароджаньне за добрую працу. Прынамсі, дакумэнтаў яны не фальшавалі і нічога ўвогуле, што не ўваходзіла б у іхныя прафэсійныя функцыі, не рабілі.

Суд з усёй уедлівасьцю вышукваў хоць якіх парушэньняў па службе і не знайшоў. Хіба што мытнікі мелі пры сабе даляры на тэрыторыі мытні, дык па-першае, ці мелі насамрэч, а па-другое, тут хапіла б дысцыплінарнага спагнаньня.

Судзьдзя Дабрадзей кажа так: Хабар не кваліфікуецца ў тым выпадку, калі той, хто перадае грошы ці іншыя матэрыяльныя каштоўнасьці, не разглядае іх як хабар, а лічыць, што гэта правамерная перадача матэрыяльных каштоўнасьцяў.

Інакш кажучы, суд мусіць даказаць, што той, хто даваў хабар, і той, хто яго ўзяў, усьведамлялі, што гэта менавіта хабар.

Аказваецца, і паборы супрацоўнікаў ДАІ з кіроўцаў ня могуць разглядацца ў якасьці хабару ў выпадку, калі, аддаючы міліцыянту названую ім суму, кіроўца мяркуе, што аплачвае штраф за ўчыненае ім правапарушэньне. А вось калі кіроўца перакананы, што „дае на лапу“, тады гэта ўжо хабар.

Калі верыць судзьдзю Дабрадзею, дык і ніякай арганізаванай злачыннай групы на Ашмянскай мытні не было. Прынамсі што да тых інспэктараў, справу якіх разглядае Партызанскі суд.

Давайце ўчытаемся:

„Калі службовая асоба атрымала хабар, а затым перадала частку атрыманага ў якасьці ўзнагароджаньня адпаведнай службовай асобе (без папярэдняй дамоўленасьці зь ёю) у мэтах учыненьня ёю дзеяньняў у інтарэсах таго, хто даў хабар, то прызнак атрыманьня хабару групай асобаў па папярэдняй змове адсутнічае“.

Юрыст прыводзіць такі прыклад:

К. і М. выконвалі службовыя абавязкі — раскрывалі злачынствы. К. затрымаў Д. па падазрэньню ў злачынстве і на ягоную прапанову прыняў хабар, адпусьціўшы Д. без адпаведнага разбору. Далей К. перадаў палову гэтай сумы М. за тое, што ён нікому ня скажа пра тое, што адбылося. Суд выключыў з

абвінавачаньня прыкмету групы, бо тут не было змовы і грошы перадаваліся, калі атрыманьне хабару было завершанае.

Выглядае, што гэта ключавы момант, які не дазваляе суду прызнаць датычнасьць мытных інспэктараў да злачыннай групы. Зразумела, калі кожны мытнік, які прызнаўся ў атрыманьні грошай ад начальніка, кажа, што начальнік даваў яму пэрсанальна, таемна, тады і столькі, калі і колькі вырашаў сам, дык ні папярэдняе, ні, тым больш, групавое змовы тут не было і не магло быць.

Выходзіць, і групы не было.

.......................................................

**Кнут**

Чуть разобрался в этих юридических штучках. В переводе на человеческий, так как не было предварительного сговора между начальником и инспектором, то и нет группы.

**Винт**

Так как начальник не говорил, за что деньги и не просил ничего делать за передаваемые деньги, то не было и взятки.

**Алесь**

Сапраўды, усё так і ёсць. Цяжка ўявіць сабе, што трэба будзе высмактаць з пальца, каб даць-такі абвінаваўчы прысуд. Спадару Дубаўцу дзякую за дакладны разбор справы і тлумачэнні на свой розум. Важную справу робіце. Без вашых рэпартажаў ды роздумаў нават самому падумалася б: э не, то ж мытнікі, мо і было што там такое, слізкае... Але вось чытаю нататкі кожны раз і чым далей тым лепей бачу — не было анічога. Няма чаго прад'яўляць, поўны нуль.

# ТАЯМНІЦА АБРЭВІЯТУРЫ CMR

17 сакавіка 2017

Падсудны Тадэвуш Высоцкі прыгадаў канкрэтную машыну, за „бесьперашкодны пропуск“ якой ён нібыта атрымаў грошы, хоць дакладна памятае гэтую фуру і што праводзілася поўная выгрузка тавару.

Судзьдзя папрасіў праверыць, паднялі дакумэнты. І сапраўды, аказалася, выгружалі. „Бесьперашкодны пропуск“ заняў трое сутак. Аб’ектыўны доказ гэтага — CMR.

Міжнародная таварна-транспартная накладная CMR (з францускай Convention Marchandises Routiers) ёсьць на кожную з тысяч машын, якія фігуруюць у справе. Але абвінавачаным, іх адвакатам і суду гэтыя аб’ектыўныя рэчавыя доказы проста не паказалі. Пра гэта ў працэсе заявіў не адзін Тадэвуш Высоцкі.

Што ж такое гэтая загадкавая CMR? Вось што тлумачаць дальнабоям-пачаткоўцам:

„Важна ня толькі правільна запаўняць CMR, але і ўмець чытаць гэты дакумэнт. У накладной, апроч першапачаткова ўказаных зьвестак, у часе перавозкі зьяўляецца мноства пячатак і адзнак: упісваюцца нумары кантэйнэраў, плёмбаў і транзытных дэклярацыяў, указваюцца тэрміны дастаўкі грузу на мытню, час прыбыцьця, дата выгрузкі і шмат чаго іншага. Уменьне разабрацца, што да чаго, — дапаможа ў выпадку канфліктных сытуацыяў, калі трэба абгрунтаваць сваю пазыцыю ці прывесьці дакумэнтальна замацаваныя доказы“.

Інакш кажучы, накладная абавязкова адлюструе, якім чынам афармлялася фура і ці былі з боку мытнага інспэктара парушэньні.

Пры надглядзе мытнік ускрывае арыгінальную плёмбу з кантэйнэра. Па завяршэньні надгляду ён ставіць сваю плёмбу. У CMR ён ставіць ня толькі сваю асабістую пячатку, але і нумар плёмбы, якую паставіў.

Сьледчы выкарыстаў гэтыя дакумэнты „для аб'ёму“, каб нагнаць страшную суму нібыта атрыманага мытнікамі хабару. Аднак у якасьці доказу віны ці невінаватасьці мытнікаў ён гэтыя дакумэнты не выкарыстоўваў. Па сутнасьці ўтаіў.

# НЯМА ДОКАЗАЎ — НЯМА І СУДУ. А ТУРМА ЁСЬЦЬ

31 сакавіка 2017

Прыпынены месяц назад „за недастатковасьцю доказаў“ працэс сёньня ўзнавіўся і быў ізноў прыпынены на месяц — „для збору дастатковых доказаў“.

Прыпынкі на гэтым працэсе кожнага разу вяртаюць нас да формулы кафкіянскага суду, задача якога — стаць зьместам жыцьця ўдзельнікаў. Бо і тыя паседжаньні, якія адбываюцца, часьцяком праходзяць для таго толькі, каб зацягнуць час. У гэтым сэнсе яны нічым не адрозьніваюцца ад перапынкаў.

— А вы ведаеце, як доўга цягнуцца такія працэсы, асабліва цяперашнім часам! — сказалі ахоўнікі, якія прыйшлі арыштоўваць Ёзэфа К.

Тым ня менш, такога рашэньня, апроч самога суду, не чакаў ніхто. Загаласілі ў залі жонкі і маткі зьняволеных мытнікаў, запнуліся нават адвакаты. — Як гэта ня маеце думкі? — зьдзівіўся судзьдзя. Нарэшце адна адвакатка выказалася за ўсіх: — На усмотрение суда. Падсудныя ў клетцы проста ня ведалі, як рэагаваць. Адзін Юркойць ускочыў: Я супраць!

Чалавек, які сядзеў разам зь Юркойцем на „Валадарцы“, але ўжо выйшаў і цяпер прыходзіць на працэс падтрымаць Алеся, распавёў, як гэта выглядае (сам праз тое прайшоў). З шасьці раніцы падсудныя на нагах, аўтазакі прывозяць іх у суд. Суд адбываецца з 10.30 і, як сёньня, да 10.40, дзесяць хвілін. Пасьля зьняволеныя да 16-ці гадзін чакаюць

у ніжняй турме, у „стаканах“, пакуль іх не павязуць назад у СІЗА.

Вунь тыя, што прызналіся, хабарнікі значыць, тыя на свабодзе, — абураецца маці зьняволенага Курневіча — дома жывуць, ядуць сыта, гуляюць, а тыя, каго яны абгаварылі — за кратамі.

На абурэньне залі судзьдзя „суцешыў“, што больш чым на два месяцы суд перапыняцца ня можа і што пачнуць 29 красавіка.

Гэта, між іншым, працоўная субота. А далей — майскія, майскія, майскія… Яшчэ адзін перапынак.

Якія прагнозы?

Нібыта Партызанскі суд чакае вынікаў абласнога, дзе судзяць мытных начальнікаў, і які, нібыта, закончыцца ў чэрвені.

Але мне нешта падказвае, што справа тут, паперша, у тым, каб сьціхла ўвага грамадзтва да працэсу. А яна і сьціхла, пагатоў пасьля тых гучных і аблудных судовых канвээраў, якія адбыліся ў сакавіку. І, само сабой, пасьля арыштаў нібыта за „Белы легіён“, колішнюю патрыятычную арганізацыю, якая нібыта ўзнавіла дзейнасьць і рыхтавала ці то паўстаньне ці то дывэрсію (неўзабаве іх усіх выпусьцяць без тлумачэньняў і кампэнсацыі).

Па-другое, рашэньне чакаецца палітычнае — як кажа Лукашэнка — не па закону, а па справядлівасьці. Розьніца ў тым, што закон для ўсіх адзін, а справядлівасьць у кожнага свая.

І, нарэшце, па-трэцяе, шмат чаго залежыць ад ваганьняў клімату ў грамадзтве і ў дзяржаве.

Сёлета ўвесну стала зразумела, што гэтых кліматаў два. Як дзьве тантамарэскі. Упершыню з 2010 году адбыліся масавыя народныя пратэсты супраць

„дармаедзкага“ дэкрэту. Чаго раней не бывала — на вуліцы выйшла шмат пэнсіянэраў, а таксама моладзі, якая ў 2010-м была яшчэ дзецьмі. І тут яны аб’ядналіся ў адзіным памкненьні. Грамадзтва абнавілася, яно схільнае да даверу, а без даверу ня будуць працаваць ніякія законы.

Дзяржава, наадварот, замкнулася, ашчэрылася на грамадзтва, паказала яму свой кулак. Дзяржава не культывуе адкрытасьці да людзей. А калі дзяржава не імкнецца быць добрай, яна аўтаматычна робіцца злой.

**Кнут**

„Няма доказаў — няма і суду. А турма ёсьць“ — лучше не скажешь. Если почитать правовые документы, то гражданин в РБ защищен как никто. А на практике он не защищен никак. Чтобы эти законы работали, нужно: „Нет доказательств — нет задержания“.

## АДАСОБЛЕНЫ ПЭРСАНАЖ

24 красавіка 2017

У маіх допісах пра гэты суд па-за ўвагай апынуўся адзін фігурант, якога я, нібыта, і ня мусіў быў зачапіць — настолькі яго аддалілі ад астатніх. Але якраз гэты пэрсанаж — ключ калі не да „кветкавай“ справы, дык да той сыстэмы, у якой гэтая справа стала магчымай.

Выйшла так, што ў СМІ рэгулярна асьвятляюцца толькі два працэсы зь пяці. Партызанскі суд на Радыё Свабода і суд начальнікаў у абласным судзе, пра які піша „Белгазета“. Пра астатнія ўвогуле не чуваць. Дык вось, суд начальнікаў таксама апынуўся перад недахопам доказаў віны і мусіў закрыцца на месяц. Паколькі справа адна, можна цалкам дапусьціць, што ва ўсіх пяці судах тое самае.

Важны эпізод начальніцкага суду — там успомнілі пра Нівяркевіча. Самага галоўнага ашмянскага мытнага начальніка Івана Нівяркевіча асудзілі за хабар напрыканцы 2015 году на 7 гадоў, а неўзабаве адзін год скінулі, бо ён „вярнуў“ незаконна атрыманыя грошы дзяржаве.

Але чаму галоўнага начальніка судзілі асобна ад пяцідзесяці ягоных падначаленых, хоць гэта ўсё — адна гісторыя, тыя самыя грошы?

Нівяркевіч мусіць выйсьці на волю праз тры гады, а гэтыя толькі сядуць на доўгія тэрміны. І самае загадкавае, што гэтых судзяць як арганізаваную злачынную групу, а ў Нівяркевіча злачынства „індывідуальнае“. То бок, яны ўсе дзейнічалі ў скла-

дзе групы, калі насілі яму грошы, а ён, калі гэтыя грошы браў, дзейнічаў сам па сабе?

Нівяркевіч — „чалавек унікальны“ — так пісала пра яго прэзыдэнцкая газэта (16.11.2010). У 2010-м Лукашэнка ўручыў яму генэральскія пагоны, за год да суду Нівяркевіч атрымаў мэдаль „За працоўныя заслугі“, а перад тым узначальваў мытню ажно 10 гадоў, гэта значыць, урос у сыстэму з макаўкай.

І абараніць яго ад турмы сыстэма не змагла таму, што на пасадцы настаяў сам Лукашэнка: „Нават калі паводле закону ён нібыта не датычны, бо там ёсьць адказныя асобы, але ён начальнік, ён павінен кантраляваць гэтыя пытаньні і працэсы“. Напэўна, нехта пераконваў Лукашэнку, што Нівяркевіч не датычны.

Зьвяртаю ўвагу на яшчэ адно выказваньне прэзыдэнта пра закон, якое, з аднаго боку, сьведчыць, што ў Беларусі закон не вышэй за ўсё, а значыць і дзяржава ня надта прававая, а зь іншага — цягне за сабой юрыдычную адказнасьць найвышэйшай службовай асобы краіны.

Справа Нівяркевіча сьведчыць пра ўнутраную барацьбу, якая ідзе ў органах улады. Зьвернемся да бухгальтэрыі.

Суд пастанавіў спагнаць зь Нівяркевіча хабарных грошай $ 12 450 у эквіваленце. Сума, якую заплацілі сваякі за адносна мяккі прысуд $ 46 650. Сюды ўвайшлі і тыя хабарныя грошы. А астатнія за што? Улічылі загад прэзыдэнта кампэнсаваць у трох-пяціразовым памеры?

Дапусьцім. Нівяркевіч асуджаны і сядзіць. І тут пачынаюцца масавыя суды над ягонымі падначаленымі. Адзін зь іх — Гаральскі кажа, што ўсяго

заносіў начальніку грошы 15 разоў на агульную суму $30 тысяч.

Ці значыць гэта, што Нівяркевіча асудзілі асобна і ня ведалі, што скажуць падначаленыя? У тым і рэч, што ведалі.

Гаральскі быў затрыманы раней, чым адбыўся суд над Нівяркевічам, і ягоныя паказаньні ў сьледзтва ўжо былі. Гаральскі быў у гэтай тэме зь лютага 2013 году, калі ўзначаліў мытны пост, зьмяніўшы на гэтай пасадзе Фалевіча, таксама абвінавачанага ў дачы хабару. Выснова: яшчэ да суду над генэралам сьледзтва ведала пра нашмат большую суму атрыманых Нівяркевічам грошай. Большую за тую, што яму інкрымінавалі. Але гэтыя зьвесткі ў суд не патрапілі.

Атрымліваецца, што КДБ „крышуе“ Нівяркевіча. Навошта?

Былы сьледчы пракуратуры Алег Воўчак са спасылкай на інфармацыю з праваахоўных органаў, кажа, што атрыманьне хабараў было зьвязанае з расейскімі санкцыямі. Забарона на ўвоз у Расею эўрапейскіх тавараў была ўведзеная 6 жніўня 2014 году ў адказ на санкцыі Эўразьвязу, якія, у сваю чаргу, былі ўведзеныя пасьля анэксіі Крыму і пачатку вайны на Данбасе. Воўчак кажа, што забаронены тавар завозілі на беларускую мытню, тут распакоўвалі і далей пераганялі ў Расею.

Калі так, у працэсе абавязкова мусіла б хоць раз прагучаць і гэтая тэма — тэма легалізацыі (беларускія крэвэткі, памятаеце? Кветкі-крэвэткі). Легалізацыя магла б быць і нагодай для хабару, бо фірмачы зацікаўленыя ў ёй ніяк ня менш, чым у эфэмэрным „бесьперашкодным пропуску“. Але

тэма ні разу ні з чыіх вуснаў не гучала, таму і я разьвіваць яе ня буду.

Вярнуся да „крышаваньня“. Паводле статыстыкі РФ, туды за год трапляе санкцыйнага тавару на мільярд даляраў. Большая частка эўрапейскага патоку ідзе праз Беларусь. Ясна таксама, што ня дробныя кантрабандысты гэты тавар туды возяць. Бяз згоды начальніка мытні такія аб’ёмы мяжу ня пройдуць. І ясна, нарэшце, што безь „нядрэмнага вока“ КДБ гэтыя патокі праз Беларусь не працякуць.

Сыстэма працуе і надалей (а з чаго б ёй спыніцца?), а мяне ня столькі хвалююць яе ўнутраныя разборкі, колькі тое, што ахвярамі гэтых разборак становяцца іншыя — прыстойныя, ні ў чым не вінаватыя, карысныя для краіны людзі.

# „Цяжкасьць учыненага злачынства“

29 красавіка 2017

Працэс ашмянскіх мытнікаў зноў спынілі на паўмесяца.

Сьледчы КДБ Бычак прыслаў пракурору цэлы том з… апісаньнем таварна-суправаджальных дакумэнтаў, якія… ад пачатку фігуравалі ў справе. На 406 аркушах. Сьледчы правёў агляд 14 каробак з накладнымі.

Але ж ён ужо рабіў гэта для абвінаваўчага заключэньня! Зь якога перапуду ўсё гэта называецца „новымі“, а тым больш „рэчавымі доказамі“? Калі гэта самыя што ні ёсьць банальныя дакумэнты мытнага афармленьня машын?

Няхай сабе пракурор, які нацэлены на абвінавачваньне, на поўным сур'ёзе перадае гэтую шматстаронкавую адпіску судзьдзю, але судзьдзя — чаму ён дазваляе сябе публічна вадзіць за нос? І больш за тое. Судзьдзя вырашае, што з адпіскай мусяць азнаёміцца ўсе абвінавачаныя (11 чалавек) і прызначае на тое паўмесяца перапынку ў працэсе.

Проста адкласьці працэс судзьдзя ўжо ня можа, бо больш, чым на два месяцы, не дазваляе закон. Таму прыдумляецца такая вось нібыта прычына — азнаямленьне. Судзьдзя з усіх сілаў расьцягвае працэс. Памятацеце, у Чэхава, магічнае слова „час“.

Але самае галоўнае, што „новыя доказы“ самі па сабе ніякія ня доказы. Тое, што інспэктар афармляў машыны з кветкамі, сьведчыць толькі пра выкананьне ім працоўных абавязкаў. Далей ідзе „аўтарскі

тэкст“ сьледчага Бычака, які аднекуль ведае, што за ўсе гэтыя машыны бізнэсоўцы плацілі грошы начальніку інспэктара. Нават калі ўсё гэта праўда, дзе доказы таго, што інспэктар у начальніка грошы браў?

Абвінавачаны Швінта просіць даць паглядзець тыя 14 каробак, прынамсі, тыя накладныя, якія афармляў ён, каб сказаць пэўна — ён ці ня ён. Гэта задавальняецца, бо яшчэ больш зацягне працэс. Але пытаньне — чаму абвінавачаным мытнікам не паказалі гэтыя каробкі за цэлых два гады, пакуль яны за кратамі і пакуль ішло сьледзтва? — застаецца без пастаноўкі і без адказу. Ну ня веру, што ні пракурор, ні судзьдзя гэтым пытаньнем не задаюцца. Адвакаты маўчаць.

А вось абвінавачаны Тадэвуш Высоцкі просіць паглядзець паперы, якія афармляў ня толькі ён сам, але і тыя, хто працаваў зь ім у адной зьмене. Гэтую просьбу судзьдзя адхіляе. Маўляў, іншыя могуць быць не пад судом і мы ня маем права „лезьці“ ў іхныя паперы.

Казуістыка не высокага ўзроўню. Быццам справа ідзе пра нейкія асабістыя зьвесткі. Насамрэч, гэта стандартныя таварна-суправаджальныя дакумэнты на фуры з кветкамі.

Высоцкі мысьліць лягічна — а зь якога бобу-гароху яму інкрымінуюць тое, што іншаму інспэктару не інкрымінуюць, калі падставы для інкрымінаваньня могуць утрымлівацца ў гэтых паперах? Ці яшчэ варыянт — пачынаць афармленьне фуры мог адзін інспэктар, пасьля другі, а завяршаць трэці. Чаго гэта раптам начальнік даў грошы толькі аднаму?

Адмовіўшы Высоцкаму, судзьдзя адабраў у яго аргумэнты для самаабароны, а сам адназначна ўстаў на бок абвінавачаньня.

Тое самае пацьвердзілася ў эпізодзе з абвінавачаным Курневічам. Ён у дэталях разабраў заключэньне экспэртызы свайго голасу і даказаў нікчэмнасьць гэтага заключэньня („Матэрыялы не прыдатныя для лінгвістычнага аналізу з-за малога аб'ёму фонаматэрыялу“), пагатоў раней свой голас (які хацелі прыпісаць Курневічу) у гэтым запісе прызнаў ягоны начальнік Карповіч.

Але меркаваньне Курневіча ўлічваць не прадугледжана, сказаў пракурор. Тое самае паўтарыў судзьдзя. Іх нават не зацікавіў аналіз Курневіча. Нават чыста для прафэсійнага інтарэсу людзей, якія нібыта шукаюць праўду.

Яшчэ адно хадайніцтва Курневіча — пра неправамернасьць утрыманьня яго пад вартай (больш за два гады), на думку пракурора, не знаходзіць падставаў.

Пакуль судзьдзя ў адмысловым пакоі раіўся, ці вызваліць яму Курневіча, ці пакінуць у турме, мы ўсе на калідоры мелі іскру надзеі. І Зьміцер Бартосік спытаўся, чаму пра вызваленьне не хадайнічае Юркойць?

— Ня можа, — сказаў я. — Ён чалавек зь іншае опэры, і для яго з самага пачатку гэтая турма — не турма, а палон. Ён разглядае гэта ўсё зьдзіўленымі вачыма і ня можа зразумець, што ён робіць сярод людзей, пазбаўленых чалавечае годнасьці, для якіх вернасьць слову, нацыянальным каштоўнасьцям, сваёй краіне — пусты гук. І чаму яны так упарта імкнуцца ўцягнуць яго ў сваю гульню.

Зрэшты, вы памятаеце, што хадайніцтва пра вызваленьне Юркойця ўжо падавалася, калі яго жонка патрапіла ў аварыю, і было судом адхіленае. „У сувязі зь цяжкасьцю ўчыненага злачынства“.

І вось судзьдзя выносіць вэрдыкт па Курневічу: хадайніцтва адхіліць. У той самай сувязі.

.......................................................

**Марыся**

Много ошмянских таможенников на свободе, которые тоже работали на одной линии с Высоцким, и оформляли те же грузы, но стоит вопрос, почему Высоцкий на скамье подсудимых, а, например, Лежкевич дома, и многие другие дома...

**Дзед**

Расклад тут просты: начальніка, які браў грошы ў бізнесмэнаў, трэба судзіць за махлярства або вымагальніцтва, а ўсіх астатніх, хто атрымліваў грошы ад яго, — за няўплату падаткаў. Бо простыя інспектары не рабілі нічога больш як сваю звычайную працу. І за што ім начальнік даплачваў? Ну можа каго яшчэ, што не данёс на начальніка. А каб даказаць „хабар“, трэба браць у момант перадачы грошай. Грошы павінны быць мечаныя, тады можна браць злачынцу і пазней. А то муцяць два гады штосьці, каб забраць у людзей маёмасьць. А людзі то сівеюць з абодвух бакоў, дзеці растуць без бацькоў.

# ГАЛОЎНАЕ, НЯ ТРЭБА БА-БА-БАЯЦЦА

3 траўня 2017

Працэс уступіў у фазу агульнае млявасьці. Ён і пачаўся са спазьненьнем, чаго раней не бывала. Паўсотні чалавек цэлую гадзіну нудзіліся ў калідоры, пяцёра ў „стаканах". Ніхто не перапрасіў.

Адзінае, што напружвае з ранейшай сілай, — клетка. Знак небясьпекі тых, хто ў ёй, „страшных злачынцаў".

Якраз яны, у клетцы, па-мойму, тут першыя нікога і нічога не баяцца. Яны сам-насам з уласным сумленьнем. Гатовыя да канца адстойваць добрую рэпутацыю — гэта важна найперш для дзяцей. Бацька — не злачынец. Баяцца — іх. Высокі суд баіцца гэтых упэўненых у сваёй праўдзе людзей.

Неяк знаёмая судзьдзя, камэнтуючы на маю просьбу працэс, сказала, што апраўдальны прысуд у нас немагчымы, бо для судзьдзі гэта азначае страту працы і канец кар'еры. То бок, не ў мэханізьме суду справа, не ў дзяржаўнай інстытуцыі, а ў асабістым страху судзьдзі, прычым ня страху парушыць закон, а ў страху ня выканаць замову, пры тым колькі заўгодна парушаючы закон. Як вам матыў — судзейскі страх?..

— Што-небудзь „нацягваць" усё адно будуць, — рэзюмавала знаёмая судзьдзя.

Для добрай рэпутацыі ў прынцыпе ўсё адно — „што-небудзь" ці „ўсё". Рэпутацыя аднолькава замараная, бо яна — рэч бескампрамісная.

Экс-мытнік Курневіч распавёў суду, колькі разоў сьледчы КДБ падахвочваў яго абгаварыць сябе і

іншых ды выйсьці пад хатні арышт. Але судзьдзя прапусьціў гэта міма вушэй. Калі верыць маёй знаёмай, судзьдзя баіцца. Пракурор бы тут жа перапытаў: Баіцца на падставе чаго?

У законе пра суды ў РБ у першых радках сказана, што „судовая ўлада… ажыцьцяўляецца незалежна ад заканадаўчай, выканаўчай уладаў“, а ўжо ў артыкуле 7 „Парадак прызначэньня судзьдзяў“ удакладняецца: „Судзьдзі абласных, Менскага гарадзкога, раённых (гарадзкіх)… судоў прызначаюцца Прэзыдэнтам Рэспублікі Беларусь“.

У трактоўцы Канстытуцыйнага суду фармулёўка таго самага закону гучыць ужо па-іншаму: „Судовая ўлада самастойная, яна ўзаемадзейнічае з заканадаўчай і выканаўчай уладамі“. Слова „незалежная“ зьнікла.

Пра судзьдзяў сказана, што яны павінны быць добра забясьпечаныя матэрыяльна і сацыяльна, у адпаведнасьці зь іхным высокім статусам (арт. 9), а таксама — што прызначаюцца яны бестэрмінова (арт. 7), закон „Аб дзяржаўнай службе ў РБ“ удакладняе, што кантракты з судзьдзямі не заключаюцца (арт. 30). Яны як бы стаяць вышэй за гэта.

Пра страх быць звольненым пакуль не знаходжу нічога. Здавалася б, усё ў судзьдзі добра — і накормлены, і недатыкальны, і мае высокі статус у грамадзтве. Хто можа падняць на яго руку? Аказваецца, ёсьць такі чалавек. Вяртаемся ў закон пра суды, арт. 7-1: „Рашэньне пра спыненьне паўнамоцтваў указанага судзьдзі прымаецца Прэзыдэнтам Рэспублікі Беларусь“.

Калісьці даўно Алесь Юркойць распавёў мне показку пра страх.

Пажылы мужычок вучыць маладога, нявопытнага, што трэба рабіць, сустрэўшы ў лесе мядзьведзя. „Галоўнае, ня трэба ба-ба-баяцца. Вось зайшоў ты ў лес, спусьціўся ў лагчыну, а там мядзьведзь есьць з куста маліны. Твае дзеяньні, запомні. Галоўнае, ня трэба ба-ба-баяцца. Падыходзіш да мядзьведзя і г-ном яму па мордзе плясь-плясь-плясь“... „Чакай, — кажа нявопытны, — а дзе ты возьмеш г-но?“ Пажылы зірнуў глыбокім задумлівым позіркам і сказаў: „Не хвалюйся, будзе. Галоўнае, ня трэба ба-ба-баяцца“.

Здавалася б, няма нічога агульнага паміж мармытаньнем судзьдзі і заіканьнем пажылага мужычка. Але гэта толькі на першы погляд.

..................................................

**Босс**

Автор правильно пишет, лица у парней, которые в клетке, светлые, а у тех, кто под домашним арестом, действительно черные, им стыдно за то, что оговорили парней, их съедает изнутри за свою трусость и подлость.

**P.S.**

Запятнанная репутация? Кем? Людьми, которые из желания выслужиться растеряли все человеческие качества? При таком отношении пора менять понятие о запятнанной репутации. Она у тех запятнана, кто, спасая собственную шкуру, готов идти на любые оговоры. У тех, кто не объективно разбирается в деле, а по принципу: задержали — надо посадить. Спасибо автору, что время идёт, а вы все освещаете процесс. Отдельное спасибо, что и в других ребят, кроме Алеся, поверили. И главное — не бо-бо-бояться!

## Кнут

Кто-нибудь верит в справедливость суда в РБ? Или в то, что следователь ищет истину? Это к вопросу о страхе. Все боятся, поэтому зло существует.

# МЭТА АДНА — ПРЫЗНАЛЬНЫЯ ПАКАЗАНЬНІ

16 траўня 2017

Атмасфэра ў Доме правасудзьдзя яшчэ тая. Як на пахаваньні. Толькі там ужо ўсё скончылася, а тут цягнецца ў нашым выпадку трэці год запар.

Турма як часовая сьмерць. Сядзіш пасярод гэтага ўсяго і думаеш: вось для чаго жыве чалавек? Для радасьці, творчасьці, любові. І каб дарыць гэта ўсё іншым. Выходзіць, тыя, хто захапіў інспэктараў у палон, жывуць для чагосьці іншага? Замест радасьці ў іх — безэмацыйная пустата, замест творчасьці — рутына, замест любові — страх.

Але ці варта для гэтага жыць і, пагатоў, навязваць гэта іншым? Няўжо гэтаму вучыла іх мама, і яны цяпер вучаць сваіх дзяцей?

Сёньня публіцы чарговы раз паказалі чужое шоў: чатырох опэраў з мытнага аддзелу барацьбы з кантрабандай, якіх даставілі на працэс у кайданках. Яны ўсіх „нашых" ведаюць, але праходзяць у іншым разьбіральніцтве ў іншым, Заводзкім судзе. Таму пра „нашых" мы за ўвесь дзень чарговы раз не пачулі нічога. Адно што „нашы" маглі задаваць ім пытаньні і што на поўны голас гучала тэма катаваньняў у КДБ.

Першым прывялі старэйшага опэрупаўнаважанага Кардымона, які сходу адмовіўся даваць паказаньні. У такіх выпадках зачытваюць паказаньні з допытаў на сьледзтве. Палезьлі ў матэрыялы справы. Кардымона дапытвалі ў красавіку 2016 году. І

што? І там адмова. „Спасіба, дасьвіданья“ — сказаў судзьдзя.

Другі — у такім самым рангу, з прозьвішчам Шчыкно. Па-беларуску, мабыць, усё ж ШчЫкна. Просіць зачытаць хадайніцтва. Судзьдзя — ок. Здымаюць кайданкі, дастае з партфэля паперы. Проста сыпле спасылкамі на Крымінальна-працэсуальны кодэкс, зь якіх вынікае, што ён ня можа быць дапытаны ў гэтым судзе ў якасьці абвінавачанага, бо ён абвінавачаны ў іншым працэсе, бо яго не знаёмілі са справай, што разглядаецца ў гэтым судзе, бо ягоныя паказаньні могуць выкарыстаць супраць яго і ўвогуле парушаюцца ягоныя канстытуцыйныя правы.

Пракурор: Дык ён згодны даваць паказаньні ці адмаўляецца? Судзьдзя: Мы ня ў праве ацэньваць вашы паказаньні. Юркойць: А ў якім статусе яго будуць дапытваць?

Ладна, угаварылі. Будзе даваць паказаньні ў няясным статусе затое ў ясных кайданках.

У Шчыкно быў канфлікт з Букелем. Не з начальнікам, а з аднафамільцам зь іхнага аддзелу. Букель прадаў яму дарагую машыну, не сказаўшы, што яна з дэфэктам. І праз месяц дарагая машына, як кажуць на Астравеччыне, каўкнула. А што да грошай за хуткі пропуск фураў, дык ні яму не давалі, ні ён нікому не даваў, пра такія выпадкі ня ведае дый увогуле гэта ў прынцыпе немагчыма.

Зноў пачынаецца лікбез суду пра спэцыфіку мытнай працы.

— А ці мог інспэктар дагледзець 30 адсоткаў фуры, калі яму было загадана дагледзець 100? — Гэта немагчыма.

І яшчэ два дзясяткі пытаньняў у тым самым духу.

І тут з клеткі задае пытаньне падсудны Швінта: Скажыце, а ці аказваўся на вас ціск з боку КДБ?

Арыштоўвалі Шчыкно дома, пачынае ён доўгі расказ, на вачах жонкі і дзяцей. Арыштоўвалі груба, накінуўшы на галаву мяшок. У аўтобусе кінулі ў праход на падлогу. Зьверху на яго паклалі Пашкоўскага. Білі. Патрабавалі сьпяваць, прысядаць, ставілі на калені. Доктар у СІЗА задаў толькі адно пытаньне: Ці ёсьць сінякі?

Катаваў падпалкоўнік Данілаў.

Юркойць: Гэта той самы, што катаваў мяне. Рукасты.

Швінта: А чаго яны ад вас дамагаліся?

Шчыкно: Прызнальных паказаньняў на сябе і на іншых.

Трэці госьць — той самы Букель, які загнаў таварышу бракаванае аўто. Кажа пра незаконнасьць ягонага допыту (паўтарае Шчыкно). Шматлікія спасылкі на КПК суд прапускае міма вушэй. Ня хочаш казаць, зачытаем паказаньні ў часе сьледзтва. І тут пачынаецца. Чытаюць.

Начальнік аддзелу Якуценка прасіў пэўныя машыны правяраць як мага хутчэй і за гэта даваў грошы. „Помню, была машына з касьцюмамі для ролевых гульняў“ — нейкі збой у сцэнары, бо дагэтуль п’еса была толькі пра „кветкавую прадукцыю“. Грошы даваў і нейкі Канстанцін з Масквы — за свае фуры. Грошы даваў і Сарумянц. Букель браў і палову аддаваў Якуценку. Дзіўна, чаму не наадварот — як ва ўсіх іншых?

Букель памятае свой „навар“ за машыну… з мэбляй. Прозьвішчаў усё больш, і пачынаеш разумець, што пайшоў яўны „замаз“. У дрэннага танцо…

артыста белыя ніткі проста паперлі з усіх швоў. Букель браў грошы і дзяліў іх з калегамі ў аддзеле, пры гэтым прасіў „не праяўляць цікавасьці“ да машын з кветкамі.

Праўда, сумы і колькасьць выпадкаў ніяк ня цягнуць на „асабліва буйны памер“. Бачна, што калі гэта і не абгавор, дык пэўныя мытнікі „прымазваліся“ грашыма. Цікава, чаму Букеля не адпусьцілі пад хатні арышт? Замалую прызнаў суму, ці што? Стаіць у кайданках. І пра катаваньні ў яго не спытаеш. Бо даваць паказаньні тут і цяпер ён адмовіўся.

Пашкоўскі, чацьвёрты. Высокі і руды, у чорнай куртцы з капюшонам.

Юркойць: Ці надзявалі вам супрацоўнікі КДБ мяшок на галаву? — Пашкоўскі: Я сам надзеў. Яны далі, сказалі: на, надзень. Я надзеў. — Колькі вы прабылі ў мяшку? — З гадзіну. Зьнялі толькі ў будынку Астравецкага КДБ. — Ці клалі вас у аўтобусе ў праходзе на Шчыкно? — Так. Гэта ўжо ў аўтобусе да Менску. Спачатку я ляжаў на Шчыкно, потым паставілі на калені і так стаяў да канца дарогі.

Швінта: А як вы думаеце, зь якой мэтай яны гэта рабілі?

Пашкоўскі: Мэта адна — прызнальныя паказаньні.

**Кнут**

Дубовец не все издевательства рассказал, а жаль. Эйзенхауэр водил немцев в Бухенвальд показать, что делал их Фюрер. Следовало бы подробнее описать, что делал Данилов, чтобы мама прочитала, какого сына воспитала.

**павал**

Друзья Мои! Посмотрите на колличество людей в клетке (5) и колличество „адвокатов“ — 8! Получается, что на каждого обвиняемого приходятся почти 2 адвоката!!

**Дачакалася**

Даўно чакаю, хто напіша нешта такое... Бо ўся карысьць адвоката ў тым, каб наведаць вязьня дзеля яго настрою, ды нейкую навіну родзічам пераказаць. УСЁ. Далей хто што ні балбачы..., бясправуе. Лішку казаць будзеш — ліцэнзію забяруць і ты ўжо не адвокат. А гэту самую ліцэнзію ня так лёгка атрымаць. Якое вялікае жаданьне маем жыць у прыгожым, але прыдуманным сьвеце.

**Гэля**

Павал! Сначала читайте внимательно, а потом пишите свои комментарии. По делу проходят обвиняемые, находящиеся как под стражей, так и под домашним арестом. Соответственно, это адвокаты всех обвиняемых.

**Босс**

Правильно пишете, какой адвокат поможет, там уже все всем написано, только мучают семьи, вытягивая деньги, жены берут кредиты, страдают дети, и всё зря, помощи никакой.

**Марыся**

Правосудие, какое правосудие, кого судим — убийц, маньяков, наркоманов, там большая часть невиновных парней, а те, кто действительно виноваты, дома сидят, как мыши, боятся. И как только так получилось, что они проходят только как свидетели, очень странно, наверное были осведомителями, раз их не взяли, и мешков им на голову не одевали, не били, а квартирки в минске своим деткам покупляли, и дома выстроили, эти свидетели. Их надо брать за одно место и то срочно, куда смотрит КГБ.

# З ТВОРЧАЙ ЛЯБАРАТОРЫІ КДБ

17 траўня 2017

Сёньня старшыня Мытнага камітэту Юры Сянько на прэс-канфэрэнцыі ў Палаце прадстаўнікоў заявіў, што ня ведае, ці вінаватыя ягоныя мытнікі ці не. Маўляў, хай суд разьбіраецца. То бок, ён на сябе адказнасьці не бярэ. А чаго браць, калі гэта не ягоная справа, а „дело рук“ КДБ? Інакш кажучы, высокі дзяржаўны чыноўнік заяўляе, што віна падначаленых не даказаная, тым ня менш яны трэці год сядзяць у турме, а пракурор называе іхнае „злачынства“ асабліва цяжкім.

Цяпер пра тое, як „разьбіраецца суд“.

Разьбіраецца прыглушаным мармытаньнем: пракурор і судзьдзя чытаюць тэкст пасьпешліва адным сьцягам, без прабелаў і інтанацыяў, а да ўсяго яшчэ і ў нос: гугібугігугібугігугібугі. І так на працягу ўсяго працэсу.

Мытны аддзел барацьбы з кантрабандай, які судзяць у Заводзкім судзе, да мытных інспэктараў у Партызанскім ня мае дачыненьня, гэта асобная структура. Таму за гэтыя два дні мы ня ўбачылі ніякай сувязі з „нашымі“ мытнікамі. Ні факту, ні намёку.

Затое мы апынуліся ў творчай лябараторыі КДБ, дзе і намалявалі ўсю гэтую тантамарэску.

У тэме фігуруюць начальнік аддзелу Якуценка, ягоны намесьнік Шыраеў і опэры Дашчынскі, Букель, Кардымон, Шчыкно і Пашкоўскі. Першыя трое на волі, пад хатнім арыштам, другія чацьвёра ў наручніках у турме.

Першыя чатыры віну прызналі (няясна толькі, чаму Букель у наручніках), другія тры — цалкам адмаўляюць. Кардымон увогуле ў глухой абароне, ні разу не даваў ніякіх паказаньняў. Між іншым, адзіны тут, хто паводзіць сябе строга паводле Канстытуцыі — ня ён мусіць даказваць сваю невінаватасьць, а суд мусіць даказваць ягоную віну.

Шчыкно і Пашкоўскі ўчора далі паказаньні, адказвалі на пытаньні, распавялі пра катаваньні ў КДБ. Выглядае, што гэтых абгаварылі. Бо калі б яны бралі грошы, чаму б ім гэтага не прызнаць, а не праводзіць трэці год жыцьця ў турме? Скажаце, добрае імя даражэйшае? Згодны. Але не для таго, хто бярэ хабар. Той мае зусім іншыя рысы характару, іншую мараль і іншыя каштоўнасьці, чым нейкае там добрае імя. Для таго не скарыстаць шанец яўкі з павіннай і ня выйсьці на волю — як ня ўзяць халяўных грошай.

Першыя чацьвёра далі прызнальныя паказаньні на сябе і на іншых. І вось якая тут утварылася інтрыга.

Паказаньні далі, са сьледзтвам супрацоўнічаюць, але тут, на працэсе, паказаньні даваць адмовіліся. Усе чацьвёра, адзін па адным, адна схема. У такім выпадку зачытваюцца (тым самым панамарскім чытаньнем) іхныя паказаньні, дадзеныя на сьледзтве. Абвінавачанаму ня трэба нічога казаць. Прыйшоў, прадставіўся, паслухаў і пайшоў. Да пабачэньня. Скажаце, чаму? Вы ж прызналіся, супрацоўнічаеце, дык раскажыце ў дэталях — калі што і як было і што вы самі пра гэта думаеце? Не. Ні слова.

Ну як падсудны можа адказваць на пытаньні? Гэта ж значыць, разьвіваць сваю легенду. А калі яна

не ягоная, ня ім прыдуманая? І рэч тут ня ў беднай фантазіі — з гэтым, думаю, праблемы няма. Рэч у тым, наколькі ўбога скляпаныя іхныя легенды. Хацеў бы, не разаўеш.

Кодавае слова, па якім лёгка пазнаць „прызнанта“ — „ня помню“.

Якуценка, былы начальнік гэтага аддзелу: Грошы браў у Сарумянца, Башлыкевіча і Высоцкага. Перадаваў сваім падначаленым. Не асабіста раздаваў, а праз кагосьці аднаго. Праз каго — ня помню. Гэта мог быць Букель.

Букеля, здаецца, яны ўсе ня любяць і ціха радуюцца, што ён хоць і паказаў на іншых, але застаецца ў турме.

„Ня помню“ стаіць заўсёды на тым месцы, дзе мусілі быць іх ідэнтыфікацыйныя словы, дэталі, рыскі, тое, што характарызавала б канкрэтнага чалавека. Як адбіткі пальцаў. Ня важна, што гэта пратакол. У сытуацыі перадачы хабару істотная любая дэталь, бо ўдзельнічаюць у працэсе як мінімум двое. А тут — „ня помню“. У выніку іхныя легенды выглядаюць як адна тэкставая „рыба“, дзе пустоты індывідуальнасьці прыкрытыя гэтым самым „ня помню“.

„Прызнанты“, як правіла, паказваюць на „прызнантаў“. Але ёсьць выключэньні, якія заслугоўваюць асобнага разгляду. Гэтак Чэпін паказаў на Юркойця. І вось — яшчэ адзін цяжкі выпадак.

Найбольш расшчыраваўся Шыраеў — першы ў гэтай гісторыі нетутэйшы чалавек, родам з Расеі. Бачна, што чалавек шырокі і са сьледзтвам супрацоўнічае, як сказаў, „у поўным аб’ёме“.

Грошы яму ў шуфлядку працоўнага стала клаў Букель. Па сто даляраў. Два разы было. Ён і іншым клаў (я бачыў), і яны забіралі (я бачыў). Таксама два разы. Кардымону, Шчыкно і Пашкоўскаму давалі ў маёй прысутнасьці. Якуценка даў мне тысячу даляраў, кажа, палову вазьмі сабе, а астатнія 500 па сотні раздай астатнім. Я клаў ім у шуфляды сталоў…

На пытаньне: ці добраахвотна ён напісаў яўку з павіннай, Шыраеў адказаў: цалкам добраахвотна. Мяне выклікалі ў КДБ, ціску не аказвалі, і я напісаў. Фактаў адразу ня ўспомніў. Успомніў ужо калі сядзеў у турме КДБ.

Проста, як у песьні: Штосьці з памяцьцю маёй стала — усё былое не са мной помню…

**Кнут**

Признательные показания, зачем они суду нужны? Какой смысл обвиняемому давать признательные показания? Смысл в том, что-бы получить какие-то выгоды. Это понятно. Но почему суд считает, что в „признательных показаниях“ правда? Для получения поблажки от следователя обвиняемому ничего не мешает и солгать, лишь бы это устроило следователя. Что и происходит. Следователи с таким упорством пытаются их получить от обвиняемых, а полученные таким способом показания не заслуживают никакого доверия. Кого следователи хотят убедить такими показаниями? Даже последний болван не верит в то, что скажет обвиняемый под давлением.

## КАРТАЧНАЯ ГУЛЬНЯ

24 траўня 2017

У залю прынесьлі кардонныя скрыні з таварна-транспартнымі накладнымі, якія фігуравалі ў абвінаваўчым заключэньні ад самага пачатку. Новае ва ўсім гэтым тое, што раней іх не паказвалі падсудным (і тыя не маглі з дакладнасьцю сказаць, ці яны афармлялі гэтыя машыны ці не яны), а цяпер вырашылі „обозреть“.

„Обозревается коробка номер один“. Судзьдзя корпаецца, ускрывае плёмбу і паведамляе, што паводле вопісу мытных пячатак на накладных гэтыя матэрыялы да прысутных абвінавачаных дачыненьня ня маюць.

Юркойць: Высокі суд, а ці ёсьць там пятачка 380? — Так. — А чыя яна? — Зараз удакладнім (судзьдзя пасылае сакратарку ў свой кабінэт). Сядайце. — Дзякуй, трэці год сяджу.

„Обозревается коробка номер два“.

Юркойць: А ці дадуць нам гэтыя накладныя на рукі, каб я мог сказаць, ці я гэта афармляў? — Не, гэта рэчавыя доказы абласнога суду. Можам толькі паказаць.

Узьнікае выразнае адчуваньне, што ўвесь працэс уцягваецца ў гульню з накладнымі, быццам сядае гуляць у карты і ўжо гатовы надоўга аддацца гэтаму занятку, цалкам забыўшыся на рэальны сьвет і час.

Пракурор пачынае чытаць: Дакумэнт на ангельскай і літоўскай мове… маецца пячатка ашмянскай мытні… фірма „Флорыда“… дата…

І што, так будзе па кожнай з тысячы фураў? На тыдзень-два чытаньня.

Абвінавачаны Курневіч з клеткі: Дзе ў гэтых дакумэнтах сьведчаньне „бесьперашкоднага пропуску“? — Судзьдзя: Не разумею, у якой працэсуальнай форме мусіць быць мой адказ. — Што менавіта ў гэтых дакумэнтах можа пацьвердзіць нашу віну? — Гэта не працэсуальнае пытаньне. (пракурору) Чытайце далей.

У чым тут справа? У абвінаваўчым заключэньні сьледчы КДБ Бычак прадставіў табліцу на 4,5 тысячы фураў з кветкамі, за якія нібыта плаціліся грошы. Склаў ён табліцу нібыта на падставе гэтых вось таварна-транспартных накладных. Толькі дадаў пры кожнай машыне суму, якую кожны інспэктар нібыта атрымаў ад свайго начальніка за „бесьперашкодны пропуск“ кожнай канкрэтнай машыны. Тытанічная праца.

Цяпер трэба было, каб арыштаваныя начальнікі прызналі гэтую табліцу як рэальны факт. Напэўна, нехта з начальнікаў (іх судзяць у абласным судзе) прызнаў, што так, вось за гэтыя машыны ім, начальнікам, фірмачы плацілі грошы. А ўжо яны, начальнікі, нібыта раздавалі грошы тым інспэктарам, якія канкрэтна гэтыя машыны афармлялі.

Пытаньні — ці раздавалі і ці ўсім — застаюцца за бортам нашае гульні. Як і дапушчэньне, што таго начальніка, які прызнаў, у турме КДБ маглі катаваць або, наадварот, заахвоціць меншым тэрмінам ці чым іншым.

Я назваў працу „тытанічнай“ і забыўся дадаць — мякка кажучы. Бо калі б Бычак фармаваў табліцу на падставе толькі прызнальных паказаньняў,

пры ўсім жаданьні сабраць у адно зьвесткі пра 4,5 тысячы канкрэтных машын — нерэальна. Калі б ён сыходзіў з накладных, дык на якой падставе ён вылучыў менавіта гэтыя машыны?

Цяпер усе накладныя трэба „обозреть“, унесьці зьвесткі ў пратакол, вярнуць скрыні ў аблсуд і тады ўжо пачаць табліцу зьвяраць з пратакольнымі запісамі — як сьцьверджанымі фактамі.

— На лістах 4–5, — бубніць пракурор, — на ангельскай мове… транспартны сродак нумар… нумар прычэпа… дата… нумар пячаткі 604.

Гэта пэрсанальная пячатка Часнойця.

Як „прызнант“ Часнойць успрыняў абвінаваўчы акт за канчатковы вэрдыкт і цяпер стараецца даказаць, што нейкую машыну ён не афармляў, а нейкая везла газон, а ня кветкі, а нейкую ён разгружаў… Каб зьменшыць агульную колькасьць машын, за якія яму нібыта плацілі, і, адпаведна, агульную суму незаконна атрыманых грошай, якую ён нібыта атрымаў.

Часнойць з галавой уключыўся ў гульню, удакладняе даты, дае тлумачэньні… А што рабіць тым, хто не прызнаў? Даказваць, што ты гэтыя машыны не афармляў? Дык афармляў.

Юркойць: Навошта гэта чытаць? Гэта наша работа. Дайце кожнаму паглядзець, каб ён пацьвердзіў, што афармляў гэтыя машыны.

Судзьдзя: Трэба гэтыя зьвесткі ўнесьці ў пратакол, каб зьверыць са зьвесткамі ў абвінаваўчым заключэньні.

Выглядае, што суд як бы прызнае за даказанае, што інспэктары за гэтыя машыны атрымлівалі грошы ад сваіх начальнікаў. Уся ўвага суду скіраваная

на даказваньне таго, што гэтыя аўтамабілі афармлялі гэтыя людзі. І гэта чамусьці важна. Напэўна, было б важна, калі б самі факты атрыманьня грошай былі даказаныя. А яны не даказаныя.

Калі ўсе падсудныя ўключацца ў гульню — разбор афармленьня кожнай машыны — з поля зроку зьнікне тое, пра што казаў Юркойць — аб'ектыўны бок віны.

Юркойць: У гэтых накладных — дзе відаць аб'ектыўны бок інкрымінаванага мне злачынства? Што канкрэтна я парушыў?

Судзьдзя: Усё напісана ў абвінавачаньні.

Але ж якраз аб'ектыўнага боку злачынства там і няма.

Тым часам з кожнай новай зачытанай паперай расьце і пашыраецца разнабой паміж табліцай Бычака і зьвесткамі накладных. Не супадае колькасьць машын, найменьне грузу, шмат машын даглядалася па поўнай праграме. Гэта значыць, „бесьперашкоднага пропуску“, калі б такі і быў магчымы ў прынцыпе, не магло быць.

Яшчэ трохі, і можна будзе сказаць, што абвінавачаньне ў частцы табліцы Бычака трашчыць па швах. У многіх зноў зьяўляецца надзея на справядлівасьць. У запале гульні яны забываюцца, што гэта ўсяго толькі гульня.

# ПАКТ ТАНКЕЛЮНА — САРУМЯНЦА

3 чэрвеня 2017

Гэтым разам суд працаваў на поўную катушку. Дапытвалі начальнікаў і ключавых пэрсанажаў. Заводзілі па адным, у кайданках. Ніхто не адмовіўся даваць паказаньні.

Вось Гарнік Сарумянц. Гэта ў яго пад ваннай знайшлі два мільёны даляраў.

Пачаў Сарумянц з таго, што ён ня можа быць абвінавачаным у двух судах (яго судзяць у абласным), што не знаёмы з матэрыяламі гэтага працэсу, урэшце і дапытваюць яго без адваката. Такім чынам парушаюцца ягоныя правы. Але, маўляў, хаваць мне няма чаго, таму гатовы адказаць на пытаньні.

Пасьля звальненьня з мытні Сарумянц стаў прадстаўніком літоўскага бізнэсоўца Танкелюна, які возіць фурамі кветкі з Галяндыі ў Маскву. Танкелюн хацеў, каб з афармленьнем ягоных машын на мяжы не было лішніх затрымак, для гэтага і спатрэбіўся дасьведчаны прадстаўнік на месцы.

Гэта важны момант для рэканструкцыі ўсёй гісторыі, бо гэта самы яе пачатак — пагадненьне Сарумянца-Танкелюна. У 2010 годзе літоўскі лягістычны бізнэс пачаў наладжваць дастаўку галяндзкіх кветак у Маскву. Увесь шлях займае 48 гадзін. Цалкам зразумелае і зусім не крымінальнае для бізнэсоўца жаданьне забясьпечыць хуткае праходжаньне адзінай на гэтым шляху перашкоды — мяжы Эўразьвязу і Мытнага саюзу. Бо кветкі псуюцца хутка.

Сарумянц кажа, што Танкелюн — знаёмы ягоных знаёмых. Было б ня так істотна, хто зь іх на каго выйшаў, бо абодва мелі законны інтарэс, калі б не адна важная акалічнасьць.

Для пачатку справы патрэбны „стартавы“ чалавек. Паводле вэрсіі КДБ, такім чалавекам стаў Сарумянц. Але калі б насамрэч было так, ён не насіў бы сёньня тытул „арганізатара злачыннай групы“, не сядзеў бы ў турме і не падвяргаўся катаваньням. І калі меркаваць зь ягоных паводзінаў у судзе, ён ніяк на чалавека КДБ не выглядае. Што гэта значыць?

Гэта значыць, што „стартавым“ чалавекам КДБ у „кветкавай справе“ быў Гена Танкелюн. Той самы літовец, які пазьбег затрыманьня і ўвогуле кудысьці зьнік, і фірма якога перадала ў КДБ сьпісы машын, за якія, нібыта, мытным начальнікам плаціліся грошы, з указаньнем — колькі за якую. Інакш кажучы, самыя пачаткі „кветкавай справы“ сцэнарысты схавалі ў Літве. Не дакапаесься.

— А што, у Танкелюна былі праблемы на мяжы? — пытаецца судзьдзя. — Сарумянц: Не. Гэта было яго такое жаданьне. Мы гаварылі пра паскоранае афармленьне. Тэрмін „бесьперашкодны пропуск“ бессэнсоўны і прыдуманы сьледчым КДБ Бычакам.

Сапраўды, першая фармулёўка гучыць зусім не крымінальна. Пагатоў паскоранага афармленьня „скарапорту“ патрабуе і заканадаўства. А фармулёўка Бычака ўжо можа разглядацца як парушэньне закону.

Такім чынам, Танкелюн выходзіць на Сарумянца, колішняга начальніка аддзелу беларускай мытні, і прапануе яму прадстаўляць інтарэсы фірмы на

месцы, на мяжы, каб хутка „вырашаць пытаньні“ з праходам кветкавых фураў.

У машын не павінна быць ніякіх парушэньняў, — заўважае Сарумянц. Так, натуральна, — пагаджаецца Танкелюн. Калі машына праходзіць гладка, Сарумянц атрымлівае за гэта грошы, калі затрымка — не атрымлівае.

Але Сарумянц даўно не працуе на мытні. І каб было гладка, трэба падключыць дзейных начальнікаў аддзелаў. Сарумянц зьвяртаецца да Ігара Высоцкага. Ён перадае яму ад Танкелюна грошы і сьпіс машын за мінулы месяц — тых, якія прайшлі гладка. З часам Сарумянц выйдзе і на іншых начальнікаў аддзелаў (бо машыны Танкелюна ідуць ня толькі праз аддзел Высоцкага) з той самай прапановай. Але Ігар Высоцкі становіцца галоўным інсайдэрам КДБ ва ўсёй гэтай гісторыі.

Ня ўсе начальнікі аказаліся чыстымі на руку.

Сарумянц: Начальнік аддзелу Кузьміч пазваніў мне і сказаў, што на машынах з кветкамі выяўленыя, нібыта, парушэньні. І ён можа з гэтым разабрацца за дадатковую плату. Усяго такіх машын 6, за кожную ён прасіў 200 даляраў. Я пазваніў Танкелюну, і той сказаў, што заплаціць. Пасьля на маскоўскай мытні ў гэтых машынах ніякіх парушэньняў выяўлена не было. Я пазваніў Кузьмічу. Быў канфлікт…

Судзьдзя: За што Танкелюн перадаваў грошы, калі машыны і так ішлі без затрымкі? — Ён лічыў гэта знакам падзякі за добра зробленую працу.

Іншымі словамі, з боку літоўскага бізнэсоўца гэта быў знак прыязнасьці іншаму бізнэсоўцу з надзеяй, што і далей усё будзе працаваць як мае быць. Гэта

нават ня столькі для таго, каму даеш, колькі для ўласнага спакою.

Пытаньне ўзьнікае на этапе перадачы грошай начальнікам аддзелаў.

Яны проста бралі грошы і нічога за гэта не рабілі, — кажа Сарумянц.

Пра тое, што грошы маглі праз начальнікаў трапіць інспэктарам, Сарумянц ня ведаў і не разумее, навошта гэта было рабіць. Выглядае, што калі гэткія „раздачы“ і мелі месца, дык пачаў іх, будучы начальнікам аддзелу, Ігар Высоцкі.

Пазьней, калі ён таксама звольніцца з мытні, „раздачу“ мусілі працягваць і ягоныя наступнікі. Хоць па-ранейшаму вісіць пытаньне — навошта?

## ЗЛАМАНЫ ПАЛЕЦ

3 чэрвеня 2017

Пытаньні Сарумянцу задаюць падсудныя.

Юркойць: Вы сказалі, што сьледчы КДБ вас палохаў. Як?

Сарумянц: Адразу ў смаргонскім КДБ сьледчы загадаў мне пісаць яўку з павіннай на Горбаля, Попчанку і Карповіча. Калі я адмовіўся, сталі зьбіваць, зламалі палец і два рабры. Даставілі ў бальніцу, там зафіксавалі гэта як „траўму“. У Менску суткі трымалі на допыце, без вады, яды і бяз сну. Маёр Данілаў, невялікага росту, цёмненькі, асабіста мяне душыў. Сьледчы Бычак казаў: усіх пасаджу!

Юркойць: Высокі суд. Гэта ўжо трэці выпадак катаваньняў з боку Данілава, пра які мы чуем на гэтым працэсе. Я хадайнічаю пра запрашэньне сюды маёра (ён цяпер падпалкоўнік) Данілава і сьледчага Бычака.

Судзьдзя: Задавайце пытаньні. Хадайніцтвы пасьля.

Сарумянц: Бычак казаў, што мае шмат маіх смсак, фота і відэа з доказамі. Аказалася, нічога няма, толькі домыслы.

Юркойць: У „Амэрыканцы“ пасьля адбою вы чулі крыкі, гукі ўдараў?

Сарумянц: Так, шмат разоў.

Выйшаўшы параіцца, судзьдзя ў хадайніцтве Юркойцю адмовіў. Маўляў, там апэратыўныя супрацоўнікі, не паложана…

Юркойць: Ён мяне зьбіваў. Да каго ў краіне мне яшчэ зьвяртацца, апроч вас?

Судзьдзя: Дзякуй, допыт завершаны (гэта Сарумянцу).

Што ўразіла, калі ахоўнікі выводзілі яго з залі? Нікога (пракурора, судзьдзю, адвакатаў, падсудных) не зацікавілі тыя два мільёны пад Сарумянцавай ваннай. Як штосьці зусім неістотнае. Але ж пачынаючы з гэтага эпізоду, з гэтых мільёнаў і пачаў расказваць пра „банду на ашмянскай мытні“ прэзыдэнт.

„Кветкавы працэс“ паспрабаваў быў выйсьці з туману. Але судзьдзя зараз вярнуў яго назад. Цікава, што сказалі б тут Данілаў і Бычак, калі б апынуліся ў залі? Што нічога, ніякіх катаваньняў не было? І судзьдзя зноў мусіў бы выбіраць, каму верыць. Здаецца, гэты выбар ён зрабіў яшчэ да працэсу.

Судзьдзя ня хлусіць, ён проста ігнаруе ўсё, што ішло б на карысьць падсудным. І зламаны палец Сарумянца — не хлусьня, а зло. Вось з чаго складаецца гэты працэсуальны туман — з праўды і зла. Дакладна як у вершы Янкі Купалы „Заклятая кветка“:

Тых радасьцю вочы сьмяюцца,
Тым зрэнкі крывёй заліло;
Піхаюцца, корчацца, б’юцца,
Мяшаецца праўда і зло.

# ЗАХАВАЦЬ ДОБРАЕ ІМЯ

4 чэрвеня 2017

На судзе працягваюць слухаць начальнікаў і ключавых фігурантаў „кветкавай справы“. Іх прыводзяць па адным у кайданках пад аховай міліцыянтаў. Як чыкацілаў.

Між тым, усе яны збольшага інтэлігентныя людзі, натуральна, ніколі не судзімыя. Але галоўнае — віна іх не даказаная фактамі. Скажаце: навошта такія меры бясьпекі — як ад зьвяроў?

Тым часам, яны ў пераважнай большасьці настойваюць на сваёй невінаватасьці, што як бы раздражняе ўсю праваахоўную сыстэму, і тая ў ярасьці кажа ім: ах так? Невінаваты? Дык вось табе!.. І зь нейкай гопніцкай асалодай закоўвае гэтых, як на маё вока, збольшага прыстойных і паважаных людзей у кайданкі, трымае іх у турме, катуе рукамі сьледчых…

— Як жа іх усіх тут прынізілі! — прамовіў арыштаваны Ёзэф К., першы раз пабачыўшы абвінавачаных у судзе.

І тут дзіўная рэч атрымліваецца. Тыя, хто не прайшоў катаваньняў і даў прызнальныя паказаньні на сябе і іншых, яны паводзяцца так, што ніяк ня станеш чакаць ад іх шчырасьці. Яны як бы за тоўстай сьцяной недаверу, яны маўчаць, а ў іхных вачах выразна чытаецца: ну вы ж разумееце… А ў гэтых, што ўмоўна невінаватыя, сьцяны няма. Замест яе — вымушаная пакора лёсу і гатовасьць гаварыць з надзеяй, што іх пачуюць.

Вось Фалевіч, былы начальнік мытнага паста, галоўны ў Каменным Лагу. Кажа: мне нічога пра незаконнае атрыманьне грошай маімі падначаленымі невядома. А ўсё, што ведаю, толькі з матэрыялаў справы.

Ці Бубнаў, начальнік аддзелу аналізу і кіраваньня рызыкамі. Віны не прызнае, нічога ня ведае. Яго вінавацяць у „нефармаваньні профіля рызыкі“, і нехта сказаў, што даваў яму за гэта грошы.

Юркойць: Вы аналітык. Скажыце, калі ласка, ці можа, на вашу думку, на працягу пяці гадоў існаваць на мытні аграмадная злачынная група, якая атрымлівае і дзеліць незаконныя грошы за тысячы машын.

Юркойць тут ужо не пра сябе пытаецца, а пра ўсю мытню, пра добрае імя службы, у якой адпрацаваў амаль дваццаць гадоў. Спрабуе ўратаваць пазытыўную тантамарэску.

Судзьдзя: Здымаецца пытаньне.

Ці, да прыкладу, Кавальчук, намесьнік начальніка ашмянскай мытні, начальнік аддзелу ўласнай бясьпекі. Віны не прызнае.

Юркойць: Скажыце, калі ласка, ці пыталіся ў вас пра мяне супрацоўнікі КДБ?

Кавальчук: Шмат кім цікавіўся КДБ. У траўні 2014 году прыйшла ананімка з Расеі, што начальнікі аддзелаў бяруць грошы за машыны з кветкамі. Была грунтоўная праверка, начальнікаў правяралі на паліграфе. У тым ліку Марыну Адамаўну Мароз, якая цяпер прызнала абвінавачаньне ў поўным аб’ёме (злачынная група). Нічога не пацьвердзілася.

Начальніцу мытнага аддзелу Мароз тут усе чамусьці называюць толькі так, поўным імем — Марына Адамаўна.

Мы ўжо ведаем, што Марына Адамаўна да апошняга не прызнавала сваю віну, а пасьля раптам прызнала ўсё да астатняе махаткі. Ведаем таксама, што ў тую праверку на паліграф узялі ня ўсіх начальнікаў аддзелаў, а толькі траіх. Магчыма, такім чынам сьледчыя імкнуліся не закрыць, а наадварот, захоўваць справу ў яе разьвіцьці.

Калі Фалевіч, Бубнаў і Кавальчук хлусяць, які ў іх рэзон? Думаю, яны цудоўна ведаюць, што справа замоўленая, што ўсіх пасадзяць (як і абяцаў сьледчы КДБ Бычак), што іхнае непрызнаньне іх не ўратуе. Дык на што спадзеў?

Што ўсё ж такі ўратуе? Раптам зьменіцца ўлада ў краіне ці зьменяцца адносіны ўлады да іх? Ці судовая машына дасьць збой (то бок, запрацуе як мае быць, паводле закону і лёгікі)? Ці непрызнаньне стане істотным у наступным судзе — апэляцыйным? Але ў кожным разе, калі ёсьць надзея, дык гэта надзея на „раптам“. Пастаянным фактарам тут можа быць толькі адзін — трымацца праўды і тым самым захаваць добрае імя.

Трэба сказаць, што ня ўсе начальнікі, якія далі прызнальныя паказаньні, выйшлі з турмы.

Вось Попчанка, які працаваў у аддзеле аналізу і кіраваньня рызыкамі і паказаў на свайго начальніка Бубнава. Цікава, што прыйшоў ён у аддзел у 2010 годзе, акурат калі КДБ пачаў фармаваць справу. Тут увогуле забаўная сытуацыя. За машыны з „кветкавай прадукцыяй“ Попчанка, нібыта, плаціў Бубнаву, а Бубнаў — Попчанку. Гэтак сядзелі адзін

насупраць аднаго за працоўнымі сталамі і перакідаліся зялёнымі паперкамі…

Вось Гаральскі, які на пасадзе начальніка мытнага паста Каменны Лог зьмяніў Фалевіча. Працаваў з 2013 да 2015 году. Чаму зьмяніў, суд у такіх дэталях не разьбіраецца. А магло быць і так, што Фалевіч (ён віны не прызнаў) папросту адмовіўся гуляць у ценявыя гульні з далярамі.

Гаральскі: Незаконнае грашовае ўзнагароджаньне атрымліваў ад усіх начальнікаў аддзелаў, апроч Лапшэвіча. Грошы перадаваліся непасрэдна на працоўным месцы. Агулам 60 тысяч даляраў і 30 тысяч „наверх“, Нівяркевічу. Полазаў, супрацоўнік аддзелу ўласнай бясьпекі, паведамляў пра магчымыя праверкі, за што я даваў грошы і яму.

За паўгода працэсу я ўжо навучыўся месца перадачы грошай разумець як індыкатар хлусьні. Трэба лічыць мытнікаў за поўных дурняў, каб яны перадавалі даляры на працоўным месцы ці на тэрыторыі мытні пад відэакамэрамі ці на АЗС, дзе таксама ўсё фіксуецца на відэа.

Такіх прыкладаў перадачы грошай ужо названыя сотні, нібы ўся мытня была напханая далярамі, але ніводнага відэазапісу, ніводнага факту праверак, каб хоць у каго ў кішэні знайшлі забароненую паперку, у матэрыялах справы няма. Чаму? Таму што гэтых эпізодаў не было ў рэальнасьці?

Ашмяншчына-Астравеччына — край лясоў і дзівосных краявідаў, закінутых хутароў і капліц, утульных рачных берагоў. Вось скажыце мне, навошта, маючы ўсё гэта пад рукой, абавязкова ўчыняць злачынныя дзеяньні пад відэакамэрамі?..

Гаральскі: Ігар Высоцкі паведаміў мне сытуацыю празь месяц пасьля майго прызначэньня. Маўляў, увесь тавар ідзе без парушэньняў, і за гэта даецца ўзнагароджаньне. То бок, службовыя асобы працавалі ў рамках прававога поля. Калі зьявілася інфармацыя ад Полазава ў канцы 2014 году, што ўсё адсочвае КДБ, я спыніў атрыманьне грошай і ўсім начальнікам настойліва рэкамэндаваў спыніць.

Спосаб атрыманьня грошай толькі ў Гаральскага больш „вытанчаны“. Недзе на палявой дарожцы ён прыяжджаў на ровары, браў грошы і зьнікаў у тумане.

Пра гэта расказаў начальнік аддзелу Ермалаеў. Дакладней, за яго гэта зрабіў пракурор. Ермалаеў: Паказаньні супраць гэтых людзей даваць адмаўляюся, бо я зь імі нічым не зьвязаны.

Чытаюць доўгія пратаколы допытаў на сьледзтве. І зноў нічога пра „нашых“ падсудных у тых пратаколах няма.

Раптам судзьдзя куляй вылятае з залі. Выганяюць і ўсіх прысутных. Аказваецца, адной адвакатцы стала кепска, і яна аддыхваецца каля расчыненага ў калідоры акна.

Усе выйшлі і гучна абмяркоўваюць падзеі міжсобку. Сяргей Харэўскі зь Юркойцевай сястрой Галінай гавораць пра сваё. Іхныя дочкі хадзілі ў адзін дзіцячы садок і там пасябравалі.

На калідоры атмасфэра вайны зьмяняецца атмасфэраю міру.

..........................................................

**Кнут**

Начальники прошли проверку на полиграфе, но не прошли проверку КГБ. Кто-то врет: или КГБ или полиграф. :)

# „Я з генэраламі абшчаўся“

5 чэрвеня 2017

Такім чынам, усё пачалося ў 2010 годзе з пары Танкелюн-Сарумянц. Літоўскі перавозчык „кветкавай прадукцыі“ і былы мытнік, начальнік аддзелу. Бізнэсовец і пасярэднік.

Увогуле нічога неардынарнага, калі ўлічыць, што прадпрымальнік Сарумянц сам былы начальнік аддзелу. Тыповы шлях для чыноўнікаў і службовых асобаў, якія становяцца пасярэднікамі, кансультантамі, спэцыялістамі ў розных фірмах. І, натуральна, атрымліваюць за гэта ўзнагароджаньне.

Пры тым ніхто не наважыцца назваць тыя грошы хабарам. Заробак афіцыйна фіксуецца як расходны артыкул фірмы. Асноўная функцыя — дбаць, каб фуры праходзілі мытню ў штатным рэжыме, усё паводле закону, а калі ўзьнікае затрымка — хутка высьветліць, у чым справа, і выправіць недахоп.

Сарумянц, падкрэсьлю, даўно не працуе на мытні, але ведае там усіх і ўсё. І ён зьвяртаецца да Ігара Высоцкага, дзейнага начальніка аддзелу, каб той за ганарар прадстаўляў ягоныя, г. зн. Танкелюна, інтарэсы на лініі. За гэта нічога не патрабуецца. Проста працуйце бяз збояў.

У гэтым эпізодзе можа бянтэжыць, што Высоцкі — службовая асоба. Зь іншага боку, нішто ні ад каго не адымаецца, усе задаволеныя, і праца робіцца найлепшым чынам. Гэта значыць, што ня толькі закон і ўсіхныя інтарэсы забясьпечаныя, але і дзяржава ў плюсе, большы паток машын, станоўчы імідж. Урэшце лёгка можна было пакінуць

угоду ў межах пары Сарумянц-Высоцкі. Але нешта пайшло ня так.

Неўзабаве Высоцкі звольніцца з мытні і сам стане пасярэднікам, знойдзе свайго літоўскага перавозчыка кветак. Зьявіцца і трэці былы мытны начальнік аддзелу, а цяпер прадпрымальнік Башлыкевіч. Да пары Танкелюн-Сарумянц дададуцца пары Тураеў-Высоцкі і Муратаў-Башлыкевіч. І, як калісьці начальніку Высоцкаму, пасярэднікі будуць перадаваць узнагароджаньне дзейным начальнікам аддзелаў.

Усё быццам бы зразумела, апроч адной дэталі. Усе пералічаныя асобы сёньня даюць паказаньні ў судах у кайданках (іх прывозяць з турмы), апроч аднаго, Танкелюна, які кудысьці зьнік.

Швінта: У вас разыходзяцца лічбы.

Башлыкевіч: Пачнем з таго, што гэта пісаў сьледчы.

Яшчэ будучы начальнікам і ўжо працуючы на Сарумянца-Танкелюна, Ігар Высоцкі пачынае сваю гульню ў пасярэдніцтва. Пра гэта распавёў суду затрыманы Артур Тураеў, грамадзянін Літвы, малады, але відавочна пасьпяховы ў лягістычным бізнэсе, яўна ня з гэтага нашага балота птушка.

Чаму малады літоўскі прадпрымальнік не Артурас Тураевас, а Артур Тураеў, што аўтаматычна ставіць яго ў Літве па-за трэндам? Ня лічыць сябе літоўцам? Гадаваўся ў наскрозь савецкай сям’і? Яшчэ больш зьдзіўляе літовец Танкелюн — у прозьвішчы яўна адкінуты канчатак –ас. Ды яшчэ і Генадзь. Нетыповае для літоўца імя.

Аднойчы Тураеў ехаў у нейкіх справах праз мяжу. І з машынай узьніклі нейкія пытаньні. Каб

разабрацца, Тураева вядуць да Высоцкага. Прыязная гутарка. Высоцкі прапанаваў абмяняцца тэлефонамі, маўляў, будуць праблемы, звані.

Ці гэтая гутарка была ініцыяваная самім Высоцкім (які лёгка мог дазнацца, што, апроч Танкелюна, ёсьць і іншыя перавозчыкі кветак) ці КДБ, зь якім, відавочна, цесна супрацоўнічаў Высоцкі — не такое і важнае пытаньне. Галоўнае, што ён затэлефанаваў Тураеву сам. Сказаў, трэба пагаварыць.

Сустрэліся. Аказваецца, Высоцкі ўжо пакінуў службу і прапанаваў дапамогу ў перасячэньні мяжы. То бок, прапанаваў тую самую схему Сарумянца-Танкелюна, нічога злачыннага ў якой няма. Плаці за свой спакой, а я тут за ўсім прыгледжу.

Тураеў: Я яму даў нумар свайго супрацоўніка і нумары машын. Далі яму 5 тысяч эўра для пачатку. Цэньнік на адну машыну вызначаў сам Высоцкі. — Пракурор: Вы разумелі, што гэта незаконна? — Тураеў: Грошы Высоцкаму даваліся на прадстаўнічыя расходы. Ён нам не казаў, што перадае іх супрацоўнікам мытні.

Гэта значыць, момант парушэньня ўзьнікае пры перадачы грошай „службовай асобе“. Напэўна ж, разумеў гэта і Высоцкі. І тут паўстае вялікі знак пытаньня. А ці сапраўды ён перадаваў грошы начальнікам аддзелаў? Яны гэта могуць прызнаць пад прымусам, і гэта зусім ня значыць, што так яно і было. А калі Высоцкі напраўду перадаваў, дык навошта?

Горбаль (гэты прыходзіць з волі, таму гаварыць адмовіўся, паказаньні зачытвае пракурор): Высоцкі ўцягнуў мяне ў 2010 годзе, калі я працаваў старэйшым інспэктарам у ягоным аддзеле. Ён растлума-

чыў мне схему і сказаў даваць грошы інспэктарам і Гаральскаму. Пазьней, калі я стаў начальнікам аддзелу, з такімі самымі прапановамі зьвярнуліся Сарумянц і Башлыкевіч.

Глядзіце, Высоцкі на мытні чалавек свой і бывалы. І калі затрымка машыны ўзьнікае два-тры-дзесяць разоў на год, няма праблемы затэлефанаваць начальніку аддзелу і спытацца, што адбываецца і што трэба, каб хутчэй выправіць. Маўляў, прыяцель папрасіў. Навошта даваць за гэта грошы ды яшчэ і па сьпісе за кожную машыну?

А што кажа сам Ігар Высоцкі — шыракаплечы даўгалыгі чалавек? Такія звычайна сходу гатовыя „рашыць усе праблемы“.

Пра тое, што ён рэальна арганізоўваў злачынную групу, сьведчыць і тое, што ён перадаваў грошы інспэктарам. Бо калі перадачу грошай начальнікам яшчэ можна неяк выдаць за праўдападобную, дык грошы для інспэктараў ня толькі нелягічная справа, але і бессэнсоўная.

Інспэктары нічога не вырашаюць. Грошы ім можна даваць для таго, каб уцягнуць у групу, больш ні для чаго. А група чым большая, тым больш эфэктна яе выкрые КДБ.

Асабіста Высоцкі, зь ягоных словаў, даваў грошы Нагорскаму, Лапейку, Горбалю, Карповічу, Чэпіну, Страпко. Апроч Карповіча, яны ўсе прыходзяць у суд самі.

Курневіч (з клеткі): У мяне ў абвінавачаньні напісана, што вы давалі мне ўказаньні і грошы. — Высоцкі: Ні ўказаньняў, ні грошай Курневічу не даваў.

Ну і дзе тут верыць?

Высоцкі патлумачыў, што машыны фірмы „Міленіюм“ маглі везьці кветкі не Тураева, а іншых бізнэсоўцаў, якія гэтыя машыны ў Тураева арэндавалі, у такім выпадку грошы за іх не плаціліся. Але ў абвінаваўчых заключэньнях у кожнага інспэктара гэта ніяк не адлюстравана.

Сьледчы КДБ Бычак перакананы, што калі інспэктар аформіў машыну „Міленіюму“, значыць, атрымаў за гэта ўзнагароджаньне.

Пракурор чытае супярэчнасьці ў сёньняшніх паказаньнях Высоцкага і ў паказаньнях на папярэднім сьледзтве:

— У пратаколе вы ўказалі, што давалі грошы Мароз. — Мароз ніколі не перадаваў. — А чаму ўказалі? — Сьледчы так хацеў. Мне шмат за гэта абяцалі. Занадта шмат.

Юркойць: А што абяцалі? — Высоцкі: Абяцалі, што пайду ў суд сваімі нагамі. — Абяцалі вызваліць ад адказнасьці? — (Доўгая паўза) Фактычна так. Таму пратаколы я падпісваў, асабліва не чытаючы. — А хто абяцаў? — Генэралы, я з генэраламі абшчаўся. — У сэнсе, без пратаколу, проста так вас выклікалі? — Так.

**Кнут**

Три группы: Танкелюн-Сарумянц, Тураеў-Высоцкі і Муратаў-Башлыкевіч плюс 58 таможенников и никто не знал об этом 5 лет. Все деньги тратили так, что никто не видел. И это в маленьких городках Ошмяны и Остравец. Не верю.

**Ананім**

Столькі інвестыцый у Ашмяны, — напэўна горад квітнее?!

**Винт**

Весь суд идёт только на показаниях обвиняемых, которые следователи выбили на допросах. В суде обвиняемые меняют показания и вся картина меняется. Высоцкий говорит, Мороз деньги не давал, а Мороз — мне передавал деньги Высоцкий. Если Пупкин в милиции сделает заявление, что видел как Попкин в гараже разбирал на запчасти краденные машины, то следователи ищут запчасти, машины и потерпевших. Это как доказательство в суде, что Попкин виноват. В этом же суде есть только показания Пупкина на Попкина и больше ничего. Поэтому все выглядит глупо и непрофисионально.

**Босс**

Это точно.

# ДОПЫТ, ЯКОГА ЧАКАЛІ

6 чэрвеня 2017

Карповіч — адзіны мытны начальнік, які заявіў, што перадаваў грошы падначаленаму інспэктару Юркойцю.

Не асабіста перадаваў, а праз інспэктара Чэпіна. Іншых „доказаў“ віны Юркойця няма.

Вось чаму допыту Карповіча ў судзе чакалі зь першага дня працэсу.

З турмы ў Партызанскі суд яго даставілі ў кайданках, бо судзяць яго ў абласным. Круглаваты чалавек без асаблівых прыкметаў з затрымкамі мовы, быццам словы яму даюцца зь вялікай неахвотай, доўгія паўзы, шмат супярэчнасьцяў і недагаворак. На пытаньні Юркойця адказвае, як мне падалося, раздражнёна, быццам кажа: ды адчапіся ты. Пры тым час ад часу зьбіваецца на беларускую мову.

Грошы „за бесьперашкодны пропуск кветкавай прадукцыі“ ён пачаў браць яшчэ будучы шараговым інспэктарам — ад сваіх начальнікаў, спачатку ад Ігара Высоцкага, пасьля ад Букеля. Высоцкі прасіў даваць інфармацыю пра машыны з кветкамі — прайшла машына ці не і ў чым прычына затрымкі. 14.01.2014 Карповіч становіцца начальнікам аддзелу сам.

Пракурор: Высоцкі перадаў вам тэлефон зь сім-картай літоўскага апэратара. Навошта? — Каб перадаваць інфармацыю. Высоцкі слаў мне смс з нумарамі машын. — Навошта? — Ня ведаю, яны мне былі непатрэбныя.

Паводле вэрсіі сьледчага КДБ, мытнікі дачыняліся на працы праз мабільнікі, мець якія на працы катэгарычна забаронена. Пры тым частыя праверкі мытнікаў ня выявілі ніводнага факту мабільніка ў тумбачцы. Хоць такія факты маглі б стаць рэальнымі доказамі незаконных тэлефонных перамоваў.

Даляры Карповіч-начальнік атрымліваў ад Сарумянца. Той, нібыта, пакідаў яму ў шафе на працоўным месцы. Гэтыя грошы Карповіч перадаваў сваім падначаленым Курневічу, Страпко, Нагорскаму, Чэпіну, Казьмерчуку… Юркойця не назваў.

Пракурор: Для чаго вы ім перадавалі грошы? — Для паскоранага афармленьня, за хуткую і якасную работу.

Судзьдзя: А вы маглі іх як начальнік прэміяваць афіцыйна? — Так.

Грошы Карповіч перадаваў на стаянцы каля будынка мытні ў Ашмянах.

Судзьдзя: А іншым інспэктарам вы перадавалі? — Не. — Яны што, горш працавалі? — Хто горш, хто лепш.

Але гэта не адказ. У аддзеле працавала 20 чалавек, усе афармлялі машыны з кветкамі, у тым ліку тых фірмаў, што фігуруюць у справе як хабарадаўцы. Выходзіць, некалькі мытнікаў за гэта атрымлівалі, а большасьць не. І іх нават не затрымлівалі, ня тое што не абвінавачвалі. Яны і цяпер працуюць. Як мне растлумачыць гэта для сябе? КДБ сваіх інфарматараў не здае?

Судзьдзя: Юркойцю перадавалі? — Юркойцю асабіста ніколі не перадаваў. — А апасродкавана? — Юркойцю перадаваў праз Чэпіна. Грошы Юркойцю выдзяляліся. Можа, тры тысячы, не магу сказаць

дакладна. — У якой форме вы перадавалі? — У канвэрце. — Запячатаным? — Здаецца, так. — Ці можна было здагадацца, што гэта грошы? — Напэўна, навобмацак… Ці перадаваў Чэпін Юркойцю, мне невядома.

Адвакат: Чаму сумы ў вашых паказаньнях мяняюцца?

Карповіч: Гэтае пытаньне задайце сьледзтву. Сарумянцу, Высоцкаму і Башлыкевічу. Яны расставілі сумы, зь якіх сьледзтва склала зводную табліцу і падлічыла сумы.

Дык вось чаму табліцы сьледчага часта не супадаюць са зьвесткамі таварна-транспартных накладных. А гэта, між іншым, істотна пры вызначэньні сумы „ўрону“, няхай сабе і віртуальнага. Скажам, Карповіч нібыта перадаў праз Чэпіна Юркойцю 3 тысячы даляраў, а ў табліцах на Юркойця расьпісана больш за 10 тысяч (асабліва буйны памер).

Адвакат: У сувязі з чым вы перадавалі грошы Юркойцю? — Я не магу сказаць. Можа таму, што перадаваў тым, каму давяраў. — Ці былі падставы дапускаць, што Юркойць гэтыя грошы атрымліваў? — Я зь ім ніколі пра гэта не гаварыў. Калі б гаварыў, можа быць, зьявіліся б і падставы. — Чаму не перадавалі Юркойцю асабіста? — Ну каб… Яны ж ехалі разам з Чэпіным.

Юркойць: Перад напісаньнем яўкі на вас аказваўся ціск?

Карповіч: Мяне затрымалі ў Менску разам зь сям’ёй (жонка і двое малалетніх дзяцей). Потым іх адпусьцілі, але мне пра гэта не казалі чацьвёра сутак… Зразумейце мой псыхалягічны стан. Яўкі ўжо

былі напісаныя. Мне паказвалі яўку Сарумянца, якую ён са зламаным пальцам сам напісаць ня мог.

Юркойць: У маім абвінавачаньні напісана, што вы ўцягнулі мяне ў арганізаваную злачынную групу… — Я не прызнаю групу і нікуды вас ня ўцягваў.

Курневіч з клеткі нагадвае, што ўлетку 2014 году служба ўласнай бясьпекі правярала Карповіча на паліграфе. Нічога незаконнага ня выявілася.

Адвакат: Колькі разоў вы перадавалі для Юркойця грошы? — 4–5 разоў. — Як вы падлічылі? — Па ўнутраным перакананьні. Не па памяці. — На што вы абапіраецеся, калі называеце сумы? — На свае адчуваньні. Калі шчыра, я дагэтуль ня ведаю, за што плаціліся грошы і мне, і інспэктарам. — Ці атрымліваў Юркойць грошы, перададзеныя праз Чэпіна? — Юркойць ня скардзіўся…

Суд адкладзены да 27 чэрвеня. Запрашаюцца нейкія сьведкі. Але выглядае, што ўсё датычнае Юркойця ўжо прагучала.

.......................................................

**Босс**

Автор правильно замечает, в смене работает около 20 человек, 8 из них на линии грузов, и все они оформляли эти машины, но часть в тюрьме, а часть на свободе, информаторы. Я не раз проезжал через границу, там даже женщина работала, я их вижу, они на свободе, правда, некоторые уже уволились, а женщина работает, как ни в чем не бывало, странно, я считаю простых инспекторов подставили, стрелки перевели, странно.

**Кнут**

И этот прошел проверку на полиграфе, но не прошел проверку в КГБ. Никому нельзя верить ни полиграфу, ни КГБ.

**Неизвестный**

Начальники деньги брали, дома и квартиры строили, простой инспектор за что сидеть будет, разобраться надо до конца. Где кто живет, что имеет и за какие шиши куплено, и сразу станет видно, кто брал, а кто нет. В Минске построить дом, я думаю, очень много надо средств, вот и ответ.

## ПРЫЗНАНЬНЕ — ЦАРЫЦА ДОКАЗАЎ

7 чэрвеня 2017

Раней я неяк не зьвяртаў увагі, наколькі каструбавата гучыць гэтая сэнтэнцыя. „Прызнаньне (яно) — царыца (яна) доказаў“. Зараз прыгледзеўся — гэткая ж каструбаватая за ёй праўда.

Сэнтэнцыю часам працягваюць словамі „а факт — кароль“. Дык вось. Маштабны працэс ашмянскіх мытнікаў так і ня выявіў „каралёў“ — фактаў супрацьпраўных дзеяньняў. Дасьледаваньні на паліграфе давалі супярэчныя вынікі, экспэртыза голасу казала, што не дастаткова аўдыёматэрыялу, таварна-транспартныя накладныя „аказаліся“ таварна-транспартнымі накладнымі, ня больш за тое. А табліцу атрыманьня грошай за афармленьне машын сьледчы КДБ склаў са словаў абвінавачаных начальнікаў.

Выходзіць, увесь працэс грунтуецца выключна на падставе прызнальных паказаньняў.

Ці можа быць прызнаньне доказам віны?

У „Энцыкляпэдычным слоўніку крылатых словаў і выразаў“ Вадзіма Сярова гаворыцца, што выраз „прызнаньне — царыца доказаў“ (regina probationum) узыходзіць да рымскага права. „Звычайна ўжываецца іранічна, як сымбаль сьледчай і судовай практыкі, тыповай для эпохі сталінскіх рэпрэсій у СССР“.

Ёсьць вялікая небясьпека прымаць афарызм за праўду. Ты жывеш у Беларусі і ўяўляеш сваё жыцьцё такім, якім паказвае яго БТ, ты перакананы, што часы насталі „вэгетарыянскія“ і грамадзтва зрабіла

незваротны крок у сваёй гуманізацыі. Такая тантамарэска табе падабаецца.

У гэты самы час у Берасьці арыштоўваюць супрацоўніка мытні Бубнава, які перавёўся сюды з Ашмян, у КДБ яму „ломяць сьпіну“, ён доўгі час ляжыць у гіпсе, цяпер яго прывозяць у суд з турмы ў кайданках. І ўсё толькі таму, што колішні ягоны падначалены Попчанка на яго „паказаў“.

Чаму паверылі Попчанку, а ня Бубнаву? Ці таму, што ў Попчанкі сьпіна цэлая, і ніякага кроку да гуманізацыі грамадзтва насамрэч не зрабіла, „вэгетарыянскія“ часы насталі хіба што на БТ, а не ў рэальнасьці.

Гэта значыць, нікуды ня дзелася ня толькі „царыца доказаў“, але і „яго вялікасьць“ данос не прапаў. Людзі гатовыя масава „паказваць“ адзін на аднаго, апраўдваць катаваньні (а як інакш?) і доўгія турэмныя тэрміны (ні за што ў нас ня садзяць). У чалавеку вызваляюцца самыя нізкія пачуцьці і жорсткія норавы ваўчынай зграі.

На БТ кажуць пра нешта высокае і жаданае, пра „Беларусь — страну для жизни“, а жыцьцё вагаецца паміж гэтым жаданым і засьценкамі КДБ. І адзінае, што магло б тут даваць надзею на праўду — закон. Калі б ён працаваў.

Дык ці разглядае закон прызнаньне як доказ віны? Прабачце за доўгую цытату.

Артыкул 88 Крымінальна-працэсуальнага кодэксу РБ:

„1. Доказамі зьяўляюцца любыя фактычныя дадзеныя, атрыманыя ў прадугледжаным законам парадку, на падставе якіх орган, які вядзе крымінальны працэс, устанаўлівае наяўнасьць ці адсут-

насьць небясьпечнага для грамадзтва дзеяньня, прадугледжанага крымінальным законам, вінаватасьць асобы, якая ўчыніла гэтае дзеяньне, альбо яе невінаватасьць і іншыя абставіны, якія маюць значэньне для правільнага вырашэньня крымінальнае справы.

2. Крыніцамі доказаў зьяўляюцца паказаньні падазраванага, абвінавачанага, пацярпелага, сьведкі; заключэньні экспэрта; рэчавыя доказы; пратаколы сьледчых дзеяньняў, судовага паседжаньня і апэратыўна-вышуковых мерапрыемстваў, іншыя дакумэнты і іншыя носьбіты інфармацыі, атрыманыя ў парадку, прадугледжаным гэтым Кодэксам".

Зь першым пунктам усё зразумела — гэта проста пацьверджаныя факты. А вось другі пункт і адказвае на нашае пытаньне. Паказаньні не зьяўляюцца доказамі, яны — толькі крыніца доказаў. Такую трактоўку падтрымлівае і артыкул 92 КПК РБ:

„Паказаньні абвінавачанага — гэта зьвесткі, якія абвінавачаны паведаміў у вуснай ці пісьмовай форме на допыце, праведзеным на папярэднім сьледзтве, дазнаньні ці ў судовым паседжаньні…, а таксама пры правядзеньні іншых сьледчых дзеяньняў зь ягоным удзелам".

Такім чынам прызнаньне — гэта зьвесткі, а ня доказы. Варта параўнаць з вышэй цытаваным: „Доказамі зьяўляюцца любыя фактычныя дадзеныя". Зьвесткі, яны ж крыніца доказаў, ня маюць якасьці „фактычных дадзеных". Яны — толькі падказка, дзе трэба шукаць факты. І яны (зьвесткі) не гарантуюць, што факты будуць знойдзеныя, да таго ж зьвесткі могуць быць ілжывымі.

Але сьледзтва ў справе ашмянскіх мытнікаў, чамусьці, зусім не карыстаецца гэтымі падказкамі, а замест гэтага выдае падказкі за факты.

Напрыклад, большасьць падсудных, якія прызналі сваю віну, кажуць, што перадавалі і атрымлівалі грошы ў месцах, дзе стаяць відэакамэры. Агулам гэта тысячы эпізодаў. І гэта падказка, дзе можна знайсьці факты, пацьверджаньне. І такіх фактаў на відэа павінны быць сотні — дзе мытны начальнік К. перадае падначаленаму С. канвэрт з грашыма. Але гэтага няма. Таму суд стварае ўражаньне працэсу на зыбучым пяску, бо бяз фактаў зьвесткі ня маюць якасьці доказаў.

Згадайце нядаўнюю гісторыю зь філёзафам Уладзімерам Мацкевічам. Трое міліцыянтаў засьведчылі ў судзе, што 15 лютага 2016 году Мацкевіч удзельнічаў у несанкцыянаванай акцыі — мітынгу прадпрымальнікаў у Менску. Стаяў з плякатам і гэтым парушаў закон. У адказ Мацкевіч паказаў свой пашпарт і выкарыстаныя авіяквіткі, зь якіх вынікала, што ў той дзень Мацкевіч быў у Варшаве. Міліцыянты ілжэсьведчылі, г. зн. давалі паказаньні, тады як на руках у Мацкевіча былі факты.

Калі доказ сапраўды доказ, яго нельга абвергнуць, і наадварот, калі доказ можна абвергнуць, гэта ня доказ.

Між іншым, сталінскі пракурор Андрэй Януаравіч Вышынскі, якому прыпісваюць фразу пра „царыцу“, меў цалкам адваротны погляд на паказаньні. У сваёй працы „Тэорыя судовых доказаў“ ён кажа:

„Было б памылкова надаваць абвінавачанаму ці падсуднаму, дакладней, іх тлумачэньням, большае значэньне, чым яны заслугоўваюць гэтага… У да-

статкова ўжо аддаленыя часы, у эпоху панаваньня ў працэсе тэорыі так званых законных (фармальных) доказаў, пераацэнка значэньня прызнаньняў падсуднага ці абвінавачанага даходзіла да такой ступені, што прызнаньне абвінавачаным сябе вінаватым лічылася за непарушную, не падлеглую сумневу праўду, хоць бы гэтае прызнаньне было вырванае ў яго катаваньнем, што зьяўлялася ў тыя часы ледзьве не адзіным працэсуальным доказам, у кожным разе лічылася найбольш сур’ёзным доказам, «царыцай доказаў» (regina probationum).

… Гэты прынцып цалкам непрымальны для савецкага права і судовай практыкі. Сапраўды, калі іншыя абставіны, устаноўленыя ў справе, даказваюць вінаватасьць прыцягнутай да адказнасьці асобы, тады прызнаньне гэтай асобы страчвае значэньне доказу і ў сувязі з гэтым становіцца залішнім. Яго значэньне ў такім выпадку можа зьвесьціся толькі да таго, каб зьявіцца падставай для ацэнкі тых ці іншых маральных якасьцяў падсуднага, для зьмяншэньня ці ўзмацненьня пакараньня, вызначанага судом.

Такая арганізацыя сьледзтва, пры якой паказаньні абвінавачанага аказваюцца галоўнымі — яшчэ горш — адзінымі асновамі ўсяго сьледзтва, здольная паставіць пад удар усю справу ў выпадку зьмены абвінавачаным сваіх паказаньняў ці адмовы ад іх“.

То бок, нават судовая атмасфэра сталінскіх часоў патрабуе пэўнага юрыдычнага духу, якога на ашмянскім працэсе не адчуваецца. Тут гэтай „юрыдычнасьці“ ў паветры папросту няма. А што ж тады ёсьць? Ёсьць атмасфэра „Працэсу“ Кафкі і

пакаёўка адваката Гульда, надта абазнаная і ўплывовая, якая тлумачыць арыштаванаму Ёзэфу К., што яму трэба зрабіць:

— Калі ласка, не пытайцеся ў мяне, — сказала Лені. — Лепш выпраўце сваю памылку, ня будзьце такім упартым, усё адно супраціўляцца гэтаму суду бессэнсоўна, трэба прызнацца ва ўсім. Пры першай жа магчымасьці прызнайцеся. Толькі тады ёсьць надзея высьлізнуць, толькі тады. Зрэшты, і гэта немагчыма без староньняй дапамогі, але тут вам турбавацца няма чаго, я сама вам дапамагу.

— А калі я не прызнаюся, ці вы зможаце мне дапамагчы? — спытаў К.

— Не, — сказала Лені і павольна пакруціла галавой, — тады я вам дапамагчы не змагу. Але ж вы і ня хочаце ад мяне ніякай дапамогі, яна вам непатрэбная, вы ўпарты, вас не пераканаць.

**Винт**

Сколько людей в РБ было осуждено только на основании показаний? Получается их осудили без доказательств незаконо. Признать это, значит придётся реабилитировать очень много людей. Власть на это не пойдёт.

**Кнут**

Автор точно подметил, невозможно доказательства сравнивать, которое из них более доказательно. Суду нужно представить показания как доказательства, чтобы показать, что он занимается тем, что выясняет, какое доказательство самое доказательное. Если же считать показания не доказательствами, то становиться непонятно, почему сидят ребята и чем занимается суд.

# ЗРАЗУМЕЦЬ КАРПОВІЧА

9 чэрвеня 2017

Гэты сюжэт трэба было б пісаць прозай. Ён блізкі да ваенных сюжэтаў Васіля Быкава, яшчэ бліжэй да гулагаўскіх дзіцячых гісторый Сьвятланы Алексіевіч і зусім блізка да партызанскіх і чэкісцкіх „подзьвігаў“ у Бартосікавым „Верабейку“. Адно што ўсё адбываецца ў Беларусі сёньня.

Здарылася нешта экстраардынарнае, на чым усе мы па інэрцыі прымусілі сябе „не зацыклівацца“. Ну, б'юць у КДБ, ломяць сьпіны тым, хто ня можа прыняць на сябе грэх абгавору. Страшна, але… На гэтым ня робіш акцэнту, быццам мімалётнасьць падзеяў засьцеражэ ад таго, каб гэта стала нормай, як было ў 1930-я, а так і засталося адзінкавымі выпадкамі.

Вось ты гуляеш па прыгажуні-сталіцы, а заўтра недзе на Акрэсьціна табе прыпісваюць мат ці суткі ці штраф, ставяць на расьцяжку. Ты верыш, што гэта „предел“. А што яшчэ можна зрабіць чалавеку, каб выбіць зь яго паказаньні? Аказваецца, можна. Можна зрабіць больш балюча за зламаную сьпіну і нават за сьмерць.

Начальніка мытнага аддзелу памежнага пункту Каменны Лог Карповіча затрымалі ў Менску. Кадэбісты арыштавалі яго разам з жонкай і дзецьмі дзевяці і шасьці гадоў. Карповіч увогуле не чакаў арышту. Не было за што. Служба і служба. А калі машына з затрыманымі заяжджала на тэрыторыю КДБ, ён увогуле згубіў нітку лёгікі. Так не бывае.

У пакоі сьледчага Карповіч быў у поўнай разгубленасьці. „Вы затрыманыя…“ — Мы ўсе?

Вось дзе яму раптам адкрылася бездань гэтага інквізытарскага катла. І побач настойліва пульсуе думка: Ня можа быць, у наш час, такія самыя службоўцы, як і ты, прыгажуня-сталіца…

Ад жонкі і дзяцей Карповіча павялі ў камэру ўнутранай турмы „Амэрыканкі“. А што зь імі? Наступныя чацьвёра сутак у яго ў галаве будзе толькі адна думка, адно пытаньне і страшныя відзяжы гвалту й пакутаў жонкі і дзяцей, якія ён будзе адганяць як назольных мух, але яны будуць вяртацца — яшчэ страшнейшыя, яшчэ мацнейшымі ўдарамі проста па сэрцы. Ці яны жывыя? Увесь ягоны свой сьвет, будаваны ім шмат гадоў, ці то ўзарваўся ці раструшчыўся пад нагой Гулівэра, які наступіў на яго, быццам і не заўважыў.

Чацьвёра сутак яму будуць абыякавыя ўсе гэтыя камэры, сьледчыя, допыты, пратаколы — усё як у тумане. Карповіч урэшце падпіша ўсё, што ад яго патрабуюць, у тым ліку на Юркойця. Зь Юркойцем — чалавекам бездакорнай рэпутацыі — будзе асабліва цяжка. „Хто ж яго пасадзіць, ён жа помнік“.

Важна, што Карповіч падпіша нарыхтаваны для яго пратакол толькі на чацьвёртыя суткі. Нават такі аглушаны і ўнутрана забіты, страціўшы свой асабісты сьвет, ён чацьвёра сутак не пераступаў мяжу прыстойнасьці. Штохвілінна не пераступаў. Але на чацьвёртыя суткі невядомасьць пра сям’ю канчаткова задушыла яго. Звар’яцець можна зусім не фігуральна.

Карповіч ставіць подпіс пад пратаколам, і сьледчы паведамляе яму, што жонку і дзяцей адразу адпусьцілі з КДБ дадому.

Карповіч ня выдыхнуў — у-ф-ф. Па-першае, пасьля ўсяго сьледчаму веры няма, па-другое, ён ужо шмат разоў пераўжыў зьдзекі зь ягонай сям'і. Па ўсіх франтах ён перайшоў тую рысу, з-за якой ужо ня вернецца ніколі ў жыцьці.

Палёгкі ён не адчуў. Быццам той цяжар Гулівэравай нагі цяпер роўна разьмеркаваўся па ўсім ягоным целе і асталяваўся тут назаўсёды. Ён замінаў гладка думаць, гладка гаварыць, рабіць гладкія жэсты. Усё выходзіла нейкае тармазнутае. Такім мы і пабачылі Карповіча на допыце ў Партызанскім судзе.

Ён пералічвае імёны, быццам выпадкова губляючы-забываючы кагосьці. Вось пра Юркойця сказаць забыў. Але судзьдзя настойліва вяртае згубленае ў ягоны непадымны кошык. Карповіч сьцьвярджае, ускосна адмаўляючы, „асабіста Юркойцю грошы ніколі не перадаваў". Але судзьдзя ўдакладняе: А апасродкавана перадавалі?

Недзе дзенесься — той першы шок і прызнаная пад ім хлусьня робяць з прыстойным чалавекам свой „фінт" — цяпер ужо мусіш трымацца свайго слова, нават калі схлусіў: „Перадаваў праз Чэпіна". Карповіч спрабуе пятляць, замест „Юркойцю перадаваў" кажа „Юркойцю грошы выдзяляліся". Але пракурор карэктуе ягоныя словы — „перадаваў".

Але слухаючы Карповіча, я не магу асуджаць яго. Перад ім не было дылемы. Бо калі гэта дылема, яна ні ў якім разе ня зь мірнага жыцьця, яна з практыкі вайны, нацысцкіх і сталінскіх лягераў.

З усіх „формаў узьдзеяньня“ да Карповіча была ўжытая самая пачварная. Той выпадак, калі ніхто ня скажа пра сябе наперад, што вытрымае. А як тут вытрымаеш, калі ты не савецкі герой Мінай Шмыроў, які ня здаўся немцам у абмен на ўласных дзяцей і якога нібы з горкай ironіяй назвалі ў народзе „бацькам Мінаем“.

..........................................................

**Ірына**

Моцна. І страшна. І сапраўдны жах, што ўсё навокал так і працягнецца. І не манголы ці фашысты акупавалі, свае гарадскія-вясковыя, радня нечая.

**Кнут**

Чтобы такое сделать, совести вообще не должно быть. Зло несут люди и не важна их национальность. Афоризм Адольфа Гитлера: „Я освобождаю вас от химеры, именуемой совестью“. Как видите самого монстра давно нет, а его последователи рядом с нами.

# ЗАКОН РАЗЬБІТАГА АКНА

11 чэрвеня 2017

У інтэрвію Радыё Свабода (9.06.2017) Павал Якубовіч, афіцыйны чалавек, прадстаўнік улады, сказаў: „Цяпер трэба гаварыць пра тое, што нельга дапусьціць сталінізму…“. Думаю, шмат беларусаў на гэта са зьдзіўленьнем ускінуць бровы: а што, ёсьць небясьпека?

Сталінізм — гэта для многіх як глябальнае пацяпленьне ці чарнобыльская радыяцыя, якая „не кусаецца“. У Якубовіча гэта (з кантэксту размовы) масавыя рэпрэсіі, а таксама „уся гэтая параноя, пустата і барабанны бой“, які скончаўся канцлягерам.

На працэсе ашмянскіх мытнікаў мне думаецца, што тэрмін „сталінізм“ можна акрэсьліць і зусім гранічна. Гэта прысуд, заснаваны на паказаньнях (даносах) і памножаны на масавасьць.

І неяк тут, у Доме правасудзьдзя гэта выглядае адпаведным сытуацыі і агульнаму настрою. Прыблізнае зь лёгкасьцю пераліваецца ў канкрэтыку турэмных гадоў, разрозьненае без праблем зьбіраецца ў злачынныя групы, хлусьня разглядаецца як праўда, абы яе нехта падпісаў.

„Сталінізму“ патрэбныя пэўныя абставіны — як д'яблу дэталі. Нават не адразу разьбярэсься, што з чаго бярэцца: „сталінізм“ з абставінаў ці наадварот.

Казусы гэтага судаводзтва трапляюць на вока ўжо ў ліфце, які вязе зь першага на чацьвёрты паверх, а электроннае табло паказвае, што з другога на пяты. Далібог, не зьвярнуў бы на гэта ўвагі, калі б пабачыў няспраўнасьць аднойчы, а не назіраў яе

кожнага разу, пачынаючы зь мінулага лістапада. Судзьдзі, пракуроры, адвакаты штодня едуць у гэтым ліфце па некалькі разоў, убіраючы ў сябе гэтую амаль незаўважную, а ўжо і звыклую няпраўду.

Дробязь, нібыта, але прымусіла ўзгадаць вулічныя гадзіньнікі ў Празе, якіх там процьма і якія заўсёды паказваюць дакладны час. Ну хоць бы адзін калі зламаўся, — думаў я сам сабе, а яны ніколі не ламаліся. Дакладней, нехта іх адразу рамантаваў. Каб у дакладным не было хлусьні.

А яшчэ ўзгадаўся закон разьбітага акна. Гэта калі людзі штодня ходзяць міма пабітай шыбіны, прывыкаюць, што гэта недагледжанае, нікому не патрэбнае месца. Неўзабаве пад акном зьяўляюцца недапалкі і пустыя бутэлькі, іншае сьмецьце, а яшчэ праз нейкі час тут становіцца небясьпечна хадзіць уначы.

Чыста псыхалягічны прынцып прывыканьня да няспраўнасьці і непарадку, які хутка распаўсюджваецца на ўсё і ўсіх, і „разруха ў клязэтах“ становіцца „разрухай у галовах“.

Прыгадалася гісторыя з электрычкамі мэтро ў Нью-Ёрку, якія вярталіся ў дэпо, няшчадна размаляваныя графіці. Тагачасны мэр гораду Джуліяні загадаў электрычкі мыць. Выйшлі на лінію чысьценькія, а вярнуліся зноў размазюканыя. Мыць! Усё паўтарылася. Мыць! Праз тыдзень заўважылі, што графіці стала меней. Праз два тыдні цягнікі вярнуліся чыстыя.

Гэта да таго, як перамагчы разруху. І ясна, што ня сам непарадак першым чынам хваляваў Джуліяні, а якраз тое, як ён дэмаралізуе чалавека.

Дэмакратыя — гэта работа, а сталінізм — самацёк.

Дарэчы, пра клязэты. У прыбіральнях Дому правасудзьдзя няма сядушак на ўнітазах і не заведзеная папера. Судовай мовай, усё гэта „не прадугледжана“. Судзьдзі і пракуроры ходзяць у свае клязэты з ключом. У народзе гэта называецца жлобствам.

Заля, у якой адбываецца суд і дзе ўзімку пацякла столь, так і стаіць зачыненая, працэс перанесьлі ў іншую залю. Зноў прынцып прывыканьня да першых прыкметаў „разрухі“.

Спачатку такія прыкметы бянтэжылі. Усё ж мы сюды прыходзім хоць бы з надзеяй на справядлівасьць, а сустракаем „разруху“ — спачатку ў ліфце, у залі, у клязэце, а пасьля і ў самім судовым разборы. Крыху кагнітыўнага дысанансу, і вось табе без усялякіх намёкаў кажуць пра „сталінізм“. І ты згадваеш, што ўсё абвінавачаньне грунтуецца на прызнальных паказаньнях, якія стопрацэнтова выглядаюць на данос і абгавор.

P.S. Вярнуўся дахаты, адкрыў фэйсбук, чытаю ў Севы Сьцебуракі пра Алеся Яўдаху, які сядзіць на „Валадарцы“ як фігурант справы „Белага легіёну“: „У чарговым лісьце Алеся Яўдахі цэнзар нешта замазаў. Думаю, дай расчытаю. Выявілася, што падчас дажджу апартамэнты СІЗА па поўнай праграме залівае вадой, і насельнікі бегаюць з тазікамі... Чым дах парамантаваць, яны сарамяжліва, як школьнікі-малалеткі літаркі закалякалі“.

# УВЕСЬ ПРАЦЭС У АДНОЙ СХЕМЕ

19 чэрвеня 2017




## Кнут

У меня есть догадка на последний вопрос: „Почему начальники, получив деньги вне режимной зоны, приносили их в режимную зону, чтобы раздать подозреваемым инспекторам?“. Честнойтью деньги начальник привозил домой и на суде сказали, что есть мобильные звонки от начальника Честнойтью. Правда, для чего начальник приезжал, из телефонных звонков не ясно. Может перфоратор одолжить. А по остальным подозреваемым нет даже телефонных звонков. Поэтому следователю ничего не оставалось как придумать версию с передачей денег на рабочем месте, что конечно не логично и опасно, но этот вариант не требует факта наличия мобильных звонков.

# Дзьве вясёлых гусі

27 чэрвеня 2017

Памятаеце, калі прэзыдэнт анансаваў працэс ашмянскіх мытнікаў, ён сказаў: „У злачынную дзейнасьць быў уцягнуты ледзь ня ўвесь асабовы склад мытнага паста Каменны Лог“. Вось гэтае „ледзь“ мы і пабачылі сёньня ў судзе.

Я так і не зразумеў, адкуль яны ўзяліся — два мытныя інспэктары з казачнымі прозьвішчамі Ган і Іваноў. Яны нічым не адрозьніваюцца ад абвінавачаных, працуюць на той самай мытні даўно, усіх ведаюць, начальнікі ў іх былі тыя самыя, што і ў „нашых“, кветкавую прадукцыю афармлялі, у тым ліку тыя машыны, за афармленьне якіх фірмачы, нібыта, плацілі дадаткова, пра незаконныя грошы нічога ня ведаюць. Розьніца ў тым, што прыйшлі яны ў суд у якасьці сьведак, бо па-ранейшаму працуюць на тых самых пасадах, на якіх працавалі ўсе іхныя абвінавачаныя калегі.

Тадэвуш Высоцкі, які сядзіць у клетцы, таксама нічога ня можа зразумець. Ён спытаўся ў Іванова: „Скажыце, мая праца ў акенцы 7 чым-небудзь адрозьнівалася ад вашай працы ў акенцы 9?“ „Не“, — адказаў Іваноў.

Можа быць толькі адно тлумачэньне, чаму пяцёра мытнікаў за кратамі, шасьцёра пад хатнім арыштам, а Ган і Іваноў на волі і працуюць дзе працавалі. У адрозьненьне ад першых, на іх ніхто ня даў абвінаваўчых паказаньняў, у адрозьненьне ад другіх, ні на каго не паказалі яны.

Значыць, усё ж такі ўсё вырашаць паказаньні?

Пракурор запрасіў у судзьдзі перапынак на падрыхтоўку новага абвінавачаньня. Супраць былі ўсе — адвакаты, сваякі ў залі, абвінавачаныя.

Гэты суд увогуле складаецца галоўным чынам зь перапынкаў. І не было б праблемы, калі б частка падсудных увесь гэты час не сядзела ў турме.

— За 27 месяцаў можна было вызначыцца, — заявіў з клеткі Юркойць.

— Я ня ў праве адмовіць у гэтым дзяржаўнаму абвінаваўцу, — мякка сказаў судзьдзя. А ўсе зразумелі, што гэты Партызанскі суд — толькі пятая частка агульнага мытнага працэсу, і паколькі абвінавачаньне перапрад'явілі ў абласным судзе, дзе судзяць мытных начальнікаў, значыць, павінны перапрад'явіць і тут, падначаленым.

Падсудны Курневіч зрабіў гучную заяву пра тое, што сьледзтва факусуе ўвагу суду на тым, чаго мытнікі не рабілі, але замоўчвае тое, што яны рабілі — працавалі без парушэньняў. Тым часам, ніводнага парушэньня службовых абавязкаў мытнікам выстаўлена не было. Заля зашумела ўхвальна.

Толькі Ган і Іваноў усяго гэтага чуць ужо не маглі. Яны як зьявіліся зь нейкага іншага сьвету, так і зьніклі, паехалі далей працаваць сабе на мытным пераходзе Каменны Лог. Быццам нічога й ня здарылася. Свабодныя і, можа быць, нават у душы вясёлыя.

Засталася карцінка-тантамарэска з пустымі адтулінамі для твараў.

А вы памятаеце, чым скончылася песенька пра дзьвюх вясёлых гусяў, якія жылі ў бабусі? Яны мылі лапкі (!) і „спрятались в канавке". А бабуля

бачыць — няма іх і крычыць: Ой, прапалі гусі! А яны пачулі, выйшлі і „кланялись“ бабулі.

Такая добрая карцінка, мульцяшная.

.........................................................

**Мікола**

Очередная демонстрация вседозволенности власть имущих. Эти два гуся, судя по ситуации, сидят на крючке и им проще оговорить коллег, чем оставаться людьми. Хорошее сравнение, это гуси!

**Ананім**

Mikola, правда где-то рядом. Мы это знаем.

**Сьведка**

Аж да 11 ліпеня! А я спадзяваўся, што працэс марудзяць да 3 ліпеня, а там — амністыя. Усё дарэмна!

# МЫТНІК — ПАТЭНЦЫЙНЫ ЗЭК

28 чэрвеня 2017

У перапынку суду да мяне падышла маладая жанчына. Яна адмыслова прыехала з Гомеля, дзе неўзабаве мае пачацца чарговы „мытны працэс“. Адно што, у адрозьненьне ад ашмянскай справы, пра гомельскую няма ніякага розгаласу, усё сном-духам, цішыня.

У Гомелі таксама ёсьць тыя, хто прызнаў, і такія, хто з прычыны непрызнаньня застаецца за кратамі. Жанчына — жонка якраз такога мытніка. Усяго там арыштавана больш за 30 чалавек мытнікаў і прадпрымальнікаў.

А зацікавіў жанчыну ашмянскі працэс тым, што тут усё адбываецца нібы пад капірку. І стыль арыштаў, і мяшкі на галаве, і катаваньні і ўсё іншае. Адно ведамства працуе — КДБ.

У гомельскіх адзін мытнік звольніўся са службы і заняўся кантрабандай наркотыкаў. Такі гаваркі разьняволены чалавек. Балагур, яна сказала. Я адразу „пазнаў“ Ігара Высоцкага з Ашмян, які таксама „балагур“, таксама звольніўся з мытні і зьвязаўся зь фірмачамі.

Балагур, кажа жанчына, таксама як і Высоцкі, заявіў, што ў КДБ яму абяцалі ролю сьведкі.

Выглядае, што Ашмянскую і Гомельскую мытні КДБ пачаў распрацоўваць прыблізна ў адзін час — калі Балагур і Высоцкі звольніліся з працы. Гэта 2014 год. Яшчэ праз год і там і там пачаліся масавыя арышты…

Цалкам магчыма, што нехта прызнае такое жыцьцё за норму. Ёсьць жа такія, хто ўхваляе Сталіна за масавыя рэпрэсіі. І ўсё ж здаровы розум падказвае, што: ня можна гэтак бамберыць нацыянальную мытню, выстаўляючы ўсіх яе работнікаў злачынцамі; ня можна дзеля імітацыі бурнай дзейнасьці таптацца па лёсах людзей; ня можна „прызнантаў“ у хабарніцтве ставіць вышэй за „непрызнантаў“, якія трапілі пад раздачу адно „для масавасьці“. Дыскрэдытацыя мытнага ведамства — каму і навошта гэта патрэбна?

Разумею, што КДБ трэба дэманстраваць дзейнасьць і што ў Беларусі праблема з рэальнай злачыннасьцю, якой для дэманстрацыі дзейнасьці аграмаднага апарату, відаць, недастаткова. Таму даводзіцца літаральна сваімі рукамі ствараць „злачынныя групы“ і бэсьціць мытню, за якую ніхто ў грамадзтве слова ня скажа, маўляў, калі мытнік, дык ужо патэнцыйны хабарнік, маўляў, калі пасадзілі, значыць, было за што. Выглядае, што праблема зусім ня ў мытні, а ў неадэкватнасьці КДБ — сёньняшняму часу, аб'ёмам задач, чалавечай маралі.

Паводле вэрсіі КДБ, на мытні працуюць толькі злодзеі, а прысяга ў Беларусі прымаецца службовымі асобамі толькі для таго, каб яе парушыць. У такіх умовах менавіта тыя, хто прысягі не парушаў, ратуюць гонар мытнага ведамства і самой дзяржавы, а ім за гэта дастаецца больш, чым астатнім.

.....................................................

**Деда**

Давно читаю ваши статьи. Эта особенно впечатлила. Это оказывается борьба против лучших кадров таможни, охватившая всю страну... Удивляет наше правосудие.

Презумпция невиновности исчезла, а слова людей, нарушавших законы, вдруг не подлежат сомнению и не требуют подтверждения. А честных и принципиальных делают преступниками и держат в тюрьме. Вот такой идеал гражданина хотят нам навязать, к нему нам надо стремиться?

**Феликс**

Да, если попадаешь в эти места, то считай, что ты уже сидишь. Доказуху насобирают очень быстро. Свидетелей найдут сколько нужно. Суд тоже, типа схвачен. И пофигу, что тебе чуть ли не иголки сували под ногти, абы посадить.

**Ананім**

Все как под копирку. Где логика, где соблюдение УПК? Что-то неладное творится „в Датском королевстве“. Как компьютерная игра с плохим сценарием.

**Ммг**

Что творится??? И это наша Родина, на которой ради денег и звёздочек можно садить и винить тех, кто не имеет даже к этому причастности??? Всех, кто просто под руку попался??? Может и осудят за этот комментарий, но мне стыдно за нашу Родину, которую мы звали Родиной. Так к каждому могут прийти и забрать... Ни за что, ничего не объяснив... Это разве правильно????

**Кики**

Да... 37 год… Вот и построили светлое будущее. Мрак!

**Ксюша**

В последнее время все больше слышишь/читаешь „посадили за взятки“… Раньше к этому относилась по другому... Наверное было за что и т. п. Теперь все иначе… Особенно когда читаешь, что дело ведет КГБ… Кто-то выполняет показатели/задания. Таможенники просто работали не в то время, не в том месте... Лично общалась с сотрудниками КГБ в похожей ситуации.... Полностью разочаровалась в данной структуре… Все тупо и безнаказанно. Бедные парни, искренне им сочувствую. Родственники, держитесь.

**Анатоль**
В комитете уже давно позабыли про законы и доказательную базу, делают исключительно через выбивания показаний. Людей бьют и унижают, тем самым демонстрируют свою безнаказанность и власть. Сейчас, проще ловить уклонистов от армии, посадить тех же таможенников, чем ловить наркоторговцев и контрабандистов…

**Роза**
Смотря раньше телевидение и новости, где рассказывали о том, как наши провоохранители задерживали опасных/особо опасных притупников, мы думали — вот это уровень безопасности. А сейчас, читая подобные статьи и слыша от близких и родственников, как бесцеремонно измываются над невиновными, понимаешь, что это все ложь и провокация. А Комитет госбезопаности, который считался высоким уровнем справедливости, в глазах народа резко упал!!!

**Мир**
Страшно даже думать, в какой стране мы живем. Идешь работать на благо родине, а тебя сажают в тюрьму. И неважно, виновен ты или нет. Просто КГБ нужна показуха. Им абсолютно все равно, что они ломают человеческие судьбы. С такой политикой Гомельского КГБ можно посадить каждого. Как говорится, если вы не сидите в тюрьме, это не ваша заслуга, это наша недоработка. И это уже шутка, от которой становится больно.

**Кнут**
„… КГБ можно посадить каждого“. Прозрение наступает, когда это касается лично нас. А ведь эта ситуация не вчера возникла. Нужно было бить тревогу раньше, болезнь легче лечить на ранней стадии.

**P.S.**
Да. К сожалению, когда именно нас. Но нас становится сильно много. И тревогу бить никогда не поздно начинать. Просто нужно начать и не бросать до конца. И вряд-ли от этой болезни

есть какое-то действенное лекарство. Нужно пробовать все. Ведь система — это люди. И не хочется верить, что совсем уже нелюди. Хотя столкнувшись, понимаешь что нелюди. А адвокаты, которые на суде играют в телефоне (пардон, может новости читают) это вообще отдельная песня. Но как говорится „надежда умирает последней“…

**Валентус**

Самое интересное, что за таможенников не вступится общественность. Как в деле патриотов. Как общество у нас к таможенникам относится? Хотя большинство из них и есть патриоты. Кто не оговорил сослуживца, кто не брал денег, а работали и верили в закон, как это высокопарно не звучит. И даже сейчас верят, что разберутся, что закон будет выше бредовых амбиций. Мне интересно, а прокурор и судья спокойно переваривают кашу, заваренную чекистами? Или им пищеварительные ферменты за вредность выдают?

**Коля**

Где честное и не предвзятое расследование в деле гомельских таможенников? Его нет!! Таможенников тупо маринуют в ванючем сизо как убийц и воров!! И только богу известно, что с ними там еще делают ради выбивания показаний, а народу заявят мол мы чекисты опять спасли планету от банды карупционеров. (Даже первокурсник юрист доказал бы, что дело мутное и наигронное, так куда смотрит наша доблестная прокуратура, ведь она должна быть гарантам справедливого расследования.)

**Кнут**

Прокуратура никогда не была гарантом справедливости, это не её роль. Она гарант обвинения.

**P.S.**

Все они видят и знают. И прокуроры, и судьи, и адвокаты. Только против системы боятся и не хотят идти. Что такое для них люди? Быдло? Расходный материал? Главное чтобы кресло не пошатнулось. Да и таможне плевать на своих.

Быстренько уволили. Был человек, нет человека. А ведь уволить можно только после того, как судом доказана вина. Всем плевать. Вбили народу в голову что таможня и взятка едины. И сажай на здоровье. А кагэбисты ни ни, вторые после бога.

**мама оля**

А что вы удивляетесь, ведь надо зарплату отрабатывать, сегодня посадили гомельских таможенников, а завтра займутся пожарными, дворниками, сантехниками и т. д. Ведь они работают, без них мы пропадем. Вот и показывают видимость работы!!!!!!!!

# ІНСТЫНКТ НАСАРОГА

12 ліпеня 2017

На працэсе зачыталі „новую“ вэрсію абвінаваўчага заключэньня. Прысутныя ў залі пераглянуліся.

Суд доўжыцца ўжо восем месяцаў. Колькі ўсяго было паседжаньняў? — спытаўся ў мяне Алесь Яўдаха, які прыйшоў падтрымаць Юркойця. Сам два тыдні як з „Валадаркі“. Трыццаць, — адказаў я.

Кантэкст пытаньня такі: пасьля трыццаці паседжаньняў, на якіх зачытвалі дакумэнты, слухалі сьведкаў і абвінавачаных, разьбіраліся ў спэцыфіцы мытнае службы, на якіх паўстала мноства пытаньняў да абвінаваўчага заключэньня, гэтыя пытаньні засталіся „за бортам“, так і не знайшоўшы адказаў у „новым“ заключэньні. Хіба што тэрмін „бесьперашкодны пропуск“ машын з кветкамі замянілі на „бесьперашкодны выпуск“. Бо мытня не прапускае грузы, а афармляе іх.

Усё астатняе засталося бязь зьмен. А гэта значыць, суд восем месяцаў працаваў упустую.

Фабула абвінавачаньня таксама засталася нязьменнай. Яна распавядае пра тое, як начальнікі Фалевіч і Сарумянц, нібыта, бралі грошы ў камэрсантаў Танкелюна і іншых за хуткае афармленьне фураў з кветкамі.

Фалевіч і Сарумянц названыя стваральнікамі арганізаванай злачыннай групы. Пазьней да іх далучыўся Ігар Высоцкі і ўсе трое сталі кіраўнікамі гэтай самай „групы“. Пасьля яны далучылі да сябе начальнікаў аддзелаў (пералік імёнаў). Далей — хто з гэтых людзей калі і каму на якой запраўцы перадаў

колькі грошай, хто і якія вызначаў тарыфы хабараў, хто каму зь якой сімкі званіў…

Цікава, вядома. Але нявыкрутка ў тым, што ўсіх гэтых людзей на працэсе, на якім вы прысутнічаеце, няма. І гэта ўсё не пра тых, якія тут. У Партызанскім судзе судзяць зусім іншых людзей — адзінаццаць інспэктараў, якія ні перамовамі з камэрсантамі, ні тарыфамі, ні сімкамі не займаліся. Іх роля ўсплыве толькі ў фінальнай частцы абвінавачаньня і будзе заключацца ў тым, што яны „былі ўцягнутыя“ героямі фабулы ў тую „групу“.

Цяпер зразумела, што пасьля новага абвінавачаньня начальнікам у абласным судзе, ва ўсіх чатырох раённых менскіх судах адбудуцца пераабвінавачаньні шараговым мытнікам, якія будуць цалкам тыповымі: фабула пра начальнікаў і фінальная частка пра прысутных абвінавачаных інспэктараў.

Калі Партызанскі і яшчэ тры менскія раённыя суды ідуць толькі прычэпам да начальніцкай фабулы, пра што тады тут будуць гаварыць у спрэчках? Пра паводзіны начальства? Пра інкрымінаваныя сумы? Пра турэмныя тэрміны? Начыста забыўшы пра канкрэтныя доказы — ці было дзеяньне з боку прысутных абвінавачаных і ў чым злачынства?

Я задаўся пытаньнем: ці мусіць абвінавачаньне мець у сабе хоць бы нейкія доказы таго, што людзі сапраўды „былі ўцягнутыя“, бралі незаконныя грошы і менавіта — за што? Ці мусіць там гаварыцца, на падставе чаго выносіцца абвінавачаньне? Ці абвінаваўчае заключэньне можа мець чыста дэкляратыўны характар? Аказваецца, ня можа.

Артыкул 205 Крымінальна-працэсуальнага кодэксу РБ кажа, што „Абвінаваўчае заключэньне складаецца з апісальнай і рэзалютыўнай частак“.

У апісальнай частцы „выкладаецца сутнасьць справы: месца і час учыненьня злачынства, яго спосабы, матывы, наступствы і іншыя істотныя абставіны; зьвесткі пра пацярпелага; доказы, якія пацьвярджаюць наяўнасьць злачынства і вінаватасьць абвінавачанага; довады, якія абвінавачаны прыводзіць у сваю абарону, і вынікі праверкі гэтых довадаў“.

У рэзалютыўнай частцы фармулюецца само абвінавачаньне з указаньнем артыкулу КК.

Тое заключэньне, якое зачытаў на працэсе пракурор, выглядае наступным чынам: апісальная частка (фабула) распавядае нам пра групавое злачынства, нібыта, учыненае начальнікамі. А рэзалютыўная (фінальная) частка абвінавачвае падначаленых.

Складаецца фінальная частка зь пераліку па асобах: Абвінавачаны К. за бесьперашкодны выпуск стольkіх машын з кветкамі, за такі пэрыяд, забясьпечыў даход арганізаванай злачыннай групе на стольkі тысяч даляраў (на той момант стольki недэнамінаваных мільёнаў або стольki базавых велічынь), за што асабіста атрымаў стольki тысяч даляраў (на той момант стольki недэнамінаваных мільёнаў або стольki базавых велічынь). Грошы атрымліваў ад свайго начальніка на аўтастаянцы пры Ашмянскай мытні або ў іншых месцах.

І так пра ўсіх 11 абвінавачаных мытнікаў. „Групе“ забясьпечыў стольki, сабе на аўтастаянцы атрымаў стольki. Пры гэтым усё, што, на думку пракурора, даказвае сувязь паміж апісальнай і рэзалютыўнай

часткамі — пасада, якую мытнік займаў у інкрымінаваны пэрыяд і больш нічога. Нібыта тое, што інспэктары працавалі на мытні, аўтаматычна робіць іх чальцамі „групы“.

За час судовага сьледзтва пракуратура не прадставіла ніводнага аб’ектыўнага факту фіксацыі перадачы грошай! Не зьдзіўляе, што такіх фактаў няма. Зьдзіўляе тая ўпартасьць, зь якой праз восем месяцаў судовага сьледзтва пракуратура працягвае стаяць на сваім: былі ўцягнутыя, атрымлівалі, перадавалі грошы.

Гэта зьдзіўляе, а сур’ёзна насьцярожвае тое, што ў абласным судзе, які ўжо выйшаў на фінальную лінію, важныя пытаньні працэсу так і засталіся без адказу. Як з тымі двума мільёнамі, што „знайшлі пад ваннай“ у Сарумянца, паходжаньне якіх не зацікавіла суд.

Пракуратура, нібы трамвай, едзе па рэйках, пракладзеных сьледзтвам, не зважаючы ні на артыкулы КПК, ні на відавочныя „белыя ніткі“, якімі шытая справа, ні на чалавечы фактар.

Гэта значыць, што „за бортам“ працэсу могуць застацца і ключавыя пытаньні ў Партызанскім судзе, а менавіта:

Навошта начальнікі давалі грошы інспэктарам, калі тыя — іхныя падначаленыя і калі за гэтыя грошы нічога адмысловага рабіць не патрабавалася? І яшчэ — дзе злачынства?

Магчыма, пракурор і ня мусіць задавацца пытаньнямі, а наадварот — упарта стаяць на сваім. Недастаткова доказаў? — недапрацаваў сьледчы. Як гэтым распарадзіцца? — хай вырашае судзьдзя. І як бы ён ні вырашыў, я сваю справу зрабіў добра.

Насамрэч, у насарога няма прынцыпаў, ён проста атакуе: бязьлітасна і безаглядна, за што і лічыцца самай небясьпечнай істотай у прыродзе.

Для азнаямленьня з „новай“ вэрсіяй абвінавачаньня суд адкладзены да 15 жніўня.

..........................................................

**Валентус**

Так жутко становится от прочитанного. Что это? Не знают, где запятую поставить в предложении: „казнить нельзя помиловать“? За что суд и прокуроры получали свои зарплаты (я думаю, выше средней з/п)? У них, наверно, и обвинительный приговор давно в ящике пылится. И главное, фактически ущерба нет, а суммы для погашения есть. Интересное у нас правосудие. Точно мы идём своим путём. Вернее, катимся. Белорусское чудо.

# ЗАМАТАЛІ ГАЛАВУ ДУБЛЁНКАЙ

31 ліпеня 2017

Менскай п’есай адкрылі сэзон і ў Гомельскім тэатры.

Хіба што ў сталіцы 58 фігурантаў, а ў Гомелі 18. Усё астатняе — тое самае. Фабула: арганізаваная злачынная група на мытні атрымлівае грошы за, як вы ўжо здагадаліся, „бесьперашкодны“ праезд транспарту з таварамі.

Абедзьве справы распачатыя ў 2014 годзе, калі начальнік аддзелу Ігар Высоцкі ў Ашмянах і опэр Дзьмітры Пагарцаў у Гомелі сышлі са сваіх пасад і пачалі, ужо як бізнэсоўцы, „прамазваць“ былых калег грашыма.

Верагоднасьць паказаньняў нічога не каштуе, бо мы ведаем, што сьледзтва прэсавала затрыманых. У прыватнасьці, жонкі двух гомельскіх мытнікаў (якія не прызналі віны) распавялі мне, што на галаву фігурантам пры арышце таксама надзявалі мех і ў такім выглядзе дастаўлялі ў турму.

Былы начальнік апэратыўна-пошукавага аддзелу гомельскай мытні Ісачанка распавёў, як яго, а таксама мытнікаў Емяльянчанку і Капытава транспартавалі ў Менск. Цытаты з судовага допыту прыводзіць „Белгазета“:

„З нас зьнялі верхнюю вопратку, зь мяне зьнялі дублёнку, заматалі ёй галаву, тое самае зрабілі з астатнімі. Мне зашпілілі кайданкі за сьпінай, паклалі ў „ГАЗель“ на падлогу паміж сядзеньнямі. Емяльянчанка знаходзіўся, як я потым даведаўся,

каля дзьвярэй на падлозе, Капытаў, здаецца, далей у праходзе на падлозе.

Хвілін праз 20 я пачаў задыхацца, папрасіў зьняць дублёнку, мне сказалі, што здаровы, вытрымаю. Я ляжаў паміж двума супрацоўнікамі, якія сядзелі па баках. Адзін паставіў сваю нагу на адну маю, другі на другую нагу. Праз паўгадзіны ў мяне пачалі адымацца ногі.

Я ім крычу, што вы творыце, я задыхаюся! Мне адказалі: „Добра, зараз зарадку будзем рабіць“. Мяне паднялі, і пачалі рабіць прысяданьні. Ведаеце, як гэта адбываецца? Цябе паднялі, а ногі самі прысядаюць. Калі просіш дублёнку з галавы зьняць і папіць, атрымліваеш удар у месца валасянога покрыва, каб сінякоў не было і так далей“.

Як кваліфікаваць гэтыя дзеяньні супрацоўнікаў КДБ? Як грубае парушэньне Канстытуцыі, яе 25-га артыкула: „Ніхто не павінен падвяргацца катаваньням, жорсткаму, бесчалавечнаму або зьневажальнаму для яго годнасьці абыходжаньню“.

Ні пракурор, ні судзьдзя не зьвярнулі на гэтыя паказаньні ніякае ўвагі. Але словы Ісачанкі пацьвярджаюць, што гэта не фантазіі і што зь ім рабілі тое самае, што з Пашкоўскім і Шчыкно, якія заявілі пра гэта на ашмянскім працэсе.

Ісачанку з калегамі арыштавалі ў лютым 2016-га, калі ашмянскія год як сядзелі ў турме, а працэс над імі пачаўся ў лістападзе 2016-га, калі амаль год сядзеў у турме Ісачанка. Гэта значыць, гомельскія мытнікі ніяк не маглі ведаць пра паказаньні ашмянскіх. Пры тым, што апісаньне зьдзекаў супадае.

На пытаньне адваката, ці будзе ён скардзіцца на катаваньні ў КДБ, Ісачанка адказаў:

— Так, я ім сказаў, што буду пісаць на іх скаргу ў пракуратуру. Мне адказалі: „Ты што, дурак? Думаеш, пракуратура пойдзе супраць нас ці паверыць табе? Якія зьдзекі, іх не было!“.

Згаданага мною раней Балагура завуць Пагарцаў. Яго, чалавека лёгкага ў дачыненьнях, сцэнарысты выкарысталі ў ролі казла-правакатара, зрабіўшы зь яго ў выніку ахвярнага казла. Пагарцаў сустракаўся з калегамі ў кавярнях і прапаноўваў ім грошы за „бесьперашкоднае“ афармленьне тавараў. Дакладна як Высоцкі ў ашмянскай справе.

Кавярня, на першы погляд, новая рэалія ў п’есе, такі сабе гомельскі „калярыт“. Але задумы сцэнарыста яна не мяняе. Бо „дзялілі грошы“, нібыта, дакладна як ашмянскія, непасрэдна на працоўным месцы і частку гешэфту пакідалі ў шуфлядзе службовага стала начальніка. Чаму не шыфраваліся, робячы ўсё гэта пад нядрэмным вокам кантралёраў з КДБ? — гэтае месца ў п’есе застаецца непраясьненым.

Загадкай застаецца 2014 год, якім датуецца п’еса. Што мусіла адбыцца, каб у супрацьлеглых кутках краіны КДБ узяўся ствараць на мытні арганізаваныя злачынныя групы? Для чаго? Для агульнага построху? Для таго, каб зьнізіць узровень карупцыі? Проста з-за нелюбові кіраўніцтва аднаго ведамства да кіраўніка другога?..

Няма адказу.

.............................................................

**Валентус**

Умеете вы, Сергей, самую суть уловить и интересные параллели уловить. Будем наблюдать, искать „10 отличий“ между „делами“. Спасибо, кратко и в точку.

**Кнут**
Начало обоих действий 2014 год. Вы думаете, это просто совпадение?

**Маргарита**
Да... два спектакля связаны ещё и поломанными судьбами людей, которых государство пустило в расход.

**Ананім**
Сегодня было продолжение суда над гомельскими таможенниками. Больше часа читали предъявление обвинения Погарцеву Д. Н. То, что он надеялся пройти свидетелем, а стал организатором — отдельные аплодисменты следствию. Одно резало слух: как, не являясь должностным лицом таможни с весны 2014 года, Погарцев на протяжении всего 2015 года использует свое служебное положение и является должностнам лицом? Прокуратуру это не смущает? Или организованную группу не получится создать без показаний Погарцева? А что не должностное лицо, так кому же важно?

# ТРАМВАЙ НЕ АБ'ЕДЗЕ

15 жніўня 2017

Ашмянскіх мытнікаў дапыталі паводле зноў выстаўленага абвінавачаньня.

У залі аншляг. Але, па вялікім рахунку, нічога новага мы ня чуем.

Тыя мытнікі, што прызналі сваю віну, выпрошваюць сабе меншыя тэрміны і сумы, якія яны павінны „вярнуць дзяржаве". Гэты торг, вядома, адцягвае ўвагу ад самой фабулы суду і ад адсутнасьці рэальных доказаў віны. „Прызнанты" зноў блытаюцца, фальшывяць і „ня помняць".

Страпко не прызнае, што атрымаў 11 тысяч даляраў, а прызнае „каля пяці тысяч", якія яму давалі начальнікі Ігар Высоцкі, Букель і Карповіч.

— За што атрымлівалі грошы? — пытаецца пракурор. — За афармленьне кветкавай прадукцыі. — Ад Курневіча атрымлівалі? — Так. — Якія сумы і колькі разоў? — За даўнасьцю не магу сказаць, ня помню.

Даўнасьць тут невялікая. Хоць адзін раз Страпко мог бы і запомніць. Бо таргуецца за кожную машыну, за якую яму, быццам бы, плацілі ўзнагароджаньне. Але гэтага няма ў ягонай легендзе, якая ўзгодненая з адвакатам. Таму — „ня помню".

Усе шасьцёра „прызнантаў" гавораць паводле адной схемы. Праўда, калі раней усе рашуча не прызнавалі групу, цяпер кажуць: тады ня мог ведаць, што яна існуе, не ўсьведамляў, ніхто мне не казаў, што я ў групе. Значыць, групу вырашылі ўсё

ж дацiскаць, каб даваць тэрміны ад гэтай агульнай тантамарэскі, а не ад індывідуальнай канкрэтыкі.

Яшчэ адна новая фармулёўка — фармальнае афармленьне машын — замест ранейшых парушэньняў, то бок выкарыстаньня службовага становішча. Але што гэта такое — фармальнае — ня ведае ніхто.

Курневіч „прызнанту“ Нагорскаму: Вы прызналі фармальнае афармленьне. Што гэта такое?

Нагорскі: Фармальна я не афармляў.

Пракурор Чэпіну: Ці была група? — Я дажэ ня знаў. Вазьмяшчаць буду ў тым аб'ёме, які прызнаў. — Ці атрымлівалі ад Башлыкевіча? — Ад Башлыкевіча атрымліваў, але гэта было ў 2009 годзе і не за кветкі.

„Спаліўся“ Чэпін, засьвяціў незаконнае атрыманьне, але па-за рамкамі гэтай крымінальнай справы. І што вы думаеце? Суд на ягоныя словы і вухам не павёў. Суд як трамвай, едзе толькі па рэйках і па баках не глядзіць.

Пракурор Лапейку: Бесьперашкодны выпуск прызнаеце? — Не. — А за што вы атрымлівалі грошы? — Ня ведаю.

Тадэвуш Высоцкі (з клеткі): На сьледзтве вы прызналі інкрымінаваную суму, а цяпер прызнаеце толькі часткова. Што зьмянілася?

Увага! Фантастычны адказ. Запомніце, можа прыдасца.

Лапейка: Я ўжо адказваў на гэтае пытаньне…

Судзьдзя разводзіць рукамі — ён ужо адказваў. Кропка. Дзе, калі, каму, што адказваў — ня важна, праехалі.

Пракурор Казьмерчуку (ён у клетцы): Ці зьмянілася сямейнае становішча? Ну дзеці якія-небудзь зьявіліся?

Казьмярчук: Не, я два з паловай гады ў СІЗА, якія дзеці…

Усеагульны сьмех. Пазабавіў падсудны. Сьмяецца пракурор, сьмяецца судзьдзя, сьмяецца сам Казьмярчук. Я заўважыў, што таксама ўсьміхнуўся. Пасьля, як кажуць, доўга думаў.

Пачынаецца допыт „непрызнантаў“, і ў працэс вяртаецца фабула ўсёй справы.

Юркойць: Мне не зразумела, у чым мяне абвінавачваюць, што менавіта я рабіў або не рабіў у парушэньне заканадаўства. У абвінавачаньні гэтага няма.

Сапраўды, задача абвінаваўцы сфармуляваць сваё заключэньне так, каб падсудны зразумеў — за што і на чым грунтуецца яго абвінавачаньне. Але ніхто нічога не фармулюе.

Швінта (у клетцы) падрыхтаваў грунтоўны разгром усёй справы: Мяне абвінавачваюць у выкананьні службовых абавязкаў. Атрымліваць незаконныя грошы за тое, што робіш сваю работу, гэта як кіроўцу зьбіць пешахода, не парушыўшы правілаў дарожнага руху.

Падсудны прыводзіць дзясяткі прыкладаў, дзе высновы сьледзтва і абвінавачаньня завісаюць у паветры, не абгрунтаваныя нічым.

Швінта: Мароз, Букель і Лапейка мяне абгаварылі, каб зьменшыць сумы свайго ўзбагачэньня, якія ім цяпер трэба кампэнсаваць, каб зьменшыць уласную адказнасьць.

Яшчэ адзін матыў уцягваньня ці абгавору начальнікамі шараговых інспэктараў, якім грошы, нібыта, плаціліся ні за што, бо нічога за гэта не патрабавалася, працуй і працуй. Каб у выпадку чаго падзяліць адказнасьць. Гэта побач з інтарэсам КДБ: большая „група“ — гучнейшая справа.

У Курневіча свой грунтоўны даклад з мноствам канкрэтных прыкладаў нявыкрутак.

Суд пераходзіць да дакумэнтаў.

Копія пастановы аб адмове ва ўзбуджэньні крымінальнай справы па фактах катаваньняў Юркойця сьледчым КДБ Данілавым. Маўляў, КДБ правёў праверку — не пацьвердзілася. Судзьдзя: Ці далучаць да справы? Адвакат Юркойця: Ня варта. Юркойць: А я ня супраць, каб далучылі. Далучаюць.

Напэўна, маюць рацыю і Алесь, і адвакат. Проста кожны зь іх жыве ў іншай пэрспэктыве. Для адваката гісторыя Алеся скончыцца разам з гэтай справай, а для Алеся ў гісторыі гэтай справы гэтыя дзьве старонкі кадэбэшнай адмовы некалі стануць ці ня самымі важнымі.

Дакумэнты, якія адлюстроўваюць апэрацыі мытнага кантролю 2010–2012 гадоў зьнішчаныя ў сувязі з тэрмінам даўнасьці. То бок службовыя парушэньні, якія інкрымінуюцца мытнікам на працягу трох зь пяці гадоў, проста ня могуць мець доказаў у прыродзе.

А вось акты дагляду фураў. Доўга не разумею, навошта судзьдзя іх зачытвае, пасьля даходзіць: тут могуць быць сьляды тых самых парушэньняў. Напрыклад, у акце сказана, што Швінта за тры гадзіны пералічыў 77 тысяч ружаў. Пракурор: Вы ўласнаручна іх пералічылі да адной? Швінта: так. Але

відавочная, на думку пракурора, немагчымасьць дзеяньня завісае ў паветры, яна ўяўная.

— Кветкі ў скрыні ўкладвае аўтамат, і па тарцы скрыні лёгка палічыць бутоны — гарызанталь і вэртыкаль — ды іх памножыць, вынік запісаць, тады — наступная скрыня, — кажа мне Майстар, які сёньня прыйшоў на працэс і ў якога свой, тэхнарскі погляд на справу.

Насамрэч суд мусіў параўнаць акты догляду падсудных мытнікаў і акты іхных калег, якія праходзяць у працэсе сьведкамі, бо лічацца ня ўцягнутымі ў „групу“. Але рабіць гэтага суд ня стаў, нібы зачараваны лічбамі — 77 тысяч за тры гадзіны!..

Яшчэ адзін „падыход да снарада“ мытных парушэньняў. Начальнік загадаў вам дагледзець ня менш за 30% грузу, — кажа судзьдзя. — А хто прымаў рашэньне, колькі дакладна? — Дык начальнік. — Вы не зразумелі. Ён сказаў ня менш за 30, а хто вырашаў — колькі менавіта?

Судзьдзя падштурхоўвае падсуднага сказаць: я. Маўляў, начальнік сказаў ня менш за 30, а я ўжо вырашаў, 30 ці 40 ці 80. Але не атрымліваецца. Мытнікі — вайсковыя людзі. Сказана 30, значыць 30. А калі ў 30% выявіцца парушэньне, тады правяралі ўсе 100%.

Выглядае, што суд набірае абароты на фінішнай лініі. Сыгналам на тое сталі прысуды мытным начальнікам у Менскім абласным судзе. Там начальнікі „нашых“ мытнікаў шматкроць мянялі свае паказаньні, у тым ліку і ў дачыненьні да „нашых“. Але „обозреть“ вынікі начальніцкага суду Партызанскі суд адмовіўся. Маўляў, у нашага трамвая

ёсьць дзьве рэйкі і глядзець па баках не выпадае. Судзьдзя паабяцаў хуткія спрэчкі.

.........................................................

**Кнут**

Юркойть прав. Нет такого правонарушения „беспрепятственный выпуск“. Есть контрабанда, ненадлежащее качество оформления документов и т.п. И если что-то имело место, то нужно привести номера пунктов должностных инструкций, которые были нарушены.

# ФЭНОМЭН БЕЗЭМАЦЫЙНАСЬЦІ

16 жніўня 2017

Заслухалі апошняга сьведку, Чакунова. І я раптам многае зразумеў пра ўвесь гэты суд, пра тое, чаму судзьдзю лягчэй паверыць у абгавор, чым у праўду.

Апытаць сьведку папрасіў падсудны Курневіч.

Сутнасьць справы такая. Падсудны Страпко паказаў, што Курневіч да ці пасьля зьмены сядаў да яго ў машыну на стаянцы каля Ашмянскай мытні і там перадаваў яму грошы. Курневіч кажа, што гэта абгавор, бо на працу і з працы яго і ягонага суседа Чакунова заўсёды вазіла ягоная жонка. Яна нават не заяжджала на пляцоўку, высаджвала іх ці забірала і ехала далей. А Страпко ставіў машыну на пляцоўцы, бо на час працы пакідаў сваё аўто тут.

Чакуноў і цяпер працуе на мытні ў тэхнічным аддзеле (праграмнае забесьпячэньне, кампутары і г. д.). Ягоны аддзел прыпісаны да зьмены мытнікаў. Таму калі выходзіў на працу Курневіч, выходзіў і Чакуноў. Словам, калі б Курневіч сядаў у машыну да Страпко да ці пасьля працы, Чакуноў ня мог гэтага ня бачыць і цяпер кажа, што такога не было. Дакладна не было.

Пасьля таго, як сьведка пакінуў залю, пракурор запытаўся ў Страпко: Ці Чакуноў прысутнічаў пры перадачы вам Курневічам грошай? — Я ня помню.

Гэтае „ня помню“ ўсю ранейшую інфармацыю (пра атрыманьне грошай) як бы пераводзіць у неістотнае, а таму безэмацыйнае поле і парадаксальным чынам робіць яе для пракурора… верагоднай.

Як факт, які заўсёды сам па сабе безэмацыйны. Тады як „усё помню“ Чакунова, наадварот, застаецца эмацыйным і таму мала падобным на пратакольны факт.

У гэтым парадоксе хаваецца схільнасьць пракурора і суду больш верыць у абгавор, чым у праўдзівыя паказаньні, у тое, што „было“, чым у тое, чаго не было, у віну, чым у невінаватасьць.

Гэты парадокс насамрэч кіруе ўсім працэсам. Да прыкладу, на запыт пракуратуры Мытны камітэт прыслаў зьвесткі пра ўсе чатыры з паловай тысячы машын, за якія нібыта плаціліся грошы, з указаньнем тых відаў мытнага кантролю, якія ўжываліся да кожнай.

Ці далучаць гэта ўсё да справы? — пытаецца судзьдзя ў адвакатаў. Адзін адказвае за ўсіх: „На усмотрение суда“. А што думаюць абвінавачаныя? Юркойць за ўсіх: Вядома, далучаць, гэта важны дакумэнт, дайце нам азнаёміцца.

Адвакатам, нібыта, ужо ўсё ясна і можна нічога не далучаць. Гэта пры тым, што новы дакумэнт (а гэта цэлы тоўсты том) можа радыкальна зьмяніць „віну“ іхных кліентаў, а то й засьведчыць пра іх невінаватасьць. Але запрацоўвае парадокс безэмацыйнасьці, бо адвакаты прынялі для сябе ранейшыя зьвесткі пра машыны як факт. Пагатоў і кліенты большасьці адвакатаў прызналі, што атрымлівалі за афармленьне гэтых машын грошы. А тут раптам усплыве…

Дарэчы, адкуль у абвінавачаньні тыя ранейшыя зьвесткі пра машыны? З паказаньняў бізнэсоўца Тураева, былога мытніка Ігара Высоцкага і іншых „прызнантаў“ — такіх самых страпко, якія „тут помню, тут ня помню“.

З гэтых паказаньняў узяты і быццам сам сабою для ўсіх зразумелы канцэпт гэтага працэсу, маўляў, калі фуру ўскрывалі і даглядалі, значыць, хабару за яе афармленьне быць не магло, а калі не ўскрывалі і не даглядалі, значыць, плаціліся грошы.

Але абсалютная большасьць фураў афармляецца без ускрыцьця і дагляду. Так было, ёсьць і будзе, інакш бы фуры проста заторылі мяжу. Дык што, за абсалютную большасьць машын бізнэс плаціць хабар пасярэднікам, тыя — мытным начальнікам, а тыя — шараговым інспэктарам? З фабулы працэсу над ашмянскімі мытнікамі вынікае менавіта такая выснова.

Прынамсі пракурор у гэтым перакананы, а таму знаходзіць „усе падставы“ заявіць суду пазоў на спагнаньне з абвінавачаных розных сумаў грошай, ад пяці да 24 тысяч даляраў. Тыя падсудныя, што прызналі сваю віну, ізноў пачынаюць торг. Сумы прызнаюць часткова і ў такім аб'ёме абавязваюцца іх заплаціць.

Гэты торг далярамі пасьля паўплывае на тэрміны, якія запросіць для абвінавачаных пракурор. Так было ў працэсе мытных начальнікаў у абласным судзе.

Калі хто сплаціў — атрымае на год ці два меней. Не хачу маралізаваць, але выглядае ўсё гэтае торжышча даволі ўбога на фоне адсутнасьці аб'ектыўных фактаў, што даказвалі б уласна само злачынства — даваньне і атрыманьне хабару.

Зноў суд сплывае ў безэмацыйнае поле, і хабар — гэта ўжо як бы і не злачынства, а нешта неістотнае, што ня трэба даказваць, важна падзяліць грошы і тэрміны. І тыя, хто ў гэтым удзельнічае, тыя, што

прызналі сябе хабарнікамі, атрымаюць па выніку меней.

— Я прызнаю сваю віну ў поўным аб'ёме і пастараюся заплаціць усё, — кажа Часнойць. Судзьдзя: — Раней вы прызнавалі віну часткова. У сувязі з чым зьмянілі свае адносіны? — У сувязі з тым, што ў гэтым працэсе ня здолеў даказаць сваю невінаватасьць. — А вы й не павінны нічога даказваць, — кажа судзьдзя, намякаючы на прэзумпцыю невінаватасьці.

І кажа ён гэта з іранічнай усьмешкай.

Ад Юркойця пракурор запатрабаваў 12 тысяч даляраў. Але ні Юркойць, ні астатнія тры „непрызнанты" ня ведаюць, што гэта за грошы, маўляў, яны іх не атрымлівалі.

— Хоць бы раскажыце, якім чынам, з чаго фармаваліся такія сумы, — заўважае Курневіч.

— У мяне ў параўнаньні з ранейшым абвінавачаньнем сума павялічылася на паўтары тысячы, — горка пасьміхаецца Тадэвуш Высоцкі. — За два гады сядзеньня ў СІЗА працэнты нарасьлі ці што?

**Кнут**

Если следователь заставляет давать ложные показания, то это преступление.

**Ирэна**

Я никак не пойму, почему одни сидят, а другие на свободе, работу делали одинаковую, сюда бы к ним пару ошмянских уже бывших таможенников, а то одни виноваты, а другие нет. Просто странно всё. Просто противно смотреть на лица тех, кто ходит по городу с такими важными лицами, а должны быть вместе со всеми.

# „АЛЕ Ж ВЫ НЕВІНАВАТЫ“

17 жніўня 2017

Густы туман на „кветкавым працэсе“ — што біблейская цемра, якой Бог пакараў эгіпцян і якую можна было памацаць рукой. Так і дотык да нашай судовай смугі — нібы да „Працэсу“ Кафкі. На выпадковай старонцы.

Гэта дыялёг арыштаванага Ёзэфа К. з судовым мастаком Цітарэлі:

— Вы ж невінаваты? — спытаў ён.

— Так, — сказаў К. Ён з радасьцю адказаў на гэтае пытаньне, асабліва таму, што перад ім была прыватная асоба і ніякай адказнасьці за свае словы ён ня нёс. Ніхто яшчэ не пытаўся ў яго так шчыра. Каб падоўжыць гэтае радаснае адчуваньне, К. дадаў: — Я абсалютна невінаваты.

Разумею, чаму тут пра шчырасьць. Бо не магу ўявіць такога пытаньня пракурора ці судзьдзі, адрасаванага абвінавачаным у Партызанскім судзе: Вы ж невінаваты? Нібы ўсё перакульваецца з галавы на ногі і сыстэма становіцца сапраўдным судом. Для тых, хто не чытаў раман, заўважу, што Ёзэф К. насамрэч невінаваты. Адсюль шчырасьць і радасьць, замест якіх у нас — туман, які можна памацаць рукою. Гэта значыць, сьцяна.

— Вось як, — сказаў мастак і, нібы ў задуменнасьці, нахіліў галаву. Раптам ён падняў галаву і сказаў: — Але калі вы невінаваты, дык справа абстаіць вельмі проста.

К. адразу спахмурнеў: удае зь сябе даверанаю асобу ў судзе, а разважае, як наіўнае дзіця!

— Мая невінаватасьць ані не спрашчае справы, — сказаў К. Ён раптам міжволі ўсьміхнуўся і паківаў галавой: — Тут маса ўсякіх тонкасьцяў, у якіх можа заблытацца і суд. І ўсё ж урэшце дзесьці, літаральна на пустым месцы, судзьдзі знаходзяць найтанчэйшую віну і выцягваюць яе на сьвятло.

— Так, так, вядома, — сказаў мастак, нібы К. без патрэбы перабіваў ходу яго думак. Але ж вы невінаватыя?

— Ну вядома, — сказаў К.

— Гэта самае галоўнае, — сказаў мастак.

Пярэчыць яму было бескарысна. Адно здавалася няясным, нягледзячы на яго рашучы тон: ці ён кажа гэта ад перакананасьці ці ад абыякавасьці. К. вырашыў зараз жа высьветліць гэта, для чаго і сказаў:

Вядома, вы дасьведчаныя ў судзе нашмат лепш за мяне, бо я ведаю пра яго толькі з пагалоскі, дый тое ад самых розных людзей. Але ў адным яны ўсе згодныя: легкадумных абвінавачаньняў не бывае, і калі ўжо судзьдзі выставілі абвінавачаньне, значыць, яны цьвёрда перакананыя ў віне абвінавачанага, і пераканаць іх у адваротным вельмі цяжка.

— Цяжка? — перапытаў мастак, узьняўшы рукі ўгору. — Ды іх пераканаць проста немагчыма.

# ВІНА ЮРКОЙЦЯ ЦАЛКАМ ДАКАЗАНАЯ... ЧЭПІНЫМ

19 жніўня 2017

Адвакаты падаюць характарыстыкі, чытаюць квітанцыі. Мытнікі, якія прызналі віну, пасьпяшаліся сплаціць грошы. Адвакатка Часнойця рэзюмавала: „Ущерб возмещен в полном объеме". „Ущерб" каму? Літоўскаму бізнэсоўцу Тураеву? Адвакатка Бабровіча казала „о полном возмещении вреда". „Вреда" якога і каму?

Але ўсё, што ідзе „ў даход дзяржавы", у нас вітаецца, нават калі паходжаньне грошай застаецца невядомым. У квітанцыях мэтавае прызначэньне плацяжоў названае так: „О возмещении неосновательного обогащения". Так і зачыталі. І сьмех, і грэх.

Да справы далучаюцца даведкі пра прабадную язву, дыстрафію вока, цяжарнасьць жонкі, просьбы працоўных калектываў, куды пасьпелі ўладкавацца мытнікі пад хатнім арыштам.

Тым часам пачынаюцца спрэчкі.

Першым выступае пракурор. Віна ўсіх падсудных цалкам даказаная. Доказы заснаваныя на прызнальных паказаньнях. Словы „бесьперашкодны выпуск" тлумачацца словамі абвінавачанага Лапейкі, маўляў, „афармлялі без прыдзірак". Пракурор трактуе: значыць, не зьвяртаючы ўвагі на парушэньні. Ніводнага канкрэтнага прыкладу парушэньняў не прыводзіцца.

Паказаньні Страпко, што ён атрымліваў грошы ад Курневіча, падаюцца як факт. Тое, што Курневіч гэта адмаўляе і нават выклікаў у суд сьведку, пра-

курора не цікавіць. А тое, што Страпко сказаў, што ня ведае, ці атрымлівалі грошы Юркойць і іншыя інспэктары, у трактоўцы пракуратуры сьведчыць: Юркойць і іншыя грошы бралі, але не казалі пра гэта ў мэтах кансьпірацыі.

Нехта ззаду камэнтуе: А я думала, што суд — гэта сур'ёзна…

Страпко ў розных паказаньнях называе розныя сумы хабару, якія атрымаў. Маўляў, ня помню. Пракурор задаецца „рытарычным пытаньнем“. Няўжо можна забыцца, калі розьніца складае пяць тысяч даляраў?

А пра тое, якія сумы і колькі разоў Страпко, нібыта, атрымліваў ад Курневіча, забыцца можна (як паказаў Страпко на папярэднім паседжаньні)? І ў той частцы пракурор яму паверыў — што грошы перадаваліся?

Тут помню — тут ня помню. Тут веру — тут ня веру. Што праўда, верыць пракурор толькі ў тое, што кладзецца ў абвінавачаньне.

Высокі суд, кажа пракурор, наколькі можна давяраць Нагорскаму ў частцы ягоных паказаньняў, зьмененых пасьля яўкі з павіннай? У яўцы ўсё выкладзена пасьлядоўна і верагодна, трэба яўку браць за аснову пры вынясеньні прысуду.

А то мы ня ведаем, што яўка напісаная сьледчым і што Нагорскі яе толькі падмахнуў: „з маіх слоў запісана верна“. А пасьля, у судзе, на свой ужо розум, пачаў нешта карэктаваць.

Калі зьвесткі, выкладзеныя ў яўках, прымаць за факты, навошта тады ўвесь гэты працэс? І чым тады займаўся суд вось ужо хутка год, калі дастаткова гэтых самых явак? Ня кажучы пра тое, што

прызнальныя паказаньні — зусім не аб'ектыўныя факты і доказы, як гэта спрабуе прадставіць пракурор „паводле сукупнасьці“.

Схема выглядае так. Калі паказаньні Карповіча, што праз Чэпіна перадаваў грошы Юркойцю, супадаюць з паказаньнямі Чэпіна, гэта, на думку пракурора, ператварае акт перадачы грошай у верагодны факт. „Паводле сукупнасьці“.

А што, вы хочаце сказаць, што паказаньні Чэпіна — абгавор? Дык асабістай непрыязі паміж Юркойцем і Чэпіным ня выяўлена. Хоць Юркойць і казаў пра непрыязь. Але Чэпін адмаўляў. Пракурор верыць Чэпіну. Прычым не таму Чэпіну, які адразу адмаўляў, што перадаваў Юркойцю грошы, а таму, які гэта пазьней сьцьвярджаў.

І самае галоўнае. Дапусьцім Карповіч перадаваў для Юркойця грошы праз Чэпіна. Але дзе доказ, што тыя грошы не аселі ў Чэпінавай кішэні? „Доказ“ адзін — паказаньні самога Чэпіна. Але тут няма нават сукупнасьці, бо Карповіч ня мог ведаць і не паказваў, ці дайшлі ягоныя грошы да Юркойця, ці іх прысвоіў Чэпін.

Проста публіцыстыка нейкая. Ніводнага аб'ектыўнага факту, толькі тое, што яны самі нагаварылі на сябе і на іншых. Калі супадае — значыць, так і было. А „непрызнантаў“ трэба ацэньваць на падставе паказаньняў „прызнантаў“. Чаму?

Юркойцю інкрымінуецца сума 12.700 даляраў, а Чэпін кажа, што перадаваў яму грошы тры разы. Па 4 тысячы з гакам? Загорнутыя ў паперку так, што Чэпін толькі „прадпалагаў“, што гэта грошы?

І адкуль узяліся гэтыя 12.700?

Аказваецца, з альгарытму. Альгарытм атрыманьня грошай за машыны складзены сьледчым КДБ са словаў мытных начальнікаў. То бок зноў усё грунтуецца толькі на паказаньнях.

Чаму гэта была арганізаваная група? Бо дзейнасьць насіла сыстэмны характар, быў стабільны склад удзельнікаў і яны гатовыя былі працягваць і далей. Зноў публіцыстыка, не пацьверджаная ніякай канкрэтыкай.

І такім вось чынам пракурор падыходзіць да турэмных тэрмінаў. „Прызнантам“ па пяць гадоў, „непрызнантам“ па восем гадоў калёніі ўзмоцненага рэжыму. Выключэньне — Курневіч — яму 11 з паловай. Таму што быў намесьнікам Карповіча, „аднаго з кіраўнікоў арганізаванай групы“, значыць, замяняў яго ня толькі ў аддзеле, але і ў групе. Выходзіць, сама мытня і была арганізаванай злачыннай групай.

Пачынаюць выступаць адвакаты „прызнантаў“. Стараюцца, каб не ўляпілі іхным кліентам групу і каб сума не перавышала асабліва буйнога памеру, бо гэта ўсё абцяжарвае віну. Адвакатка Лапейкі кажа, што яму інкрымінуюць 13 тысяч, але ён браў ня больш за 11, а сплаціў ажно 25. Цікава, зь якога перапуду?

.....................................................

**Босс**

Курневичу 11,5 лет за что, его что, приравняли с Сарумянцем, у которого миллионы долларов, а парням по восемь за что? Они получились виновны ещё больше начальников, какой ужас, бедные парни, как оговорщики будут смотреть в глаза их женам и детям, ну есть еще божий суд, все воздастся по заслугам.

**Коля**

Государственный служащий, берущий взятки за исполнение им его же служебных обязанностей, будет сидеть в тюрьме в любой стране мира, кроме бандитской. Объсняю уважаемому Дубовцу — вред, нанесенный таможенниками государству — поставление исполнения правил установленных компетентными властями государстве в зависимость от получения взятки. А это простите — разрушение государства, и даже не важно, нравится автору сегодняшняя форма государственности Беларуси или нет.

**Кнут**

За взятки нужно сажать. Но взятку нужно доказать! Иначе пострадают невинные. Дубавец не взяточников защищает, а невинных. Все, кому не доказали взятку, невиновен. И таких на суде много. Я думаю, что многие оговорили себя под давлением КГБ. А суд не имеет реальных доказательств. В нашем государстве сфабриковать дело против невиновного и посадить его очень легко. Вот это действительно не нормально и с этим нужно бороться.

**Дубавец — Колю**

У „любой краіне сьвету“ суд проста ня возьме да разгляду справу пра „бесьперашкодны выпуск кветкавай прадукцыі“, а будзе даказваць (ці абвяргаць) віну падсудных індывідуальна і аб’ектыўнымі фактамі, якіх у гэтай справе няма.

**Ананім**

Это ваша чрезвычайная впечатлительность. Что бы от нее избавиться, можно почитать какой нибудь чешский учебник о процесах по экономическим преступлениям. В практике демократических и правовых государств для доказательства вины обвиняемых (в аналогичных процессах) достаточно показаний одного анонимного свидетеля, который даже не будет присутствовать в суде, не будет наказан за преступления и будет под защитой системы защиты свидетелей...

**Аноним2**
Чушь. Без других доказательств, лишь на одних показаниях никого не посадят.

**P.S.**
Удивительный комментарий Коли, особенно второе предложение, вроде слова серьёзные, а смысла нет. Да и не нанесли ущерба государству таможенники. Ущерб только имиджу таможенной службы серьёзный. А государство как раз в плюсе. Страшно только, что вместе с виноватыми невиновых посадили. А за то, что не захотели вину признать, и не купили пару лет свободы, то и сроки получили большие. Вот что страшно.

**George**
Если человек СЬВЯДОМЫЙ, то как он может нанести ущерб государству? Никак, это невозможно:)

**Пересекал когда-то**
Было дело пересекал на машине мяжу. Вдвоём с малолетней дочкой. И так испортил нервы рыжий немолодой уже детина-мытник, что до сих пор, как вспоминаю — колотит. И ни за что, а вот просто так. Он на выезде работал. Перешмонал и ничего не нашел, но шибко обиделся, что труды его были напрасны. И... когда уже вечером возвращались через этот Каменный Лог обратно — мытник сей, что лось годовалый ловко и бесстрашно сиганул поверх каких-то там металлических ограждений с полосы выезда к нам. И уже реально отвёл душу. Несколько часов опять же просто так! измывался. Девочка плакать начала (ночь! холодно) — но урод в форме продолжал наезд. В конце-концов какой-то другой таможенник успокоил безумца и рыжее немолодое существо с угрозами в мой адрес ушло работать дальше (на свою сторону, то есть на выезд). Так что о мытниках у каждого наверное Своё представление и... сочувствие.

# Гісторыя з Рабіновічам

21 жніўня 2017

У працэсе ідуць спрэчкі. Духаты і стомленасьці ў атмасфэру наганяюць аднатыпныя выступы „прызнантаў“ і іхных адвакатаў.

Абвінавачаны Лапейка прызнаў, што атрымаў хабару ад 6 да 7 тысяч даляраў, а яму інкрымінуюць 10.880. У сьпісе машын адвакатка налічыла 29, якія Лапейкам даглядаліся, гэта значыць, хабар за іх не плаціўся, таму прашу высокі суд суму хабару за іх — 5.830 — выключыць з інкрымінаванай сумы. Хоць зьвяртаю ўвагу высокага суду, што Лапейка сплаціў усю інкрымінаваную яму суму.

Што гэта значыць, што суд верне Лапейку 5.830? Вядома ж, не. Заява робіцца для таго, каб не прызналі „асабліва буйны памер“. То бок, каб выйшла менш за тысячу базавых — проста „буйны памер“, і даюць за яго меней.

Прычым сам панятак хабару гэтым торгам як бы нівэлюецца. Харошы чалавек Лапейка, ну даў слабіну, але ў турму яго саджаць ня варта. Ён і хворы, і дзеці ў яго, і на працу ўжо ўладкаваўся…

Як слухаць такое „непрызнантам“, таму самаму Тадэвушу Высоцкаму, на якога паказаў Лапейка і якому „сьвеціць“ восем гадоў турмы?

Бліскуча выступаюць адвакаты Высоцкага, Курневіча, Швінты і Юркойця. Падрабязна супастаўляюць паказаньні „прызнантаў“, на якіх і грунтуецца „віна“ іхных падабаронных. Паўсюль вылазіць хлусьня і блытаніна.

„Хачу напомніць дзяржабвінаваўцу, што непрызнаньне віны не зьяўляецца акалічнасьцю, якая віну абцяжарвае. А Курневічу запрасілі 11 гадоў і 6 месяцаў. Столькі, колькі стваральніку злачыннай групы Сарумянцу, і на пяць гадоў болей, чым начальніку Курневіча Карповічу, які яго абгаварыў. Прашу за недаказанасьцю віны Курневіча апраўдаць“.

Пракурор: Артыкул кодэксу дазваляе ўжыць такую меру пакараньня.

Наступны — адвакат Чэпіна. Чэпіну 48 гадоў. Ён служыў у Афганістане, удзельнічаў ва ўсіх магчымых і немагчымых апэрацыях, што характарызуе яго „выключна са станоўчага боку“. Мае чатыры мэдалі. Браў грошы як ахвяра абставінаў. Прашу пакінуць на волі, каб мог прыносіць карысьць грамадзтву.

Ізноў абставіны, тантамарэскі, якія ператвараюць у ахвяраў і тых, у каго быў выбар, і тых, у каго выбару не было. У абставінаў ёсьць сынонімы: жыцьцё і час. Што ж ты, дзеду, на суседа данос напісаў? Эх, час быў такі, унучак, жыцьцё такое было. І якая ад гэтага „карысьць грамадзтву“…

Адвакат Высоцкага: Фармальнае правядзеньне мытнага кантролю і бесьперашкодны выпуск машын не падмацаваныя ніводным фактам. Неканкрэтызаванае абвінавачаньне незаконнае, бо пазбаўляе падсуднага права на абарону — ён не разумее, у якіх дзеяньнях яго абвінавачваюць.

Адвакат Швінты: Тое, што ідуць працэсы па выдзеленых справах у чатырох судах — грубае парушэньне закону. Бо выдзеліць справу можна толькі тады, калі паміж злачынствамі няма сувязі.

А тут у чатырох судах разглядаюць справу пра адну арганізаваную злачынную групу, дзе ўсё і ўсе зьвязаныя міжсобку.

Хор „прызнантаў“: Глыбако раскайваюся, прашу аб сьнісхажджэніі.

Тадэвуш Высоцкі: Усё, што здарылася, для мяне гэта „дзікі ужас“. Ігар Высоцкі мне стрыечны брат, але адносінаў мы не падтрымліваем з часу, калі памерлі бацькі. Першы раз мяне выклікалі ў КДБ яшчэ ў 2014 годзе і ўжо тады называлі яго кіраўніком злачыннай групы. Але самога яго трымалі за сьведку.

Пасьля ў ашмянскім КДБ мяне дапытваў сьледчы Бычак. З парогу сказаў: У тваім выпадку я б павесіўся. Мне і мову заняло. А ён напісаў: Ад дачы паказаньняў адмовіўся.

У СІЗА КДБ нас, Высоцкіх, блыталі. Замовяць на допыт аднаго, а прывядуць другога. Мяне і на суд ягоны вазілі. Судзьдзя сьмяецца — не таго прывезьлі.

Да арышту мы атрымалі збудаваную за крэдыт кватэру. Я пражыў там менш, чым цяпер у СІЗА.

Юркойць: Паказаньні Чэпіна — адзіная, нібыта, падстава супраць мяне. Але паказаньні на мяне Чэпін даў толькі ў 2016 годзе. На падставе чаго я сядзеў у 2015-м і ўсе хадайніцтвы аб зьмене меры стрыманьня ўпарта адхіляліся?

Адказу ня будзе. Гэта як у гісторыі з Рабіновічам:

— Ведаеце, а Рабіновіч прадае самагонку. — З чаго вы ўзялі? — А вы бачылі, каб ён купляў гарэлку? — Не. — Значыць, гоніць. А вы бачылі яго п’яным? — Не. — Значыць, прадае.

Самога Рабіновіча ў гэтай гісторыі няма, ён нават і не падазрае, што адбылася такая размова і што „так склаліся абставіны“. А прысуд ёсьць: гоніць і прадае.

........................................................

**Кнут**

Жаль ребят в клетке. Очень жалко Высоцкого, он сильно болен. Они не виновны. Доказательств против них нет. И все равно посадят. Вот такая у нас страна.

**Ирэна**

Я все-таки надеюсь на справедливый приговор. Иначе как жить, надо верить в справедливость.

## АКТ МАСТАЦТВА

22 жніўня 2017

Трэба было паслухаць апошняе слова ашмянскіх мытнікаў, каб пераканацца, што Бог сапраўды ня роўна дзеле.

Алесь Юркойць сказаў, што для яго людзі падзяляюцца толькі паводле адной прыкметы: здольныя на подласьць і ня здольныя на подласьць. Усе астатнія адрозьненьні прымальныя.

Такая Юркойцева форма катэгарычнага імпэратыву — не рабі іншаму таго, чаго не хацеў бы, каб рабілі табе. Відавочна, наглядзеўся ён на „здольных" і ў КДБ, і ў СІЗА, і на гэтым працэсе. Ня думаю, што расчараваўся ў людзях. Але ў сыстэме расчараваўся дакладна: бо на сваёй скуры адчуў і зразумеў, што здольныя на подласьць — у прыярытэце. А няздольныя ідуць у турму толькі таму, што супраць лома няма прыёма, апрача другога лома. Гэта значыць, подласьць у такой сыстэме можна перамагчы толькі подласьцю. І што рабіць, калі ты ня здольны?

Швінта: Віны не прызнаю, ніколі ні ад каго грошай на службе не атрымліваў. У справе не прыведзена ніводнага факту парушэньня мною маіх службовых абавязкаў. Паказаньні на мяне Букеля і Марыны Адамаўны Мароз неабгрунтаваныя і галаслоўныя.

Швінта зьвяртае ўвагу на стыль паказаньняў Букеля і Мароз у яўках з павіннай і вылучае фразу: у злачыннай групе „осуществлял(а) определенную управленческую функцию" — гэта не юрыдычная фармулёўка і не пашыраны ва ўжытку выраз. Пры

ўсім жаданьні не маглі яны адзін асобна ад аднаго такое сфармуляваць. Гэта творчасьць сьледчага КДБ, які пісаў яўкі.

Калі Лапейка (які, нібыта, раздаваў грошы ад Мароз іншым інспэктарам) быў на два месяцы пераведзены з Каменнага Логу на іншы памежны пераход, у Катлоўку, Швінта за гэты пэрыяд аформіў 19 машын з кветкамі. Факты зафіксаваныя ў дакумэнтах. У Катлоўцы Лапейка хабары не перадаваў, а хто ў гэты час перадаваў у аддзеле Мароз, судом ня выяўлена. Тым ня менш, хабары за гэтыя 19 машын упісаныя ў абвінавачаньне Швінту.

Швінта і раней зьвяртаў увагу суду на гэты факт, але суд пакінуў яго без разгляду. Чаму? Падобныя нявыкруткі Швінта прыводзіць па ўсіх інкрымінаваных яму машынах.

На мытні я меў іншыя інтарэсы, — кажа Швінта. — Мяне цікавіў кар’ерны рост, таму я пастаянна дасканаліў свае веды і навыкі і быў у рэзэрве на начальніцкія пасады.

Курневіч: Гэтая крымінальная справа — акт мастацтва. А што такое акт мастацтва? Гэта калі ніхто не разумее, што намалявана, але ўсе разглядаюць з разумным відам. Так і мы тут гаворым пра такія абсурды, як бесьперашкодны выпуск і фармальна ўжытыя формы мытнага кантролю. Як можна фармальна выконваць інструкцыі? Сказана: вуснае апытаньне кіроўцы. Гэта я ў яго пытаюся: як справы ці што? Сказана: візуальны агляд. Фармальна гэта як? Адным вокам?

Літоўскі бізнэсовец Тураеў справакаваў усю гэтую справу, сказаўшы, што ягоныя фуры прастойвалі на мяжы. І тут ад яго, нібыта, вымагалі хабар.

А чаму ягоныя машыны ехалі толькі праз Каменны Лог, а ня ехалі празь Беняконі і Катлоўку ці праз Латвію адразу ў Расею? Там жа плаціць не вымагалі.

Тыя самыя Лапейка і Страпко прызналі, што на Катлоўцы афармлялі такія самыя машыны абсалютна з такімі самымі формамі мытнага кантролю. Толькі бяз грошай… А ў выніку Тураеў ужо на свабодзе.

Да таго, як падпісаў яўку з павіннай, Страпко адмаўляў, што атрымліваў грошы ад кагосьці, апроч Карповіча. Пасьля яўкі ён ужо атрымліваў ад цэлага сьпісу начальнікаў, ужо і ад Курневіча.

Я ведаю, што з боку Страпко гэта абгавор. Ведаю, бо сьледчы і мне прапаноўваў абгаварыць інспэктараў, ставячы ў прыклад Лапейку. Калі б я гэта зрабіў, людзей тут за кратамі было б нашмат болей, некаторыя нават сямейнымі парамі.

Прашу высокі суд зьвярнуць увагу, што я ні разу ня ўжыў слова „полагаю“ — якое шмат разоў сустракаецца ў апошнім слове дзяржаўнага абвінаваўцы. Я прывёў толькі аб’ектыўныя факты, якія ёсьць у матэрыялах справы і якія засталіся без разгляду суду.

Наш акт мастацтва называецца „карціна маслам“. І напісаныя на карціне два словы: „баязьлівасьць“ і „хлусьня“.

У выступах „непрызнантаў“ увесь час адчуваецца імкненьне вярнуць працэс да сапраўднага судаводзтва, то бок да рэальнага жыцьця. Яны наадрэз адмаўляюцца прызнаць, што гэта ня суд над імі, а сыстэма, тантамарэска, якую палепшыць немагчыма, яе можна толькі зламаць або нейкім чынам выйсьці зь яе туманных абдоймаў. Сваім жа

памкненьнем да рэальнасьці яны толькі раздражняюць судзьдзю і пракурора, яшчэ больш настройваюць іх супраць сябе.

Пра гэта яшчэ адвакат Гульд казаў арыштаванаму Ёзэфу К.:

„Бо адвакат — а нават самы нікчэмны зь іх хоць крыху ўяўляе сабе ўсе абставіны — ніколі не спрабуе ўвесьці ў судаводзтве якія-небудзь зьмены ці паляпшэньні, у той час як амаль кожны абвінавачаны, нават якісьці недарэка, пры першым жа сутыкненьні з працэсам пачынае думаць, якія б прапановы ўнесьці, каб палепшыць пастаноўку справы, і часта марнуе на гэта час і сілы, якія можна было б з нашмат большай карысьцю ўжыць на нешта іншае. Адзінае правільнае тут — гэта прымірыцца зь існым парадкам рэчаў. І калі б нават чалавек быў у сілах выправіць нейкія асобныя дробязі, што зьяўляецца недарэчнай аблудай, дык у лепшым выпадку ён чагосьці дамогся б для нейкіх будучых працэсаў, але сабе самому ён толькі нанёс бы непапраўную шкоду, прыцягваючы ўвагу і асаблівую помсьлівасьць чыноўнікаў. Галоўнае — не прыцягваць увагу!“

Прысуд будзе абвешчаны 5 верасьня а 10-й гадзіне.

.........................................................

**Аноним**

Сценарий как из под пера Быкова. Среди кучи мерзавцев и подлецов неожиданно встречаются люди с высокой маралью и силой духа. Увы, жизнь не сказка и судьба этих людей незавидна. Как после прочтения Быкова, от суда остается такое же гнетущее ощущение на душе. Но так же остается

удивление, как у ювелира, которому показали прекрасный и чистый брильянт. Увы, брильянты очень редки среди камней, которые валяются вокруг.

**Коля**

„Среди кучи мерзавцев и подлецов“ — ну вот такая у нас нация. Или скорее вы ее так воспринимаете. Тут уже и спорить невозможно — только наблюдать за вашей (да и Дубовца — уже нет былого пламени способного паднять тысячи — простите но это творческий калапс) фрустрацией.

**Аноним**

В произведениях Быкова много подлецов. За это его и не любили партийные функционеры в советское время. Но наш презедент любил его читать. Может поэтому и в жизнь привнёс многое из его произведений. Только Быков писал не для того, что бы его истории были в нашей жизни, а для того что бы их не было. Может поэтому Быков не был поклонником нашего президента.

**Кнут**

Не обижайтесь, Коля. Брильянтов не может быть много, они поэтому и ценны.

# ЧАРНАВІК АПОШНЯГА СЛОВА

23 жніўня 2017

За дзевяць месяцаў, колькі цягнуўся суд, я ўбачыў і пазнаў трох калег Юркойця — Тадэвуша Высоцкага, Курневіча і Швінту, — якія апынуліся ў такой самай, што і Юркойць, сытуацыі. І мне цікава, чым сьледчы, пракурор, судзьдзя, самі для сябе, тлумачаць іх упартасьць у непрызнаньні віны. Асабіста мне, апроч захаваньня чыстага імя, ніякіх іншых „выгадаў“ тут не відаць.

Назіраючы за паводзінамі і словамі Дзьмітрыя Курневіча, я спрабаваў уявіць яго хабарнікам, вартым такога прысуду, маўляў, проста не прызнаецца. Але не прызнаецца — чаму? Які матыў ягонага запіраньня?

Якая першая характарыстыка хабарніка? Гэта — чалавек карысьлівы.

Калі Курневіч хлусіць і насамрэч браў грошы, калі ён здольны ўзяць незаконныя грошы, значыць, ён можа матэрыяльную выгаду ставіць вышэй за маральныя прынцыпы. Тое, што ён не прызнаў віну, пракурор разглядае як хітрасьць. Але ў чым хітрасьць?

Для карысьлівага і хітрага чалавека не прызнаць сваю віну і атрымаць 11 з паловай гадоў турмы — ніякая ня хітрасьць, а зусім наадварот — дурасьць. Дурасьць, уласьцівая рамантыкам і ідэалістам або людзям, для якіх уласная годнасьць вышэйшая за выгаду.

Курневічу-хабарніку, наадварот, выгадна прызнаць сваю віну і атрымаць мінімальны тэрмін, ся-

дзець на хатнім арышце і, можа быць, наогул пазьбегнуць турмы. Навошта карысьліваму Курневічу запірацца ажно з такой дзікай нявыгадай для сябе? Спадзяецца на апраўдальны прысуд? Але ж ён не наіўны і ведае, што якраз тыя, хто „запіраецца“, атрымаюць максымум. Нават ня браўшы хабару, такому Курневічу выгадна сказаць, што браў.

Будзе сорамна перад бацькамі, жонкай, дзецьмі? Але „сорам“, ацэнены ў 11 з паловай гадоў турмы, для хабарніка, прабачце, не аргумэнт. Чалавек карысьлівы ўмее такія рэчы лічыць, як той казаў, да капейкі. І калі Курневіч хабар браў, а значыць, калі ён насамрэч карысьлівы, ніякі сорам для яго не пераважыць гэтага турэмнага тэрміну, лічы, усёй жыцьцёвай пэрспэктывы. Сорам праходзіць, забудзь, жыць трэба тут і цяпер.

Можа быць, Курневіч гуляе? Гулец з уласным лёсам. Гульня для гульні, і прападзі ўсё пропадам. Бэнэфіс для сваякоў — глядзіце, які я фантастычна прыгожы ў сваім выверце — браў, а не прызнаў. Сапраўды, прыгожы. І варты шкадаваньня. Альбо — як баран упарты. Сказаў адразу, што ня браў, і буду стаяць на сваім, хоць ты рухні сьвет.

Але гулец ці ўпарты можа быць у сваім родзе адзін — каб вылучыцца. А тут у такой самай сытуацыі, як Курневіч, яшчэ трое, зусім не падобных ні на гульцоў, ні на бараноў. Адзін Высоцкі са сваім інфарктам чаго варты.

Апынуўшыся ў адной клетцы, яны маглі б, дапусьцім, згаварыцца. Але пра што? Іх „эпізоды“ нічым не зьвязаныя адзін з адным.

На маю думку, ужо гэтага дастаткова, каб зрабіць выснову, што яны ня хлусяць.

Гэта асабліва выразна відаць і чуваць, калі параўноўваеш іх зь іншым чалавечым тыпажом — людзьмі карысьлівымі, якія прызналі, што хабар бралі і цяпер актыўна вытаргоўваюць сабе пакараньне, не зьвязанае з пазбаўленьнем волі.

Простая задачка на чалавеказнаўства. Калі я браў хабар і прызнаю гэта, маю шанец пазьбегнуць турмы. Калі я браў хабар і не прызнаю гэтага, атрымаю восем гадоў турмы. Калі я ня браў хабар і не прызнаю яго, атрымаю восем гадоў турмы. Калі я браў хабар, што я выберу? Калі я ня браў, выбару няма.

Зрэшты, выбар ёсьць. Калі я ня браў, але прызнаю, што браў, — тады першы варыянт — шанец пазьбегнуць турмы.

Калі сукупнасьць фактараў даказвае верагоднасьць, дык суд над мытнікамі выявіў гэтыя дзьве сукупнасьці ў поўным аб'ёме. Дарма што прысуд ні на якой сукупнасьці грунтавацца ня будзе.

.........................................................

**Кнут**

Только слепой может не увидеть, что Тадэуш Высоцкий, Юркойть, Швинта и Курневич не брали денег. Не первый год работают в таможне и ходили на суды над другими таможенниками, понимают, что непризнание их не спасет от тюрьмы. А ведут себя так, потому что не могут против совести пойти. Не могут оговорить себя и других.

**Винт**

У Высоцкого нет денег на адвоката. Дочери не смогли купить зимнюю одежду. Как-то странно ведут борьбу с коррупцией у нас.

# АФЭРА З ҐІШПАНСКІМІ БАРАНАМІ

31 жніўня 2017

Моцнае ўражаньне, што засталося ў памяці ад чытаньня Літоўскай мэтрыкі — паважнае месца суду ў сярэднявечнай Беларусі, дзе справаводзтва вялося па-беларуску пры цалкам празрыстым і зразумелым разборы. Ані намёку на сатыру Салтыкова-Шчадрына ці на туманны працэс Кафкі, з чым на кожным кроку асацыюецца суд сёньняшні.

Сярэднявечныя суды і судзьдзі шанаваліся людзьмі за справядлівасьць і вяршэнства закону. У тым ліку і за гэта эпоху Адраджэньня ў Беларусі называюць „Залатым векам“.

Але русыфікацыя робіць сваё ва ўсіх сфэрах. І цяпер Google на запыт „Дом правасудзьдзя ў Менску“ першымі паказвае загалоўкі, якія ня сьведчаць ні пра справядлівасьць, ні пра пашану:

У Менску спрабавалі падпаліць Дом правасудзьдзя

Невядомы „замініраваў“ Дом правасудзьдзя ў Менску

Актывісты пікетавалі Дом правасудзьдзя ў Менску

Што да мытнікаў, дык гэтым летам Беларусь проста накрыла цунамі групавых мытных працэсаў. У цэнтры ўвагі — маштабны суд ашмянскіх мытнікаў, раскіданы па пяці менскіх судах. Вынесеныя прысуды ў абласным (16 чалавек) і Фрунзэнскім (11) судах. Рыхтуецца прысуд у менскіх Партызанскім, Заводзкім і Кастрычніцкім.

Усе прысуды абвінаваўчыя, усе мытнікі асуджаныя на значныя тэрміны.

Фрэнд напісаў мне ў фэйсбуку: „Ня хочаш патрапіць у турму — навошта працуеш і супрацоўнічаеш з жулікамі і злачынцамі?“ Маецца на ўвазе — навошта працуеш на мытні… Большасьць водгукаў на мытныя прысуды ў сеціве ўхвальныя, а калі адмоўныя, дык таму, што „мала далі“.

Стэрэатыпнае ўяўленьне пра мытню як клааку, дзе сабраліся адны маральныя вырадкі, таксама ідзе з Расеі.

Мала хто памятае, што герой Гогалевых „Мёртвых душ“ Чычыкаў быў мытнікам. Прычым аўтар уклаў у ягоны вобраз якраз тыя рысы, што адгукаюцца ў памяці чытача найбольш нэгатыўнымі ўражаньнямі з досьведу ўласных дачыненьняў з мытным ведамствам.

Павал Іванавіч быў сумленным і непадкупным мытнікам, пакуль ня вырас па службе і не прыдумаў афэру з гішпанскімі баранамі. Неўзабаве Чычыкаў і ягоны падзельнік казачна разбагацелі, але пасварыліся і данесьлі адзін на аднаго. Далей — суд, арышт, канфіскацыя і вызваленьне за хабар. Такі сабе завершаны вобраз расейскай мытні.

Ці не прыйшло вось гэта ўсё на маладую беларускую мытню разам са стварэньнем адзінай мытнай прасторы з Расеяй, у якой багатая і даўняя гісторыя мытнай карупцыі? Цяжка сказаць, які ў беларусаў свой „карупцыйны патэнцыял“, большы, чым ва ўкраінцаў або літоўцаў ці меншы. Каб зразумець гэта, трэба пабачыць беларусаў унутрана сувэрэннымі, а не татальна залежнымі ад Расеі.

На мой погляд, 25 гадоў таму, калі дэпутат Лукашэнка ўзначальваў антыкарупцыйную камісію ў Вярхоўным Савеце і менавіта на гэтай тэме выбраўся прэзыдэнтам, дык вось, тады, у параўнаньні зь сёньняшнім днём, хабарніцтва як зьявы ў Беларусі не было. Лукашэнка з трыбуны ВС выкрываў Станіслава Шушкевіча за нібыта скрадзеную ім скрыню цьвікоў. Гэтым сымбалем беларускай карупцыі 1990-х тая скрыня ў памяці і засталася.

— Ведаеш, — схіляецца да майго вуха Севярын Квяткоўскі. — Усім аматарам паразважаць пра карупцыйныя схемы ў Беларусі я нагадваю пра канстытуцыйны пераварот 1996 году. На гэтым дыскусіі і сканчаюцца. Карупцыйная схема — гэта і ёсьць сучасная беларуская дзяржава.

Выходзіць, прэзыдэнт-антыкарупцыянэр за 25 гадоў ператварыў Беларусь у татальна карумпаваную краіну? І нішто, ні гучныя працэсы, ні многія тысячы пасаджаных у турму, ні заклінаньні прапаганды, нішто не зьмяншае і не абяцае зьменшыць гэтую пухліну ў целе грамадзтва. Чаму? Бо само грамадзтва жыве на хвалі штодзённага, штохвіліннага крадзяжу.

Беларускае грамадзтва крадзе ў расейцаў іхную мову, школу, традыцыі, гісторыю, СМІ, трымаючы ўсё гэта сваё, беларускае, у занядбаным стане. Хіба гэта не карупцыя? Кожны народ законна адказны за сваё, а за чужое — толькі як за крадзенае.

Разам з гэтай грамадзкай атмасфэрай беларусы падкрадаюць у расейцаў і саму карупцыю — як зьяву, схему, стыль жыцьця. Пры тым яны не становяцца нацыяй, сям’ёй, дзе б крадзеж не вітаўся і кожны выпадак быў відзён. І немагчымая была б

абэрацыя зроку, калі масава караюць „вінаватых“ безь ніякіх доказаў віны.

........................................................

**Андрэй**

Калі хто перыядычна праязжае мяжу, ведае: мытнікам па заслугах :-) гэта толькі напалову людзі. Нармальны чалавек не пойдзе на працу, каб у чужой бялізне капацца... Гэта вычварэнцы default.

**Дубавец**

Так можна сказаць пра кожную прафэсію, зьвязаную з уладай. У бялізьне корпаецца непрафэсіянал, у якога няма іншых здольнасьцяў вылучыць з натоўпу кантрабандыста. Пры гэтым кантрабандыст, як правіла, застаецца нявыяўленым.

**Татьяна**

Странное отношение к работе таможни. Они не роются в Ваших вещах, они ищут запрещенные вещи, наркотики к примеру, которые могут попасть к Вашим детям. Это понимают все образованные люди. Сергей Дубовец пишет о беззаконии в судебной системе, пытается с этим бороться.

**Винт**

В РБ таможенники — что-то наподобие евреев в прошлом столетии. Они виноваты в том что есть, и ничего доказывать не надо. Массовые репрессии против евреев назвали холокостом. Как в будущем назовут массовые репрессии против таможенников?

## НЭГАТЫЎНЫ ЭКСПАРТ

Суды судамі, а кветкі едуць усё часьцей і ўсё больш маштабна.

Статыстыка дае сэнсацыйныя лічбы. Беларусь расквітнела хутчэй і больш за ўсіх у сьвеце. Экспарт кветак за апошнія пяць гадоў тут вырас на 4 214% (чатыры тысячы дзьвесьце чатырнаццаць) — гэта сусьветны рэкорд. На другім і трэцім месцы — краіны, якія здужалі падняцца толькі на двухзначную лічбу. У Беларусі цяпер кветак — як ніколі ў гісторыі.

І яшчэ адзін сусьветны рэкорд, усталяваны ў 2018-м. 1046% (адна тысяча сорак шэсьць) — гэта нэгатыўны экспарт, які азначае, што краіна вывезла тавару больш, чым увезла. То бок, насамрэч кветак у Беларусі стала менш.

За фасадам «Квітнеючай Беларусі» менш стала на волі і тых, хто гэтыя кветкі сустракае на мяжы. Паўсотні мытнікаў проста зьніклі паміж лічбамі статыстыкі, якія зьдзіўляюць сьвет.

# ПРЫСУД ПАМЕРАМ У ВЕЧНАСЬЦЬ

5 верасьня 2017

На прысудзе перапоўненая заля народу, тлумна. „Прызнанты“ заставілі праходы вялізнымі бауламі з пажыткамі, сабранымі ў турму. Я думаю, чаго гэта знак? Таго, што скончыўся хатні арышт? Знак няверы, што пакінуць на волі? Знак пакоры лёсу? Ды не, ня так глыбока. Ад вялізных клятчастых сумак ідзе дух выслужлівасьці і толькі. Няма тут ніякай глыбіні.

Паэт Анатоль Івашчанка паказвае мне ў тэлефоне верш, напісаны напярэдадні прысуду:

РАНАК

*Алесю Юркойцю*

А недзе наверсе лятуць аблокі,
а дзесьці над шэрасьцю — ясны блакіт.
І цяжка паверыць, што з гэтай аблогі
ёсьць вызваленьне, што сыдуць сьнягі,
што новае неба па-над смугою
зазьзяе бурштынам сакавіка…

І усьміхнецца ранак герою.
І ён — усьміхнецца ў адказ.

Чытаньне прысуду адбываецца ў звыклым ужо стылі. Судзьдзя гундосіць сабе пад нос, зьядае словы і сэнсы, а ўсе прысутныя, падняўшыся з лаваў, замёрлі ў такой цішыні, што было б чуваць камара, калі б ён сюды заляцеў.

Услухоўвацца людзей прымушае адна адзіная надзея. Калі я прачытаў прысуд у тым выглядзе, у якім ён увайшоў у аналы судаводзтва, я зразумеў, што гэта квінтэсэнцыя працэсуальнага туману. А тады ў залі мы спрабавалі зразумець гэта на слых. І вось яно і на той мове, на якой прагучала:

„Суд Партизанского района г. Минска приговорил:

Лапейко, Швинта, Высоцкого, Бобровича, Нагорского, Чепина, Часнойтя, Казмерчука, Курневича, Страпко, Юркойтя признать виновными в принятии должностным лицом для себя материальных ценностей, предоставляемых исключительно в связи с занимаемым им должностным положением, за благоприятное решение вопросов, входящих в его компетенцию, за выполнение в интересах дающих взятку и представляемых им лиц действий, которые должностное лицо могло совершить с использованием своих служебных полномочий, а также за невыполнение в интересах дающего взятку и представляемых им лиц действий, которые должностное лицо должно было и могло совершить с использованием своих служебных полномочий, организованной группой, в особо крупном размере, то есть в совершении преступления, предусмотренного ч. 3 ст. 430 УК“.

Шкада, прысуд не пераклалі на беларускую. Хоць мусілі, каб Юркойць „зразумеў, што ён тут робіць“. Такім чынам:

„Суд… прыгаварыў:

(фігурантаў) прызнаць вінаватымі ў прыняцьці службовай асобай для сябе матэрыяльных каштоўнасьцяў, якія даюцца выключна ў сувязі з займа-

ным ёй службовым становішчам, за спрыяльнае вырашэньне пытаньняў, што ўваходзяць у яе кампэтэнцыю, за выкананьне ў інтарэсах тых, хто дае хабар, і асобаў, якія іх прадстаўляюць, дзеяньняў, якія службовая асоба магла ўчыніць з выкарыстаньнем сваіх службовых паўнамоцтваў, а таксама за невыкананьне ў інтарэсах таго, хто дае хабар, і асобаў, якія яе прадстаўляюць, дзеяньняў, якія службовая асоба павінна была і магла ўчыніць з выкарыстаньнем сваіх службовых паўнамоцтваў, арганізаванай групай, у асабліва буйным памеры, гэта значыць ва ўчыненьні злачынства, прадугледжанага ч. 3 арт. 430 КК".

Ці зразумеў Юркойць, „што ён тут робіць"? — пытаньне, якое рэфрэнам паўтараў на працягу ўсяго працэсу. І калі на працягу працэсу яму не адказвалі, дык хоць у прысудзе мусілі растлумачыць. Але што яму растлумачыў прысуд?

Дапусьцім, „прыняцьце ім матэрыяльных каштоўнасьцяў" засталося на сумленьні Чэпіна. Спрыяльна вырашаць пытаньні сваёй кампэтэнцыі — гэта праца мытніка. А вось што пачынаецца далей… Што значыць: службовая асоба магла ўчыніць? А магла і не ўчыніць? Проста варажба нейкая. За гэта ня судзяць. А далей увогуле фантастыка: „за выкананьне" і „за невыкананьне" таго самага! Таго самага, што ты „мог учыніць".

Прысуд збольшага сьпісаны з артыкулу КК, але ў Кодэксе гаворка ідзе пра „выкананьне або невыкананьне". Маўляў, хабар даецца за тое, каб ты нешта рабіў або не рабіў. Розныя справы бываюць. У нашым выпадку замест „або" ўжытае „а таксама". Атрымліваецца, што інспэктару плацілі грошы як

за „бесьперашкодны выпуск“, так і за „выпуск зь перашкодамі“.

Працэдура доўжыцца хвілін сорак, рэзалютыўную частку зачытваюць па кожным падсудным.

Усе „прызнанты“ атрымліваюць па пяць гадоў. Высоцкі, Швінта і Юркойць — па сем. Курневіч — 11,5.

— Здаецца, у мяне такое самае пачуцьцё, як у сваякоў у часы Вялікага Тэрору, — кажа Зьміцер Бартосік, ён часьцяком наведвае працэс, — калі іхнаму сваяку абвяшчалі 10 гадоў бяз права перапіскі.

Адзін доўгі сказ прысуду, нібы тантамарэска, апісвае лёс чалавека. „Прызнантам“ тут усё ясна, удумвацца і шукаць сэнсу ня трэба, сказаў, што браў, за гэта і атрымаў. Якая розьніца, што там за словы.

А што рабіць астатнім? Чытаць свой прысуд і не дачытаць да канца дзён. Бо прысуд атрымаўся бясконцы. З адкрытым, так бы мовіць, сэнсам. Калі сэнсу няма, ён застаецца адкрытым.

**Босс**

Вот и всё, такие сроки парням, за что??? их прировняли к начальникам, но есть еще божий суд, семьям хочу пожелать, держитесь, силы Вам и терпения.

**Коля**

После двукратной попытки обратиться к рациональности автора — не остаётся ничего как наблюдать за его вполне естествинной фрустрации.

**Кнут**

Если смотреть на вещи так, то можно сказать: Иисус проиграл римскому орлу.

# „Я злосьці не трымаю“

12 верасьня 2017

Калі я напісаў, што на гэтым судзе пасадзілі б і сьвятога, я ня меў на ўвазе наўпрост Тадэвуша Высоцкага, але чытачы падказалі, што гэта — пра яго: „Вы проста Ісуса апісалі, так не бывае, калі толькі ён не вар'ят“.

Высоцкаму, як і Юркойцю, далі сем гадоў турмы. Як на Юркойця „паказаў“ Чэпін, так на Высоцкага — Лапейка. І гэта ўсё, што на іх „ёсьць“.

— Я не трымаю на Лапейку злосьці, — сказаў Высоцкі ў апошнім слове. — Я добра ведаў ягоную маму, яна была вельмі прыстойным чалавекам.

Мяне не перастае ўражваць, наколькі не разьбіраюцца ў людзях сьледчыя КДБ. Альбо, што яшчэ горш, наколькі „заточаныя“ яны супраць усяго добрага ды людзкага, што можа быць у чалавеку. Хоць голым вокам відаць, што за людзі Лапейка і Чэпін, і што за людзі Юркойць і Высоцкі. Першыя — цёмныя тварам, таўстаскурыя як вараны, гугнявыя. Другія — поўная супрацьлегласьць.

На гэтым працэсе Высоцкі воляю сьледчых апынуўся ў сытуацыі поўнага матэрыяльнага краху. Гэта значыць, у яго рэальна няма ніякіх шанцаў ні на амністыю, ні на „УДО“, ні нават на апэляцыю. Проста няма грошай. Недавыкупленая кватэра, збудаваная ў крэдыт на 40 гадоў, дзе Высоцкі пасьпеў пажыць менш, чым ужо сядзіць у турме — гэта ўся маёмасьць „карупцыянэра“, якому прыпісалі і абавязалі пагасіць восем тысяч даляраў.

Зьберажэньняў нуль. Жонка працуе заўгасам у школе за 350 рублёў, 120 зь якіх аддае за крэдыт. Вось чаму не было ў Высоцкага свайго адваката, а бюджэтны кожны раз прыходзіў новы. Вось чаму езьдзіць на паседжаньні суду, а цяпер і сабраць мужа ў турму жонцы папросту няма за што. Трэцяя ў іх сям'і дачка, студэнтка, вучыцца ў Горадні на мэдыка, мае праблемы са здароўем.

Апроч недаплачанай кватэры і цяжкага інфаркту (за пэрыяд хваробы і рэабілітацыі яму таксама налічылі хабар за машыны з кветкамі), у 48-гадовага Высоцкага ёсьць яшчэ вера ў справядлівасьць. Цяпер ужо, мабыць, ня ў гэтым жыцьці. Ён настолькі ня мог дапусьціць, што яго абвінавацяць, што перад самым арыштам хадзіў да дантыста — той падпілаваў Высоцкаму зубы пад каронкі. Так з падпілаванымі зубамі 1 верасьня 2015 году Тадэвуша і пасадзілі.

Высоцкі адрабіў на мытні 10 гадоў. Перад тым працаваў старшынём калгасу і, апроч пахвальных грамат, не нажыў нічога, займаў службовую кватэру, прыватызаваць якую яму не дазволілі. Таму і пайшоў на мытню, каб будавацца ў „доме мытнікаў“.

Жыў чалавек паводле правіл. Дзівак? Вар'ят? Напэўна, сьледчы КДБ Бычак так і падумаў, і адправіў Высоцкага ў Навінкі. Дактары сказалі, што хоць Высоцкі і мае хворае сэрца, але душою здаравейшы за многіх здаравякоў.

Сярод апосталаў Хрыста было два Юды, цёзкі. І таго зь іх, які быў прызнаны сьвятым, назвалі Юдам Тадэвушам, каб адрозьніць ад іншага — Юды Іскарыёта, здрадніка. У такой тантамарэсцы і зьявіўся

нам Тадэвуш Высоцкі падчас свайго апошняга слова ў судзе. Зь німбам над галавой.

**Кнут**

Эта машина беспощадна и она не делит на виновных и невиновных.

**Босс**

Да, машина беспощадна, но как жить дальше, во что верить человеку, он не виновен, доказательств нет, а срок дали больше, чем Лапейке, хотя он, как говорит, и сам брал и другим передовал, это уже две статьи, а срок ему меньше.

# НЕ ПРЫЗНАЎ — ЗНАЧЫЦЬ, НЕВІНАВАТЫ

20 верасьня 2017

Калега напісаў мне, што я ў сваіх артыкулах апраўдваю Юркойця, бо ён сьвядомы беларус, але ж і сьвядомы беларус можа браць хабар. Таму, маўляў, тое, што Юркойць не прызнаў віны, зусім ня значыць, што ён невінаваты.

Я згодны з тым, што сьвядомы беларус можа браць хабар. Хоць і мяркую, што сярод сьвядомых хабарнік, хам або злодзей сустрэнецца радзей, чым сярод несьвядомых.

Выбар сьвядомых у нашых умовах адначасова і ўнутраная раскоша, і штодзённая праца, і крыж, які ты нясеш. Ты на вачах, пад узмоцненым назіраньнем, увесь час гатовы да рэакцыі на тваю беларускасьць. Але паўтару: хабарнік можа сустрэцца і сярод сьвядомых беларусаў.

Я ня згодны з тым, што калі ты не прызнаў віны, гэта ня значыць, што ты невінаваты. Значыць. У гэтым сама сутнасьць прэзумпцыі невінаватасьці. Не прызнаў — значыць, невінаваты. І ня мусіш нікому даказваць сваю невінаватасьць. З гэтага стартавага пункту пачынаецца ня толькі крымінальная справа, але і спрыяльны для чалавека грамадзкі клімат у краіне. Бо гэта — давер.

Існуюць адмысловыя інстытуты ўлады, якія даказваюць віну: сьледчы, абвінаваўца-пракурор. Яны павінны прадставіць аб’ектыўныя доказы віны — тое, што аспрэчыць немагчыма і абвінавачанаму таксама. Таму мы і называем іх аб’ектыўнымі.

У працэсе мытнікаў замест такіх доказаў абвінаваўца прадставіў паказаньні іншага падсуднага, фармулёўку віны зь якаснымі прыметнікамі (бесьперашкодны пропуск, фармальны дагляд, спрыяльнае рашэньне), „падмацаваўшы“ ўсё гэта шматкроць паўтораным словам „полагаем“. Ніводнага аб’ектыўнага доказу віны прад’яўлена не было. Ніхто ня быў схоплены на гарачым, нікога не зьнялі на фота-відэа, нават сукупнасьці паказаньняў (каб двое сказалі, што бачылі, як трэці браў грошы) не было.

Органы ўлады ігнаравалі прэзумпцыю невінаватасьці, добра ведаючы, што ў нас і публіка схільная яе ігнараваць, пагатоў у дачыненьні да мытнікаў. Таму аб’ектыўныя доказы віны і не шукаліся.

Што мы маем у выніку? Назіраючы за масавымі судамі мытнікаў, якія ўжо мінулі або яшчэ ідуць, падобныя адзін да аднаго, нібы сьпісаныя пад капірку, я раблю выснову, што якраз „непрызнанты“ (а іх па некалькі ў кожным працэсе) рэальна невінаватыя. І якраз яны атрымліваюць найбольшыя тэрміны.

Што іх штурхае на такі крок? Напэўна, маральны прынцып. Інакш, калі б яны былі здольныя на хабар, навошта ім так псаваць жыцьцё сабе і блізкім? Калектыўнае харакіры службовых асобаў?

КДБ у нас як бы ўжо і традыцыйна „кашмарыць“ мытню. І, параўноўваючы гэтыя два ведамствы, я бачу адно істотнае адрозьненьне паміж імі.

На мытні на працягу дваццаці гадоў можа працаваць такі Алесь Юркойць, які паўсюль пасьлядоўна размаўляе па-беларуску. А гэта значыць, мытня — беларускае ведамства.

Але немагчыма ўявіць сабе беларускамоўнага кадэбіста.

Гэтае ведамства ад моманту свайго стварэньня ў далёкія савецкія часы заўсёды і пасьлядоўна змагалася з тымі, каго мы называем сьвядомымі беларусамі. Толькі ў тыя часы КДБ прадстаўляў інтарэсы Масквы, Расеі, русыфікацыі. А чые інтарэсы ён прадстаўляе сёньня? Хіба нічога не зьмянілася?

З Днём мытніка вас.

**Винт**

Невозможно опровергнуть прилагательные, но их невозможно и доказать. Поэтому, во многих странах в юридических документах использовать прилагательные запрещено. Ну как можно доказать: „быстро, медленно, большой, маленький и т. п.“? Но в РБ, оказывается, можно.

**P.S.**

Самое страшное, что от навешенного на таможню ярлыка „взяточники“ таможня и сама не пытается откреститься. Вместо того, чтобы кричать, что мы не все такие, большинство не такие, большинство честно работают, выполняют свои обязанности и прописанные государством законы. Таможня предпочитает не комментировать. Тихонько отсидеться. Поэтому можно её гнобить всем, у кого на это полномочий хватает. Пора признать значимость каждого Человека, личности. Может тогда и все начнёт меняться.

**P.S.**

Есть очень хороший и бюджетный способ искоренить коррупцию в таможне — нужно просто переименовать её в КГБ. Уж эта организация своих в обиду не даст.

# ЛУКАШЭНКА СУПРАЦЬ КАЛІНОЎСКАГА

9 кастрычніка 2017

Блогер Лапшын (які сядзеў на Валадарцы разам зь Юркойцем), якога ўлады РБ выдалі ўладам Азэрбайджану і якога памілаваў тамтэйшы прэзыдэнт Аліеў, у лісьце да сястры Алеся Галіны выказаў спадзяваньне, што і Лукашэнка памілуе Юркойця.

Падабенства гэтых гісторый зьвязанае са словамі „прэзыдэнцкая крыўда". Лапшын „пакрыўдзіў" Аліева тым, што наведаў Нагорны Карабах. Юркойць, напэўна, „пакрыўдзіў" Лукашэнку тым, што да 150-х угодкаў паўстаньня Каліноўскага ўсталяваў у вёсцы Слабодка ў прыродным амфітэатры велічны помнік паўстанцам і падрыхтаваў усебеларускі Касінерскі фэст.

Тагачасны кіраўнік раённага КДБ Сухоцкі запатрабаваў зьнесьці помнік, а каб не адбыўся Касінерскі фэст, самачынна арыштаваў Юркойця і адвёз яго ў Менск у КДБ.

Ці было ўсё гэта крыўдаю самога Сухоцкага? Ці — часткай палітыкі Лукашэнкі? Адказ трэба шукаць у тым, як зьмяніліся адносіны дзяржавы да паўстаньня 1863 году і асобы Каліноўскага з прыходам Лукашэнкі да ўлады.

Прызнаны ў папярэднюю эпоху нацыянальным героем Беларусі Кастусь Каліноўскі, якога шанавалі яшчэ з савецкіх часоў, пры Лукашэнку патрапіў у апалу. Прыўладныя гісторыкі пачалі акцэнтаваць увагу на тым, што Каліноўскі „ня наш", бо не праваслаўны, а таксама на яго „антырасейскай" пазыцыі.

Апошняе, нібыта, вынікае з фразы Каліноўскага „Толькі тады, народзе, зажывеш шчасьліва, калі над табой маскаля ўжо ня будзе“. Але шчасьце кожнага народа ў тым і заключаецца, каб ня быць пад кімсьці. Да таго ж фраза Каліноўскага — пра і для беларусаў, а не пра і для расейцаў, якія ў другой палове XIX ст. маштабна засялялі наш край („Что не доделал русский штык — доделает русский чиновник, русская школа и русский поп“ — такі быў дэвіз).

У 2004 годзе сваім указам Лукашэнка скасаваў ордэн Каліноўскага — адну з новых узнагародаў незалежнае Беларусі, што былі зацьверджаныя папярэдняй уладай.

Пры Лукашэнку рэдкае ўшанаваньне паўстанцаў 1863 году абыходзіцца без затрыманьняў і штрафаў. Асабліва паказальна шчыруюць улады ў райцэнтры Сьвіслач і радавым маёнтку Каліноўскіх Якушоўцы. Пакараньне Юркойця цалкам кладзецца ў гэты шэраг. Гэта дзяржаўная палітыка на месцах.

Ці можа Лукашэнка памілаваць Алеся? Я перакананы, што Алесь ніколі не папросіць пра гэта.

Вядома, цяперашняя ўлада ня надта афішуе, што хоча зьмяніць ляндшафт беларускае памяці і змагаецца супраць Каліноўскага. Але гэта не мяняе сутнасьці палітыкі на месцах — усімі спосабамі зьнішчаць хоць якую ўдзячную памяць пра паўстаньне. Юркойцю, асуджанаму на сем гадоў турмы, дасталася ад гэтай палітыкі больш, чым камусьці іншаму.

# „Ніхто ня кінецца нікога ратаваць“

20 кастрычніка 2017

Адзінай сатысфакцыяй ці хоць бы ценем справядлівасьці для Алеся Юркойця магло б стаць прызнаньне яго вязьнем сумленьня. Прынамсі, пад вызначэньне Міжнароднай Амністыі ён падпадае цалкам.

Вязьнем сумленьня яна прызнае чалавека, фізычная свабода якога абмежаваная турэмным зьняволеньнем ці іншым спосабам праз яго палітычныя, рэлігійныя і іншыя перакананьні, а таксама этнічнае паходжаньне, пол, расу, мову, нацыянальнае ці сацыяльнае паходжаньне, сваяцкія адносіны, маёмасны статус, сэксуальную арыентацыю і іншыя характарыстыкі асобы.

Такім чынам вязень сумленьня сядзіць за свае перакананьні. А палітвязень — за тое, што выступае супраць ураду, чаго пра Юркойця ня скажаш. Прызнаюць ці не яго вязьнем сумленьня — залежыць ад міжнароднага розгаласу і хадайніцтва аўтарытэтных людзей. Прызнаюць ці не палітвязьнем — залежыць ад беларускіх праваабаронцаў.

Праваабаронцы сказалі мне, што не дадуць Юркойцю статус палітвязьня. „Ня той выпадак“. Ён ня біў вокнаў у Доме ўраду, не хадзіў на мітынгі і нават не састаяў у апазыцыйнай партыі. Ён паставіў помнік паўстанцам Каліноўскага і рыхтаваў Касінерскі фэст.

Вы скажаце: за помнік і фэст не пасадзяць. Грамадзкая думка лічыць, што не пасадзяць. Та-

му для яе напісалі іншае — браў хабар ды яшчэ ў складзе групы.

Я спытаўся ў праваабаронцаў: калі чалавека за ягоную беларушчыну гадамі перасьледуе КДБ, а пасьля, каб прыкончыць, уплішчвае ў групавую справу, дык якая яшчэ зямная інстанцыя гатовая ўступіцца за ягонае чыстае імя? — чаму ўласна я да вас і прыйшоў. Ведаеце, што яны мне адказалі? Грамадзкая думка.

Нявыкрутка ў тым, што ў сучаснай Беларусі грамадзкая думка — гэта праваабаронцы і ёсьць.

Афіцыйны адказ, які я атрымаў ад кіраўніка праваабарончага цэнтру „Вясна“ Алеся Бяляцкага, гучыць так:

„Прызнаньне ці не прызнаньне той або іншай асобы палітычным зьняволеным ажыцьцяўляецца кааліцыяй беларускіх праваабарончых арганізацый на падставе распрацаваных і прынятых Кіруючых прынцыпаў вызначэньня паняцьця «палітзьняволены».

Адным з асноўных складнікаў вызначэньня паняцьця «палітычны зьняволены» зьяўляецца наяўнасьць выразнага палітычнага матыву перасьледу ўладамі той або іншай асобы. Менавіта наяўнасьць такога матыву адрозьнівае палітычна-матываваныя справы ад іншых крымінальных справаў, якія могуць таксама суправаджацца тымі або іншымі парушэньнямі правоў абвінавачаных, а таксама ад іншых выпадкаў парушэньня правоў чалавека ў краіне (ахвяры катаваньняў напрыклад).

Крымінальныя справы супраць службоўцаў мытні, іншых дзяржаўных службоўцаў, узбуджаныя па карупцыйных артыкулах КК у Беларусі, мо-

гуць суправаджацца парушэньнямі працэсуальных ды іншых правоў абвінавачаных, парушэньнямі прынцыпаў справядлівага судовага разьбіральніцтва (у адным з выпадкаў парушэньні грамадзянскіх правоў асуджанага службоўца мытні былі ўстаноўленыя рашэньнем КПЧ ААН). Аднак менавіта адсутнасьць палітычнага матыву ўладаў у перасьледзе гэтых абвінавачаных не дазваляе кваліфікаваць гэтыя справы, як палітычна-матываваныя“.

У сваіх культурніцкіх справах Юркойць шчыльна супрацоўнічаў зь мясцовымі ўладамі. Адначасова гэтым справам актыўна перашкаджаў мясцовы КДБ — той выпадак, калі культура становіцца палітыкай. Для Беларусі, між іншым, гэта пастаянны альгарытм на працягу апошніх 200 гадоў. Як і сам занятак беларушчынай, што становіцца змаганьнем. Як і самі гэтыя вось змагары — бяз шанцу быць прызнанымі вязьнямі сумленьня.

Сытуацыя настолькі звыклая, што ўспрымаецца за норму. Як сказаў паэт, „ніхто ня кінецца нікога ратаваць“.

**Н.Д.**

Калі ішоў працэс над Канавалавым і Кавалёвым грамадская думка, і гэта было выдатна бачна, была не на баку пракурора, усе сыходзіліся на тым, што следства не прадставіла дастаткова ўлік для абвінавачання, і што прыгавор занадта хутка выканалі. Таму няма падстаў сцвярджаць, што грамадская думка можа істотна паўплываць на дзеянні аўтарытарнага рэжыму. Ужо два гады ідзе змаганне на розных узроўнях і рознымі сродкамі супраць шызафрэнічнага дэкрэту №3, на чым баку тут грамадская думка вядома,

але ўлада ўпарта на злом галавы працягвае прасоўваць гэты ўказ. І наконт даверу да судовай сістэмы, я вось думаю, што грамадская думка, калі правесці сапраўднае, рэпрэзентатыўнае апытанне, не выкажа станоўчага стаўлення. Ну, гэта калі паспрабаваць высветліць сапраўдную грамадскую думку, а не тую, якую нам спрабуюць прадставіць на БТ, і не тую фантомную, да якой апелюе Лукашэнка падчас сваіх маналагічных выступаў. Не зусім зразумела, чаму праваабаронцы адмовілі ў статусе палітвязня Юркойцю, абапіраючыся выключна на грамадскую думку? Я не збіраюся абараняць ці крытыкаваць іх рашэнне, але ж здаецца ў іх іншыя крытэрыі ацэнкі.

**крытычны**

Змагаўся гадамі за беларушчыну на дзяржаўнай пасадзе пры анты-беларускім рэжыме, кажаце? Усіх змагароў за беларушчыну на рэгіёнах, якія гэта рабілі гадамі, даўна павыкідалі з працы з „воўчым білетам“, змаргіналізавалі, змусіўшы думаць, як пракарміць сябе і сям’ю. А тут чалавек і на мытні працаваў і аказваецца гадамі пераследваўся КДБ, паспяхова ўстанаўліваючы помнікі пры садзеянні і падтрымцы мясцовых органаў улады? Дзе ж перашкоды і пераслед КДБ, чаму ж пра гэта ніхто не ведае? І як ён яго цікава пераследваў той КДБ гадамі? Вы, спадар Дубавец, больш фактаў кажыце, а не ўпадайце ў экзальтацыю. Іншых мытнікаў, якія былі асуджаныя па гэтай справе і не прызналі віну, іх чаму палітвязнямі вы не прапануеце прызнаць, таму што яны не краязнаўцы?

**Ананім**

КГБ умнее, чем вы думаете. Если бы уволили с таможни то потеряли бы на него все рычаги влияния.

**крытычны**

Нічога яны б не згубілі. Вельмі дзейсны сродак уплыву, які актыўна выкарыстоўваецца ўладамі. Паглядзіце на актывістаў незалежнага прафсаюза з Мікашэвіч на „Граніце“.

Там звольнілі праз непрацягненне катракта не толькі саміх актывістаў, але і іхніх жонак. Ды так звольнілі, што яны не змаглі ўладкавацца на працу ў Лунінецкім раёне. І ніякага прафсаюза больш няма. Усе, каго звольнілі, былі вымушаныя шукаць працу дзе хто знойдзе і думаць пра тое, як сям'і пракарміць. Адзін спадар Дубанос змагаецца яшчэ пакуль. І такіх прыкладаў шмат. Для гэтага ў свой час і была прыдуманая надзейная і простая кантрактная сістэма.

**Ананім**

Как ничего не потеряли бы? Поставьте себя на место сотрудника КГБ. У вас в районе есть „просветитель“, если вы его выгоните с работы, у него появится больше время на свою деятельность, а у вас больше проблем. Он без работы может и политикой заняться, у вас появится оппозиционер. Да и посадить его будет труднее. Вам это надо?

# СКАЗАЎ „ТЫ“, ЗАПІСАЛІ „Я“

21 лістапада 2017

Атрымаўшы пратакол суду над сабой, Алесь Юркойць, думаю, адчуў, што яго схіляюць да ўсьведамленьня безнадзейнасьці свайго становішча.

Напрыклад, там, дзе ён казаў: „я не разумею, у чым мяне абвінавачваюць“, стаіць адно слова: „понимаю“. З пратаколу прыбраныя ягоныя словы пра тое, як яго катавалі ў турме КДБ, і ягонае хадайніцтва — выклікаць на працэс сьледчага гэтай установы Данілава. Таксама і факты, якія апраўдваюць Юркойца і якія гучалі на працэсе, але былі праігнараваныя, у пратакол ня трапілі.

Мне давялося літаральна стэнаграфаваць увесь гэты працэс і цяпер няцяжка зьверыць запісы з выніковым пратаколам, які прыйшоў з суду.

А гэта, між іншым, афіцыйны дакумэнт, ад якога і будзе адштурхоўвацца суд наступнай інстанцыі. То бок апэляцыю трэба пачынаць зь яго абвяржэньня. Вы сабе гэта ўяўляеце? Я — не. Але калі не абвяргаць, дык непазьбежныя пытаньні новага судзьдзі — а чаму вы гэтага не казалі судзьдзю Супруну? Вы скажаце — я казаў… А дзе гэта адлюстравана? У артыкулах Дубаўца, хе-хе.

Суд праігнараваў аргумэнты Юркойца і ягонага адваката. Альбо зафіксаваў іх, перапісаўшы на адваротныя. Вось прыклад.

Сьледчыя КДБ дамагліся ад мытніка Чэпіна, каб ён сказаў, што перадаваў грошы мытніку Юркойцю. Чэпін урэшце блытана прызнаў. Нібыта кожны

раз грошы перадаваліся ў машыне, у якой мытнікі вярталіся з працы.

Мытнікі Чэпін і Юркойць ніколі не заставаліся ў машыне ўдвух. Як мінімум, заўсёды быў трэці — Пашкевіч. Выкліканы ў якасьці сьведкі на працэс Пашкевіч пацьвердзіў, што так і было. Калі мытнікі прыяжджалі з Ашмян у Астравец, яны адразу разыходзіліся — хто пешкі, хто да сваёй машыны, каб ехаць далей. Вёрткі Юркойць заўсёды выскокваў першым, а грузны, хворы на падагру Пашкевіч выбіраўся апошнім.

— Хто першым выходзіў з машыны? — спытаўся ў Пашкевіча Юркойць.

— Ты, — адказаў Пашкевіч.

Дык вось, у пратаколе судовага паседжаньня, які падпісаў судзьдзя Супрун, адказ Пашкевіча: „Я“.

Такім чынам суд „даў магчымасьць“ Чэпіну і Юркойцю застацца ў машыне адным, каб сьледам можна было дапусьціць, што Чэпін перадаваў Юркойцю грошы. Ну а тое, што дапускаецца, ужо ня так цяжка выдаць за доказаны факт, было б жаданьне і ўлада ў руках.

„Я вось чытаю пратакол судовага паседжаньня, дык мяне аж падкідае, — піша Юркойць з турмы. — Усё сапраўды важнае пасьлядоўна выкінута, а істотнае заменена з дакладнасьцю да наадварот“.

Пытаньне індывідуальнай віны Юркойця так глыбока заваленае „альгарытмамі“ „арганізаванай злачыннай групы“ і доказамі „па сукупнасьці“, а таксама пракурорскім „полагаю“, што дастаць яго на паверхню… неверагодна проста. Проста зь яго трэба пачынаць. У чым віна гэтага чалавека? Якімі

фактамі яна даказаная? І толькі пасьля гэтага рабіць перагляд.

.......................................................

**Кнут**

Просто судья заметает следы своего преступления.

**P.S.**

Написано все правильно. Остаётся только вопрос — Что делать? Как можно исправить ситуацию? Куда обратиться? В какие двери постучать? Не может же быть что все так гибло! А если так гибло, то что делать???

**NB**

Замечательно написано. Не в бровь, а в глаз. И эту схему успешно „обкатывают“ сотрудники ЧК. Но это такая дикость, то что происходит в минских судах и не только с таможенниками, я полагаю. Да, и в других областях. И когда в лицо следователи говорят, что если бы ничего на вас не было, то вы бы здесь не находились. А признаетесь и еще на двух других укажете, то завтра домой пойдете. А письма куда ни отправляй, все равно как в анекдоте получалось: „на вашу жалобу в ООН начальник ЖЭКа отвечает…“ Что делать????

# МОВА, МЫТНЯ І БЕДНЫЯ ЛЮДЗІ

24 лістапада 2017

Ці быў Алесь Юркойць адзіным у сьвеце беларускамоўным мытнікам? У часе нашага знаёмства на мяжы тысячагодзьдзяў я сустракаў ягоных калег, якія адгукаліся па-беларуску. Але з тых, хто пабеларуску зьвяртаецца, іншых, мабыць, і не было.

Зразумела, што беларуская мова прыцягвала да яго большую ўвагу КДБ, чым да мытніка як такога, бо мы ведаем, што мытня і сама — улюбёны аб'ект кантролю з боку чэкістаў. Як і мова. Таму ня дзіва, што пільнавалі Юркойця падвойна.

Ці можна сказаць, што Юркойць насамрэч сядзіць за тое, што ён сьвядомы беларус? Для гэтага, як мінімум, трэба разгледзець ягоную справу асобна.

А тут аказваецца, з адным ім пэрсанальна ня будзе разьбірацца і апэляцыйны суд. Скаргі ўсіх асуджаных будуць разглядацца не па кожным, а групай. А значыць, ізноў ніхто ня будзе глядзець на рэальныя факты віны кожнага ці на іх адсутнасьць, ізноў канвэер.

Мытнікі, якія не прызналі віны, ідуць разам — за адно. І каму прыйдзе ў галаву, што Юркойць насамрэч асуджаны за тое, што сьвядомы беларус, „за мову“? Курневіч, Высоцкі і Швінта атрымалі падобныя прысуды за такую самую „віну“. Як той казаў, пры чым тут мова?

Можна таксама дапусьціць, што яны і патрапілі ў гэтую справу толькі дзеля таго, каб пасадзіць Юркойця не „за мову“.

Вось эпізод з 2006 году, які Юркойць апісвае ў лісьце з турмы. У той год ён рабіў на пасажырскіх цягніках, што ішлі зь Менску ў Вільню і назад:

„Я на чыгунцы тады працаваў, вельмі падобнае надвор’е было. Памятаю, у пары са мной працавала Лена Нецілоўская, ты ўяўляеш, на назе ў яе пухліна зьявілася, як жыцьцё паказала, злаякасная. Празь нейкі час яна, бедная, і сышла ў лепшы сьвет.

Памятаю, тады ў цягніку пазнаёмілася яна і зь Мілінкевічам, і зь Вячоркам, Калякіным і іншымі супэрстарамі, а хтосьці вельмі хацеў, каб я зь імі пазнаёміўся, але я своечасова ўсё зразумеў, пабачыўшы твары ў калідоры. Калі ўсе разышліся па купэ, я ў першае ж зайшоў і працаваў там бязвылазна зь нейкім Лябедзькам, каб не ісьці да барадатых, гэтым і купіў сабе індульгенцыю, як жыцьцё тады паказала.

Самае цікавае, што таемны рэжысэр усё прадумаўшы быў наперад, ведаў, дзе я працаваць буду, толькі пралічыўся ў тым сэнсе, што Лена ўвесь вагон адпрацуе, пакуль я з гэтым суровым агрызастым грамадзянінам з запаўненьнем дэкларацыі буду бадацца. Ён жа агрызаўся, бо думаў, што клясычны прадстаўнік крывавага рэжыму зайшоў яго зьесьці або хоць бы пакусаць, а мне толькі тое і трэба было, абы час зацягнуць… Зь іншага боку, пра Рудольфа Пішчалу і Казіміра Хршчановіча столькі ўсяго цікавага не даведаўся б, але ж чым больш ведаеш, тым цікавей жыць :-)“.

Колькі граняў у гэтага сюжэту!

Службовец рэжыму, які шмат у чым падзяляе погляды Мілінкевіча і Вячоркі, каб не сустрэцца і ня быць абвінавачаным у сувязі зь імі, мучыць (па-

беларуску!) беднага Лябедзьку, бо ўсё адбываецца пад пільным кантролем іншых службоўцаў рэжыму, вяровачка непазьбежна ўецца да Пішчалаўскага замку… (І гэта я зрабіў толькі першы зрэз.)

Бедныя таксама і нашы праваабаронцы. Як ім тут разабрацца, хто карнік, а хто ахвяра, дзе тут тайнае, а дзе яўнае і за што насамрэч сядзіць у турме Юркойць.

## ЗАГАДКА МУРАТАВА

20 сакавіка 2018

Жыхара падмаскоўнага Адзінцова Муратава затрымалі 2 ліпеня 2017 году ў аэрапорце Дзюсэльдорфу па лініі Інтэрполу. У судзе ён раскажа найбольш праўдападобную вэрсію таго, што адбывалася на памежным пераходзе Каменны Лог.

Муратаў у справе — адзін зь фігурантаў-бізнэсоўцаў. Пакуль яго будуць перапраўляць у Менск, тут скончыцца працэс у абласным судзе і калега расіяніна літовец Тураеў выйдзе на свабоду, атрымаўшы штраф. Таму Муратава будуць судзіць асобна.

Між іншым, Віктар Федаровіч піша ў „Белгазете“, што знайшоўся і трэці (а храналягічна першы) бізнэсовец з гэтай „кветкавай справы“ — Танкелюн. І знайшоўся ён у Польшчы з польскім пашпартам у кішэні (вось чаму ягонае літоўскае прозьвішча страціла свой канчатак -ас), а „сваіх грамадзян ніхто не выдае,“ — рэзюмуе журналіст.

Суд над Муратавым адбыўся ў сакавіку 2018 году ў менскім Цэнтральным судзе і ішоў як бы пасьля ўсяго, нікому ўжо і не патрэбны і нецікавы. Але толькі на першы погляд.

Насамрэч гэта была рыса пад усім гэтым доўгім і марудным працэсам, у якім Муратаў даў сваю вэрсію і свае адказы на пытаньні, якіх папярэдняму групавому суду знайсьці не ўдалося. Нават калі б ён гэтага хацеў.

У судовых спрэчках паміж Муратавым і яго беларускім партнэрам Башлыкевічам, які асуджаны на 6,5 года, Муратаў сказаў наступнае:

— У канцы 2013 году мне пазваніў кіроўца і сказаў пра сур'ёзныя праблемы: усе машыны затрыманыя без тлумачэньня прычын, і мытнікі патрабуюць гаспадара грузу. Я тэрмінова выехаў на мяжу. На пад'езьдзе кіроўца мне паведаміў, што мяне будуць чакаць на запраўцы „Лукойлу". Я быў зьдзіўлены, калі на сустрэчу прыехаў Валеры (Башлыкевіч). Ён паведаміў, што мае машыны патрапілі ва ўсе арыенціроўкі, і калі я хачу, каб іх адпусьцілі, я павінен быў заплаціць $6 тыс., па тысячы за кожную машыну.

Выглядае праўдападобна.

Паводле Муратава, мытныя інспэктары наўмысна тармазілі з афармленьнем ягоных фураў на загад сваіх начальнікаў. То бок яны ня проста выконвалі свае абавязкі, а рабілі нешта звыш таго. Было дзеяньне. І менавіта за гэтае дзеяньне начальнікі плацілі інспэктарам грошы. Як сказаў бы сацыёляг Кацук, грошы не за тое, каб мытнікі не зьвярэлі (гэта вэрсія Партызанскага суду), а наадварот — за тое, каб зьвярэлі.

Начальнік тэлефанаваў фірмачу і казаў, што з пэўнай фурай праблема. Плаці. І фірмач аплачвае, фактычна, дзеяньне мытніка, скіраванае на затрымку ягонай фуры, каб зьняць гэтую перашкоду. Чыстай вады вымагальніцтва.

То бок, фірмач плаціў начальніку за „бесьперашкодны выпуск", а начальнік з гэтых грошай мытніку — за перашкоды.

Цяпер зьяўляецца сэнс і ў сьпісах пэўных машын, і ў перадачы іх нумароў праз смс. Зразумела таксама, чаму грошы перадаваліся на мытні ці каля будынку мытні — каб нішто не выходзіла за межы службы. Ды нават „група“ ва ўсім гэтым выглядала б праўдападобна.

Зь іншага боку, зьмяняецца сэнс параўнаньня машын, якія даглядаліся (маўляў, за іх не плацілі) і якія не даглядаліся. Усё наадварот. Мытнік ня мог за іх атрымаць узнагароду, калі не стварыў перашкоды.

Прападае сэнс і ў доўгіх спрэчках пра „бесьперашкодны выпуск“ і „фармальнае выкананьне службовых абавязкаў“, „нефармаваньне профілю рызыкі“. Прападае сэнс усяго працэсу і самога прысуду мытнікам у Партызанскім судзе.

Адшукаць цяпер адказ на пытаньне „За што сядзіць Юркойць?“ у матэрыялах справы ўвогуле немагчыма.

Як ні круці, Муратаў вярнуў у працэс тую лёгіку, якой так і не знайшлі судзьдзя Супрун і пракурор Андрэеў. Якой не скарыстаўся сьледчы КДБ Бычак.

А, дарэчы, чаму не скарыстаўся? Задоўга да Муратава пра тое самае і літаральна тымі самымі словамі ў абласным судзе казаў Тураеў. На гэта зьвярнуў увагу калега Федаровіч: „Я стаў несьці калясальныя страты“, „Я ня мог зразумець, чаму складваецца такая сытуацыя вакол маіх аўтамабіляў“, „Я вымушаны быў пагадзіцца“.

У сьледчага ў руках апынулася цалкам праўдападобная легенда, якую ён адкінуў і напісаў сваю, дзе нішто нічым не тлумачыцца і нішто ні з чым ня зьвязваецца.

Між іншым, Менскі абласны суд вынес „предписание“, у якім выказаў прэтэнзіі да КДБ наконт якасьці вядзеньня сьледзтва. Пішу „між іншым“, бо гэтае „предписание“ або гэты, як падавала яго беларуская праўная тэрміналёгія ў 1926 годзе, „наказ“ ні на што ў нашым працэсе не паўплываў.

Зразумела, што лёгіка дапамагае ў складаньні легенды, але зусім не пацьвярджае індывідуальнай віны кожнага — ці ён удзельнічаў ва ўсім гэтым, ці ня ўдзельнічаў. Для гэтага патрэбныя факты.

Муратаў аддзелаўся найменшым пакараньнем: штрафам — 1 тысяча базавых — і быў вызвалены ў залі суду.

# ПРЫСУД УСТУПІЎ У СІЛУ

14 студзеня 2018

Калегія Менскага гарадзкога суду пакінула прысуд ашмянскім мытнікам бязь зьмен. Амаль.

Тое самае адбылося раней з касацыяй мытных начальнікаў. Тое самае адбудзецца са скаргамі мытнікаў на яшчэ тры прысуды яшчэ трох менскіх раённых судоў.

Вялізная, заблытаная да немагчымасьці справа проста ня можа быць ацэненая судовай калегіяй за нейкую гадзіну часу. Для рэальнага разбору спатрэбіўся б новы працэс. Але рэальнасьць тут іншая.

Як увогуле адбываецца касацыйнае паседжаньне. У залю ўваходзяць ажно тры судзьдзі (калегія). Абвінавачаных няма, што адразу вызначае характар працэсу.

Прысуд абвешчаны ўсім 58-мі на падставе альгарытму, складзенага сьледчым КДБ і замацаванага пракурорскім „полагаю“, а кожны „непрызнант“ у касацыйнай скарзе аб'ектыўнымі фактамі абвяргае сваю канкрэтную віну.

Якраз на гэтую аглабельнасьць усяго працэсу зьвярнуў увагу ў сваім камэнтары да прысуду ў абласным судзе Міхаіл Пастухоў, былы судзьдзя Канстытуцыйнага суду, доктар юрыдычных навук, прафэсар:

„Што гэта за суд, які бачыць вымушаныя паказаньні і абгаворы, кампэнсаваную шкоду, але ня бачыць аргумэнтаў пра недатычнасьць да злачынстваў? Хіба такі павінен быць суд?“

Адсутнасьць абвінавачаных цалкам выключае ўлік чалавечага фактару — асобы кожнага зь іх. То бок, ніхто тут і не зьбіраецца разглядаць віну ў індывідуальным парадку. Пры гэтым турэмныя тэрміны, пазовы і канфіскацыі прызначаюцца якраз індывідуальна.

Дарэчы, касацыйныя скаргі таксама разглядаюцца не індывідуальна, а „скопам" — пра ўсіх 11 фігурантаў таго Партызанскага суду. І называецца гэта цяпер „Справа Бабровіча і іншых".

На гэтым фоне хадайніцтвы абвінавачаных выглядаюць амаль несур'ёзна. Ну вось Швінта просіць даць яму пратакол суду над начальнікамі. Справа ж адна, і менавіта начальнікі паказалі на Швінту, на іх словах трымаецца ягоная „віна".

Ці вось Юркойць просіць выклікаць сьведку Пашкевіча. Пашкевіч ужо быў у Партызанскім судзе і сказаў, што выходзіў з машыны другім, пасьля Юркойця. Але ў пратакол запісалі, нібы Пашкевіч сказаў, што выходзіў першым.

Пракурор Андрэеў (той самы): Полагаю, для удовлетворения ходатайств оснований нет.

Судзьдзя: Оставить без удовлетворения.

То бок, правы і магчымасьць абвінавачаных абараніцца ад абгавораў і захаваць сваю свабоду — не „основание".

Чытка касацыйных скаргаў адбываецца адным тэкстам, уперамешку, дзе „прызнанты" просяць зьмякчыць, а „непрызнанты" прыводзяць факты сваёй невінаватасьці.

Выступаюць адвакаты. Зноў маса фактаў і нестыковак, калі грошы нібыта браліся за афармленьне машыны ня той фірмы, ня ў той час і ня ў тым

аддзеле, дзе і калі ўказана ў прысудзе. Адвакат Юркойця проста разводзіць рукамі. Бо ў паказаньнях Чэпіна той то перадаваў Алесю грошы, то не перадаваў. Пра тое, ці браў Юркойць, пытаньне ў прысудзе нават ня ставіцца.

Пракурор на ўсю канкрэтыку адвакатаў адказвае лёгка: „Жалобы безосновательны“.

Пракурор „полагает“, што Чэпін кажа праўду, падставаў для абгавору судом ня выяўлена. Кропка.

Цяпер пра тое маленькае „амаль“. Калегія судзьдзяў правяла ў дарадчым пакоі паўгадзіны — роўна столькі, каб напісаць заключэньне. Прысуд зьменены! Адвакаты ўказалі на неадпаведнасьць колькасьці машын у двух месцах прысуду — розьніца складае восем дзясяткаў. І агульная сума хабараў там і там адрозьніваецца. Калегія судзьдзяў выканала ролю карэктараў і паправіла лічбы. Што да ўсяго астатняга: „В удовлетворении жалоб отказать“.

Прысуд уступіў у сілу.

Ці сіла ўступіла ў прысуд.

---

**Ганна Шапуцька**

Справа Алеся Юркойця самая жахлівая справа, якую мне давялося назіраць за апошнія гады. Калі іншых палітвязняў затрымлівалі хоць у звязку з нейкім правапарушэннем, хто бойку ўчыніў у тралейбусе, хто прыладу прыдумаў для атрымання інфармацыі, хто рэжым парушыў, хто дзверы КДБ падпаліў, хто налогі не сплаціў... то Юркойця асудзілі на вялікі тэрмін зняволення проста ні за што, пайшоў, як кажуць, за кампанію, усіх пад адзін грэбень, бо працэс фактычна замоўлены так называемым прэзыдэнтам, працэс карацельна-паказацельны, невінаватых быць не можа апрыёры і таму усіх

пад адзін грэбень. Гэта страшна, так не павінна быць, гэтаму трэба супрацьстаяць. Думаю, што мы яшчэ пазмагаемся за Алеся. Заклікаю усіх да салідарнасці з палітвязнямі, да салідарнасці з Алесем Юркойцем.

# НЯГЛЕДЗЯЧЫ НА АБСТАВІНЫ

Тантамарэскі — гэта абставіны. І заўсёды дыскусійнае пытаньне: ці чалавек іх стварае ці абставіны ствараюць яго? Ці з табой нешта адбываецца „ў залежнасьці ад абставінаў“ ці самі сабой „так склаліся абставіны“, ці ты сам нешта робіш „нягледзячы на абставіны“.

Філёзаф Гегель лічыў, што „абставіны пануюць над чалавекам толькі ў той меры, у якой ён сам дазваляе ім гэта“.

Ты сам устаўляеш свой твар у тантамарэску — у сыстэму, у альгарытм, у абставіны. З гэтага моманту абставіны авалодваюць табой. І фатограф робіць здымак на памяць.

У мовазнаўстве абставіны — неадушаўлёны назоўнік, дадаткі член сказа (па-расейску „второстепенный“, другасны). У тантамарэсцы, у альгарытме, у сыстэме, наадварот, абставіны — першасныя. Гэта тое, чым ты абстаўлены з бакоў, што той бублік, у якім ты сам — дзірка, ты то ёсьць, то цябе няма. Ты — другасны і адносны. Яны дыктуюць, яны — рэальнасьць, у якой ты ўсяго толькі ўмоўнасьць. Яны неабвержныя, а ня ты са сваім катэгарычным імпэратывам Канта.

Тантамарэска неадушаўлёная, як кожная сыстэма, таму яна ня мае каштоўнасьці ў параўнаньні, напрыклад, з адушаўлёнымі прафэсіяй, асьветніцтвам ці маральлю.

Па-за сыстэмай, у жывым жыцьці ўсё наадварот. Ёсьць ты, ад Бога народжаны свабодным, ёсьць лёс, які ты сам напісаў сабе яшчэ да нараджэньня, ёсьць

мэты, якія ты сабе паставіў ужо сталым розумам, ёсьць пасткі, у якія ты патрапіў, не pralічыўшы свой шлях, ёсьць рызыкі, на якія ты пайшоў.

Ты ўстаўляеш твар у тую „карціну сьвету“, пэрсанажам якой ніколі ня будзеш. Ніколі ня будзеш казачным лесавіком ці русалкай, легендарным героем на ўздыбленым кані або экзатычным папуасам з Новай Гвінэі — і ты ведаеш, што гэта толькі гульня. Гэта зусім не пра сапраўднага цябе.

Так у „Працэсе“ Кафкі няма самога Ёзэфа К. Як і ў мытным судзе няма саміх мытнікаў. Ніхто нават не паспрабаваў узяць іх саміх пад увагу. Пачуць іх, разгледзець, уявіць сябе на іх месцы. Галоўнымі героямі замест саміх герояў выступілі абставіны. Ці магчыма даць ім рады? Мысьляры кажуць: калі ня можаш зьмяніць абставіны, зьмяні свой погляд на іх.

Мінае час, і танныя паркавыя карцінкі пад сонцам і дажджом абсыпаюцца і блякнуць, страчваюць сваю прывабнасьць. Іх дэмантуюць і выкідаюць на сьметнік.

Абставінаў не існуе.

# POST SCRIPTUM

„...на Каляды мы ўсёй сям'ёй заўсёды зьбіраліся ў бацькоўскай хаце нават за савецкім часам, гэтай традыцыі прытрымліваемся і цяпер. На апошняе маё вольнае сьвята Божага нараджэньня мы зь сёстрамі, Галяй і Ганнай, пакуцьцяваўшы ў хаце, паехалі ў мястэчка Гудагай на службу (у Варнянах якраз зьмяніўся пробашч, і начной службы чамусьці не было). Храм быў поўны, гудагайскія манахі-кармэліты ўмеюць стварыць цудоўную хатнюю атмасфэру. Адчуваньне хатняга цяпла дадало яшчэ і тое, што я Алёхну перад сабой сярод вернікаў заўважыў :-) Касьцёлік мястэчковы зроблены з дрэва, і па сутнасьці ён зьяўляецца (у маім разуменьні) паменшанай копіяй Ноевага каўчэга. Мы стаялі ў бабінцы, а на вуліцы дзьмуў моцнюшчы вятрыска, дошкі рыпелі і прадзімаліся ветрам — было поўнае адчуваньне, што ўсе мы разам кудысьці плывем…

Тут на „Віцьбе", наадварот, часам здаецца, што час спыніўся :-) і ніхто нікуды не плыве :-( На Каляды аплаткай я, безумоўна ж, зь некаторымі людзьмі дзяліўся і тут, але сьвяткаваць штосьці (у клясычным разуменьні) у турме не выпадае, дый няма жаданьня. У мяне была рыба, дзьве лусты палажняковага хлеба, мы ўтрох з маімі тутэйшымі таварышамі селі на „шконкі", паміж якімі паставілі табурэтку — гэта і быў наш сьвяточны стол."

*Алесь Юркойць*
*РК-3, атра №8*
*п.к. Віцьба-3*

# Паказьнік асобаў

### Ж



### З



### І



### К

# ПРА АЎТАРА

Сяргей Дубавец, пісьменьнік, літаратурны крытык, журналіст, выдавец. Нарадзіўся 17 верасьня 1959 году ў Мазыры. Гадаваўся й вучыўся ў Менску. Скончыў журфак БДУ (1984). Служыў у войску (1978–1980). Выдавец нелегальных часопісаў „Люстра Дзён“ (1980), „Бурачок“ (1986), незалежных пэрыёдыкаў „Кантроль“ (1988), „Літаратура“ (1999) і інш. Працаваў у выдавецтве БелСЭ (1984), газэце „Гомельская праўда“ (1984–1987), часопісе „Нёман“ (1987–1990). Галоўны рэдактар газэтаў „Свабода“ (1990–91) і „Наша Ніва“ (1991–2000), радыё „Балтыйскія Хвалі“ (2000–2001), аўтар перадачаў на Радыё Свабода (з 1997). Выдаў кнігі: „Практыкаваньні“ (1991), „Русская книга“ (1997, другое выданьне 2009), „Дзёньнік прыватнага чалавека“ (1998), „Вострая Брама“ (2005), „Вершы“ (2007), „Як?“ (2009), „Майстроўня“ (2012), „Сіні карабель у блакітным моры плыве“ (2014), „Д’ябал запрэжаны ў плуг“ (2018).

На Свабодзе ад 1995.

# SUMMARY

"Tintamarresque. A Trial." – is a chronicle of the mass trial of the Kamienny Loh border guards on the Belarusian-Lithuanian frontier, who were accused of corruption and being part of an organized criminal cabal.

The trial began in November of 2016 and concluded exactly a year later. It gained widespread attention for having been instigated by president Alyaksandr Lukashenka. Moreover, no fewer than 58 defendants faced the court, and one of them was famed expert on local lore and history Ales Jurkojc.

Under prosecutorial pressure, half of the defendants admitted their guilt and provided evidence against cohorts; the other half steadfastly maintained their innocence. The book's author, who reported from the trial, claims that the court failed to provide any objective evidence of culpability. Still, all those accused were eventually found guilty and sentenced to jail terms.

The trial set the stage for a real psychological battle of wits during which faces were unmasked and the true characters of the players exposed.

**«Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе»** — кніжны праект Беларускай службы Радыё Свабода. Чытайце ў інтэрнэце: **www.svaboda.org**




**Верш на Свабоду.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2002. — 464 с.




**Дарога праз Курапаты.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2002. — 464 с.: іл.




**Poems on Liberty: Reflections for Belarus.** *Пераклады Веры Рыч.* Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 312 с.




**Быкаў на Свабодзе.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 536 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.** Збор выступаў клясыка беларускай літаратуры ў этэры Радыё Свабода. Аўдыёдыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004.




**Дуліна ад Барадуліна.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 254 с.: іл.




*Аляксандар Лукашук.* **Прыгоды АРА ў Беларусі.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 500 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.** 2-е выд., дапоўненае. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 662 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.* **Вострая Брама.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 520 с.




*Вячаслаў Ракіцкі.* **Беларуская Атлянтыда.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2006. — 504 с.: іл.




**Плошча, 19.03–25.03.2006.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2006. — 400 с.: іл.




*Вінцэсь Мудроў.* **Альбом сямейны.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007. — 232 с.: іл.



**Начная чытанка. 50 аўтараў з этэру Радыё Свабода.**
Мультымэдыйны дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007. — 576 с.: іл.




*Івонка Сурвіла.*
**Дарога. Стоўпцы – Капэнгаген – Парыж – Мадрыд – Атава – Менск.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2008. — 144 с.: іл.




*Пётра Садоўскі.*
**Мой шыбалет.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2008. — 426 с.: іл.




**Начная чытанка 2. 50 аўтараў з этэру Радыё Свабода.**
Мультымэдыйны дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009.




**Адзін дзень палітвязьня.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 364 с.: іл.




*Юры Дракахруст.*
**Акцэнты Свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 430 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.*
**Як? Азбука паводзінаў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 252 с.: іл.




*Міхась Скобла.*
**Вольная студыя.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 554 с.: іл.




**Барды Свабоды.**
Зборнік гутарак і песень 50 удзельнікаў аднайменнай перадачы Радыё Свабода. Мультымэдыйны DVD-дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010.




**Васіль Быкаў. Доўгая дарога дадому.**
Чытае аўтар. Мультымэдыйны дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010.




*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Беларуская Атлянтыда. Кніга другая.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010. — 352 с.: іл.




**Сто бардаў Свабоды.** Зборнік гутарак і песень 100 удзельнікаў перадачы «Барды Свабоды». Мультымэдыйны DVD-дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Галіна Руднік.* **Птушкі пералётныя.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 192 с.: іл.




**Галасы Салідарнасьці.** Міжнародная падтрымка беларускай дэмакратыі. Мультымэдыйны DVD-дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Вячаслаў Ракіцкі.* **Сто адрасоў Свабоды.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 330 с.




**Саўка ды Грышка. Год першы.** Калекцыя 50 песьняў – падзеі году ў сатырычным дуэце Лявона Вольскага з самім сабой на Радыё Свабода. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Альгерд Бахарэвіч.* **Малая мэдычная энцыкляпэдыя Бахарэвіча.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 320 с.: іл.




*Аляксандар Лукашук.*
**Сьлед матылька. Освальд у Менску.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 390 с.: іл.




**Адзін дзень палітвязьня. 2009—2011.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 328 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Пакуль ляціць страла.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 400 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
Аўдыёкніга.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012.




*Сяргей Дубавец.*
**Майстроўня. Гісторыя аднаго цуду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 464 с.: іл.




**Слоўнік свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 516 с.




**Саўка ды Грышка. Сто песень. 2010-2012.**
Поўны збор запісаў сатырычнага дуэту Лявона Вольскага з самім сабой на Радыё Свабода. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012




*Альгерд Бахарэвіч.*
**Гамбурскі рахунак Бахарэвіча.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 428 с.: іл.




*Валер Каліноўскі.*
**Справа Бяляцкага.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 364 с.: іл.




*Юры Бандажэўскі.*
**Турма і здароўе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 250 с.: іл.




*Алег Грузьдзіловіч.*
**Хто ўзарваў менскае мэтро?**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 354 с.: іл.




*Юрась Бушлякоў.*
**Жывая мова.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 294 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста першы.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 536 с.: іл.




*Анатоль Лябедзька.*
**108 дзён і начэй у засьценках КДБ.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 434 с.: іл.




*Валянцін Жданко.*
**Лісты на Свабоду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 428 с.




*Альгерд Бахарэвіч.*
**Каляндар Бахарэвіча.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 464 с.: іл.




**Лісты пра Свабоду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 314 с.




**Жыцьцё пасьля раку.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 220 с.




*Юры Дракахруст.*
**Сем худых гадоў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 406 с.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста чацьверты.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 350 с.: іл.




**(НЕ :)
вясёлыя карцінкі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 64 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
3-е выд., дап.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015.
668 с.: іл.




*Сяргей Абламейка.*
**Мой Картаген.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 316 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста пяты.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 324 с.: іл.




**Сьвятлана Алексіевіч на Свабодзе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 722 с.: іл.




*Вінцук Вячорка.*
**Па-беларуску зь Вінцуком Вячоркам.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2016. — 364 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста першы.**
2-е выд., дап.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2016. — 544 с.: іл.




**Светлана Алексиевич на Свабодзе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2016. — 744 с.: іл.




*Зьміцер Бартосік.*
**Быў у пана верабейка гаварушчы...**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2016. — 326 с.: іл.




**100 словаў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2017. — 346 с.: іл.




*Вінцук Вячорка.*
**Не сьмяшыце мае прыназоўнікі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2017. — 316 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста другі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2017. — 388 с.: іл.




*Міхась Скобла.*
**Высьпятак ад Скарыны.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2017. — 500 с.: іл.




*Івонка Сурвіла.*
**Дарога.**
2-е выд., дап.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 174 с.: іл.




*Сяргей Шупа.*
**Падарожжа ў БНР.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 282 с. + 56 с. укл.: іл.




*Сяргей Абламейка.*
**Нечаканы Скарына.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 328 с.: іл.




*Алена Струвэ.*
**Турма, жанчына і мужчына.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 434 с.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста трэці.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 536 с.: іл.




*Зьміцер Бартосік.*
**Клініка кітайскага дантыста.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 284 с.: +24 с. іл.




**Сьвятлана Алексіевіч. 100 цытатаў на Свабодзе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2019. — 268 с.